ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ДРАГУНА ПРАНЦІША ВЫРВІЧА

*Раман прыгодніцкі*
*і фантасмагарычны*

*Кніга трэцяя.*

# ПРАЛОГ

Двубой скончыўся раней, чым анісавая аквавіта. Хаця драгуны коннай літоўскай харугвы пілі яе, як сухі жвір прагна выпівае кожную дажджынку прыпозненага летняга дажджу.

Гледачы не паспелі пабіцца аб заклад, хто пераможа, а малады падхаружы трапным ударам шаблі акуратна ўклаў свайго пышнавусага даўганосага суперніка на траўку – на аптэчны рамонак, настой з якога добра дапамагае ад ветраў у жываце, на трыпутнік, які карысны для зажыўлення ранаў ды ад кашлю, на цыкорыю з сінімі кветкамі, што ўпарадкуе жоўць... Туды ж, на ліцвінскі дзірван, адправілася шабля, выбітая з рукі пераможанага – уторкнулася ў вільготную ад цёплых летніх дажджоў беларускую зямлю, загайдалася, затрымцела ад ганьбы, люструючы бяссілым лязом неба і белыя хмаркі...

Папраўдзе, даўганосаму было ўсё адно, на якой траве ляжаць з ганьбаю – паваліўся ж не ад раны, а жвавы супернік, шчаўлік, прызначаны падхаружым проста са студэнцкай лаўкі, заганяў, збіў з тропу, ды яшчэ выпітая аквавіта падступна падбіла пад калені, адштурхнула ад фартуны, як расейскае войска — Пана Каханку Радзівіла пад Слонімам...

— Думаю, гэтага даволі, пан Свентажыцкі, — ветліва прамовіў падхаружы, русявы, блакітнавокі насмешнік, які спрытна падхапіў выбітую ў ворага шаблю і цяпер выскаляўся, быццам атрымаў куфэрак дукатаў ад новага маладога караля па мянушцы Цялок.

— Я, пан Вырвіч, вашу мосць яшчэ на скрылькі пасяку! – зароў пераможаны драгун, як дэлегат на элекцыйным сойме, пад ухвальны гуд таварышаў. Паспрабаваў устаць, але полацкая аквавіта была добрым, якасным напоем аптэкарскай работы, і перамагла. Рамонак журботна ківаў дробнымі сціплымі кветачкамі над палеглым ваяром, які соладка захроп, як быццам ляжаў не на зямлі, а на пуховай пярыне.

— Пан Пранціш, пойдзем, адзначым перамогу! Ягамосць Вырвіч мусіць выпіць за ўдалы двубой і за імяніны пана палкоўніка! – загулі драгуны, але падхаружы ўсміхнуўся сумна, схаваў сваю шаблю ў похвы, чужую зноў уторкнуў у дзірван, быццам яна магла прарасці кветкамі, і адгаварыўся ад балявання стомай і патрэбай напісаць ліст радзіне. І рушыў, не зважаючы на скрыўленыя фізіяноміі і перамігванні за спінай. Былі і перашэптванні, да якіх пану Вырвічу не трэба было прыслухоўвацца, каб ведаць, якія словы найчасцей паўтараліся – “чарнакніжнік” і “схізматык”.

Панам было цяжкавата патлумачыць, чаму падхаружы Пранціш Вырвіч не бачыць асаблівай прычыны для балявання. Як сказаў бы Пранцішаў настаўнік, строгі прафесар Віленскай акадэміі доктар Баўтрамей Лёднік, няма асаблівага гонару ў тым, каб пабіцца з п'яным таварышам, які нават не помніць, з-за чаго быў пабіты.

— Схізматык! – прабурчэў услых пагардліва адзін з драгунаў. – Як такога ў войску трымаюць?

— Пан Вырвіч – рыцар! З роду самога Палямона! –заступіўся за таварыша чарнявы драгун з такімі плячыма, на якіх, здавалася, можна абіваць снапы. – Мы вучыліся разам – і не чарнакніжнік ён ніякі! Добры хлопец і слаўны шляхціц! Хіба мала ў бойкі разам хадзілі? Не бачылі, як ён б'ецца? Вам жа, пан Гаравіч, жыццё пад Коўнам ўратаваў! А наконт схізмы – дык наш кароль, ягоная мосць Станіслаў Панятоўскі, супраць таго, каб дысідэнтаў пераследвалі.

— Воін пан падхаружы і праўда адважны... Шабляй валодае – як сам Палямон...— неахвотна прызнаўся пан Гаравіч, таўсманы шляхцюк з носам, які нагадваў пераспелую сліву. – Але хіба сапраўдны шляхціц будзе, як пан падхаружы, пасля баталіі дыскурсы разводзіць, а ці правільна шаблю агаляў, ці справядліва кроў пусціў? Філасофію трэба ў бурсе пакідаць, а не цягнуць на поле бойкі! А наконт схізмы – дык я ўхваляю мінулагодні сойм, на якім прынялі, каб за пераход з каталіцкай веры ў іншую караць на горла!

— Як па-мойму, дык веру бацькоўскую мяняць – і праўда ганьба, – пагадзіўся Недалужны, і цвёрда дадаў, гледзячы ў вочы ўсцешанаму раптоўнай згодай слівоносаму. – Вось праваслаўны пан Вырвіч і не мяняе.

Аблічча таўсманнага шляхцюка пачынала набываць тое ж адценне, што й ягоны нос.

— Пан Недалужны намякае на тое, што мой дзед перайшоў з царквы ў касцёл? Веру памяняў? Дык і вашай мосці прадзеды, не памылюся сказаўшы, рускай веры былі!

Магчыма, улёгся б зараз яшчэ хтось на траву на ўскраіне маленькага ліцвінскага мястэчка, дзе кватаравала драгунская харугва, але нехта, стамлёны доўгім адрывам ад стала, закрычаў:

— А ці не пайсці нам выпіць за вернасць бацькоўскай веры?

Заклік меў удзячных паслядоўнікаў, і хутка ў хаце пана пісара, які кляў усіх датычных да таго, што ягоны дом не вызвалілі ад пастою, і што патрапіўся кватарант-драгун, шчодры на частунак, загуло застолле, застукаў келіх аб келіх, загрымелі віваты... А чаму не – калі заўтра ж, а то і сёння гострая шабля ўчарашняга сябра і суседа можа дастаць табе да сэрца, альбо шастапёр раскроіць прыкрашаную

чубам, паголеную па сармацкім звычаі галаву, а поўныя келіхі нектара ды амброзіі пазасвецця наўрад гэтак жа ўсцешаць, як свойскі блакітны ліквор, на святаянніку настоены… Гуляйма ж тут, на грэшнай зямлі, пане-брацці! Тым болей сёння падстава ёсць: імяніны пана палкоўніка Масальскага.

Малады падхаружы з палёгкай аддаляўся ад гуду і тлуму, нібыта адліпала ад цела надакучлівае павуцінне. Як казаў Цыцэрон, гнеў – гэта першая ступень вар'яцтва. Трэці год службы – а ад колішніх летуценняў пра вайсковыя подзвігі засталіся нат не ашмёткі, а сапраўды – кволае павуцінне бабінага лета, якое паблісквае на сонцы залатымі ніткамі, але ты выдатна ведаеш, што з гэтых нітаў не сатчэцца ні сувой, ні нават вузенькая ордэнская стужка. Патрапіў пан Пранціш Вырвіч гербу Гіпацэнтаўр на службу ў харугву коннага рэгіменту вялікай булавы дзякуючы таму, што колішні шэф харугвы, вялікі гетман Радзівіл па мянушцы Рыбанька, апекаваўся Пранцішавым настаўнікам, доктарам Баўтрамеем Лёднікам. Лёднік калісьці выратаваў жыццё гетмана на полі бойкі і за гэта атрымаў шляхецтва. А да гэтага нейкі час быў слугою шкаляра Пранціша Вырвіча – Фартуна любіць нечаканыя выбрыкі. Раіў пан Лёднік, былы алхімік і чарнакніжнік, вялікі вучоны і выбітны фехтавальшчык, свайму вучню прысвяціць лёс не гняўліваму Марсу, а самавітай Мінерве, багіні навукі ды любамудрыя, але хіба юнаму шляхціцу пасуе ўнікаць рыцарскага служэння!

Пасля смерці Радзівіла Рыбанькі конны рэгімент узначаліў пан Масальскі, вораг Радзівілаў і прыхільнік Фаміліі – палітычнай партыі Чартарыйскіх ды Панятоўскіх. Ну і пайшла гайданка сярод афіцэраў… Адных адпраўлялі ў адстаўку, другіх прызначалі… Не тое, каб Вырвіча з ягоным не самым вялікім чынам надта пачалі прыціскаць – але на ўдалую кар'еру пакуль можна было не разлічваць. Калі выпадае табе жыць у міжчассі, трэба ўмець пакорліва круціцца трэскай у віры, каб вынесла наверх. А Вырвіч быў перагружаным чоўнам – залішнімі апыналіся атрыманыя ў Віленскай акадэміі веды, выхаваная Лёднікам схільнасць усё правяраць розумам, нават тое, што здаецца звычным і непазбежным.

Пасля смерці Аўгуста Трэцяга Саксонца краіна нагадвала разварушаны вулей. За карону біліся і словамі – на соймах, і грашыма – перакупляючы прыхільнікаў, і зброяй – на элекцыйны сойм расійская імператрыца Кацярына прыслала свае войска, каб падтрымаць кандыдатуру былога палюбоўніка Станіслава Панятоўскага па мянушцы Цялок. А калі выбралі Цялка – развязалася вайна. Каронnae войска, натуральна, аказалася на баку новага караля і Генеральнай

канфедэрацыі – туды ўвайшла шляхта, якая спадзявалася атрымаць свой кавалак улады, ну і тыя, хто быў незадаволены парадкамі Рэчы Паспалітай, у якой дысідэнтамі, пазбаўленымі правоў, аб'яўляліся ўсе іншаверцы — праваслаўныя, пратэстанты. Галоўным сярод праціўнікаў канфедэрацыі аказаўся сын Радзівіла Рыбанькі Пане Каханку, страшэнна папулярны сярод шляхты дэманстратыўнай прыхільнасцю "сармацкім ідэалам". Сысці ў гразь, каб расцалавацца з панамі-братамі, пастраляць у вокны магістрату, хадзіць у белым жупане, загвэзаным так, што не пазнаць, ці і праўда белага быў колеру – гэта ж спадчына ад трынаццаці пакаленняў продкаў, віленскіх ваяводаў! Пан і так называў сябе некаранаваным каралём Рэчы Паспалітай. І Пранціш шчыра радаваўся, што іхні полк не ўдзельнічаў у бітве пад Слонімам, калі войскі Канфедэрацыі разам з расійскімі разбілі жаўнераў Пане Каханку, пасля чаго яго самога пакаралі баніцыяй, а маёнткі секвестравалі. Невялікая радасць пазнаць, што забіў у бойцы свайго ж ліцвіна, які проста апынуўся па другі бок.

Расказвалі, што пад Слонімам у першых шэрагах білася ў мужчынскім адзенні панна Тэафілія, сястра Пане Каханку. Там упадабала яна мужнага, але небагатага паручніка Мараўскага, з якім пасля збегла і пашлюбавалася, насуперак волі брата... А Вырвіч успамінаў такую ж адчайную паненку, панну Паланэю, сястру магната Міхала Багінскага, яшчэ аднаго прэтэндэнта на карону. Панна Паланэя таксама ўмела абыходзіцца са зброяй і насіць мужчынскі касцюм, і разбіла сэрца Пранціша Вырвіча, збегшы ў Амерыку з адчайным шляхцюком панам Гервасіем Агалінскім.

І Вырвіч часам шкадаваў, што аднойчы сустрэў на сваім шляху алхіміка Баўтрамея Лёдніка, выхаванца Пражскага і Лейпцыгскага ўніверсітэтаў, які навучыў думаць і ўглядацца ў гэты свет і ў сябе. Гэта ўсё роўна што плаваць у балоце з крыламі за спінай. І жабы касавурацца, і крылаў не распрастаць, і далёка не праплывеш.

У мінулым годзе іх харугва выпадкова натрапіла на дарозе на даўжэзную калону – на вазах сядзелі старыя і малыя, мужчыны і жанчыны, з хатулямі, са спехам прыхопленым з родных хатаў дабром. Хтось змрочна маўчаў, хтось плакаў, хтось маліўся, а хто і стагнаў, бязлітасна збіты. Вазы суправаджалі расейцы – аказалася, гэта высяляюць з Веткі ў Сібір старавераў, якія калісь збеглі ад пераследаў з Расіі ў Вялікае Княства Літоўскае, у якім стагоддзямі ўжываліся розныя канфесіі. Вазоў былі тысячы... Казакі зацята лупілі ерэтыкоў нагайкамі, асабліва шкада было тых, хто ішоў. Ясна – не дойдуць. Ляжа такі небарака рана ці позна проста на дарозе, у бруд, пыл ці снег, або скурчыцца ў куце прыдарожнага астрогу, і нават азвярэлыя

ўдары па збітым да чарнаты целе не змусяць варухнуцца... Пранціш тады кінуўся на аднаго такога, з нагайкай, які лупіў кабету, што прыціскала да сябе немаўля... Але свае ж начальнікі – не далі заступіцца, адцягнулі... Маўляў, дамова ёсць, справа расейцаў... Ды калі такое было – каб іншаземныя войскі гулялі па краіне, як хацелі! Суд вяршылі, у працу соймаў умешваліся... Войска ж Вялікага княства ды Кароны скарацілі да смешнага, да адчэпнага... У магнатаў маюцца большыя! У таго ж Пане Каханку цэлая армія была. Вось і біўся пан за шляхецкую волю, за права "ліберум вета", пакуль не апынуўся ў эміграцыі, дзе дзівіць італійцаў ды французаў тлустай да нястраўнасці ежай ды дажджом дукатаў... Як кажуць, трыбунал з дэкрэтам, а Радзівіл з мушкетам. А Лёднік неяк распавёў Пранцішу, што ёсць таемная дамова паміж расейскай імператрыцай і прускім імператарам, каб не даваць у Рэчы Паспалітай тое ліберум вета скасаваць: пакуль любы шляхціц мае права сарваць сойм, пакуль у краіне няма цвёрдай рукі – яна бяспечная для ворагаў. А для падобных Вырвічу ўвогуле што за карысць біцца на баку ўлады, якая твае храмы зачыняе ды ў здраднікі цябе запісвае толькі за тое, што ты іначай жагнаешся? Да таго ж, пасля ўцаравання Кацярыны Пане Каханку паслаў ёй ліст з прапановай вернасці ўзамен за пратэкцыю ў здабыцці кароны... Але атрымаў гарбуза – царыца даўно паставіла на Панятоўскага. А каб атрымаў Радзівіл ласку расейцаў, невядома, як бы цяпер на шахматнай дошцы Еўропы фігуры расставіліся...

Пранцішу давялося быць у Варшаве, на каранацыі Панятоўскага. Цялок прывёў усю сваю радзіну, для якой дабіўся званняў прынцаў і прынцэс. А шляхта, нават прыхільнікі, стаяла і пасміхалася: многія лічылі сябе больш радавітымі, чым Панятоўскія, дый спаконвек прынцаў тут не было – хіба што князі Вялікай Рымскай імперыі, як Радзівілы. А цяперашнія тытулы – граф'я ды бароны — праўдзівае плюгаўства! Шляхціц на загродзе – роўны ваяводзе. Кароль усяго толькі першы сярод роўных, такі ж пан-брат.

Панятоўскія слых пусцілі, што паходзяць з Італіі, са старажытнай сям'і Тарэлі, што перакладаецца як Цялок, таму і ўзнік у іх герб з выявай бычка. Але ж людзей не падманеш – досыць было тых, хто памятаў, што продкі новага караля з дробнага маёнтка Панятовы ў Люблінскім ваяводстве, а першым з роду быў Марцін Цёлак Мацяёўскі, ніякі не князь, шляхцюк сярэдняй рукі, які магнатаў у ручку цалаваў.

Асабліва пасміхаліся над малым пляменнікам Цялка, цёзкам караля – Станіславам Панятоўскім, сынам праслаўленага бессаромнымі паводзінамі падкаморыя Юзафа. Хлопчык, бледны, з

выцягнутым надзьмутым тварам, быў не па гадах фанабэрысты, і ўсе ведалі, што кароль прыгледзеў яго ў свае спадчыннікі – бо нібыта ўзамен за трон Кацярына Другая ўзяла з былога каханка слова не жаніцца і не мець законных дзяцей. Казалі, царыца нарадзіла ад яго дачку Ганну – яшчэ ў замужстве, і Цялок марыў, каб Кацярына развялася і выйшла замуж за яго... Але былая прынцэса Ангальд-Цэрбская цвёрда разлічвала на той трон, на прыступках якога стаяла, да таго ж Ганна памерла маленькай, і Станіслаў Панятоўскі дужа з гэтае прычыны журыўся.

Многае можна было закінуць каралю, але ягоную агіду да п’яных баляванняў, улагоджванняў дэлегатаў падарункамі, пацалункамі ды сумесным асушваннем чараў Пранціш ніяк не мог лічыць заганай. Гэтак жа, як і тое, што кароль перакладаў Шэкспіра.

Пан Вырвіч і сам папісваў вершы... Часцей, праўда, яны сканчалі свой век, як іспанскія ерэтыкі: у ачышчальным агні. І прысвячаць іх па праўдзе не было каму.

Ластаўкі крэслілі на небе складаныя руны, па якіх можна было гадаць на жыццё і смерць, але насамрэч канец яны прадвяшчалі толькі машкаце. Драгун сумна пасміхнуўся. Ці не памыліўся ён, абраўшы вайсковую кар’еру? А якім гонарам напаўнялі калісьці словы з працы пана Шымона Старавольскага, напісанай больш за сто год таму: "Ніколі захопніцкіх войнаў з суседнімі народамі не вядзём, калі толькі іх сілай спачатку нас не справакуюць, і то толькі, каб адпомсціць за крыўды і вярнуць захопленыя землі, а не для заняцця іх уладанняў і панавання над імі. Таму наша войска больш да абароны айчыны прыстасаванае, чым для здабывання гарадоў іншаземных... Таму таксама войска наша ў большасці складаецца з конніцы, амаль выключна са шляхты, і служыць для бітвы ў адкрытым полі, каб, ідучы наперад, супрацьстаяць непрыяцелю раней, чым ён прыйдзе да нашае граніцы".

Пранціш заўзіраўся ў сіняе-сіняе неба айчыны, па якім плылі белыя фрэгаты аблокаў насустрач невядомай прышласці, і мімаволі ўсміхнуўся: усё яшчэ наперадзе! Авантуры не сканчаюцца!

Прадчуванне не падманула: назаўтра Вырвіча раскатурхаў ягоны дзяншчык:

— Пан падхаружы! Вас пан паручнік кліча!

На шчасце, з панам паручнікам, старым служакаю, Вырвіч разумеўся добра, і часам той строгасцю сваёю ды любоў’ю да антычных філосафаў нагадваў Баўтрамея Лёдніка. На гэты раз пан паручнік Малішэўскі быў змрочны, як зімовы вечар.

— Маю для цябе даручэнне, пан Вырвіч. Неадкладна выпраўляйся ў Вільню з вельмі важным лістом. Ne differas in crastinum. (*Не адкладай назаўтра. Лац.*)

Сэрца Пранціша радасна забілася: у Вільню! Лічы – дахаты... Туды, дзе непадалёк ад Вострай Брамы стаіць дом з зялёнымі аканіцамі, у якім жыве сям’я Лёднікаў, самых блізкіх яму, хаця й не крэўных, людзей, і дзе заўсёды рады пану Вырвічу гербу Гіпацэнтаўр... А як пані Лёднік рыхтуе рубцы з анісам!

Але тут жа варухнулася і падазрэнне: чаго гэта з лістом пасылаюць не веставога, не ад’ютанта, а падхаружага, у якога шэсць шараговых драгунаў у падначаленні і дзяншчык? Ці няма тут крыўды? Пан Малішэўскі хмыкнуў у вусы:

— Не крывіся, пан Вырвіч, не дзьміся. Пасылаю цябе таму, што ты гэтым ранкам адзіны цвярозы з усяе харугвы, па-другое, даручэнне маё таемнае, ліст магу даверыць толькі чалавеку выпрабаванаму, і ніяк не слузе... А па-трэцяе, не крыўдуй, вашамосць, але... – пан Малішэўскі трохі прамарудзіў. — Лепей табе адсюль з’ехаць.

Вырвіч напяўся:

— Чаму?

Пан паручнік круціў у руцэ срэбны кубак з выбітым на ім гербам – вазіў паўсюль з сабою, нібыта спадзяваўся, што адпітае з фамільнага келіха віно засцеражэ ад праліцця свае крыві. Загрубелы ад зброі палец пана абводзіў абрыс ганарыстага аленя з галінастымі рогамі — ніхто з драгунаў не асмельваўся, нават нападпітку, выказаць куртуазную версію наконт паходжання гэткага “рагатага” герба.

— Учорашні двубой наступствы меў нядобрыя, — неахвотна працягнуў пан паручнік. — Не магу асуджаць тваю мосць за празмерную схільнасць да вучоных жартаў, самотніцтва ды ўхіленне ад сяброўскіх бяседаў, але гэта ўсё ж не дадае пану любові таварышаў. Ведаеш, што ўчора пан Свентажыцкі падчас застолля, вочы прадраўшы, пра цябе крычаў?

Пан Малішэўскі кінуў на Вырвіча насцярожаны позірк.

— Што ты – чарнакніжнік, і наслаў на яго слабасць у нагах. І не, не трэба хапацца за шаблю і зноў бегчы абараняць уласны гонар, наўрад пан Свентажыцкі памятае, што ўчора плявузгаў. Але падобныя рэчы западаюць людзям у памяць, і любую дробязь спалоханы розум пачне вытлумачваць перабольшана. Скажы, пан Вырвіч, — паручнік замяўся, апусціўшы вочы на кубак. Склера вачэй у пана была жаўтаватая, на руках – характэрныя плямы, што

сведчыла пра нездаровыя ныркі. – Ты ніколі не быў замешаны ў нечым... вядзьмарскім? Пагаворваюць пра тваё блізкае знаёмства з адным такім... віленскім Фаўстам, доктарам-чарнакніжнікам, які золата ўмее рабіць і мёртвых ажыўляць.

Праўду казалі лаціняне, fama bona volat lente et mala fama respente, добрая слава ў кошыку ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.

— Даю слова гонару пану паручніку, што я добры хрысціянін, гэтак жа, як і мой настаўнік, пан Баўтрамей Лёднік, — холадна прамовіў Пранціш. Пан Малішэўскі сумна кіўнуў галавою.

— Веру пану падхаружаму, і болей пытацца не стану. І пра доктара Баўтрамея Лёдніка чуў, і як ён у Полацку за вялікага гетмана біўся, і колькі хворых ацаліў... Нават жонка мая да яго збіралася сынка везці, калі той пакалечыўся, у старую студню зваліўшыся. Нагаварылі ёй пра цуд-лекара, дык кабета гатовая была ўсё майно аддаць, абы лекаваць узяўся, чарнакніжнік ён ці не... Але не паспелі мы нічога, памёр сынок. Божая воля...

Пан паручнік уздыхнуў, адставіў кубак і палез у шуфляду сакрэтніка.

— Вось пану сто злотых на дарожныя спажыткі, вось ліст... І не спяшайся вяртацца, пан Вырвіч. Пагасцюй у Вільні. Магчыма, цябе аб нечым папросіць той, каму ліст завязеш. Калі спатрэбішся, я прышлю па цябе сам.

Вырвіч ледзь стрымліваў гнеў і крыўду. Фактычна, яму ветліва паведамлялі, што могуць адправіць у адстаўку. Але – на каго крыўдаваць? Пан Малішэўскі да яго па-добраму, ратуе ад непрыемнасцяў. Сябе самога трэба вінаваціць. Упадабаў расцвельваць невукаў псеўдафіласофскімі гутаркамі... Самому весела, а дурні ўсё ўсур'ёз прымаюць. І кот з вусамі, а ганяецца за мышамі.

Пранціш ганарыста выпрастаўся, усміхнуўся зухавата.

— Няхай пан паручнік не сумняецца, выканаю як найлепей! А каму перадаць ліст?

— Ягонай мосці, пану суддзі Міхалу Юдыцкаму, асабіста ў рукі.

Пан паручнік пасля нейкі час гадаў, ці яму падалося, ці ягоны падначалены, бясстрашны пан Вырвіч сапраўды збялеў і разгубіўся, калі пачуў адказ на зусім простае пытанне? Але на вуліцы завішчэла нейкая дзеўка, зараўлі п'яныя галасы... І чарадзейны падхаружы вылецеў у пана Малішэўскага з галавы, як злятаюць воляю першага ж ветрыка пухнатыя парушынкі з лысай галавы дзьмухаўца.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ. ДАКЛАД ПРАФЕСАРА ЛЁДНІКА.

Зала Віленскай акадэміі была напоўненая вучонымі людзямі, бы куфэрак ліхвяра – чужымі манетамі. Здавалася, ад назапашанай тут мудрасці багавейліва трымціць нават паветра. Праўда, чамусьці да багавейлівасці адчуваўся ладны дамешак зусім іншага пачуцця. Праз высокія вокны шчодра прасявалася святло сонца, не ў змозе пазалаціць строгую вопратку, драўляныя лаўкі ды насцярожаныя позіркі.

— Такім чынам, той шлях, які пазначыў Вязалій, аддаючы перавагу досведу і практычнаму спазнанню анатоміі, аказаўся куды больш плённым, чым шлях Галена, які вывучаў анатомію чалавека на трупах жывёлаў, што не ёсць ідэнтычным.

Голас дакладчыка, высокага фанабэрыстага пана ў чорнай прафесарскай мантыі і акуратным белым парыку, з драпежным носам, цёмнымі пранізлівымі вачыма і пагардлівымі вуснамі, гучаў упэўнена, як у пераможнага вайскаводцы. Хаця слухачы – шмат хто ў чорных сутанах – пазіралі на пана за кафедрай хто з жахам, хто з гневам, хто са шчырым здзіўленнем, як на жаўнера, які адзін бяжыць супраць цэлай арміі, узброены нават не вогненным мячом, а звычайнай шабелькай. Ад некаторых імёнаў, якія называліся, прысутных ажно перасмыкала. Той-сёй дык і жагнаўся. Дакладчык жа захоўваў непарушны спакой. Не звярнуў аніякае ўвагі, і калі цяжкія дубовыя дзверы прыадчыніліся, і ў залу асцярожна ўвайшоў малады драгун, чый русявы чуб зухавата выбіваўся з-пад шапкі, пры левым баку пагрозна паблісквала шабля, а чырвоныя боты нахабна рыпелі і цокалі па каменнай падлозе падкоўкамі. Іншыя вучоныя мужы незадаволена заазіраліся на прыпозненага наведніка, якога аніяк нельга было западозрыць у любові да прыродазнаўчых навук, хутчэй у тым, што зараз утворыць шляхецкага шуму. Але малады чалавек сціпла прысеў на апошнюю лаўку аўдыторыі, каля таксама нечаканых слухачоў – кабеты ў кунтушыку з цёмна-зялёнага шоўку, уздетым на светлую сукню, у парыку, прыкрашаным толькі зялёнай стужкай, і цемнавокага хлопчыка гадоў пяці ў нямецкім касцюмчыку, страшэнна важнага і сур'ёзнага. Па-праўдзе, кабета ў сціплым, але густоўным уборы магла апрануць радно альбо сает з залатой парчы, і аднолькава падавалася б казачнай каралевай. Такую велічную прыгажосць не псавалі нават гады – слухачка была не юнай, але час ад часу на яе тонкі профіль, дасканалыя ружовыя вусны, чорныя бровы, якія ганарыста ўзляталі над нясцерпна сінімі вачыма, агляддаліся і студэнты, і старыя прафесары. Але сінія вочы былі

скіраваныя толькі на змрочнага дзюбаносага дакладчыка, які працягваў цвеліць аўдыторыю.

— A posteriori, гэтыя вынікі, якія дапамогуць пазбегнуць завялікіх стратаў крыві пацыентамі падчас аперацый у брушыне і нават на сэрцы, можна было б атрымаць хутчэй, калі б у нашай паважанай навуковай установе меўся свой анатамічны тэатр. Яшчэ Уільям Гарвей пісаў, што анатамы павінны вучыцца і вучыць не па кнігах, а прэпараваннем, не з дагматаў вучонасці, але ў майстэрні прыроды. Спадзяюся, панове пераканаліся, што вынікі маіх эксперыментаў пацверджваюць схему цыркулявання крыві ў арганізме, якую вызначыў Гарвей. Магу спаслацца таксама на працу “Элементы фізіялогіі чалавечага цела” фон Галера, а таксама даследванні Герарда Ван-Світэна і Антона Гаена з Венскай Акадэміі навук. Задумайцеся, панове – на двары другая палова васемнаццатага стагоддзя, ваду пампуюць з дапамогай пары, тканіны ткуць машыны, а вы ўсё яшчэ верыце, што жоўтыя рэчывы дапамагаюць ад жаўтухі, таму што колеры супадаюць, плады ў форме сэрца – ад сардэчных хваробаў, а кроў соўгаецца па артэрыях туды-сюды, як чаўнок у кроснах.

— Пані Лёднік, яго пасля на вогнішча не адправяць? – прашаптаў драгун на вуха засяроджанай прыгажуні. Тая ўздрыгнула, перавяла позірк на суседа, цень радаснай усмешкі кранууў вусны:

— Пан Вырвіч! Якім чынам?

— З даручэннем паслалі, — шэптам адказаў драгун, абвёў вачыма аўдыторыю. – Спадзяюся, біцца тут не трэба будзе?

— Не ведаю...—трывожны позірк кабеты зноў вярнуўся да постаці ў цёмнай мантыі. – Ён жа неўтаймоўны... Лезе ўвесь час на гарачыя вуголлі...

— Пані маці, пан Вырвіч, ціха! Пан бацька гаворыць! – важна прашаптаў малы, і Пранціш пасміхнуўся, пазнаючы інтанацыі згаданага пана-бацькі, які зараз стаяў за кафедрай.

— Cogito ergo sum. Пакуль мыслю, існую. Усё новае напачатку здаецца нязвыклым, а таму няправільным, omnium quidem rerum primordial sunt dura,*(пачатак заўсёды здаецца няправільным – лац.)* — на лаціне завершыў сваё выступленне дакладчык. – Але калі новаўвядзенне дапаможа ратаваць жыцці, мы мусім яго засвоіць. Няхай дапамагае нам Гасподзь, амін.

Частка аўдыторыі горача запляскала ў ладкі, той-сёй нават усхапіўся з месца – у асноўным моладзь, але і самавітыя навукоўцы. Асабліва шчыраваў пан у багатым камзоле з шэрага атласу, у бялюткіх карунках, з разумным адкрытым тварам – пан з выклікам

паварочваўся да тых, хто сядзеў і няўхвальна гуў. А потым пачаўся дыспут...

— Вельмішаноўны доктар Лёднік, напэўна, не ведае, што ў Сарбоне ягонага ўлюбёнага Гарвея, вучня алхіміка і блюзнера Бэкана, называюць не іначай як “цыркулятарам” – што абазначае шарлатана, — з’едліва пачаў стары навуковец з вострым носам і запалымі вачыма. – Abyssus abussum invocate. (*Бездань прызывае бездань - лац.)* І вы ўслед за ім адмаўляеце, што арганізм – гэта мікракосм, адухоўлены археем? Што ў крыві прысутнічае жыццёвы дух?

— Калі Уільям Гарвей апісваў разрыў сценкі левага жалудачка сэрца, ён знайшоў там абвапненне вянозных сасудаў, а вось архей адсутнічаў. Магу пацвердзіць сваймі назіраннямі, — яшчэ больш з’едліва адказаў доктар Лёднік. І панеслася... Вучоныя – і ў сутанах, і ў камзолах – раўлі на чысцюткай лаціне, як гандляры на старажытнарымскім рынку. Лёднік дыскутаваў, нібыта біўся на шаблях – атакуючы пры кожным спрыяльным выпадку. Дакладчыка абвінавачвалі і ў тым, што праводзіць рызыкоўныя аперацыі, замiж таго, каб пакласціся на волю Божую, крывепушчанне і мікстуры, і ў тым, што ён увогуле, ганьбячы званне доктара, працуе скальпелем і ланцэтам – бо саслоўе хірургаў спаконвеку належыць да цэху цырульнікаў, і павінна слугаваць дактарам. Сцвярджалі, што аперацыі на сэрцы і на пячонцы немагчымыя, бо там утрымліваецца жыццёвы эліксір, і калі Лёдніку нешта падобнае ўдаецца, дык ці не з дапамогай тых сілаў, да якіх добры хрысціянін ніколі не звернецца?

Знаходзіліся абаронцы і ў доктара, асабліва ўжо заўважаны Пранцішам пан у шэрым камзоле, які выкрыкваў дастаткова дзёрзкія рэплікі, што сведчылі пра добрую адукаванасць.

— Хто гэта, пані Саламея? – папытаўся Пранціш Вырвіч у доктаравай. Тая, тулячы да сябе сына, адказала пабялелымі ад трывогі вуснамі:

— Граф Міхайла Разанцаў. Расейскі консул у Вільні. Яны з Бутрымам сябруюць.

— Яшчэ ягоная імператарская мосць Пётр Першы загадаў адкрыць анатамічны тэатр у Санкт-Пецярбурзе! – крычаў Разанцаў. – Таму што лічыў, як і знакаміты анатам Фрэдэрык Руйша, што вантробы чалавека – таксама доказ дасканалага Боскага майстэрства! Яны таксама Госпадам створаныя! Ягоная імператарская вялікасць асабіста прысутнічаў на практычных занятках у Шпітальнай школе, а калі бачыў, што нехта з прысутных грэбуе, змушаў уласнымі зубамі разрываць цяглiцы трупа! Таму што доктар не павінен грэбаваць тым,

што створанае Богам і што ён мусіць, прызываючы Госпада, ратаваць!

Ад уяўленай карціны з разрываннем зубамі цяглiцаў Вырвіч у чарговы раз падумаў, што, відаць, медыцына – не ягоны шлях. Між тым гвалт дасягнуў тае кропкі, калі пачынаецца альбо натуральная бойка, альбо стома і зацішак.

— Я выклічу іх усіх на двубой! – заявіў малы Лёднік, ягоныя цёмныя вочы пагрозна блішчэлі. – Мяне пан-бацька вучыць фехтаванню!

І нават руку паклаў на дзяржальна маленькай шаблі ў сярэбраных похвах. Як кажуць, калі бацька – рыбак, дык і сын глядзіць на ваду.

— Вы вельмі смелы, пан Алесь, — пахваліў малога Пранціш.— Але думаю, прафесар сам справіцца.

Ды ад разварушанага вулею нельга адмахацца галінкай. Вырвіч шкадаваў, што недастаткова дасведчаны, каб далучыцца да спрэчкі – за два гады зусім адарваўся ад навукі. Урэшце гармідар спыніў рэктар. З ягонай прамовы вынікала, што, нягледзячы на павагу да навуковых дасягненняў прафесара Баўтрамея Лёдніка, асновы акадэмічнай-схаластычнай навукі ў Акадэміі ламаць не стануць, стварэння анатамічнага тэатру, гэтак жа, як медычнага факультэту, у планах кіраўніцтва пакуль не маецца, дый увогуле наконт працы самой кафедры практычных навук, якую ўзначальвае дакладчык, ёсць пытанні.

Лёднік прабіўся праз натоўп з такім фанабэрыстым ды злосным выглядам, што да яго баяліся чапляцца і з крытыкай, і з ухвалай.

— З’еду ў Вену! – скрозь зубы заявіў жонцы. – Там не трэба хавацца ў сутарэнні, каб нармальна вывучаць анатомію! Невукі!

— Супакойся, Варфаламей, — прамовіў граф Разанцаў, які ішоў услед за сябрам. – Сам жа казаў — новае заўсёды сустракаюць падазрона. Успомні, у Лейпцыгу аднаго нашага прафесара ўвогуле ў турму пасадзілі пасля падобнага ж дакладу. Як казаў Сенека, aequo animo audienda sunt imperitorium convincia *(Належыць абыякава выслухоўваць папрокі невукаў – лац.).*

Ага, скеміў Пранціш, значыць – яшчэ адзін Лёднікаў аднакурснік, скароны ягоным геніем. Відаць, Лёднік быў такім яркім персанажам ва ўніверсітэце, што яго ведалі ўсе. Міхайла Разанцаў паклаў руку на плячо доктара.

— Колькі разоў гаварыў, Варфаламей – ты павінен ехаць у Санкт-Пецярбург! Цябе прымуць у Расійскую акадэмію, я табе

забяспечу практыку ў палацах – магчыма, і да самой царыцы дойдзем. Яе імператарская вялікасць мае вялікую схільнасць да навукі... Часопісы выпісвае з Еўропы... Што ты забыўся ў езуітаў? Прыдзе час, павер, ён не за гарамі – усё тут пераменіцца, і ў краіне, і ў адукацыі, акадэмія зробіцца цалкам свецкай, будзе і медычны факультэт... А можа, і асобны медычны ўніверсітэт. Тады і вернешся, калі захочаш.

— Пакуль магчыма нешта рабіць на радзіме, буду рабіць, — прабурчэў Лёднік. – Дарэчы, прывітанне пану Вырвічу...

Доктар, успомніўшы пра свецкія манеры, прадставіў Пранціша і графа адно аднаму, узяў сына за руку, усміхнуўся знерваванай жонцы і рушыў з аўдыторыі, выпрастаны, як аршын глынуў.

— Езуіты збіраюцца Бутрымаву кафедру прыкрыць, — дарогай цішком тлумачыла Пранцішу засмучоная Саламея, пакуль Лёднік і граф Разанцаў перагаворваліся, ідучы паперадзе.— Пакінуць яго загадваць аптэкай, каб надалей лекі рыхтаваў, напэўна, і лекцыі чытаць дазволяць па хіміі ці што там палічаць найменш шкодным. Не прападзем, вядома – лекарская практыка нікуды не падзенецца. Але Бутрым так марыў пра беларускую медычную школу, кшталту венскай ці лейдэнскай. А цяпер...

Ведаючы былога алхіміка, можна было прадказаць, што ён так проста не здасца і невядома што ўтворыць на сваю мудрую галаву.

Пранціш прыслухаўся: Разанцаў усё ўгаворваў свайго Варфаламея ехаць у Расею.

— Паслухай, зараз не тыя часы, калі ўрача Антона Нямчына на кавалачкі разадралі на Маскве-рацэ, а Лявону Жыдовіну, які лячыў сына Івана Трэцяга ад камчука, галаву адсеклі... Іншаземных дактароў у нас шануюць! Тым болей – ты адзінаверац.

Лёднік неахвотна адбіваўся:

— Нярускіх дактароў у вас не любяць па-ранейшаму, думаеш, не ведаю, што па Аптэкарскім дэпартаменце быў загад, каб рускія вучні елі і жылі асобна ад іншаземнага настаўніка, “дабы не оскверниться”. Дый увогуле лекар сёння – фігура несамавітая.

— Успомніў Аптэкарскі дэпартамент стогадовай даўніны! Гэта калі аптэкара Брэмбарга выгналі з Масквы за тое, што выставіў у вітрыне шкілет? Цяпер у нас Кунсткамера, у якой заспіртаваныя эмбрыёны, прэпараваныя дзіцячыя трупы з рознымі паталогіямі і нават скульптуры з костак, і кожны, хто лічыць сябе адукаваным, павінен туды схадзіць. А наконт самавітасці — ты хочаш, каб усе цябе баяліся, Варфаламей? Кінь! Не бачу нічога дрэннага ў тым, што народ смяецца, і над дактарамі, і над палітыкамі, — весела гаварыў

Разанцаў. – Смех – адзнака здароўя. Бачыў я адзін спектакль, дзе да ложка хворага на іпахондрыю паклікалі кансіліум. Рускі доктар прапанаваў хворага напаіць, хаця б і сілком. Француз – пазнаёміць з дзеўкай. Немец – замкнуць і не карміць, спакушаючы з-за дзвярэй ежай, ангелец – уручыць пацыенту пісталет і даць магчымасць застрэліцца.

Лёднік мімаволі засмяяўся, Пранціш таксама ледзь стрымаў смех.

— Ну і які рэцэпт выкарысталі?

Разанцаў махнуў рукой.

— Сын хворага ўсіх нашых калегаў паганым венікам пагнаў. Пры гэтым ангелец на развітанне пабіў немца, немец пагразіўся разбіць у манаграфіі навуковы досвед ангельца, француз пайшоў, напяваючы, а рускі – галавой ківаючы.

Тут ужо зарагатала ўся кампанія. Каля ратушы, якая пасля пажару так і стаяла абгарэлым слупом, граф Разанцаў развітаўся з Лёднікам, у яго былі справы ў магістраце. І сямейства доктара адправілася далей, туды, дзе высіліся дзве камяніцы па мянушцы Рай і Пекла. Гарадскі гадзіннік адбіў тры папалудні, на ягоным масянжовым пляскатым твары па звычаі меўся надпіс “Vulnerant omnes, ultima necat” — “Усе гадзіны раняць, апошняя забівае”. Ля ганебнага слупа на пляцы тоўпіўся люд паспаліты, ахвочы да чужой пакуты. Лёднік скасавурыўся ў той бок.

— З маім шчасцем і я там калі-небудзь магу натоўп вакол сябе сабраць, больш, чым з кафедры.

— Не гарадзі лухты, Бутрым! Не спакушай Бога! – гнеўна сказала Саламея.—Мала табе ў жыцці прысаку ў поліўцы перапала?

— Я абараню цябе, тата! – важна прамовіў малодшы Лёднік, у ягоных цёмных вачанятах хавалася трывога.

— Вось, дзіця напалохаў... – з дакорам прагаварыла пані Саламея. Лёднік падхапіў сына на рукі, пацалаваў, худы змрочны твар доктара прасвятлеў, памякчэў – што ж, за права называць гэтага хлопчыка сынам прафесар заплаціў вельмі дорага.

— Пусці, я ўжо вялікі! Я шляхціц!

Хлопец выкруціўся з рук бацькі, саскочыў на зямлю і прыняў гордую паставу. Пранціш схаваў усмешку – характар у Аляксандра Баўтрамеева Лёдніка быў відавочна таткаў.

— Ой я, малада, дзе розум падзела?

За жаўнера, за зладзея сама захацела,

— завёў побач песеньку лірнік, і ягоны паплечнік, замурзаны хлапчыска ў аблезлай камізэльцы з футра ўжо невызначальна якой

жывёлы, ускінутай паўзверх падранай кашулі, зашнырыў з шапкай ля мінакоў.

— Ой, пайду я ў поле: жыта палавее.

Добра мая галованька, што не акалее, —

жаласна выводзіў надтрэснуты голас. Пранціш кінуў у падсунутую шапку грош і сярдзіта папрасіў больш баявітых песень. Няма чаго жаўнераў ганьбіць.

Услед зараз жа панеслася “баявітае”, на заказ:

— Збройныя дзеі пяю, ваяводаў, Літоўскага Марса.

Караляў збройных пяю: іх харугвы варожыя разам

Бачылі землі Барэя і месца паўночнае – Рыга,

З імем адным – ды з адрозным і лёсам, і сілай ад Бога...

Пранціш ажно спатыкнуўся... Жабрак выпяваў “Караламахію” Хрыстафора Завішы, ды яшчэ ў перакладзе з лаціны! Трэба вярнуцца...

Драгун са скрухай углядаўся ў спаласаваны шнарамі і зморшчынамі твар лірніка, паўз якога нядаўна прайшоў з няўважнай пагардай. Гэта не быў твар неадукаванага палахлівага мужыка... Вочы выхоплівалі падрабязнасці, з якіх складаўся партрэт горкага лёсу: мыліца, прыхінутая да ліпы, пад якой прыладзіўся спявак, шнар ад шаблі праз увесь твар, старая жаўнерская дзяга, што сцягвала лахманы...

— Ваяваў, васпан? – ціха спытаўся Пранціш. Сляпыя вочы лірніка былі паўпрыкрытыя, і ўсе аблічча здавалася “сляпым”, невыразным. Адно што – адчувалася за гэтай невыразнасцю застарэлая пагарда, амаль інстынктыўная нянавісць да тых, ад чыёй літасці ён зараз залежыць.

— Так, ваяваў, літасцівы пане, з туркамі біўся, са шведамі, з маскоўцамі. У войску слаўнага караля нашага Жыгімонта, няхай уладзяць яго светлыя янголі ў нябёсным палацы, — голас гучэў, як бы чалавек столькі разоў паўтараў сваю гісторыю, што смяротна стаміўся, і абрыдлі яму чуллівыя падрабязнасці, бо не расчульваюць яны сэрцы.

— А вучыўся дзе?

— У піяраў, ваша мосць, у Зэльвенскім калегіюме.

Вырвіч абшарыў кішэні і высыпаў у шапку, зараз жа падстаўленую мурзатым хлапчыскам, усё да грошыка.

— А гэта ад нас! – важна прамовіў дзіцячы голас, і пан Алесь Лёднік, відаць, пасланы бацькамі, таксама кінуў манеты.

Няўжо няма справядлівасці ў гэтым свеце нават для тых, хто праліваў кроў за Айчыну? Няўжо яна – таксама бязлітасная дама, якая прымушае за сябе паміраць, але ўдзячнасці ад якой не

дачакаешся? І ці не здарыцца так, што калісь Пранціш Вырвіч, стары, скалечаны, аслеплы, будзе вось так соўгацца, выпрошваючы на хлеб і ціха ненавідзячы фанабэрыстых абыякавых багацеяў?

У доме з зялёнымі аканіцамі іх чакала вячэра, радасны брэх рудога калматага сабакі па мянушцы Піфагор, прыгаворванні таўсманнага гультаяватага слугі Хвелькі і стройныя шэрагі кніг, якія мелі ўласцівасць разрастацца ў гэтым доме, як апенькі на збуцвелым пні, так што не было ніводнай сцяны, дзе калі не стаяла самавітая шафа – дык вісела паліца з папяровымі ці пергаментнымі суразмоўцамі. Шмат кніг прыбавілася пасля таго, як у мінулым годзе памёр Лёднікаў настаўнік і дарагі яму чалавек, полацкі аптэкар дзядзька Лейба, і адпісаў Бутрыму ўсю сваю бібліятэку.

Вырвіч так і не пераняў палкую любоў свайго ментара да навуковых трактатаў, але кнігі з выдумкамі, усялякімі фантастыкамі ды пра высокую навуку вершаскладання былі яму даражэй цяпер за келіх добрага віна. Драгун зняў з паліцы патрапаны томік: “Лапатачнік”. Што за прыпавесць? Пагартаў... Дапаможнік па варажбе на авечай лапатцы, перакладзены з трактату Пятра Егіпцяніна... Чаго толькі ў дзядзькі Лейбы не захоўвалася! А вось табе “Таямніца таямніцаў, Арыстоцелева брама”, больш вядомы ды самавіты твор, праўда, як запэўніваў Лёднік, да Арыстоцеля ніякіх адносінаў не мае. Том з “осьмі главізнаў”, у якіх і “о поведаніі ваёўным”, і “о прамудрасці парсуннай, яко заховаці цару жывот свой, піціем, і ядзеніем, і спаніем, і порты”, і пра куплю рабоў і рабыняў, а таксама – самае Лёдніку цікавае — лекавыя парады.

Пранціш пазнаў і гравюру з выявай Іерусаліму, якая раней вісела на сцяне ў аптэцы дзядзькі Лейбы: з мініяцюрнымі камяніцамі, пальмамі, паўлінамі і херувімчыкамі.

Драгун з замілаваннем разглядаў дом і гаспадароў, якія паскідалі парыкі і пераапрануліся ў хатняе. У чорных валасах Лёдніка з’явіліся срэбныя ніты, але ён усё гэткі ж упарты, жылісты і хуткі, не чалавек – змяюка. Напэўна, па-ранейшаму займаецца фехтаваннем – вунь нават некалькі драўляных мячоў у куце. Раней Лёднік такімі пагарджаў, трэніруючыся толькі на баявой зброі. Але як Вырвіч з’ехаў, дык, відаць, даводзіцца прафесару ў трэнінгах мецць справу з дурнымі юнакамі, якія пакалечыцца могуць. Пранціш нават адчуў у глыбіні душы востры ўкол рэўнасці да тых незнаёмых вучняў.

Саламея Лёднік была ўсё гэткай жа гожай, толькі ў куточках вачэй з’явіліся таненькія зморшчынкі, якія пані не лічыла патрэбным хаваць пад слоем пудры. Яна нават цяпер, праз трывогу, свяцілася

шчасцем, варта было пабачыць сына. Пранціш гадаў, ці памятае маленькі Алесь, што ў яго калісьці была іншая маці?

Між тым пані Саламея накрывала на стол – яна, дачка полацкага купца-кнігара, не грэбавала ўласнаручна займацца хатняй гаспадаркай, хаця ў дом прыходзіла і прыслуга дзеля чорнай працы. Але перад вячэрай Лёднік завёў Пранціша ў кабінет, дзе акрамя кнігаў грувасціліся хімічныя ды медычныя прылады і некалькі застрашлівых васковых муляжоў, што дужа рэалістычна ўяўлялі з сябе прэпараваныя фрагменты чалавека, замкнуў дзверы на ключ.

— Расказвай!

Пранціш моўчкі працягнуў ліст да Юдыцкага. Прафесар уважліва разглядзеў канверт, але ламаць пячатку не стаў.

— Ясна… Ісці да пана суддзі не хочацца?

— Яшчэ б! – фыркнуў Пранціш, касавурачыся на расфарбаванага васковага нябожчыка без паловы чэрапа, чый мозг, аплецены венамі, нагадваў кубло рознакаляровых рабакоў. –У цябе вунь дасюль шнар на лобе ад ягонай шаблі! Забыўся, як ён нас ледзь у слуцкія сутарэнні не заканапаціў? А потым у Менску я ж пад ягонымі вокнамі прывіда выяўляў, мяне з вартай лавілі. Ну і фізіяномія была тады ў пана!

Вырвіч засмяяўся ўспамінам. Лёднік задумліва пакруціў ліст.

— Баяцца табе цяпер няма чаго. Як Пане Каханку за мяжу ўцёк, Юдыцкі ўплыву мае мала. Да таго ж ягоны стрыечны брат, рэчыцкі суддзя, утварыў бяды – зрабіў наезд на сеймік, дзе яго не хацелі маршалкам выбіраць, людзей пасек. Каб яго схапіць, расейскія войскі запрасілі. Дык узялі пана толькі ў радавой усыпальніцы – сядзеў на труне прадзеда з двума пісталетамі. Цяпер, кажуць, на расстрэл асудзілі – надта ўсё жорстка і беззаконна, ніхто не заступіўся. І наш Юдыцкі ад брата паспяшаўся адрачыся: маўляў, хоць і скруха на сэрцы, але пан-брат сам вінаваты, закон парушаць нельга. Такія, як суддзя, ворагаў і сяброў мяняюць, бы модная паненка кавалераў. Ты ведаеш, што ён яшчэ ў мінулым годзе да мяне на прыём прыходзіў?

Вось табе на! Вырвіч успомніў, як Лёднік, едучы ў турэмнай карэце на расправу, “прыпёк” Юдыцкага дыягназам, што ў таго пячонка не ў парадку, і мужчынскай сілы няма.

— Ну і як, вярнуў суддзі мужчынскую сілу?

Доктар нават не пасміхнуўся.

— Прабач, пан Вырвіч, але лячэнне пацыента – справа між ім і доктарам.

Пранціш аж пачырванеў. Вось зануда гэты былы алхімік... Мала, што лечыць колішняга смяротнага ворага, дык яшчэ ад найбліжэйшага свайго сябра падрабязнасці хавае.

— Адзінае – калі Юдыцкі пачне ў які закалот намаўляць, не лезь! – задумліва прамовіў Лёднік. – Пане Каханку зараз у эміграцыі, але ж сувязь тут мае ўвесьчасную. Чуў, можа, што на гузіках ягоных быў выціснены дэвіз – “Fiducia amicorum fortis”, моцны вернасцю сяброў?

— Але не жончынай, — зласліва зазначыў Пранціш. – Пані Тарэза з Ржавускіх за мужам у выгнанне не паехала, на балях у Панятоўскага скача, каралю амуры строіць. А атрыманыя ад Радзівіла лісты ў каралеўскім палацы ўслых зачытвае, каб усе пасмяяліся.

Лёднік уздыхнуў.

— Што ж, дзе густа, дзе пуста. Мне расказвалі, што ў гэтай пані ў спачывальні вісіць жалезная клетка, куды яна садзіць ворагаў — каб цешыцца іхнімі стогнамі ды крыкамі, зусім як князь Геранім Радзівіл. Нездарма Пане Каханку ад жонкі ў кляштары хаваўся. Затое альбанчыкі, сябры радзівілаўскай банды, маёнткі пана ў арэнду бяруць, пільнуюць, прыбытак пану пасылаюць... Так што Радзівіл пусціў чутку па ўсёй Еўропе, што ў яго маецца неразменны залаты дынарый памерам з жорнаў. Патоцкія і Браніцкія таксама лезуць смаліцай у вочы, пра карону марацьЬ. І Панятоўскаму яшчэ доўга давядзецца за моц свайго трону змагацца. А грошай у яго на гэта няма.

Вырвіч здзівіўся.

— Як гэта – у караля ды грошай няма!

Васковы чалавек з адзіным вырачаным вокам дакорліва глядзеў на Лёдніка, сына полацкага гарбара, які разважаў пра палітыку без усялякай трапятлівасці.

— Тое, што шляхцюку – гара залатая, каралю абакрадзенай дзяржавы, які хоча рэформаў – каціныя слёзы, — стамлёна гаварыў Лёднік. — Сам падумай: прыбыткі ад партоў, капальняў ды падаткаў ідуць толькі на дзяржаўныя патрэбы. Уласных жа маёнткаў у караля паменела, дый ладу ў іх няма. А расейцы, хоць зброяй падтрымаюць, рэформы фінансаваць не стануць. Нашто ім добрыя законы ды моцная эканоміка ў дзяржаве, якую яны зжэрці збіраюцца? Вось, прызначыў Цялок сябрука, Антона Тызенгаўза, адміністратарам сваіх уладанняў, а той узяўся люстрацыі, рэвізіі зямельныя, праводзіць. А ты ўяві, колькі каралеўскіх земляў патрошку паадразалі сабе ўсялякія! Так што незадаволеных нават па гэтым будзе шмат. Дысідэнцкае пытанне таксама так проста не вырашыцца...

— Дык расейцы ж уціск праваслаўя галоўным злачынствам абвяшчаюць, а ягоную абарону – сваёй галоўнай задачай! – нагадаў Пранціш. – Мяне ў харугве за тое, што я не каталік, ледзь у расейскія шпегі не запісалі.

Лёднік цяжка ўздыхнуў.

— Разанцаў распавёў мне па сакрэце, канцлер Панін гаварыў, што не варта асабліва пашыраць тут правы пратэстантаў ды праваслаўных – бо сяляне з Расіі пачнуць збягаць. Патрэбна толькі з дысідэнтаў партыю, прыхільную імперыі, стварыць. Нікому насамрэч справы няма, добра нам ці блага жывецца. А тут, што ў Кароне, што ў Літве – нават у адной партыі няма згоды. Кароль марыць скасаваць ліберум вета, ягоныя дзядзькі Чартарыйскія баяцца з гэтае нагоды страціць сімпатыі шляхты... Пане Каханку з-за мяжы прыхільнікаў вярбуе... Карацей, на гэтым тле такія можна закруціць інтрыгі, што край крывёй зальецца. Заўтра пойдзеш да Юдыцкага – будзь асцярожны.

— Што ты мяне за дурня маеш? – пакрыўдзіўся Пранціш. – От зараз пану суддзі душу пачну адкрываць, як куфры са старымі кілімамі, ажно моль паляціць. І ўвогуле – як ты з гэтым расейскім графчыкам-баярынам так сышоўся? Не б'ецеся за палітыку?

Лёднік пацiснуў плячыма.

— Разумны чалавек заўседы будзе паважаць перакананні іншага. А наконт баярына ты не маеш рацыі. Бацька Міхайлы простым купцом быў, яго цар Пётр Першы дваранінам зрабіў, у Галандыю вучыцца паслаў. І Міхайла ўсяго дамогся без пратэкцыі, уласным розумам.

Вось яно што... "Новыя дваране" – балючая тэма і ў Літве, і ў Польшчы, і ў Расеі. Лёднік са сваім "свежым" шляхецтвам не быў выключэннем – яшчэ ў 17 стагоддзі, пасля Гадзяцкае уніі, шляхецтва ад сойму Рэчы Паспалітае атрымалі некаторыя камандзіры сялянскіх атрадаў, якія біліся з маскоўцамі. Напрыклад, Мурашкі, Драні, што ў шляхоцтве зрабіліся Дранеўскімі. Але шмат было і тых, хто яшчэ "за Сасамі" проста купляў патэнт набілітацыі, ці выслужваўся не вайсковым подзвігам, а фаварыцтвам. А Панятоўскі, відаць, маючы на ўвазе прыклад Пятра I, шчодра надаваў шляхецтва невысакародным саслоўям, вядома, спадзеючыся прыдбаць сабе верных прыхільнікаў.

За што старая шляхта яго яшчэ больш зненавідзела. Гэтак жа, як і ягоных "хроснікаў на шляхецтва".

Вырвіч заўважыў у куце нешта, накрытае зялёным сукном. Ужо здагадваючыся, падыйшоў, прыўзняў цяжкую тканіну. На яго зірнулі шэрыя шкляныя вочы з дасканала прыгожага васковага

твару. Пандора... Лялька-аўтамат, сакрэт якой калісьці змусіў іх з Лёднікам цягнуцца аж за мора. Доктар паспешліва падыйшоў і акуратна ўхутаў васковую прыгажуню.

— Што, успамінаецца ледзі Кларэнс? – здагадаўся драгун. Прафесар памаўчаў, відаць, прагортваючы ў памяці прыгоды ў Ангельшчыне, падчас якіх яму давялося звесці блізкае знаёмства з чароўнай, але капрызлівай пані з абліччам гэта лялькі.

— Як такое забудзеш... Ведаеш, – былы алхімік трохі павагаўся, відаць, не ведаючы, ці варта прамаўляць тое, што прасілася, – я часта разважаў, як мне патрапіла паддацца чарам той лэдзі... Ну так, прыгажуня, арыстакратка, угневаў бы адмовай – загадала б яшчэ ўсіх нас забіць... Але ж і я не хлопчык. І Саламея мне даражэй за ўсіх царыцаў свету. І я зразумеў, што каб не было гэтай лялькі, каб не мучыўся я столькі над разгадкай таямніцы мехзанізму, не ўразіўся б сустрэчай з жывым арыгіналам. А тады, у Лондане, калі я пабачыў, як ажыла мая механістычная задача, мая навуковая перамога... Ды што цяпер апраўдвацца...

Лялька маўчала пад зялёным сукном, але здавалася, што ў любы момант тканіна варухнецца.

Між тым Лёднік трохі павагаўся і палез у шуфляду сакрэтніка з чорнага дрэва, упрыгожанага выявамі купідончыкаў – антычныя бажаняты мелі таўсманныя хітраватыя аблічча і зблытаныя кудзеры. Здавалася, гэтыя шкадлівыя стварэнні цэлілі не ў сэрцы залатымі стрэламі, а ўхапіць з чужога стала булку альбо жменьку разынак, як віленскія шкаляры.

— Ёсць тут яшчэ адзін ліст да пана Вырвіча... Па-праўдзе, дык не вельмі хацеў я пану яго аддаваць. Чаго вярэдзіць старыя раны...

Пранціш выхапіў з рук былога свайго слугі сціплы канверцік, запячатаны зялёным сургучом з адбіткам знаёмага гербу "Агінец".

— Давай я сам буду вырашаць, што мне вярэдзіць, а што не.

Драгун не ўтрымаўся, каб не паднесці ліст да твару: калі прынюхацца, можна ўлавіць слабы пах мора, а яшчэ – вярбены. Пах улюбёнай парфумы панны Паланэі Багінскай, цяпер – пані Агалінскай. Колькі ж міляў і вёрстаў паміж імі цяпер! Моры-акіяны...

Пранціш паспешліва дастаў з канверту аркушык, прачытаў, і гнеўна павярнуўся да Лёдніка, які з трывогай назіраў за былым вучнем.

— Калі гэта прыйшло?

— Ды прынеслі перад Вялікаднем, — з некаторай няёмкасцю адказаў Лёднік.

— І ты не пераслаў мне! – абурыўся Вырвіч. – Не паведаміў! Аберагаў хлапчыску ад нервовага зрыву! Можа, хопіць на лейцах мяне вадзіць? З-за твае дурной перасцярогі іншыя людзі пацярпелі! На, чытай!

Раззлаваны драгун кінуў ліст з далёкай Амерыкі Лёдніку, як мог бы кінуць кароль Ягайла данос падкаморага Гневаша на дабрадзейную каралеву Ядзвігу.

“Заўсёды памятаю шаноўнага пана Вырвіча, а наважылася нагадаць яму пра сябе вось з якой прычыны… З цягам часу шмат што пераацэньваецца, дарагі пан Вырвіч, і рэчы, якія раней здаваліся нязначнымі, усведамляюцца вельмі істотнымі, і робіцца сорамна за тое, што ты імі пагарджаў. Калі я ад’язджала, мая камерыстка Ганна Макавецкая ўсё яшчэ заставалася ў кляштары, дзе па маім загадзе мусіла выдаваць сябе за мяне, каб я магла бесперашкодна адправіцца ў наша ангельскае падарожжа. Па-праўдзе, у мітульзе падзеяў я зусім забылася на лёс Ганны, у якой ніякіх сваякоў не засталося. Буду вельмі ўдзячная пану Пранцішу, калі ён выканае, няхай са спазненнем, мой абавязак: даведаецца пра лёс беднай Ганулькі і перадасць ёй тое, што захоўваецца ад майго імя ў банкіра Мамоніча ў Вільні: банкіру я пасылаю асобны ліст з адпаведным загадам. Няхай панна Макавецкая прабачыць мяне за ўсё і скарыстаецца тым, што я ёй перадаю.

Дарэчы, нашага сына мы назвалі Францыскам Казімірам. Гервасій у гонар нараджэння нашчадка ледзь увесь форт не спаліў, феярверкі з сябрукамі ладзячы. Індзейцы мужа баяцца, як злога чараўніка, што кіруе вогненным богам. А Гервасій спрабуе іх мову вывучыць, каб байкі новыя запісваць. Трохі расчараваны, што тут, дзе мы пасяліліся, няма джунгляў і маленькіх рознакаляровых птушачак, затое тут горы, парослыя лясамі, чорныя мядзведзі з кіпцюрамі, як у цмока, і такія вялізныя дрэвы, што, магчыма, з вяршаліны бачная Вільня. Гервасій спрабаваў праверыць”.

І ніжэй – радок, літары ў якім таньчылі п’янога гапака:

“Паколькі гэты малы нарадзіўся не чарнявым, а, як належыць, рудзенькім, можаш, пан Вырвіч, доктара пугай не сцябаць! Пан Гервасій Агалінскі”.

Апошняя літара заканчвалася пісягом, як бы хто ў аўтара вырваў з рук пяро. Далей зноў быў почырк Паланэі:

“Спадзяюся, пан Лёднік разумее, што Гервасій яшчэ не скончыў святкаваць нараджэнне сына, таму няхай не крыўдзіцца за нядобрыя намёкі. А я ад свайго імя пану Агалінскаму ўжо ўсё выказала”.

І зусім крывы і няроўны запіс:

“Ой, выказала! Моцна і балюча! На каленях стаю і маёй жоначцы ножкі цалую!”.

Лёднік, чытаючы, то бялеў, то чырванеў, пад канец прамармытаў нешта кшталту: “Блазнюкі як ёсць...”. У словах пана Агалінскага быў намёк на даўнюю гісторыю, вакол якой накруціліся жарсці і трагедыі не менш чым у шэкспіраўскіх п’есах: малы Алесь насамрэч быў сынам Лёдніка і пані Галены Агалінскай, жонкі старэйшага брата пана Гервасія, што пан Гервасій доўга доктару не мог дараваць.

Лёднік аддаў ліст Пранцішу з нечытэльным выразам на абліччы, што трэба было разумець як прызнанне віны.

— Прабач, пан Пранціш. Я сапраўды вінаваты перад паннай Ганулькай. За паўгады шмат што магло з ёй здарыцца. Разумееш, Саламея пра яе лёс нічога не ведала – жонку трымалі асобна ад другіх манашак. Нам і ў галаву не прыходзіла, што твая Чароўная Дама можа так абысціся з вернай кампаньёнкай. Таму, як вырашыш справы з Юдыцкім, паеду з табою ў Гутаўскі кляштар. Слова даю.

Вырвіч сурова кіўнуў, хаваючы радасць: як ён засумаваў па прыгодах на пару з Лёднікам!

— Ну што, пайшлі вячэраць? А пасля пакажаш мне сваё фехтавальнае майстэрства... драгун, – звыкла з’едліва сказаў доктар.

— Думаеш, ты такі неперамножны, Бутрым? – не менш з’едліва адказаў Пранціш. – Змірыся – у баявых майстэрствах патрэбныя маладыя цягліцы! Маладая жарсць! Вайсковы досвед!

Лёднік нічога не адказаў, толькі бровамі скептычна варухнуў.

А потым Пранцішу давялося стукацца сваймі “маладымі цяглiцамі” аб сцены пакоя, дзе Лёднік зладзіў трэніровачную залу. Таму што доктар увесь час зухаватага драгуна да тых сценак змушаў прыціскацца. І нават – гэта было з боку прафесара чыстае хлапецтва, — прадэманстраваў скачок, які сапраўды можна ў балагане паказваць. Пранціш нават не ўцяміў, як гэта ў Бутрыма атрымалася – вось ён перад табой, а вось адштурхнуўся нагой ад сцяны – і прыстаўляе шаблю табе між лапатак.

— Ты мяне такому не вучыў! – абурыўся Пранціш. – Гэта чараўніцтва нейкае! Несумленна!

— Не чараўніцтва, — павучальна сказаў Лёднік, у душы, па ўсім відаць, страшэнна задаволены сабой, — а добрае веданне анатоміі і механікі цела. Ну і трэнінг, трэнінг, Вырвіч! Арганізм чалавека здатны на такое, што можа падацца магіяй, а гэта проста звычайныя, але забытыя веды.

Пранціш паспрабаваў таксама скочыць на сцяну, але ледзь не паваліўся, і выйшаў з такою злосны, як выкураная з вулею пчала.

Цікава, адкуль сам Лёднік здабыў тыя “забытыя веды”? Хіба рукапіс які старажытны адкапаў?

Лёдніка перастрэла пані Саламея, нейкая вінавата-збянтэжаная:

— Там жанчына прыйшла... Цяжарная... Просіць, каб яе паглядзела менавіта я.

Доктар нахмурыўся.

— Я ж табе казаў... Не прываджвай іх. І выкінь з галавы глупства пра ўласную практыку. Не хапала яшчэ, каб за цябе зноў узяліся, – паглядзеў на засмучоны твар Саламеі, якая, здавалася, ледзь змушала сябе не пярэчыць. –Добра, раз прыйшла кабета – паглядзі яе. Выконваючы хрысціянскі доўг. Але – ні слова лішняга! І каб нічога ў аплату табе не сунула!

Пані Лёднік апусціла вочы, у якіх згаслі, не паспеўшы бліснуць, гнеўныя маланкі, і пайшла.

Пранціш утаропіўся на доктара, які стамлёна ўсеўся ў фатэль ля каміну – сын адразу падбег да таткі і расставіў на парэнчах фатэлю сваіх жаўнерчыкаў.

— Ты што гэта, Бутрым, не толькі мяне на лейцах спрабуеш вадзіць? Дзе ж твае прагрэсіўныя ідэі наконт жаночай адукацыі?

Лёднік адкінуў чарнавалосую галаву на спінку фатэлю, пад заплюшчанымі вачыма былі цені стомы.

— Мая галоўная ідэя – зберагчы сваю сям’ю. Высакароднага пана Вырвіча, так ужо сталася, запісваю таксама ў катэгорыю сямейнікаў, калі ён не грэбуе. Саламеі заманулася стацца доктарам, – Лёднік пакрывіў вусны. — Паказвае як прыклад на нейкую шалберку Русецкую-Пільштынову, якая па свеце швэндае ды лечыць то жонак турэцкага султана, то расейскую царыцу, то Радзівілаў, ну і каханкаў па дарозе мяняе. Але хто ж такую ўсур’ёз прыме? Таксама мужа-лекара мела, ад яго і навучылася. А Саламея – жанчына сур’ёзная, самавітая. Яе баяцца стануць. У вядзьмарстве ўжо абвінавачвалі – забыўся, як мы ледзь яе адбілі? У мяне рэпутацыя таксама сумніўная, не абараню. Падай мне з паліцы тую таміну, у рудой вокладцы.

Пранціш здабыў Лёдніку вялізны фаліянт. Папера яго шаргатала, нібыта абуралася, што яе нарэшце патрывожылі.

— О, для прыкладу... Выпіскі з працэсу пінскага гродскага суда 1630 года, — торкнуў пальцам у старонку Лёднік, як у выкрытага шпега. — Жонка пінскага вознага Вячоркі Высоцкага Федзя звяла са свету жонку пінскага войскага і падстаростага Мікалая Ельскага.

Адкапала на могілках чалавечую костку, жалезныя цвікі ад труны і трохі пяску і загадала сваёй пляменніцы Сазонаўне, якая прыслужвала ў жонкі Ельскага, тры разы паскрэбці костку, змяшаць з пяском і ўсыпаць ва ўлюбёны ранішні напой пані, а менавіта цёплае піва з маслам. А костку з цвікамі і пяском пакласці, абысці тры разы супраць сонца са словамі: "Як тая косць мёртва, як тая косць анямела, так і пані маёй няхай то будзе". Самае цікавае, што праклён павінен быў здзейсніцца толькі на чацвёртым годзе. Жонка вознага памерла, і чарадзейства выявілася.

— Як? – зацікавіўся Пранціш.

— А ліха яго ведае, — меланхалічна прамовіў Лёднік, падняўшы вочы ад кнігі. – Каму што памсцілася… Але дзяўчыну Сазонаўну тут жа аддалі на катаванні, яна і прызналася. Ну і цётку ейную арыштавалі. Нават Галоўны трыбунал, куды пінскі возны звярнуўся, не дапамог. Так што механізм просты, – Лёднік глядзеў, як сын зацята перастаўляе мізэрных жаўнерыкаў з волава, змушаючы іх забіваць адно аднаго, у выніку нехта з небаракаў з грукатам падаў на падлогу. – Памірае любы з пацыентаў Саламеі… На ягоным целе, вопратцы ці ў доме таксама знаходзяць прыкметы чараўніцтва. Драпіну, латку, іржавы цвік, гнілы арэх… Вінаватая вядзьмарка! І – на катаванні яе… – Лёднік рэзка закрыў кнігу. Аж пыл ад жоўтых старонак пайшоў. — Помніш, як на млыне пазнаёміліся з дзяўчынай-зельніцай Саклетай, якую ўсё наваколле сабралася забіваць? Сверб, маўляў, на вёску наслала! А ў яе толькі і былі зёлкі ды кніга па фармацэўтыцы ад маці. Я – мужчына, доктар, маю ўніверсітэцкі дыплом, сябар навуковых таварыстваў, прафесар акадэміі… Я магу быць блюзнерам, а не ведзьмаком, але многія падазраюць мяне і ў першым, і ў другім. Так, Саламея хадзіла слухаць лекцыі ў полацкім калегіюме, але гэта толькі пацверджвае ейнае “вядзьмарства”.

— Слухай, ты мяне пераконваеш ці сябе, што маеш рацыю, калі забараняеш Саламеі лекаваць? – сярдзіта спытаўся Пранціш. Лёднік памаўчаў, апусціўшы вочы.

— І тое, і другое, пан Вырвіч…

Маленькі Алесь пачаў выкарыстоўваць для баявых дзеянняў сваёй алавяннай арміі вялізную кнігу, што ляжала на таткавых каленях, і суровы доктар намагаўся не варушыцца, каб цацачнае войска не пападала. І Пранціш падумаў, што Лёднік дорага заплаціў за бяспеку ўсіх сваіх бліжніх, кожнага з якіх мог страціць назаўсёды. Таму й трасецца, каб з імі зноў чаго не здарылася.

— Ведаеш, мяне таксама ў палку чарнакніжнікам лічаць, — горка пасмінуўшыся, прызнаўся Пранціш. – Не напіваюся, кніжкі чытаю...

— З вядомым чарадзеем Лёднікам таварышуеш, — сцвердзіў доктар. Алесь падняў зацікаўлены пагляд на бацьку:

— Пане-бацька, а ты чарадзей?

Лёднік пагладзіў хлопчыка па галаве.

— Я – вучоны. Толькі невукі вераць у чарадзейства, запомні, сын. Ты яшчэ пабачыш, як навука зменіць свет!

Уздыхнуў, як апошняга каня прадаўшы.

— Хаця ці зменіць яна яго да лепшага – гэта яшчэ вялікае пытанне.

Саламея вярнулася з вінавата апушчанымі вачыма, павяла сына спаць, паабяцаўшы яму, што ўсе забітыя жаўнерыкі назаўтра ажывуць і стануць яшчэ больш баявітымі.

Каб жа так было і ў жыцці...

Але ў жыцці ўсё няпроста. І Пранціш разумеў, чаму неўтаймоўная калісьці пані Саламея толькі ўпотай уздыхае і намагаецца не паказаць крыўды. Адчувае віну, што так і не змагла нарадзіць каханаму мужу дзіця. Пранціш падазраваў, што справа ў тым, што калісьці, падчас зняволення ў Слуцкім замку, пані моцна застудзілася – Геранім Радзівіл змушаў упартую палонніцу да пакоры ўсялякімі сродкамі. Што ж, шавец без ботаў, а дактары свае хваробы вылечыць не могуць.

А Вырвіч, толькі апынуўшыся сам у пакоі, змог даць волю гору... Якім абарочваецца шчасце тваёй каханай — з іншым. І трэба мець вялікае сэрца, каб пажадаць ёй і надалей таго шчасця.

Драгун Пранціш Вырвіч гербу Гіпацэнтаўр так і пастараўся зрабіць.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ. ДАРУЧЭННЕ СУДДЗІ ЮДЫЦКАГА

Старажытныя кёльты верылі, што калісьці ў Ірландыі над ручаём Тройцы раслі дзевяць кустоў ляшчыны з чароўнымі арэхамі цёмна-малінавага колеру: хто іх сарве ды з’есць, спазнае таямніцы сусвету. Разумнікаў, аднак, не знаходзілася, арэхі ціхенька сабе падалі ў ваду разам з таямніцамі, і там іх глыналі тлустыя лянівыя ласосі. Вось гэтыя рыбіны і зрабіліся наймудрэйшымі ў свеце, асабліва пасля таго, як чароўныя ляшчыны засохлі з-за цікаўнасці адной кабеты. А толку з мудрасці тых ласосяў? Што яны распавядуць? Хіба злавіць якога ды з’есці... Аднаму кёльтскаму герою, Фіну Мак

Кумхэйлу, удалося такую рыбу сасмажыць ды зрабіцца мудрацом. А так – суцэльнае расчараванне: ласосі паныла сноўгаюць у рэчцы, шукаючы арэхаў, людзі вылоўліваюць ласосяў, спадзеючыся напаткаць патрэбнага...

Пан суддзя Юдыцкі, напэўна, таксама спадзяваўся праз паяданне рыбы зрабіцца мудрацом. Таму што зацята калупаўся ў кавалку ласасіны, запечаным з цытрынай. Увогуле стол, за якім сядзела ўсяго два чалавекі, суддзя ды ягоны госць, быў устаўлены далікатэсамі аж надзіва: мядзвежыя лапы пад вішнёвай падліўкай, бабровыя хвасты з ікрой, ласіныя ноздры з мігдаламі, смажаныя вожыкі і яшчэ нешта, чаму Пранціш Вырвіч і назвы не ведаў. Проста магнацкі баль... Другая дзіўната была ў тым, што гаспадар амаль нічога з гэтага не з'ядаў – прынюхваўся вострым носам, прыцмокваючы тонкімі беднымі вуснамі, прагна паглядаў запалымі вачыма, клаў у рот мізэрныя кавалачкі... Жаваў, прыжмурыўшыся ад насалоды. А потым выплёўваў на спецыяльна падстаўлены лёкаем срэбны паднос. Драгуну Пранцішу Вырвічу, які аніяк не чакаў падобнага гасцявання, ад такога відовішча і насцярогі таксама кавалак у рот не лез. Суддзя, заўважыўшы неўразумелыя позіркі драгуна, патлумачыў:

— Ах, вашамосць пан Вырвіч, на жаль, жаданні чалавечыя пераўзыходзяць магчымасці чалавечага арганізма, адпушчаныя нам Госпадам і занепадаючыя за нашыя грахі. Быў час, калі я пагарджаў добрай шляхецкай ежай, і, выконваючы свой абавязак перад ягонай мосцю князем Радзівілам і Айчынай, паспяваў за дзень толькі ўкусіць сухой булкі... Колькі ж я ўпусціў простых радасцяў жыцця, ахвяруючыся дзеля вышэйшых ідэалаў! Certum est omnia licere pro patria! *(Належыць ахвяраваць усім дзеля радзімы – лац.)*

Пан Юдыцкі закаціў вочы ўгару, як касцёльная дэвотка, і пачапіў на двузубы відэлец чарговы далікатэс. Пранціш успомніў, як Юдыцкі шчыраваў "дзеля вышэйшых ідэалаў", калі хацеў употай прадаць "ведзьмака" Лёдніка князю Гераніму Радзівілу на пакуты.

— А потым надыйшоў час, — працягваў гаспадар, — калі нават самую простую і лёгкую ежу мой страўнік перастаў прымаць, і думаў я ўжо, што аддам у вогненнае мора залатыя ключыкі... Дай Бог здароўя шаноўнаму доктару пану Лёдніку, вашаму вучонаму сябру, — Юдыцкі злёгку пакланіўся Пранцішу. – Адратаваў мяне... Але ж прапісаў спецыяльную дыету! А як толькі мы чагосьці пазбаўляемся – тут і пачынаем прагна гэтага жадаць, грэшнікі... – скрушліва прамовіў суддзя і адправіў у рот кавалачак смажанага вожыка.—Таму й вырашыў я, не губячы здароўя дзеля чэраваўгодніцтва, усё-ткі

спазнаць высакароднае мастацтва шляхецкай ежы. А якія радасці яшчэ ў жыцці ў мяне, хворага, страціўшага Фартуну, засталіся, дарагі пан Вырвіч!

Юдыцкі мройна пажаваў кавалак і выплюнуў на паднос. Ага, калі не маніць наконт апошняй радасці – значыць, мужчынскую сілу Лёднік пану суддзі ўсё-ткі не вярнуў, зласліва падумалася Пранцішу. На здаровага чалавека суддзя не выглядаў: худы, зжаўцелы... Але не сказаць, каб кволы, а ўжо хітручы які! Нібыта сапраўды патрапіўся яму ласось, які з'еў чароўны арэх. Чаго гэтак абхаджвае маладога драгуна, як бы сам Радзівіл у дом завітаў, робячы выгляд, што забыўся на колішнюю варожасць? Пранціш больш за ўсё на свеце хацеў апынуцца падалей ад гэтага шыкоўна накрытага стала і запляванага пераважаным смакоццем срэбнага падносу.

— Ах, як шкада мне сённяшніх маладых людзей, адважных і кемных, якія не маюць яснай мэты і слаўнай кар'еры на полі бойкі! – амаль са шчырай скрухай завёў Юдыцкі. – Якіх магчымасцяў яны пазбавіліся, калі лепшыя сілы краіны апынуліся ў выгнанні!

Словы суправаджаў востры позірк, які правяраў паводзіны драгуна на гэтае прызнанне. Вырвіч надаў сваім блакітным вачам самы шчыры, наіўны выраз – як перад прафесарам на лекцыі, да якой не падрыхтаваўся. Суддзя вычыкаў трохі, але ж працягнуў, хаця й вельмі асцярожліва.

— Так, мала сёння, у наш сапсаваны час, людзей, якія заслугоўваюць даверу. Вось ягоная мосць пан Малішэўскі напісаў мне, што пан Вырвіч якраз рэдкае выключэнне. Нездарма я чуў, што пан Вырвіч збіраецца ў паломніцтва ў Гуту.

Вырвіча ажно скаланула. Эх, кругом шпегі... Гэта ж ён учора ў карчомцы, дзеля якой адклаў на дзень спатканне з Юдыцкім, сустрэў аднакурсніка родам з-пад Гуты, дый пачаў распытваць пра Гутаўскі кляштар, і ці ёсцека там прыгожыя мнішкі. Гаворка пасля пары-тройкі куфляў зрабілася куртуазнай і гучнай, перацякла ў другую карчомку, потым у трэцюю... Сябрук гучна абвяшчаў, што ягоны таварыш пан Пранціш Вырвіч – самы што ні на ёсць дабрадзейны і збіраецца ў паломніцтва... Карацей, Пранціш цьмяна памятаў падрабязнасці. Так што цяпер уся Вільня тэарэтычна магла ведаць, што драгун Пранціш Вырвіч збіраецца ў Гуту.

Юдыцкі паклаў відэлец, павольна перажагнаўся.

— Рэдка, рэдка сярод моладзі сустрэнеш такую ўхвальную пабожнасць.

Пранціш сціпла апусціў вочы, успомніўшы, як у карчомцы яны крычалі, што трэба ратаваць манашак, і якім чынам гэта належыць

рабіць. Ці шпегі данеслі Юдыцкаму ўсё недакладна, альбо сам суддзя хітрыў, але Вырвіч пастараўся надаць твару выраз патрэбнай ступені пабожнасці.

— Хачу з панам Вырвічам параіцца, — мякка сцяліў суддзя. — Ёсць у мяне далёкі сваяк... Хварэе, небарака, пасля перанесеных няшчасцяў, і не толькі цялесна, але і, так бы мовіць, разумова. Няшчасце адно блізкім назіраць за ягонымі пакутамі. Адзінае выйсце – цуд Божы... Таму і вырашылі мы адвезці яго напачатку ў Менск, да цудатворнага абраза Маці Божай, з'яўленага на беразе Свіслачы і пісанага апосталам Лукою. Вы ж, пан Вырвіч, праваслаўны, гэты абраз таксама шануеце?

Пранціш старанна заківаў галавою. З якога перапуду везці хворага на галаву з Вільні ў Менск, прамінаючы іншыя святыні? Для старца міля не круг? Юдыцкі задаволіўся маўклівай згодай слухача і працягваў:

— А тады і ў Гутаўскі кляштар, дзе зараз захоўваецца дзясніца святога Лукініяна. Таму як пачуў пра намеры васпана, палічыў гэта знакам Божым. З Божай дапамогай сваяка майго перастрэнуць і давязуць да рымскага прастолу, дзе, магчыма, пан і будзе ацэлены. Але карэту трэба суправадзіць. А дзе знайсці надзейнага чалавека, які гэта зробіць? Апекуны хворага гатовыя такому заплаціць дзвесце дукатаў.

Вырвічу ажно дух заняло. Менавіта за дзвесце дукатаў Лёднік калісьці і запрадаў сябе ў рабства – запазычыўшыся на рэдкія інгрэдыенты для здабывання філасофскага каменю. Пасля гэтыя грошы князь Багінскі ахвяраваў Лёдніку, каб той выкупіў сябе на волю і ў падзяку палез разам з Саламеяй у полацкія сутарэнні, здабываць рэліквію для будучага караля. Якім, вядома, павінен быў стаць Міхал Багінскі. За дзвесце дукатаў многа можна купіць! Гэта два гадавыя заробкі падхаружага Вырвіча!

— Думаецца, які –небудзь малады драгун мог бы і ўзяцца, – задумліва прамовіў Пранціш. – Плата някепская... Толькі...

Юдыцкі, які звык argenteis hastis pugnare, змагацца срэбнымі дзідамі, па-свойму растлумачыў ваганні маладога госця і дадаў:

— Прабачце, ваша мосць, маю някемнасць... Вядома, мне трэба было адразу назваць плату ў трыста дукатаў!

Вырвіч няпэўна хмыкнуў, спрабуючы схаваць узрушэнне. І мімаволі прыпомніў папярэджанне Лёдніка, што самы смачны кавалачак сала гаспадар кладзе ў пастку. Успамін пра доктара тут жа матэрыялізаваўся, бо Юдыцкі зноў лісліва ўсміхнуўся бледнымі

адтапыранымі вуснамі, словы яго ліліся, як мёд на заручынах непрыгожай старой дзеўкі:

— Ваш камандзір ацэніць, калі выканаеце гэтую справу, дарагі пан Вырвіч, магчыма, і наконт вашага павышэння па службе справа зрушыцца. Але вось незадача... Для суправаджэння хворага патрэбны не толькі вой, але і доктар. І самы таленавіты. Вось бы такі майстар, як ваш сябар, прафесар Лёднік! Для яго была б і цікавая практыка, і ганарар шчодры! Але, выбачайце, я разумею, што гэта немагчыма, прафесар заняты, да таго ж, не дужа прыслухоўваецца да маладзейшых... – Юдыцкі перабольшана сумна ўздыхнуў. – Наўрад пан Вырвіч мае на яго цяпер нейкі ўплыў. Не думаю, што доктар – а ён цяпер такая важная персона — згадзіўся б паехаць з панам Вырвічам, простым драгунам, у Гуту.

Вырвіч раздражнёна прыкусіў губу. Юдыцкі што, лічыць, быццам сын полацкага гарбара цяпер настолькі ўзняўся над нашчадкам Палямона?

— Вось яна, сваволя Фартуны... – пацягваў Юдыцкі, робячы выгляд, што не заўважае перайманняў госця. — Учорашні слуга сёння камандуе сваім панам... Хаця, між намі кажучы, — голас Юдыцкага зрабіўся агідна-змоўніцкім, — зараз шаноўнаму прафесару лепей за ўсё таксама на час з’ехаць з Вільні. Пасля ягонага вельмі смелага дакладу.

Нельга сказаць, каб Пранціш зусім не западозрыў падвойнага дна. Больш за тое – Пранціш быў упэўнены, што гэтае дно існуе, і вельмі гразкае. Але зарабіць за які тыдзень-два трыста з верхам дукатаў! А галоўнае, Вырвіча вельмі пакрыўдзіў намёк суддзі, што Лёднік ім камандуе, пагарджае меркаваннем былога гаспадара. І праўда, чаму пан Пранціш Вырвіч даў над сабою столькі ўлады нейкаму прасталюдцу, якога некалькі год таму меў права сцябаць бізуном з ранку да вечара! Цёмнае, балючае адчуванне несправядлівасці, якое сапсаваны французскай філасофіяй драгун апошнія гады душыў у сабе, выплюхнулася вонкі... Ён – шляхціц! Калісьці, у родным Падняводдзі, пан Даніла Вырвіч прымушаў вясковых хлапчукоў цалаваць у ручку малога Прантасія Вырвіча кожны раз, як той зробіць ласку пагуляцца з імі ў чыжа. Хаця паніч бегаў такі ж босы, як і яны. Фартуна можа адвярнуцца ад шляхціца, але кроў ягоная застаецца такой жа высакароднай, і ён мае магчымасць стаць і вялікім гетманам, і нават каралём.

— Прабачце, ваша мосць пан Вырвіч, што закрануў непрыемную тэму наконт слугаў, якія робяцца панамі. Забудзьцеся, што я казаў пра доктара, нават не гаварыце з ім пра гэта. Ён вас усё

роўна не паслухаецца, а вам, нашчадку Палямона, арыстакрату, залішняе прыніжэнне...

Хітрыя словы Юдыцкага Пранціш ледзь чуў – так ад гневу шумела ў вушах кроў...

— Вашамосць памыляецца! Калі я скажу, Баўтрамей Лёднік адразу ж паедзе са мной у Гуту! Слова шляхціца! — выгукнуў раззлаваны Вырвіч з усёй шчырасцю, бо Лёднік даў жа яму слова, што паедзе выручаць паненку Ганну.

Суддзя ўсім выглядам паказаў асцярожны недавер.

— Не магу сумнявацца ў словах вашай мосці... Але, паўтару, доктар чалавек важны, заняты...

— А я кажу, што ён са мной паедзе!

Юдыцкі паважліва пакланіўся.

— Ваша мосць народжаны для вялікіх справаў. У такім разе вы не адмовіцеся прыняць грошы наперад? Магчыма, і за доктара таксама? А па выкананні высакароднай справы вас будуць чакаць і іншыя ўзнагароды...

Суддзя падаў камусьці знак і зноў засяродзіўся на пачастунку.

Гнеў схлынуў з драгуна, як халодная вада. І ў душы заварушыўся агідны вусень раскайвання – а так бывала амаль заўсёды пасля такіх вось гнеўных прыпадкаў, ад якіх Лёднік Пранціша ўвесь час засцерагаў. Цяпер Вырвіч адгадваў у дробных рысах твару суддзі зласлівую радасць. Што ён нарабіў! Не, драгун — не муха, якая даверліва ляціць на саладуху з мухаморамі, пастаўленую рупным гаспадаром у сподачку на падваконні.

— Вельмішаноўны пан суддзя так і не назваў імя хворага... – нагадаў Пранціш. Юдыцкі выплюнуў на срэбны паднос яшчэ адзін перажаваны кавалачак. Лёкай адыйшоўся, з цікаўнасцю паглядаючы на чарговую дзівосную страву, да якой пацягнуўся відэлец пана. Ясная рэч, усё, што на стале застанецца – а застанецца шмат — даядаць будзе прыслуга.

— Гэта адна з умоў нашага кантракту, дарагі пан Вырвіч, — у голасе суддзі трошкі дадалося металу. – Ніякіх імёнаў, ніякіх роспытаў. Не варта назаляць цікавасцю і без таго абяздоленай персоне, і не варта распаўсюджваць звесткі, што ў паважанай сям'і ёсць такі... прэцэдэнт.

Між тым іншы слуга прынёс і паклаў на стол два цяжкія мяшэчкі, у якіх спакусна бразнулі манеты. Вырвіча раздзірала на часткі, як гаспадара прабітага пасярэдзіне ракі чоўна, які і мех з золатам кінуць не хоча, і разумее, што з гэтай ношкай да берага не даплыве. Не, мусіць, трэба ўсё ж з доктарам параіцца...

— Няхай вашамосць дасць мне час абдумаць гэтую пачэсную прапанову.

Юдыцкі не пакрыўдзіўся і не засмуціўся.

— Мы не развітваемся, пан Вырвіч. Вашу долю вазьміце, а доктараву забярэце пасля. Шчырыя прывітанні ад мяне пану Лёдніку! Перадайце, што я строга выконваю ягоныя рэкамендацыі, чаму вы былі сведкам.

Толькі на вуліцы Вырвіч зразумеў, як увесь гэты час яго не пакідала напруга. Так што зараз нібыта ўпалі нябачныя ланцугі. Але што за хітраван гэты суддзя—угаварыў Пранціша на сваё даручэнне, хаця той ад пачатку ні дробачкі даверу не меў.

Трыста талераў... Пранціш узважыў у руцэ цяжкі мяшэчак. Прыкупіць зямлі ў радавым Падняводдзі, якое калісь усё належала продкам... Вярнуць славу роду... Арабскага жарэбчыка набыць, як у пана палкоўніка... Маністы для адной гожанькай кабеты з вуліцы Шкельнай... Толькі курыца ад сябе грабе. Вось толькі што Лёднік скажа? Слова сваё назад не забярэ, але...

Па дарозе Пранціш зноў завітаў у знаёмую карчомку, дзе падавалі піва, моцнае, як шляхецкае слова, і з куфлямі бегала гожанькая шынкароўна Рыўка, з вуснаў якой у цёмным закутку драгун сарваў не адзін салодкі пацалунак. Шынкароўна госцю ўзрадвалася, піва было на славу...

“Па вуліцы, ля студніцы мне з табою не хадзіці,

Чарнявае, бялявае за ручаньку не вадзіці!”, — выводзіў нястройны хор п’яных галасоў, і жыццё на некалькі тумaністых хвіляў набыло сэнс.

Так што калі Вырвіч вярнуўся ў дом з зялёнымі аканіцамі, мяшэчак з манетамі быў трохі лягчэйшы, а вусны самі сабой напявалі песеньку пра сівога каня, які ўсё бяжыць-бяжыць, пакуль дзяўчыначка да шлюбу не з тым малойцам ідзе...

А ў доме быў госць.

Вырвіч нават рот па-дзіцячы раззявіў, утаропіўшыся ў прыхадня, як гусь на бліскавіцу. Маленькі шчуплы старэча з жоўтым зморшчаным тварам, з вузкімі, як прарэзанымі нажом, вачыма быў апрануты ў сіні халат і смешную шапачку з пампонам, бародка і вусы рэдкія, так, некалькі сівых валасінак. Але, калі ўгледзецца, ад усяго аблічча сыходзіў ціхі спакой, на дне якога драмала нешта небяспечнае, як у сухім калодзежы кубло гадзюкаў. Кітаец, ці што? Адкуль Лёднік яго выпараў?

Не тое, каб Пранціш ніколі раней не бачыў людзей з далёкіх краінаў – пры магнацкіх дварах былі і мурыны, і эскімосы, і індыяны.

Падумаеш! Кожны князь альбо манарх імкнуўся пазбіраць у палац яшчэ і розных пачвараў, — не робячы розніцы паміж карлікамі, гарбунамі і двухгаловымі цялятамі. Многія свята верылі ў існаванне цыклопаў, латафагаў ды іншых неверагодных народаў. Як пісаў мніх з Корбі Ратрамн прасвітэру Рымберту ў пасланні пра кінакефалаў, "Падобна таму, як у кожным народзе сустракаюцца людзі, якія, здаецца, нарадзіліся на свет насуперак законам натуры, напрыклад, двухгаловыя, трохрукія, карлікі, гермафрадыты ці андрагіны і шматлікія іншыя, якія жывуць насамрэч не насуперак законам прыроды, але выконваюць сваю прызначэнне, бо законы прыроды ўсталяваныя Госпадам, гэтак жа сярод рода чалавечага натуральным чынам існуюць тыя, якія лічацца звыродлівымі стварэннямі, — напрыклад, пігмеі, антыкаўды, — у адных памер цела дасягае локця, у другіх ступакі вывернутыя назад, а на нагах па восем пальцаў. Гіподы – людзі, што спалучаюць чалавечае аблічча з конскімі нагамі. Макробіі, якія амаль удвая вышэй за людзей, а ў Індыі ёсць племя жанчын, якія зацяжарваюць у пяць гадоў і жывуць не долей васьмі, а таксама шмат іншых, у існаванне якіх з цяжкасцю верыцца".

Чым жа можа здзівіць дзядок-кітаец?

Але вось так пабачыць яго ў хаце Лёдніка, да таго ж, падобна, ён тут госць звыклы... Ды і займаліся госць і гаспадар, якія сядзелі па розныя бакі доўгага абедзенага стала, нечым дзіўным. Паміж імі – на адлегласці сажня ад абодвух — стаяла свечка, яе агеньчык свяціўся спалоханым памаранчава-блакітным вокам. Лёднік і кітаец узіраліся ў гэтае вока, нібыта ў марскую далеч, не зважаючы на зухаватага драгуна, які застыў у дзвярах. Раптам Лёднік маланкавым рухам выкінуў у бок свечкі сціснуты кулак — нават агеньчык трохі здрыгануўся. Што за фокусы? Твар прафесара зрабіўся кіслы, як бы агрэст разжаваў.

— Вы недастаткова канцэнтруеце сваю энергію, пан доктар, — смешна перакрыўляючы словы, прамовіў тонкім галаском дзядок. – Мы з вамі пра гэта ўжо гаварылі... Я нават не адчуў вашай сілы – хаця яна ў вас ёсць.

Кітаец таксама выкінуў наперад і прыбраў кулак – прычым рух ягоны быў яшчэ больш імклівы, чым у Лёдніка, хоць уявіць такое цяжка, і здарылася дзіўнае: агеньчык свечкі зараз жа згас, як бы хтось прыціснуў кнот. Доктар пры гэтым відовішчы ўпарта нахмурыўся, ноздры ягонага дзюбападобнага носу пагрозна раздзімаліся, рука паднялася...

За вокнамі пачуўся звонкі крык:

— А ну, давай! Наперад! Давай, Піфагор! Што ж ты!

Паніч Алесь Лёднік муштраваў на двары дабрэннага сабаку. Піфагор радасна гаўкнуў – падобна, не разумеючы карысці баявой навукі. А ў пакоі з партрэтам Арыстоцеля прафесар Віленскай акадэміі зноў паспрабаваў забіць свечку, хаця яна яму дакладна нічога кепскага не зрабіла.

— Пайшлі, не перашкаджай ім...—прашаптала за спінай Пранціша Саламея. – Яны яшчэ з гадзіну будуць мэнчыцца.

У другім пакоі, дзе на каміне стаяў сіні галандскі гадзіннік-ваза і вісеў партрэт сэра Ньютана, Пранціш нарэшце змог задаволіць цікаўнасць.

— Кітайца завуць Чунь Лі, кухарам працуе ў графа Разанцава, — патлумачыла пані Лёднік. – Той яго ажно з Сібіры прывёз. Модна зараз мець па некалькі кухараў-іншаземцаў. А гэты так прыгатуе, што не зразумееш ні па выглядзе, ні па смаку, што ясі – рыбу, мяса, гародніну ці ўвогуле якуюсь жамяру. Час ад часу прысылае нам ад графскага стала пакаштаваць сваіх вырабаў. Праўда...— Саламея замялася, — неяк яно не надта нам смакуе, не кажы толькі нікому. Дзядок няпросты, і медыцынай займаецца, і ўсялякімі баявымі штукарствамі. Бутрым неяк падгледзеў, як ён забіў добрага такога бычка, адкормленага дзеля панскай кухні... Няўзброенай рукой. З аднаго ўдару. А ты ж ведаеш, наш Фаўст ніколі не адмовіцца ад новых ведаў. Ну і паразумеліся... Бутрым яшчэ і кітайскую мову засвойвае.

— А што гэта яны са свечкай робяць? – зацікавіўся Пранціш.

— Спадар Лі вучыць Бутрыма сакрэтнаму ўдару на адлегласці, — стрымана адказала Саламея, якой, падобна, гэтая навука зусім не падавалася добрай.

— Гэта як? – не зразумеў Пранціш. Пані Лёднік паморшчылася.

— Калі ты не дакранаешся да цела ворага, але пашкоджваеш ягоныя тканкі так званай “вызваленай энергіяй”. Спадар Лі сцвярджае, што найперш закранаюцца ўнутраныя органы, і ўсе наступствы такога ўдару праяўляюцца паступова.

На прыгожым твары жанчыны была грэблівасць. Але Пранціш уявіў, як можна выкарыстаць такое ўмельства... Прыдатна!

— Учора Бутрым паўночы сядзеў і спрабаваў гэтак вось загасіць свечку на адлегласці, — змрочна прамовіла Саламея. – Каб яму хто паказаў, як ілбом мур разбіваць – страшна ўявіць, чым скончылася б. Вясной спадар Лі прапанаваў яму сабраць раструшчаны збан проста ў мяху, праз тканіну. Казаў – добрая трэніроўка для доктара, які складае паламаныя суставы і косткі.

— А сам кітаец сабраў? – здзівіўся Вырвіч.

— Сабраў, – адказала Саламея.

— А Бутрым?

— Два тыдні змагаўся, – пані Лёднік раздражнёна ўздыхнула. – Злосны быў – не падыходзь. Нібыта мала яму непрыемнасцяў у Акадэміі. Ну, ды Бог з імі, пайшлі на варыўню, павячэраеш. Чамусьці мне здаецца, што ў суддзі Юдыцкага пан падхаружы не асабліва наеўся.

Цяпер Пранціш ведаў, адкуль ягоны былы слуга навучыўся скакаць па сценах. Пэўна ж, кітаец досведам падзяліўся.

Бліны пані Саламеі сапраўды смачныя, ды яшчэ са смятанкай. Добра, што не пост, да таго ж Пранцішу не трэба было пільнавацца дыеты, як суддзі Юдыцкаму. Так што паспеў прыгаварыць бліноў пяць, пакуль кітаец не сышоў, і на варыўні не з'явіўся змрочны Лёднік. Відаць, удар на адлегласці так пану і не ўдаўся.

Доктар моўчкі выслухаў красамоўны расповед пра спакусную прапанову суддзі.

— Усё роўна нам жа трэба ў Гутаўскі кляштар!

— Нешта я не надта веру ў такія шчаслівыя супадзенні... – прабуркатаў Лёднік. — Спадзяюся, ты нічога не паабяцаў пану – ні ад свайго імя, ні ад майго?

Пранціш трохі замяўся... Але з самым сумленным выглядам падазрэнні доктара адпрэчыў. А загашальнік свечак сядзеў сумны, унураны, твар завешаны чорнымі патламі. Спытаў стамлёна:

— І чаму радзівілаўскім кляўрэтам патрэбныя менавіта твае ды мае паслугі, а, Вырвіч? За такія грошы маглі б наняць хоць Германа Ватмана, прафесійнага забойцу самага высокага рангу. Што ў нас ёсць такога, што адрозніваe ад звычайных наймітаў?

Замест драгуна мужу адказала пані Саламея, вельмі ўстрывожаная расповедам:

— Ды проста вы не належыце да кола праціўнікаў караля! Вы праваслаўныя, сябруеце з расейцамі, у пана Вырвіча нават клопаты з-за гэтага ў войску, а ў цябе – у Акадэміі. Вас нельга западозрыць у закалоце супраць Панятоўскага і Расіі! Значыць, хочуць выкарыстаць вас для маскіроўкі нечага сумніўнага.

Доктар уздыхнуў.

— Вось і я так думаю. І як жа мне гэта абрыдла... Быць інструментам у чужых руках. Усё, ніякіх авантур! Ніякіх спакусных прапановаў! У Гутаўскі кляштар з'ездзім самі.

Вырвіч пастараўся не паказаць расчаравання. Падобна, полацкага Фаўста не адразу ўдасца ўгаварыць. А патрабаваць, каб выканаў дадзенае слова, пакуль не хацелася – Пранцішу ўсё яшчэ

было трохі сорамна за нядаўнія нядобрыя пачуцці да доктара, які любіў яго, як родны бацька.

У пакой забег малы Алесік, быццам уварваўся ветрык:

— Пан бацька, пані маці! Спадар Лі прыслаў яшчэ адну страву!

За малым гаспадаром сунуўся Хвелька, старанна несучы на выцягнутых руках цяжкі гліняны гаршчок, накрыты бялюткім ільняным рушніком. Ад гаршчка распаўсюджваўся незразумелы, рэзкі водар. Але на таўсманным твары слугі чамусьці не адлюстроўвалася зацікаўленасць у змесціве пасудзіны, хаця Хвелька не ўпускаў ніводнага выпадку перахапіць смачненькі кавалак. Гаршчок быў урачыста пастаўлены на стол, зняты рушнік і накрыўка... Сямейства насцярожана схілілася над падарункам, вывучаючы кітайскае смакоцце. На нейкі час запанавала маўчанне.

— Спадар Лі не сказаў, як гэта называецца? – папытаўся доктар. Алесік, які ўскараскаўся на зэдлік, каб зазірнуць у гаршчок, заківаў галавой:

— Гаварыў! Фан... фін... цзя... ця...

— Ясна... – уздыхнуў доктар. – Ну, хто пакаштуе?

Хвелька сціпла адыйшоўся ўбок.

— У мяне пячонка хворая, пан доктар ведае!

— А з чаго гэта зроблена, Бутрым? – папытаўся Пранціш, разглядаючы бела-чырвона-зялёную куламесу.

Лёднік уцягнуў доўгім носам вохкую пару:

— A prima facie (*1. На першы погляд. лац.*) , кураціна тут дакладна ёсць. Лі неяк распавядаў пра нацыянальную страву “Цмок, тыгр і фенікс” , якая рыхтуецца з курыцы, коткі і змяі...

Хвелька гучна зглынуў, нібыта яго заванітавала. Пранціш скрывіўся.

— Ты што, думаеш, твой кітаец корміць графа Разанцава варанымі коткамі і змеямі?

— Ну, не так радыкальна, — меланхалічна прагаварыў Лёднік, пацягнуўся за доўгай лыжкай, памяшаў ёю ў гаршчку, ад чаго і Пранціш адчуў, як нешта падступіла пад горла. За лыжку чапляліся доўгія белыя локшыны, падобныя да чарвякоў, што плавалі ў чырвонай падліўцы. А самае застрашлівае – боўталася чыёсьці вока. Круглае, з вішню, з чорным зрэнкам, яно быццам пазірала з гаршка, ад гэтага не было зразумелым, хто каго збіраецца з’есці. Адразу ўспомніўся суддзя Юдыцкі, які выплёўваў пажаваныя кавалкі на паднос.

— У кітайскай кухні спалучаюцца неспалучальныя элементы, — адкашляўшыся і тыцнуўшы лыжкай у варанае вока, пачаў лекцыю прафесар. — Напрыклад, у страве “Буда пералятае праз сцяну” у

адным гаршку знаходзяцца плаўнік акулы, кальмар, качаціна, кураціна, свіная нага, бараніна, парасткі бамбука, грыбы і яшчэ немаведама што. Паводле легенды, адзін падарожны гэткім чынам схаваў у гаршку ўсе свае прыпасы, і атрымалася такая смачная страва, што на яе пах з бліжэйшага кляштара палезлі праз сцяну манахі, апраўдваючыся, што гэтак зрабіў бы і сам Буда.

— Я не хачу гэта... з вачыма... есці! – рашуча заявіў Алесік. –Я бліноў хачу!

— Колькі галодных людзей былі б шчаслівыя мець такі пачастунак на стале! – строга сказаў Лёднік, які сам, аднак, не спяшаўся несці лыжку ў рот. – І спадар Лі пакрыўдзіцца... Кулінарыя – таксама від мастацтва!

— Усё, заканчвайце дзівіцца! – рашуча заявіла Саламея. – Спадар Лі – жартаўнік, ён спецыяльна прысылае такія... спецыфічныя стравы. Помніш, Бутрым, як ты мінулы раз соду глытаў пасля ягоных прыправаў? Маіх бліноў хопіць на ўсіх.

Палачанка ўзяла рушнікам са стала цёплы гаршчок і паставіла на падлогу.

— Піфагор, любіш кітайскую кухню?

Руды сабака падсунуўся да гаршчка, прынюхаўся, падціснуў хвост, пакрыўджана гаўкнуў і выбег з пакою. Пранціш не стрымаў смеху.

— Гэтую страву трэба назваць не “Буда пералазіць праз сцяну”, а “Піфагор уцякае на двор”.

Куды ўрэшце адправіліся кітайскія далікатэсы, Вырвіч не высвятляў.

Гасіў уночы прафесар свечку кулаком на адлегласці ці не, невядома, але наўрад. Таму што, калі ў горадзе зніклі агні самым звычайным спосабам, у дом з зялёнымі аканіцамі прыбеглі ад чарговага пацыента, якому стала кепска, і Лёднік, сабраўшы доктарскую валізку і прачытаўшы кароткую малітву святому Панцеляймону-ацаляльніку, адправіўся ратаваць яшчэ адно чалавечае жыццё, і, пэўне ж, начхаць няшчаснаму хвораму было на ўсе гумаральныя і магнетычныя тэорыі, на вучоныя дыспуты і на блюзнерствы ягонага лекара.

Але калі драгун Вырвіч прадраў нараніцу свае блакітныя сумленныя вочы, гаспадар з дому ўжо сышоў. Пані Саламея патлумачыла – выклікалі ў дэканат. Трохі трывожна, вядома, але ж вось-вось пачатак навучальнага году, у прафесуры справаў шмат. Вырвіч хадзіў па доме, пазяхаючы, і падумваў, ці не падацца ў карчомку...

І тут вярнуўся гаспадар. Прайшоў хуткім крокам праз вітальню, здымаючы на хаду капялюш і перавязь з шабляй.

— Вырвіч, у кабінет!

Да бабкі не хадзі – здарылася нешта паганае.

Прафесар глядзеў на свайго былога ўладальніка, як бацька кінутай нявесты на здрадлівага жаніха.

— Калі я прысягаў вашай мосці, што паеду з вамі ў Гутаўскі кляштар, я не думаў, што патрапляю ў такую пастку. За трыста дукатаў мяне Юдыцкаму запрадаў? Мая цана ўзрасла за апошнія гады?

Вырвіч разгубіўся. Ён жа долю доктара не ўзяў… За ім пакінуў права вырашаць. У чым драгун горача і паспрабаваў пераканаць Лёдніка. Прафесар махнуў рукой.

— Ну, усё роўна позна на малако дзьмуць, калі кіпнем апёкся... Мне даюць адпачынак на месяц. Каб я мог выканаць богаўгодны ўчынак, суправадзіць хворага ў паломніцтва, за што мне абяцана, аказваецца, трыста дукатаў. Калі я не еду — маю кафедру закрываюць. Зусім. Яшчэ і студэнтаў, з якімі я індывідуальна займаўся – каторыя з бедных – вытураць з Акадэміі.

Пранціш унурыўся. Падобна, што ў хітрамудрай навуцы дыпламатыі ён яшчэ навіцыянт, і заслугоўвае не дукатаў, а галавы казла, якую цар Іван Жахлівы паслаў старасце Аршанскаму Філону Кміце-Чарнабыльскаму за правал “выбарчай кампаніі”, што мусіла ўзвесці маскоўскага ўладара на трон Рэчы Паспалітай.

— Ясна, Юдыцкі да езуітаў звярнуўся...

— Не Юдыцкі, а тыя, чыю волю выконвае суддзя, — строга сказаў Лёднік. – І цяпер у мяне выбар – альбо ўсё кінуць, забіраць сям’ю і з’язджаць – але тут могуць пацярпець бязвінныя людзі, альбо... ехаць з табою суправаджаць хворага пана да святых мясцінаў.

— Як жа, хворага...—скептычна прабурчэў Вырвіч, хаваючы няёмкасць. – Будзе такі ж маскарад, што калісьці ўчыніла нам панна Багінская. Памятаеш, пераапранулася ў мужчынскі касцюм і ўвязалася за кампаніяй?

Лёднік, аднак, нават не ўсміхнуўся.

— Не забывай, што я – спрактыкаваны лекар. І калі патрабуюцца мае паслугі, значыць, ёсць што лячыць – думаеш, я не адрозню таго, хто прыкідваецца, ад сапраўды хворага? Рэктар прасіў, каб я ўзяў у дарогу як мага больш лекаў, асабліва ад запаленчых працэсаў.

Пранціш зразумеў, што Лёднік у душы пагадзіўся з тым, што давядзецца адпраўляцца ў падарожжа. І – насуперак усяму – у душы драгуна, як бурбалкі ў шампанскім, узвіхурыла радаснае прадчуванне новых прыгодаў.

І ўжо зусім не здзівіла, калі тым жа вечарам падхаружаму Вырвічу прынеслі ліст ад паручніка Малішэўскага з дазволам працягнуць адпачынак, каб суправаджаць хворага шляхціца Якуба Шрэдэра.

Дык, можа, і няма нічога падступнага ў гэтым даручэнні? Можа, дарэмна прафесар пераймаецца і Пранціша палохае?

Пані Саламея так і разважала, праз два тыдні рыхтуючы мужчын у дарогу, жартавала, напявала... Але Пранціш бачыў у яе сініх вачах тугу і спалох.

Вырвіч не паленаваўся схадзіць да банкіра Мамоніча, спраўдзіць, што належыць перадаць Ганульцы. Куфэрачак з каштоўнасцямі, упрыгожаны срэбнымі налепкамі з выявай герба Агінец, Пранціш перабіраць не стаў, але здагадваўся, што пасаг у цемнавокай сціплай паненкі Макавецкай цяпер немалы.

Куфлі ў апошні вечар перад выправай у дарогу прыгожанькая Рыўка налівала Пранцішу Вырвічу з верхам, а ўсміхалася з абяцаннем... Зоры над Вільняй былі буйнымі, як залатыя яблыкі, здавалася, іх можна стрэсці з нябёснага дрэва, варта толькі знайсці, дзе звісаюць ягоныя галінкі, каб ухапіцца... І няхай дзесьці за акіянам пані Паланэя гушкае рудавалосага сынка, знойдзецца вялікае каханне для пана Вырвіча і на Беларусі...

Хто бярэцца з намі піці,
Той нясумна будзе жыці.
У забавах гора гіне,
Зноў лье піва гаспадыня.
Захлябнецца гора півам,
Грукнуць келіхі шчасліва.
Будзем піці, жартаваці,
Будзем славіць Вакха, браце.
Першы тост звычайна п’ецца
За ўсіх тых, хто тут збярэцца.
П’ем, другі, каб волю меці,
За жыццё падымем трэці.
Чацьвёрты за Царкву Хрыстову,
Пяты за моц князёву.
Шосты за людзей вольных,
А потым п’е хто здольны.

А раніца нагадвала стол, накрыты па старажытным звычаі, калі мяса абавязкова падавалася пад чатырма падліўкамі: жоўтай, з шафранам – гэтак выглядаў таненькі пасак аблокаў, пазалочаны сонцам; чырвонай, з вішнямі – бо вышэй неба чырванела; чорнай, з працёртымі слівамі – цямнелі абрысы вострашпілевых віленскіх

будынкаў на фоне золку; і шэрай, з варанай цыбулі. Шэрага было больш за ўсё, бо халодны туман адступаў неахвотна, быццам начны драпежнік, які не паспеў загнаць кіпцюры ў здабычу, пакуль не развіднела, і цяпер змушаны сыходзіць у логвішча галодным.

Маўклівы Лёднік, захутаны ў чорны дарожны плашч, ад чаго страшэнна прыпадабняўся змерзламу крумкачу, пахмура пазіраў на брукаванку, аб якую нетаропка пацоквалі капыты ягонага каня, гэткага ж пахмурага. На брукаванцы не валялася нічога цікавага, акрамя разбітых надзеяў. Змястоўная карэта са шчыльна заторгнутымі чорнымі фіранкамі, якую належала суправаджаць да Гуты, была вельмі звычайнай. Без гербаў, без асаблівых аздобаў. Колькі такіх трасецца на дарогах краю, везучы падарожных па слядах няўлоўнай Фартуны! Але Пранцішу Вырвічу гэтая карэта чамусьці нагадвала пахавальную. Можа, таму, што ў ёй было ціха, як у труне, і яна гэтак жа захоўвала страшную таямніцу. А што, калі і праўда там нябожчык? Той пан Якуб Шрэдэр ні разу не высунуўся, голасу не падаў. Толькі ягоны суправаджаючы, ён жа – галоўны ў іхнім падарожжы, які прадставіўся панам Зыгмунтам Гросам, паказаўся быў з вакна карэты, каб прывітаць Баўтрамея і Пранціша, але Вырвіч у прыцемку толкам яго і не разгледзеў. Фурман маўклівы, як брукаванка, ды й моцны, як камень: вунь якія плечы, і два пісталеты за поясам…

Але калі ад’ехаліся вёрст за дзесяць ад места, і не было на дарозе нікога, акрамя ценяў ад аблокаў, а яліны падбягалі так блізка, быццам гуляліся з вершнікамі ў салкі, фурман прытрымаў коней. Пранціш ад нечаканасці ледзь не ўзняў свайго каня на дыбкі, моцна тузануўшы за аброць. Вакенца карэты расчынілася, высунуўся пан Зыгмунд. Цяпер Пранціш мог добра яго разгледзець: гадоў сарака, гладка паголены, запалыя шэрыя вочы, прыплюснуты нос… Пляскаты невыразны твар чалавека, з якім, аднак, не хочацца сварыцца, бо, не змяніўшыся ні рысачкай, суне табе нож пад рэбры.

— Пан Лёднік, патрабуецца вашая дапамога.

Голас у пана Гроса быў таксама невыразны, халодна-абыякавы. Так гавораць людзі, якія не сумняюцца, што іх паслухаюцца.

Пранціш хадзіў па бляклай траве на ўзбочыне туды-сюды і з усіх сілаў намагаўся не выявіць сваёй цікаўнасці да таго, што адбываецца ў карэце, у якой доктар аглядаў таямнічага Якуба Шрэдэра. Драгун падбіваў наском чырвонага бота каменьчыкі, насвістваў маршы… Дужа не хацелася паказваць нават найменшую слабасць перад шэравокім панам Зыгмунтам. Той стаяў каля адчыненых дзверцаў карэты, як бы на варце. Высокі, як Лёднік,

таксама хударлявы, але калі доктар быў жылісты і імклівы, гэты здаваўся высечаным з каменю. На фізіяноміі дробныя шнары, рукі не спешчаныя, пісталеты і шабля дарагія, надзейныя – падобна, вайсковая справа пану не ў навіну. Нечым падобны да знаёмага найміта-забойцы Германа Ватмана. Але не вайсковец, як той, не. Стаіць нерухома, а пальцы павольна перабіраюць ружанец. Вочы нагадваюць два алавяныя гузікі, вусны не варушацца, але няма сумніву – моліцца. Мніх? Але чаму тады ў парыку, капелюшы, дарагім чорным камзоле са срэбнымі галунамі?

— Вырвіч, падыдзі! – гукнуў з карэты Лёднік.

Драгун шуснуў у карэту.

Пан Якуб Шрэдэр аказаўся немаладым і шчуплым. Кароткія сівыя валасы, маршчыністы круглы твар, сціплая белая кашуля без карункаў, чорны камзол... Сядзенне карэты расклалі, каб хвораму было выгодна. А што пан Шрэдэр хворы – Пранцішу стала ясна з першага погляду. Хаця цёмныя вочы з пажаўцелага твару пагглядалі так пранікліва і разумна, што ў душэўную хваробу не верылася. Тыя вочы падаліся Пранцішу нейкімі дзіўнымі, занадта цёмнымі, ці што... Яшчэ заўважыў Пранціш, прыгледзеўшыся – праз увесь твар старога ішоў тонкі шнар, заўважны толькі спрактыкаванаму воку лекара. Лёднік прыкладваў мазь да скабаў хворага.

— Вырвіч, дастань з валізы яшчэ корпіі, вымачы ў бальзаме, — адрывіста загадаў прафесар.

Пан Шрэдэр маўчаў, пільна сочачы за маніпуляцыямі, якія з ім праводзіліся, час ад часу стрымліваў стогн. Падобна, што ў яго былі не так даўно пераламаныя ледзь не ўсе косткі і вывернутыя суставы. Хаця шнараў ад ляза, куляў ці бізуна, якіх багата назапасіў сам доктар Лёднік, не бачылася. Затое нешта агульнае ў доктара і пацыента знайшлося. Бутрым асцярожна прыўзняў даланю старога: акурат пасярэдзіне ружавеў невялікі зморшчаны шнар, як і на другой руцэ... Такія самыя шнары прыкрашалі і далоні Баўтрамеюса: калісьці яму давялося дзеля выратавання сябе і сваіх спадарожнікаў прайсці праз дзікі рытуал у маленькім гарадку, да якога набліжалася чума. Толькі набыццё штучных стыгматаў там лічылася ачышчэннем ад грахоў.

— Ці не гасцяваў пан Шрэдэр у Тамашове? Магчыма, і з айцом Габрыелюсам знаёмы? – ціха спытаў Баўтрамей на лаціне і паднёс да вачэй хворага сваю даланю, паказваючы шнар. Пан Шрэдэр уздрыгнуў, ягоныя цёмныя вочы ў сетцы зморшчын зблiснулі... Але адказаць не паспеў – Зыгмунт Грос зараз жа зазірнуў у карэту:

— Пан доктар, вас папярэджвалі – хворага нельга напружваць ніякімі размовамі!

Запалыя вочы Гроса зыркалі злосна, як у незамужняй цёткі, пад носам якой пляменніца ўмудрылася спаткацца з увішным маладзёнам. Лёднік падціснуў вусны. Хто б сумняваўся, што справа нячыстая? Пан Шрэдэр заплюшчыў вочы, так што нельга было зразумець, што ён насамрэч думае і адчувае. Грос назіраў за працэсам лячэння да канца, потым зноў сеў са старым у карэту і нават фіранкі заторгнуў.

— Як ты думаеш, Бутрым, хто гэты Шрэдэр? Зняволены? Можа, нам варта яму дапамагчы? – усхвалявана прашаптаў Пранціш, калі яны з доктарам адсталі ад карэты на бяспечную адлегласць, каб бялявы Грос не падслухваў. Лёднік адмоўна пакруціў галавою.

— Не думаю. Апынемся ў становішчы добрага дзіцяткі, якое цягне рыбку з халоднай няўтульнай калюжыны на цёплы сухі пясочак. Думаю, ты зразумеў, што пана катавалі – і рабілі гэта прафесійна, расцягваючы суставы. Што ён хаваецца – і зайцу зразумела. Ты заўважыў, спадзяюся, што ягоныя вочы аканітам закапаныя, каб колер змянілі?

Пранціш няпэўна хмыкнуў – па-праўдзе, яму такое і ў галаву не прыйшло. Лёднік зразумеў і дакорліва пакруціў галавою:

— І навошта я цябе анатоміі вучыў... У яго ж пашыраныя зрэнкі так, што радужкі не відно. А па ягоных паводзінах з гэтым застрашлівым Гросам я б сказаў, што яны ягады з аднаго куста. І ведаеш, магу свой улюбёны мікраскоп закласці на тое, што яны абодва – езуіты.

— Праўда, — пагадзіўся Пранціш. – Я на святых айцоў нагледзеўся – і ў расах, і ў цывільным. І ў Тамашове пан Шрэдэр дакладна бываў!

— Дзе таксама даводзіў, што ён не блюзнер, — прабуркатаў Бутрым, кідаючы пагляд на ўласную прабітую руку. – Спадзяюся, што хаця б да суполкі айца Габрыелюса нашы спадарожнікі не маюць дачынення. Ведаеш, неяк мне не надта хочацца зноў з той кодлай, завернутай на таемных ведах, звязвацца.

Вецер быў не халодны, але ўжо і не летні – з першым подыхам восені. Карэта кацілася няхутка, хаця драгун зараз прыпусціў бы чуйдух цераз вунь гэтае поле...

— Чым пан Вырвіч так пераймаецца? – ціха спытаў Лёднік. – Амерыканскае рэха, так бы мовіць?

Вырвіч патрос галавой.

— Ды не... Вядома, смыліць, і на панну Паланэю я не забудуся ніколі, але тое, што я яе страціў – усё роўна, як упэўніцца, што па аблоках нельга прабегчыся. Ведаеш, можа, таму і страціў, што ніколі да канца не верыў, што змагу ажаніцца з сястрой князя Багінскага.

— Тады што цябе так трывожыць? – асцярожна спытаўся доктар. Вырвіч нейкі час ехаў моўчкі, апусціўшы галаву.

— Мне здаецца, я... нейкі няздара. Я не ведаю, хто я, для чаго існую. Смешна, што трэба было дажыць да дваццаці трох гадоў, каб задаць сабе такія пытанні! – Пранціш горка засмяяўся. – Не пярэч, я праўду кажу. Вось ты спрабаваў прыладзіць мяне да навукі... Так, мне многае было цікава, я някепскім мог бы стаць доктарам... Але ты сам ужо ў маленстве не меў ніякіх ваганняў і гатовы быў дзень і ноч праводзіць за доследамі, ахвяруючы гульнямі. У мяне ж такой жарсці ніколі не ўзнікала. Магу ў механізме пакалупацца, магу ў карты пагуляць – з аднолькавым задавальненнем. Вось, думаў – вайсковая справа мяне захопіць... Што ж, я – добры вой! – Вырвіч сказаў гэта без ценю хвальбы. – Але прысвяціць жыццё вайне... Муштры... Гэтага ўжо мала. Заняцца гаспадаркай? Выкупіць зямлю ў Падняводдзі, што належала продкам? Заснаваць мануфактуру? Мяне праз месяц пацягне ў вандроўкі. Ты навучыў мяне фехтаванню – але і тут я не гатовы, як ты, адпрацоўваць якісь скачок дні і ночы, пакуль не атрымаецца. Нават у каханні я – не гарачы і не халодны, а цёплы, які стан асуджае нават Святое Пісанне. Ну не кінуўся ж я біцца да смерці з панам Гервасіем Агалінскім, не ірвануў за Паланэяй у Амерыку, як кавалер дэ Грые за Манон Ляско... А каб панна зараз прыехала да мяне – уцякла, скажам, ад мужа ці засталася ўдавою, з дзіцем на руках – я б, вядома, прыняў яе з радасцю... Але крылы б у мяне не выраслі, прызнаюся сумленна. Я, напэўна, недастаткова яе кахаю, каб прабачыць усё і прыняць усялякай. Вось, Багінская папракала мяне, што я не звяртаў увагі на яе камерыстку Ганульку, якая ў мяне так закахалася, што да нервовай гарачкі дайшла. Мне шкада той дзяўчынкі... Але я да яе ўсё роўна абыякавы. Ні ў чым няма ў мяне пэўнасці, простай лініі. Так, я праваслаўны, веры не зракуся, але мне не падабаецца, што маю зямлю заваёўваюць мае адзінаверцы з Расіі. Я ліцвін, але мяне лічаць здраднікам суайчыннікі, бо трымаюся сваёй веры і супраць, каб зачынялі мае храмы. Як быццам у мяне дзве душы, і ніводная не адчувае спакою і паўнаты быцця. A posteriori, я – бяздарнасць, Баўтрамей.

— Ты – проста тыповы ліцвін, — Лёднік быў вельмі сур’ёзны. – Такі лёс народаў, якія жывуць на раздарожжы, на сутыччы культур і цывілізацый. Нас топчуць, як трыпутнік, а мы ўстаем. Нам

прыўлашчваюць розныя назовы, а мы застаемся сабою. Павер, на нас гэта не скончыцца. А наконт тваёй бяздарнасці... Паслухай, многія за ўсё сваё жыццё не задаюць сабе такіх пытанняў, якія мучаць цябе. Гэта яны няздары – а не ты. А калі пачаў думаць – значыць, рашэнне знойдзецца. Шлях сам цябе абярэ. Дарэчы... – Лёднік з няёмкасцю хмыкнуў, – ты не назваў яшчэ адзін свой талент... Літаратурны.

У Пранціша аж шчокі запалалі.

— Адкуль ты...

— Ну, не ўсё згарае на попел у нашым каміне... – адвёў вочы доктар. — Паслухай, ты дарэмна так саромешся сваіх паэтычных практыкаванняў, — вельмі сур'ёзна сказаў Лёднік. – Улада над словам мала каму даецца... Тым болей на гэтай зямлі, дзе ліцвінам увесь час спрабуюць навязаць іншую мову і іншую веру. А памятаеш прамову Мялешкі? Альбо дзённік Еўлашоўскага? Дасціпна ж напісана, прыгожа гучыць? Старажытны кітайскі мысляр Канфуцый аднойчы сказаў: калі словы трацяць сэнс – людзі трацяць свабоду. Можа быць, пан Прантасій, гэтая зямля, дзе столькі паданняў, легенд і дзівосных авантураў, чакае, каб загаварыць тваймі вуснамі на той мове, якая ёй Богам дадзеная? Каб зразумела і Паланэя Багінская, і млынароўна Саклета, знаўца зёлак... Варта толькі перастаць пераймаць кагосьці – і пісаць ад сэрца... Падумай...

Вырвіч фыркнуў: бачыў ён прыдворных паэтаў, кшталту пана Матушэвіча, якія спявалі дыфірамбы сваім апекунам альбо сачынялі куртуазныя гісторыйкі для іх пацехі. Вядома, золата ім сыпалі жменямі... Але ж, калі што, як блазнаў, маглі адлупцаваць. А пісаць сур'ёзныя кнігі, кшталту даўжэзнай павучальнай гісторыі пра Трыстрама Шэндзі альбо скандальнай "Новай Элаізы"... Куды там драгуну!

Тут жа ў галаве прамільгнула здрадлівая думка: "А чым кепскі драгун? Вунь Русо лёкаем быў... Магчыма, Пранціш Вырвіч станецца беларускім Мальерам альбо Буало!".

У галаве адразу закруціліся новыя радкі, як мухі вакол разлітага сочыва...

"У сэрцы трымціць залатая страла неспагады.
Чароўная Дама цябе лекаваць не збярэцца.
Ты мусіш забыцца на ўласныя раны і звады,
Айчыне ў ахвяру прынесці разбітае сэрца".

А да бліжэйшай карчмы пад красамоўнай назвай "Кілбасы" яны не звярнулі. Хаця Вырвіч ужо без ранейшай агіды ўспамінаў нават застолле ў суддзі Юдыцкага і "вачасты" пачастунак кітайца. Што азначала – даўно варта перакусіць. Хаця б пасёрбаць жур з вяндлінай... Ці хоць локшыны зжаваць...

Пан Зыгмунд Грос дэкляраваў, што заначуюць у вельмі добрых умовах, у маёнтку з гасціннымі гаспадарамі. Цікавіцца іх імёнамі таксама не выпадала – па трыста дукатаў доктару і драгуну заплацілі не за роспыты.

Фурман скіраваў коней на лясную дарогу, яліны пачалі рабіцца ўсё вышэйшымі, падобнымі да цёмных шатроў, з якіх маглі выскачыць антыкаўды з вывернутымі ступакамі альбо высозазныя макробіі. У прыцемку Пранціш разгледзеў, што пасярод дарогі бялеюць дзве постаці, быццам прывідныя вартавыя. Гэта аказаліся мармуровыя скульптуры – адна выяўляла багіню мудрасці Мінерву, пра што сведчыла змрочная лупавокая сава на плячы, другая – багіню-цнатліўку Артэміду, якая сціскала тонкай мармуровай рукой лук. Паміж пагрознымі вартаўніцамі чарнела каваная брама. Нехта дыхтоўна агарадзіў свой маёнтак, чый чарапічны дах віднеўся над дрэвамі. Жалезныя прэнты агароджы ішлі ў лес, як быццам праraслі пасеяныя зубы цмока.

Фурман спыніў коней і некалькі разоў пратрубіў у ражок. Доўга чакаць не давялося – двое слуг падбеглі да брамы і, нават нічога не пытаючыся, расчынілі вароты. Значыць, чакалі…

Калі госці трохі праехалі па прысадзе да двухпавярховага будынка з двума алькежамі і паўкруглай каланадай, Вырвіч азірнуўся. Браму зачынялі, і ад гэтага зрабілася трохі няўтульна, як быццам яны добраахвотна аддаліся ў палон. Пранціш скасавурыўся на Лёдніка: фанабэрысты профіль доктара ў прыцемку мог напалохаць: не варта ноччу з такім панам сустракацца. Нічога, удвох яны нават з Аіду выберуцца!

З карэты данёсся ціхі стогн.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ. ЯК ПРАНЦІШ ВЫРВІЧ У СУТАРЭННІ МЕНСКУ СПУСКАЎСЯ

Дарога да маёнтка была ўся ўсыпаная сасновымі шышкамі.

Старажытныя грэкі лічылі шышку сімвалам Сусвету.

Такі вось Сусвет, складзены з мноства лушпінак і схаваных паміж імі зярнятак – зародкаў будучых дрэў.

А што дзіўнага? Для кагосьці ўся светаістасць – гэта двор ягонага магната, для кагосьці – утульная канапа… А хтосьці лічыць вянцом усяго поўны куфаль піва, і гатовы жыць у пеннай дабрадатнасці ажно да анёльскіх сурмаў…

Праўда, працягваючы алегорыю з шышкай, надта няпэўны лёс у такога калючага Сусвету – зваліцца з галінкі, і дзе апынецца?

Раптам вось так, як гэтая шышка, трапіць у лоб маладому драгуну і пакоціцца пад капыты ягонага каня?

Пранціш ціха вылаяўся і пацёр выцяты лоб рукавом. Маёнтак, дзе яны мусілі заначаваць, падабаўся яму ўсё меней. Калісьці кёльты высаджвалі сосны ўздоўж дарог, каб гэтыя светлыя дрэвы ў цемры пазначалі шлях...

А тут нават сосны здаваліся цёмнымі і змрочнымі.

Не надта здзівіла назва гэтага месца – Чорныя Сосны.

Хаця сам будынак быў светлы, і калоны на паўкруглым ганку спрабавалі гуляць у Калізей, як павятовыя паненкі ў прыдворных дам.

Раптам аднекуль данёсся жаночы крык.

Жанчына еньчыла, то прасіла паратунку, то лаялася...

— Не звяртайце ўвагі, вашыя мосці, — абыякава прамовіў немалады слуга, па выглядзе якога можа было падумаць, што ён ні разу ў жыцці не каштаваў нічога мацней вады і не еў нічога больш тлустага за моркву.

Што ж, у чужы кляштар сваё распяцце не нясуць. Крыкі паўтараліся праз пэўны прамежак часу, быццам іх спараджалі спружыны заведзенага механізму.

Шрэдэра асцярожна вынеслі з карэты, але ў дом ён зайшоў сам, абапіраючыся на спадарожных. Усё рабілася моўчкі, хутка, акуратна...

За сталом, доўгім, як сармацкія хаўтуры, Пранціш нарэшце змог пабачыць гаспадара Чорных Соснаў. Ён нагадваў змрочнага князя Гераніма Радзівіла: гэткае жоўтае, у зморшчынах аблічча, лысая галава, чорныя густыя бровы, злосныя цёмныя вочы... Хіба што пан Лапушынскі не заікаўся, не зрываўся ўвесь час на крык, толькі пагардліва крывіў вусны. Вячэра была поснай, як сіроцкае шчасце, заставалася толькі ўспамінаць, што кухар пры шляхецкім двары мусіў умець прыгатаваць дванаццаць страваў з кілбасы, а пры магнацкім – дваццаць чатыры. Паколькі ніякіх роспытаў за сталом не ўзнікала, дый увогуле гаворка сканала, не нарадзіўшыся, ясна было – пан пасвечаны, хто госці і куды едуць. У адрозненне ад Лёдніка з Пранцішам.

Зноў пачуўся жаночы енк. Лёднік знарочыста гучна кінуў лыжку на стол, а калі на яго скіраваліся вочы прысутных, падкрэслена ветліва звярнуўся да гаспадара:

— Магчыма, вашамосць, у маёнтку патрэбныя мае паслугі як лекара? Здаецца, тут маецца нехта хворы...

Пан Лапушынскі пакрывіў вусны.

— А, васпан пра гэтае выццё? Гэта жонка майго арандатара Майсея. Грошы пазычыў, а не аддае. Плачацца – прыбытку не мае, ніхто ў карчму не ходзіць, мужыкі збяднелі... А жонка ў атласе ды перлінах красуецца! – Лапушынскі злосна фыркнуў. – Вось я і загадаў яе пасадзіць у хлеў у яе перлінах. Няхай сядзіць, пакуль Майсей грошы не верне.

— З гэтым народам толькі так і трэба! – ухвальна азваўся Грос. – Да апошняга будуць скардзіцца, што бедныя, сенніка няма падсцяліць, а пад падлогай золата хаваюць!

Жанчына зноў заблагала.

— І ўсё-ткі, васпан, я б хацеў агледзець гэтую кабету, – цвёрда прамовіў Бутрым. – Не думаю, што пан Лапушынскі зацікаўлены, каб няшчасная памерла ў ягоным хляве.

Грос раздражнёна зірнуў на доктара.

— Знайшлі, каго шкадаваць, ваша вучоная мосць! Яны, гэтыя, жывучыя... Нічога з ёю не станецца.

Лёднік апусціў вочы, і Вырвіч нават ціхенька штурхануў былога слугу пад сталом, бо бачыў, што той угневаны так, што можа сарвацца. Аднак голас доктара гучаў роўна.

— Адзін габрэй, полацкі аптэкар Лейба, дапамог мне знайсці шлях у жыцці, і не чакаў для сябе карысці, калі падтрымліваў і навучаў мяне, малога. Дабрэй і мудрэй чалавека я не ведаў. Нягоднікі і прыстойныя людзі ёсць ва ўсіх народаў, вашамосці. І ўсім аднолькава баліць, і аднолькава не хочацца паміраць. Думаю, панства нічога не згубіць, калі дазволіць мне выканаць прысягу Гіпакрату.

Баўтрамей падняў вочы і сустрэўся позіркам з Якубам Шрэдэрам, які дагэтуль не прамовіў ні слова.

— Няхай ідзе... – ціха прамовіў стары, і Грос з Лапушынскім пакорліва нахілілі галовы. Гаспадар нават падняўся з-за стала:

— Пойдземце, доктар, я вас правяду.

Зняволеная жанчына, аднак, зусім не нагадвала скрадзеную прынцэсу. Яна была тоўстай, як дзяжа, з пукатымі вачыма і губастым ротам, і шарахнулася ад Лёдніка, які памкнуўся агледзець яе, як бы доктар быў нячыстай сілай. Праклёны і прыніжаныя просьбы чаргаваліся ў спадарыні зусім нелагічна. Наколькі можна было зразумець з яе няспыннай гутаркі, у якой перамешваліся словы некалькіх моў, карчмарка прасіла адпусціць яе да дзетачак і ўлюбёнага мужа, наракала, што грошай няма аддаць пазыку, тут жа кляла мужа, які тыя грошы не змог зарабіць, і даўно вырослых дзетачак, якія лынды б'юць, замест таго, как дапамагаць татусю і мамусі ў высакароднай карчмарскай справе, а таксама горача

завярала, што вось-вось памрэ ад пакутаў… Праўда, Лёднік змушаны быў прызнаць, што жыццю палонніцы пакуль нічога не пагражала – голадам не марылі, ночы цёплыя, але папярэдзіў, што ў кабеты раматуз і нестрававанне.

Піць лекі, прапанаваныя худым дзюбаносым прыхаднем, карчмарка адмовілася з такімі крыкамі, быццам яе сабраліся труціць. Пан Лапушынскі з'едліва пасміхнуўся:

— Ну што, пан доктар, задаволілі сваю цікавасць? І варта было сюды цягнуцца з-за стала? На маім баку праўда, вашыя мосці. Майсей палову пазыкі прынёс, значыць, і другую знойдзе. Пасядзіць баба. Не разваліцца.

Пранцысь Вырвіч глядзеў на кабету, якая ў аксамітнай сукенцы колеру спелага каштану і каптуры з бялюткімі карункамі сядзела на сене, яму і шкада яе было, і раздражнялі крыкі.

— І колькі карчмар вам яшчэ вінен? – папытаўся Лёднік гаспадара.

— Пяцьдзесят дукатаў, — адказаў Лапушынскі. – І ні шэлега не саступлю. Не таму, што грошай шкада – а каб правучыць паскудніка Майсея. Каб другі раз махлярыць пабаяўся.

Пад прыніжаныя запэўніванні Майсеіхі наконт таго, што такіх грошай яны з мужам у руках ніколі не трымалі, панства вярнулася ў дом. Чорныя сосны паныла спявалі шаргатлівую калыханку, пад якую не тое што засынаць – паміраць не хочацца.

Уночы Вырвіч чуў, як Лёдніка клікалі да пана Шрэдэра, якому зноў сталася кепска – і куды валакуць такога скалечанага? Дый крыкі зняволенай карчмарыхі некалькі разоў будзілі. Баба мела сапраўды жалезнае горла, бо нават не ахрыпла ад гэткай напругі. А нараніцу, шэрую, як выцвілая на прыдарожным крыжы ануча, перш, чым сесці ў пададзеную проста да ганку карэту, у якую ўжо ўсадзілі таямнічага калеку, Лёднік працягнуў гаспадару цяжкі мяшэчак:

— Пяцьдзесят дукатаў, ваша мосць. Я забяру кабету.

Пранціш прытрымаў ягоную руку:

— Я ў долі… Напалам.

Доктар трохі падумаў і кіўнуў галавой.

Пан Лапушынскі вырачыў на гасцей заспаныя вочы:

— Запэўніваю вашых мосцяў, што ад ейнага мужа вы прыбытку не атрымаеце. Майсей скнарышча, якіх пашукаць. На пару з жонкай колькі з п'яных лішняга здзерлі…

Лёднік не адвёў вачэй.

— Бог усім суддзя. Прашу васпана адпусціць зняволеную.

Лапушынскі паціснуў плячыма і ўзяў мяшэчак.

— Толькі таму, што не хочацца крыўдзіць вашу мосць. Не мог і ўявіць, што Майсеіха можа займець рыцараў-заступнікаў. Але чаго на свеце не бывае... Пане Каханку вунь любіць таўсманых, каб за стан не абхапіць. А другі мой знаёмы мурынку ў Багінскіх выкупіў, якая ўмела на клавікордах граць, і так ужо закахаўся...

Былы алхімік на пацвельванні не адказаў, прамаўчаў і драгун... Майсеіха выбегла з хлява, смешна валюхаючыся, і нат не зірнула на сваіх выратаваўцаў—магчыма, peралякаўшыся ды накрычаўшыся, проста не цяміла, што і чаму адбываецца. Калі карчмарыха прабегла паміж мармуровымі Артэмідай і Мінервай, дваровы хлапчук залівіста свіснуў услед, і кабета прыпусціла яшчэ хутчэй, падабраўшы падол аксамітнай сукенкі, да якой прыліпла сена.

Пан Лапушынскі толькі крыва пасміхнуўся ўслед сваім гасцям: ён відавочна палічыў драгуна і доктара нейкімі дурнямі. Абыдзецца цыганскае вяселле без марцыпанаў. Калі ад’ехаліся ад Чорных соснаў, абагнаўшы карчмарыху, якая, каб прапусціць карэту як падалей, ламанулася ў прыдарожныя хмызы, Грос высунуўся з вакенца, абмерыў вачыма чорную постаць Лёдніка:

— Лепей бы васпан аддаў тыя грошы жабракам ля царквы. Гэтая баба нават дзякуй вам не сказала.

Доктар нат галавы не павярнуў, седзячы на кані.

— Такія справы робяцца не дзеля падзякі. У мяне была магчымасць сплаціць мой уласны доўг – і я гэта зрабіў. А рахункаваць будуць не тут...

Грос хмыкнуў і схаваўся ў карэце. Пранціш, які не адчуваў радасці ад змяншэння вагі свайго кашалька, таксама не вытрымаў, каб не выказацца:

— І ўсё-ткі, Бутрым, не разумею цябе. Кабета ж не памірала. Не ў яе з мужам пазычылі і не аддавалі – а яны вінаватыя! А баба якая паскудная... Чаму мы павінны былі выплочваць доўг карчмара?

Туман сцяліўся ў лагчынах, як быццам цэлая зграя зайцоў узялася варыць піва. Лёднік сумна глядзеў удалеч.

— Вядома, лягчэй ратаваць людзей, нам прыемных. Удзячных, прыгожых... Каб нас іншыя за гэта пахвалілі, каб усё выглядала разумна. А каму прыемны быў я, мурзаты, дзікі, непрыгожы хлапчук, які звык, што калі нехта побач уздымае руку, дык каб ударыць, а не прылашчыць? Таму й намагаўся паспець зрабіць гадасць сам. Першае, што я ўчыніў, калі патрапіў у дом да дзядзькі Лейбы, куды мяне прывёў ягоны сябар і мой выхавацель Іван Рэніч – пастараўся непрыкметна перамяшаць усе д’ябальскія парашкі. Як жа, я знаходзіўся ў доме іншаверца, ворага! А дзядзька Лейба толькі

пасмяяўся, шчыра так, па-добраму, сказаў, што з мяне неадменна атрымаецца добры алхімік. І паказаў некалькі… эфектных узаемадзеянняў між рэчывамі. З маленькімі выбухамі.

Лёднік трохі памаўчаў, апусціўшы галаву, з навіслых шэрых хмараў пасыпаліся халодныя кроплі восеньскага дажджу, дробныя, як інфузорыі.

— Мне даводзілася лячыць людзей, якія былі ўпэўненыя, што я ім шкоджу. І калі мне, добра папацеўшы, удавалася паставіць такога на ногі, ён усё роўна лічыў, што паправіўся насуперак мне. Але, павер, калі б я дзеля выратавання такога чалавека рабіў менш намаганняў, чым дзеля ўдзячнага, я нічога не варты быў бы, як доктар… І як чалавек таксама. Я бачыў, як падчас пошасці звар'яцелы ад жаху натоўп разрывае на кавалкі лекараў, якія рызыкуюць жыццём, каб пошасць спыніць… Я тады ацалеў – і лекаваў зноў. І цяпер — мы маглі дапамагчы, і дапамаглі. Аб гэтым ніколі не варта шкадаваць.

А потым здарылася тое, дзеля чаго, падобна, доктара з драгунам і наймалі… Карэту перапыніў раз'езд расейцаў. Жаўнераў дзесяць на чале з афіцэрам – не так шмат, каб усё выглядала безнадзейным, але замнога, каб спадзявацца на лёгкую перамогу. Афіцэр патлумачыў, што згодна дамове імператрыцы і польскага караля яны маюць права адшукваць і вяртаць у Расію збеглых прыгонных і жаўнераў.

— Ці няма тут расійскіх падданых?

Афіцэр пільна вывучаў аблічча падарожных, так і цэлячыся зазірнуць у карэту, і нагадваў адмысловага сабаку гетмана Браніцкага, навучанага шукаць чорныя труфлі ў тутэйшых пушчах. Пан Зыгмунд Грос выйшаў на дарогу. Проста ў гразь, пад дождж. Вырвіч глядзеў і не пазнаваў уладнага, засяроджанага пана. Невыразнае аблічча таго проста ззяла радасцю, як ад сустрэчы з дарагімі гасцямі, постаць змізарнела, прыгорбілася… І голас не пазнаць: такі мяккі, трохі няўпэўнены – у галаву не магло прыйсці, што такім можна маніць. Грос з нізкім паклонам падаў афіцэру падарожную:

— Няхай пан не сумняецца – мы шчыра любім нашага новага караля, няхай яму дасць Бог здароўя на доўгія гады, гэта жа, як і яе імператарскай вялікасці, імператрыцы, мудрае праўленне якой з'яўляецца ўзорам для нас…

Цяпер Пранцысь быў упэўнены, што іхні спадарожнік сапраўды езуіт, і высокага палёту – гэтак дасканала перакідвацца з ваўкалака ў авечку… А пан Зыгмунд, жаласна распавёўшы пра

пакуты бяскрыўднага старога пасажыра карэты і патрэбу ў наведванні святых месцаў, тыцнуў пальцам у прафесара:

— Вось, суправаджае нас сам доктар Баўтрамей Лёднік з Вільні, ён праваслаўны, наш адзінаверац, і блізкі сябар графа Разанцава. Пан доктар наведвае прыход парушанай Віленскай Свята-Духавай царквы, утрымлівае шпіталь пры ёй... А гэта ягоны вучань, пан Вырвіч, таксама бароніць дзядоўскую веру і нашыя святыя цэрквы, абернутыя гвалтам у ганебнае ўніяцтва.

Вырвіч са здзіўленнем зразумеў, што Грос спрабуе выдаць сябе са Шрэдэрам за шчырых праваслаўных вернікаў, нават пацярпелых ад ганенняў... І яму гэта выдатна ўдаецца. А калі афіцэр усё-ткі зазірнуў у карэту, і Пранціш цікаваў з-за ягонага пляча, яшчэ раз здзівіўся: пан Шрэдэр сядзеў, закінуўшы нага на нагу, і ўсміхаўся трохі стамлёна, але таксама шчыра – акуратны капялюш, парык, шэры пералівісты камзол, твар напудраны, шчокі нарумяненыя: гэткі дзядуля, якому ля каміну сядзець і ўнукам казкі расказваць.

Між тым нехта з жаўнераў пазнаў віленскага доктара, і афіцэр ветліва звярнуўся да таго:

— Пан Лёднік, рады пазнаёміцца з вамі асабіста. Мы шукаем не толькі збеглых мужыкоў, але і злачынцаў больш высокага рангу. Адзін з іх уцёк ажно са Шлісельбургскай вязьніцы, з дапамогай змоўшчыкаў. Ён гадоў шасцідзесяці, светлыя вочы, невысокі... А галоўная прыкмета – чырвоны шнар праз усю левую шчаку. За выкрыццё злачынцы прызначаная вялікая ўзнагарода... Вы ж не сталі б хаваць ворага дзяржавы, доктар?

Афіцэр пільна глядзеў на Лёдніка. Той заставаўся спакойны.

— Вы самі назвалі мяне доктарам. Я не ўмешваюся ў палітычную барацьбу. Мая справа – лячыць.

— Што ж, гэта заслугоўвае павагі, — афіцэр, памарудзіўшы, пакланіўся і махнуў рукой жаўнерам. – Няхай святы Мікалай бароніць вас у дарозе.

Калі расейскі атрад знік за паваротам, Лёднік змусіў фурмана спыніць карэту і рашуча сеў у яе – з такім злосным абліччам, што пярэчыць было неразумна, гэта ўсведамляў нават Зыгмунт Грос. Пранцысь улез следам, зусім заціснуўшы Гроса у кут.

— Ну што, будзем тлумачыцца? – застрашліва ветліва прамовіў Лёднік. – Мяне нельга падмануць кроплямі дурнап'яну, хірургічным выдаленнем шнару і праваслаўным жагнаннем. За каго мы з панам Вырвічам маем сумніўны гонар рызыкаваць жыццём, а, шаноўныя адэпты Ордэна Ісуса? Я, ведаеце, дастаткова часта гуляў са смерцю, але кожны раз прынамсі ведаў, дзеля чаго.

— І ці не варта было сапраўды здаць дзяржаўнага злачынцу ўладам – маю падставы меркаваць, што атрыманая за яго ўзнагарода будзе не меншай, чым тая, што прапанаваў нам пан Юдыцкі, — пагрозна дадаў сваё Пранціш.

Пан Грос запытальна зірнуў на Шрэдэра, які ляжаў, адкінуўшыся на аксамітную падушку, так што ягоны твар амаль хаваўся ў ценю. Падобна, Грос прачытаў, што належала, у абліччы старога.

— Я разумею ваш непакой, панове, — прамовіў ён. – Вы ўжо ведаеце, што пану Шрэдэру, нягледзячы на паважаны ўзрост, давялося не так даўно прайсці шмат пакутаў. Запэўніваю вас, калі ён патрапіць зноў у рукі тых, ад каго мы пана з вялізнымі намаганнямі вызвалілі, яму давядзецца спазнаць пакуты яшчэ горшыя. Хаця злачынства – пан Езус мне сведка — ніякага не ўчыняў.

— У вязьніцу і на прэнт прыводзяць не толькі злачынствы, дарагі пан Лёднік, — ціха прамовіў Шрэдэр, звяртаючыся толькі да доктара, што Вырвіча трохі скрыўдзіла. – Губіць нас проста валоданне нейкімі ведамі, давераная нам таямніца. Ad notanda (*1. Варта заўважыць. Лац.*), вам гэта добра вядома, пан доктар.

Лёднік апусціў вочы.

— Так, мне гэта добра вядома, пан Шрэдэр. І мушу сказаць, што не хачу больш мець ніякага дачынення да таямніцаў, за якія палітыкі гатовыя скасіць, як траву, тысячы бязвінных жыццяў.

Карэта зноў пачала падскокваць на каранях, за вокнамі сцямнела – густы лес не прапускаў нават сціплае святло.

— Мы не выбіраем нашы шляхі, пан Баўтрамей, — прамовіў стары. – Нам толькі дазваляецца думаць, што мы вольныя ў гэтым выбары. Кнігу лёсаў напісалі задоўга да нас, і атрамант з яе старонак не счысціш, як у звычайным палімпсесце. Я ніколі не спрачаўся, калі мне давалі асабліва складанае і небяспечнае даручэнне, бо спадзяюся на Божую волю. Вы правільна здагадаліся, я бываў у Тамашове і ведаў магістра Габрыелюса, вашага колішняга настаўніка. Праўда, асаблівага сардэчнага сяброўства у нас з ім і ягонымі паплечнікамі не атрымалася, — пан Шрэдэр зірнуў на прабітую даланю. – Замест таго, каб займець ад магістра пэўныя паперы, я мусіў даводзіць, што я не блюзнер, перад рэлікварыем святога Тамаша... Вы, пан Лёднік, як я разумею, таксама адчыталі там пакаянны канон, насадзіўшы рукі на цвікі. Для чалавека, які валодае здольнасцямі да канцэнтрацыі і да ізаляцыі болевых адчуванняў, гэта не так складана. Затое мне ўдалося сабраць дастаткова сведчанняў пра блюзнерствы самога пана Габрыелюса, каб яго праз нейкі час пазбавілі званняў і выслалі з горада, а ведзьмакоў, што пры ім карміліся, адправілі пад нагляд

святой інквізіцыі. Гэта была нялёгкая справа, пан Баўтрамеюс, — пасміхнуўся стары. – Я рады, што сярод тых няшчасных не аказалася вас. Шкада было б дапытваць і вешаць такога таленавітага чалавека.

Пранціш і доктар перазірнуліся, бо абодва раптам усвядомілі, што гэты скалечаны стары без ваганняў мог сам калечыць і забіваць тых, каго лічыў ворагам "адзінай ісціны"... І, пэўна, даводзілася яму гэтым займацца.

— Ну, ну, не палохайцеся, — мякка прамовіў езуіт. – Вы ж не маглі не здагадвацца, калі патрапілі ў Акадэмію, якую заснаваў наш орден, што пра вас даведаюцца ўсё... І я ведаю, што вы, доктар, адмовіліся ад магіі і алхіміі. Але ваш шлях, amicus meus (*1. Мой сябра . Лац.*) – быць у цэнтры палітычных авантураў і пошуку вялікіх рэліквіяў. Хочаце вы таго ці не. Таму цяпер – проста выканайце сваю працу, не спрабуючы даведацца больш, чым патрэбна, пастарайцеся падтрымаць у ва мне жыццё і ясны розум, пакуль я не выканаю тое, што мушу... Нават калі вам давядзецца ўжыць нешта з арсеналу забароненых уменняў. Мне такое не дадзена, а вам – так, не адмаўляйцеся... Грэх я вазьму на сябе. Праводзьце гэтую карэту да Гутаўскага кляштара... А далей – вы вольныя. Абяцаю, што вашу кафедру, пан Баўтрамей, у Акадэміі чапаць не стануць, а пан падхаружы ў хуткім часе атрымае званне паручніка.

Гэтая абяцанка Вырвіча, аднак, не ўзрадвала.

— А калі б жаўнеры ўсё-ткі западозрылі нас... Што? Безнадзейная бойка?

— Не такая ўжо безнадзейная, — азваўся Грос са злавеснай усмешкай. – Я адказваю за бяспеку пана Якуба, а мне даводзілася бываць і на гарачэйшай патэльні. І вас не дарэмна наймалі, панове. Мы добра ведаем, на што вы ўдваіх здатныя. І на што не здатныя – напрыклад, аддаць старога чалавека на катаванні. Што ўскосна пацверджвае ваш учынак з выкупам габрэйкі.

Дарога з Вільні да Менску была наезджанай ды густа ўсаджанай корчмамі... Затое і шпегамі. Карэту перастрэлі яшчэ двойчы, на гэты раз жаўнеры каралеўскага войска. Адзін раз – за Красным, праверылі дакументы, упэўніліся, што ў старога ў карэце няма шнару на шчацэ, і вочы не светлыя... Цяпер пан Грос жагнаўся, як прававерны каталік, заклікаў у сведкі матку боску Чанстахоўску... Потым падарожных правяралі на ўездзе ў горад – тут ужо спатрэбіўся аўтарытэт Пранціша Вырвіча, бо ў каравуле быў драгун, які раней служыў у ягонай харугве. Пранціш і малады афіцэр з зухаватымі вусамі – Вырвіч падобных так і не адрасціў – абмяняліся апошнімі навінамі пра свае палкі, вайсковае начальства...

І няўмольна накручвалася нітка лёсу на клубок, які трымала чыясьці кашчавая рука, і змрачнеў полацкі алхімік, сузіраючы шэрае неба над шэрым Менскам, і мармытаў:

— Рысы, якімі выяўляюць вясёлку, ствараюцца са спалучэння фарбаў, а менавіта кінавары і вірыдонавай, а таксама вірыдонавай і фоліюма, а таксама фоліюма і вохры, а таксама мянеска і вохры, а таксама кінавары і фоліюма...

І назва фарбы “менеск”, якой карысталіся майстры пры маляванні вясёлкі, з Кнігі таямніцаў Тэафіла, была ў гэтых мясцінах імем пракаветнага млынара, чый млын вольна перасоўваўся па берагах Свіслачы, і малоў Менеск паміж жорнамі камяні, і пёк з каменнай мукі будучыню беларусаў...

І, калі добра сцямнела, падарожныя пасяліліся ў дамку за Траецкім прадмесцем, невялікім, але каменным, на два паверхі. Прыслуга ў доме зноў не задавала ніякіх пытанняў, гасцей чакалі пакоі і вячэра.

Вырвіч глядзеў праз круглыя шкельцы ў свінцовых балонях, якімі было зашклёнае вакно, і ўспамінаў, як калісьці гэтак жа пазіраў на Менск – з вежы кляштара бернардзінак, а побач была панна Паланэя Багінская, ганарыстая і вясёлая... Тады бачыўся, лічы, увесь горад – а цяпер, скрозь цьмяную слюду, можна разгледзець удалечыні хіба срэбную палоску ракі, якая перарываецца чорным абрысам паўзруйнаванага Траецкага кляштара.

...Места, якое не помніць палеглых за волю герояў,
Будзе ізноў руйнавацца, і мур ператворыцца ў друз.
Тут на магілах будуюць крамы, і храмы, і мроі,
А летапісы напіша добра аплочаны хлус...

Пранціш, спяшаючыся, крэмзаў алоўкам няроўныя радкі на змятым аркушы – Лёднік загадаў пііту заўсёды мець пры сабе аловак і паперу.

...Места, што выплывае з туману сівых стагоддзяў,
Нібы карабель патанулы, без ветразяў і стырна,
Наймае новых матросаў, а тых, што застылі ў лёдзе
Ці сталі травой марскою – помніць хваля адна.
І я праходжу па бруку, нібы на палубе хісткай,
І ведаю, што аднойчы і я звалюся з яе.
А места і не заўважыць, і толькі п’яны юрыста
У ратушы тэстамент мой у іншы стос пакладзе.

Запісаны верш заўсёды нагадваў Вырвічу злоўленага рукой матыля – нібыта тая ж істота, што кружляла над табою, захапляючы зіхатлівай прыгажосцю, але ж – змятыя крылцы, сцерты пылок, і

жыцця няма... Але полацкі Фаўст настрога забараніў драгуну нішчыць плён натхнення, як у таго было ў звычаі, і спісаны аркуш пасля некаторага вагання аўтара адправіўся разам з іншымі ў патаемную кішэню камзола.

Вырвіча і ягонага былога слугу пасялілі ў розных пакоях – уласна кажучы, на другім паверсе дамка, дакладней, мансардзе, толькі і меліся гэтыя два пакойчыкі. Можна было расцэньваць гэта як асаблівую павагу, а можна – як спробу пазбавіць не да канца надзейных наймітаў магчымасці перагаворвацца і сачыць за іншымі насельнікамі дома.

За сцяной сціхла вячэрняя малітва, адчытаная Лёднікам... Гараджане загасілі агні. Напэўна, маладому драгуну належала соладка і моцна заснуць – адно з правілаў вайсковай навукі вучыла, што на вайне трэба любы зацішак, хвілю бяспекі выкарыстаць, каб паспаць, няважна, дзе ты знаходзішся, у мокрым акопе альбо ў захопленым варожым палацы. Але Пранціш памятаў і правіла навукі шпегаўскай: ніколі не паслабляць увагі, нават калі ўкладуць на мяккія пярыны пад анёльскія спевы. Таму і пачуў асцярожныя крокі па драўлянай лесвіцы і ціхі стук у дзверы Лёдніка. Доктар, які таксама не пагарджаў шпегаўскай навукай, дзверы адчыніў зараз жа.

— Вас чакаюць у пана Шрэдэра, вашамосць, — прагучаў голас Гроса. — Вазьміце з сабою ўсе лекі і інструменты.

Зразумела, і Пранціш зараз жа з'явіўся пры поўнай экіпіроўцы. Лёднік нават не спрабаваў не ўзяць яго з сабою.

Шрэдэр, трохі больш збляднелы, чым звычайна, сядзеў на ложку ў гасцёўні з зачыненымі аканіцамі і вялікай печчу, аблямаванай галандскай плінфай з сінімі дамкамі на белым фоне.

— Пан Лёднік, вы павінны зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб у бліжэйшыя некалькі гадзінаў я адчуваў сябе дужэйшым і пазбаўленым болю – мне спатрэбіцца рабіць фізічныя намаганні, хадзіць, згінацца... Ужывайце ўсё, што ведаеце – толькі каб не заімгліць свядомасць.

— Гэта небяспечна, — папярэдзіў Баўтрамеюс. – У вас слабое сэрца, і стымулятары яго надарвуць. Пасля вам станецца яшчэ горш.

— Няважна, — з усмешкай прамовіў стары. – Мне патрэбныя ўсяго некалькі гадзінаў.

— Вы разумееце, што просіце амаль неверагоднага? – змрочна ўдакладніў доктар. – Я не цудатворца. Ніякія лекі не падзейнічаюць імгненна. Нават для часовага першаснага эфекту...

— І ўсё-ткі паспрабуйце. Мы падрыхтавалі тое-сёе, што вам можа спатрэбіцца, — Зыгмунт Грос адчыніў шафу з чорнага дрэва,

падобную да спавядальні, бо яе прыкрашалі выразаныя на дзверцах крыжы і чарапы. На паліцах красаваліся шклянкі і шкляніцы з настоямі і парашкамі, букецікі сухіх зёлак і нават вялізны слоік з п'яўкамі, якія варушыліся ў каламутнай вадкасці, як грэшныя душы ў пекле. На століку побач з ложкам паблісквалі ўсе інструменты фармацэўта, ад найчуйных вагаў да драўлянай ступкі са срэбным таўкачом.

— Пачынайце, ваша мосць.

Лёднік перахрысціўся, прачытаў кароткую малітву святому Панцеляймону, зняў камзол, падвярнуў рукавы кашулі і скамандваў Вырвічу:

— Падай драконаву кроў...

І праца пачалася. Пранцішу аж зрабілася радасна – нібыта вярнуліся былыя часы, калі ён студэнтам Віленскай акадэміі дапамагаў Лёдніку ў лабараторыі, цярпліва тоўк зёлкі, змешваў рэчывы, ну і патрашыў трупы, хоць апошні занятак прыемных успамінаў не выклікаў...

Колькі за гадзіну лекаў Лёднік уліў у старога – Пранціш стаміўся лічыць. Абязбольваючае, стымулюючае, сардэчнае, крыветворнае... Некаторыя лекі Вырвіч пазнаць не мог – але, мяркуючы па фанатычнай фізіяноміі Лёдніка, той наўсур'ёз захапіўся "цікавым эксперыментам" і сачыняў нешта на хаду.

Стары трываў здзекі над сваім арганізмам стаічна, хаця яго кідала то ў гарачку, то ў холад. Твар ягоны паружавеў, вочы, цяпер першаснага шэрага колеру, заблішчэлі, як у ліхаманцы. Напрыканцы прафесар учыніў старому езуіту адмысловы масаж, уціраў у ягоныя суставы мазі, потым націскаў на асобныя кропкі на руках, на шыі, на галаве... Пан Шрэдэр трохі моршчыўся – відаць, было балюча... Але цярпеў. Бо лепей за іншых разумеў, па ўласных адчуваннях – тое, што зараз робіць Баўтрамей Лёднік, здольныя зрабіць адзінкі ў свеце... Калі б птушку каландзер з "Бестыярыя" Леанарда да Вінчы паднесці цяпер да Шрэдэра, яна б дакладна не адвярнулася, як робіць каля смяротна хворых.

Нарэшце былы алхімік адыйшоўся, пот сцякаў па ягоным худым твары. Лёднік глядзеў на пацыента крытычна і стамлёна-задаволена, як скульптар, які закончыў ляпіць з гліны чарговы твор. Пан Шрэдэр устаў, памахаў адной рукой, другой, сагнуўся, выпрастаўся...

— Гэта сапраўды цуд!

Лекар скептычна пакруціў галавой.

— Гэта навука і часовы эфект. Калі ён скончыцца, вы ўстаць, магчыма, не зможаце. Ab posse ad esse consequentia non valet. (1. *Па магчымым не варта судзіць аб дзейсным.-лац.*) Мне... патрэбна ісці з вамі?

Зыгмунд Грос паспешліва дапамог старому апрануць цёплы аксамітны каптан на ваце.

— Не, доктар, не станем надалей вас турбаваць. Дзякуем. Вы ж цяпер ледзь на нагах трымаецеся. Адпачывайце. Заўтра раніцой мы ўсе адправімся ў дарогу.

Лёднік працягнуў Гросу шкеліцу з чырванаватай вадкасцю.

— Тады вазьміце, ваша мосць... Калі пану Шрэдэру стане кепска, дайце яму адпіць дваццаць кропляў... Не больш. Калі не дапаможа, але не раней, чым праз дзесяць хвілін, яшчэ дзесяць кропляў. Запомнілі?

Грос узяў шкеліцу... І Вырвіч не вытрымаў:

— Я магу прасачыць за правільнасцю ўжывання! Калі вашыя мосці вазьмуць мяне з сабой...

Доктар раззлавана зблiснуў вачыма на ўвішнага вучня, які ўвесь час шукаў прыгодаў на сваю русявую галаву, але запярэчыць не паспеў. Пан Грос з той жа абыякавай фізіяноміяй ветліва прамовіў:

— Ваша прапанова – гонар для нас, шаноўны пан Вырвіч, але мы не можам узяць з сабой кагосьці яшчэ, шчыра перапрашаем вашу мосць. Адпачніце таксама пасля дарогі, я загадаю прынесці ў ваш пакой збан найлепшага віна.

Пранціш толькі губу прыкусіў ад расчаравання.

Віно сапраўды прынеслі, але Пранціш піць не стаў. Мала што падмяшалі хітраваны. Прыгода і таямніца былі побач, і вабілі, як ваўкалака поўня.

Юнак ляжаў, не распранаючыся, пад коўдрай і напружана прыслухоўваўся: у доме відавочна з’явілася шмат людзей, на першым паверсе чуліся ціхія галасы, рыпелі дзверы. А вось і на двары крокі.

Не, выседзець немагчыма... Адвага ці мёд п’е, ці кайданы трэ. Застаецца спадзявацца, што Лёднік сапраўды ўшчэнт выснажыўся — Вырвіч бачыў, чаго таму каштаваў “энергетычны масаж”, і спіць не так чуйна, як звычайна. Былы шкаляр хуценька змайстраваў пад коўдрай з усяго, што пад руку трапілася, “цела”, як звык рабіць у канвенце езуіцкага калегіюму, выбіраючыся ноччу на пракуды, ціхенька вышчаміўся за дзверы і слізгануў уніз па прыступках. Каб не сутыкнуцца з кімсьці, давялося сунуцца ў катух пад лесвіцай, прызначаны для прыслугі – там пахла півам і хтосьці, лежачы на сенніку, соп, бачачы ўва сне, відаць, дзясяты шчасліва асушаны

куфаль. Нечая постаць набліжалася да прыадчыненых дзвярэй. Дрогкае святло свечкі слізганула ў пакой, як здрадлівы балотны агеньчык. Вырвіч прыціснуўся да рыззя, што вісела на ўбітым у сцяну цвіку і выпраменьвала водар прэлага лісця.

— Трэба прыхапіць Базыля, — зашапталіся ў калідоры. – Ён нягеглы, але дужы і да таго ж нямко.

Зараз жа ў пакой зайшоў чалавек, захутаны ў плашч:

— Базыль, уставай! Праца ёсць…

Для вернасці тыцнуў похвамі шаблі ў постаць на сенніку і сышоў. Базыль замыкаў… Але не прачнуўся, толькі перавярнуўся на другі бок і засоп далей. Напэўна, піва ў Менску варылі не горшае, чым у Вільні.

Гэтым Вырвіч не мог не скарыстацца. Хуценька намацаў вопратку, што вісела на сцяне… Світка была трохі велікаватая ў плячах – на жаль, Пранціш Вырвіч не адрозніваўся асілкавым целаскладам, затое меўся капюшон… Які драгун зараз жа нацягнуў на галаву. Ён бачыў учора гэтага Базыля – унуранага, з апушчанай галавой, толькі адзін раз паказаліся з-пад каптура запалыя вочы на круглым твары. Нічога, не пазнаюць… Крывабокага нямко ўдаваць няцяжка.

На двары сабраўся тузін самых падазроных асоб: у плашчах, капелюшах, каптурах, насунутых на вочы, як у Пранціша, альбо з завязанымі да вачэй шалікамі. А вось, мусіць, і пан Шрэдэр – ступае павольна, але сам, нездарма Лёднік стараўся.

Адна з постацяў стала перад ліхтаром, чалавек прыўзняў руку, адхінулася крысо плашча… Сіні жупан са срэбным літым поясам, з гузікамі з вензелем Караля Радзівіла… Альбанчык! Адзін з прыбліжаных Пане Каханку! У бойку пад штандарам свайго пана, дзе можна загінуць, альбанчыкі заўсёды так апраналіся, значыць, і цяпер чакае небяспека. Вырвіч агледзеўся: вунь у таго таксама шабля з-пад плашча тырчыць, срэбны пояс паблісквае… Значыць, дзеля Радзівіла справа будзе!

— Ідзі за намі, рабі, што скажу, тады заўтра дазволю ў карчомку схадзіць на ўвесь вечар, — шапнуў Пранцішу адзін з людзей, магчыма, гаспадар дома, у якім яны спыніліся. Ілжэ-Базыль пакорліва нахіліў галаву, перакасіўся набок…

Постаць за постаццю знікалі ў напрамку руінаў Троіцкага кляштара, быццам прывіды мнішак, якія калісьці тут жылі, збіраліся на месу. Апошні чалавек вёў каня, запрэжанага ў калёсы, так што ўзнікала падабенства і з таемным пахаваннем. Цемра была – як у закінутай печы, толькі першы, хто ішоў – здаецца, Грос – падсвечваў шлях ліхтарыкам-кажаном, які ашчаджаў нешырокі прамень…

Дзесьці падаў голас сабака, але не злосны, не спалоханы – а так, санліва-дзелавы: вось, бачыце, я на варце, я не лайдачу… Закрумкалі вароны ў парадзелых шатах цудам ацалелых ад нядаўняга пажару тапаляў. Пранціш прайшоў разам за ўсімі ў прагал брамы. Потым па прыступках – уніз, у сутарэнні, над якімі засталіся толькі рэшткі храма. Ногі слізгалі па мокрым каменні. Пана Шрэдэра падтрымлівалі пад рукі, але ён рухаўся дастаткова бадзёра.

Вырвічу было непамысна, як каляднай гусі, якая раптам уцяміла, што за харчаванне разынкамі і арэхамі трэба расплочвацца. Відно было, што ўваход у сутарэнні нядаўна расчышчалі: убаку ляжалі кучы друзу. А ў каменных плітах падлогі ўгадваліся дзверы. Пранціш успомніў, што такія ж ён бачыў у сутарэннях кляштара бернардзінак, дзе ім даводзілася хавацца з Лёднікам, і вялі яны ў падземныя хады, якімі з'ядноўваліся ўсе храмы горада і ратуша. У ратушу яны тады і хадзілі гэтымі пацучынымі ўладаннямі…

Але тут давялося спускацца куды глыбей, чым у базыльянскім кляштары, стромыя каменныя прыступкі ніяк не заканчваліся – добра, што цяпер запалілі адразу некалькі ліхтароў, а то галаву звярнуць было б, як клёцку пражаваць. Так, без майстэрства Лёдніка Якуб Шрэдэр і з адной такой прыступкі не споўз бы… Ды яшчэ камень вільготны – вада ажно па сценах цячэ. Ну так, непадалёк жа рака… І калі хады вядуць у цэнтр горада, значыць, цяпер давядзецца прайсці пад рачной плынню. Ад гэткага ўсведамлення Пранціш стаў мокры, як той мур. Добраахвотна лезе ў пастку… А пры сабе ні шаблі, ні пісталета… Толькі кінжальчык за пояс сунуў. А ў іншых вунь – і зброя з-пад плашчоў выпірае, і ўсялякія жалезныя прылады… Не, Лёднік мае рацыю, калі лаецца на вучня за легкадумнасць.

Але калі спусціліся ў праход з высокай скляпеністай столлю, дастаткова шырокі, каб размінуліся два чалавекі, нават такія тоўстыя, як нябожчык кароль Аўгуст Сас, прадчуванне прыгодаў і прагная цікаўнасць выціснулі ўсякую боязь. Пранціш насунуў капюшон глыбей і закульгаў за кампаніяй.

Нейкі час дарога ішла моцна пад адхон. Там, дзе са столі не крапала, а лілося, пэўна, і несла свае восеньскія воды Свіслач. Потым шлях стаў сушэйшы, павёў наверх. Затое з'явілася шмат адгалінаванняў. Вось тут і распараджаўся пан Шрэдэр, які ішоў наперадзе разам з Гросам. Стары спыняўся, падносіў ліхтар да сценаў, вышукваючы аднаму яму вядомыя знакі… Часам у цемры бакавога ходу мроіліся нечыя чырвоныя вочы… Ніхто не размаўляў, нічога не пытаўся. Нават Шрэдэр паказваў дарогу толькі жэстамі.

Таму калі ён вымавіў: “Тут!”, слова прагучала пад вільготнымі зводамі, як грымоты.

Але “тут” азначала глухі цагляны мур, у які ўпіраўся адзін з бакавых хадоў. Як кажуць, прыйшоў, таўкача аблізаў ды пайшоў.

Тым не менш ніхто не здзівіўся, двое выйшлі наперад і па знаку Гроса, які трымаў ліхтар, пачалі дзяўбсці сцяну цяжкімі чаканамі.

Вырвіч не паспеў засумаваць – таму што кладка была ў адну цагліну, і хутка замест сцяны зеўраў прагал, за якім бачыўся працяг сутарэння.

Парушальнікі спакою пацучынага царства адзін за адным прабіраліся ў новы ход. Потым быў яшчэ адзін мур, які належала разбіць…

І вось…

Пан Якуб Шрэдэр пачаў чытаць малітву, слёзы цяклі па ягоным маршчыністым твары – як у чалавека, які нарэшце выканаў даўно ўзятую на сябе прысягу і цяпер вольны…

Вырвіч сунуўся ў прагал… Ад бляску давялося прыжмурыцца. Залатыя падсвечнікі, пацiры, рэлікварыі, прыкрашаныя каштоўнымі камянямі…

У галаве нарэшце бліснула здагадка.

Золата езуітаў!

Здарылася гэта ў 1701 годзе. Тады цар Пётр Першы са сваім войскам заняў Менск… І дужа пасябраваў з езуітамі – паколькі быў схільны да ўсяго новага, да навук і майстэрстваў. Яго ўразіла сістэма навучання ў калегіюме, нават падумваў нешта пераняць… Але між тым царскаму саюзніку Аўгусту Моцнаму далі пытлю, наперадзе расейцаў чакала адступленне, і настрой цара перамяніўся… Расейскія войскі, а там было шмат калмыцкіх атрадаў, пачалі рабаваць дамы і храмы. Не адрозніваючы каталіцкіх, уніяцкіх і праваслаўных. Тады і схавалі езуіты свае скарбы ў сутарэннях. А потым настала вялікая пошасць, смерць забрала апошніх сведкаў…

Але, відаць, не ўсіх. Пан Якуб Шрэдэр – ці як яго там насамрэч завуць – захоўваў таямніцу схаванага золата. Наўрад ён сам прысутнічаў пры падзеях шасцідзесяцігадовай даўніны – але нехта яму сакрэт перадаў. Цяпер было зразумелым, чаму старога катавалі, і з-за чаго на яго палявалі і расейцы, і людзі караля… Мяркуючы па ўбачаным, тут золата хопіць, каб развязаць яшчэ адну вайну. І скарыстацца ім прызначана Пане Каханку, самаму магутнаму апаненту Панятоўскага і расейцаў.

Грос выйшаў са скарбніцы з невялікім куфэрачкам у руках, пляскатая фізіяномія яго ззяла, як намаслены блін.

— Ёсць! Зверху стаяла, рызай накрытая.

Шрэдэр абапёрся рукой аб сцяну.

— Пакажы!

Зыгмунд адчыніў куфэрак і дастаў адтуль загорнутае ў калісьці белае палатно нешта незразумелае: пашкамутаная залатая палоска, скручаная ў няроўную васьмёрку і потым яшчэ раз перагнутая напалам, са слядамі мацаванняў, дзе, напэўна, калісьці былі каштоўныя камяні, с высечаным дзіўным арнаментам. Быццам цмок пажаваў.

Шрэдэр дрыготкімі пальцамі пераграгнаўся, потым раптам дакрануўся вуснамі да залатога скрутка.

— Дзякуй табе, Божа!

Грос цалаваць знойдзенае не стаў, проста схаваў куфэрак за пазуху. Рэліквія нейкая, відаць.

Пранціша заўважна штурханулі ў спіну.

— Чаго стаіш, як даўбень, ідзі насі!

Вырвіч пакорліва прыняў ад здаровага спадара з насунутым на твар капюшонам невялікую, здавалася б, скрыню... І ледзь не паваліўся з ёю на падлогу: мусібыць, нямко-прыслуга Базыль і звык цягаць такі цяжар, але шляхціц Вырвіч гэтак падарвецца! Пранціш патрос сваю ношку: манеты, здаецца. А ўявіць, колькі ісці да выхаду!

Але з'явілася некалькі ручных калёсцаў, напэўна, загадзя падрыхтаваных у сутарэннях, і справа пайшла хутка. Вырвіч паспеў два разы адвезці гружаную каламажку да выхаду – так ужо чакалі трое, перадаючы адзін аднаму ўздоўж лесвіцы каштоўнасці...

Калі Пранціш вярнуўся апошні раз, ён заўважыў, што пан Шрэдэр, які так і стаяў ля ўваходу ў скарбніцу, побач з ліхтаром, заплюшчыў вочы і паціху абсоўваецца на падлогу... Падобна, здарылася тое, пра што папярэджваў Лёднік: скончыўся часовы эфект лекаў, і цяпер хвораму станецца яшчэ горш... Чаму ж Грос марудзіць даць мікстуру?

Пранціш нагружаў сваю каламажку, удаючы, што цалкам паглынуты гэтым працэсам, а сам пільна прыглядаўся. Грос стаў над старым, на ягоным твары можна было нават прачытаць некаторую разгубленасць. Рука палезла ў кішэню каптана, нерашуча дастала бутэлечку з чырвонай вадкасцю, але шкляніца вярнулася на месца. Між тым апошнія скарбашукальнікі пакідалі сутарэнне. Толькі Пранціш дагружаў срэбныя талеркі. Грос агледзеўся, потым нахіліўся над панам Шрэдэрам, крануў за шчаку – галава старога бязвольна апусцілася на плячо. Відаць, Зыгмунд вырашыў, што Шрэдэру

засталося нядоўга. Выпрастаўся і прагаварыў урачыста, як над свежай магілай:

— Вы выканалі сваю місію, настаўнік. Золата паслужыць нашым мэтам. Дзякую вам. Цяпер я не павінен умешвацца ў Божую волю. Прабачце. Усе мы – ганчакі Божыя. Амін.

Павярнуўся і пайшоў, скасавурыўшыся, праўда, на фальшывага нямко, які грузіў сабе каламажку ў скарбніцы і нібыта нічога не разумеў у сітуацыі.

Вось навалач!

Стары вытрываў нялюдскія пакуты, каб золата дасталося вам дзеля вашых інтрыгаў, і цяпер можа спакойна паміраць! Ганьба!

Вырвіч вывез са скарбніцы нагружаныя калёсцы, да якіх быў прымацаваны ліхтар, і прыпусціў за Зыгмунтам Гросам. Каламажка грымела, падскокваючы на каменні, і ледзь не збіла пана Гроса. Той вылаяўся на няўклюднага слугу, што прыціснуў яго да сцяны і выкуліў палову дабра на падлогу, і рушыў далей.

Пранціш, кінуўшы калёсцы, бегма вярнуўся назад. Пан Шрэдэр усё гэтак жа сядзеў, заплюшчыўшы вочы, толькі чуваць было няроўнае дыханне. Вырвіч паднёс ліхтар бліжэй: вусны старога аж сінія... Драгун зняў накрыўку са шкляніцы, спрытна выкрадзенай з кішэні паскудніка Гроса, адмераў дваццаць кропель... Давялося пашчыраваць, каб прымусіць старога праглынуць лекі.

Нейкі час нічога не адбывалася – Вырвіч нават падумваў, што давядзецца адмераць яшчэ дзесяць кропляў. Але талент Лёдніка не схібіў. Вусны хворага здрыгануліся, збліснулі шэрыя вочы, ён глыбока ўздыхнуў... Толькі цяпер Пранціш уцяміў, што знаходзіцца тут патаемна, у абліччы нямога Базыля... Але запозна: стары пазнаў увішнага драгуна. Зноў заплюшчыў вочы і прагаварыў ціха:

— Божая воля праяўляецца праз тыя інструменты, якія Ён абірае. Дзякую, пан Вырвіч.

Пранціш адкашляўся.

— Што цяпер? Магчыма, пану лепей не паказвацца на вочы гэтаму... Гросу?

Стары раптам нявесела засмяяўся.

— Няхай вашамосць за мяне не баіцца. Усё сапраўды ў Божай волі.

Устаў, трымаючыся за сцяну, правёў рукой па спацелым ілбе.

— Ваш старэйшы сябар – сапраўдны геній. Думаю, што змагу дайсці да выхаду. Праўда, другой порцыі такіх цуда-лекаў я, бадай, не перажыву.

І пайшоў паціху, не выказваючы ніякага абурэння ўчынкам Зыгмунда Гроса, які яго яшчэ і настаўнікам назваў. Нічога сабе вучанічок!

Пранціш параўняўся са сваёй перакуленай каламажкай, хуценька паскідваў на яе падсвечнікі і талеркі і неўзабаве дагнаў Шрэдэра, які ішоў памалу, трымаючыся за сцяну. Наперадзе пачуліся галасы. Стары азірнуўся на Пранціша і прагаварыў:

— Не прымайце блізка да сэрца, вашамосць, з'явы, сэнсу якіх не разумееце. Я мог учыніць – і ўчыняў — такое ж, як Зыгмунд, калі мэта патрабавала ахвяраў. Але тут не павінна быць хібаў. А Зыгмунд схібіў. Паспяшаўся, – на твары старога з'явілася ўсмешка, але весялосці ў ёй было не больш, чым у выскале аголенага чэрапа. Падобна, у пана Гроса з'явяцца праблемы...

Ды яшчэ хутчэй яны могуць з'явіцца ў Пранціша Вырвіча, калі пан Шрэдэр зараз яго выдасць.

Але езуіт прамаўчаў. Толькі скупа ўсміхнуўся пану Зыгмунту Гросу, які выказаў стрыманую радасць ад таго, што настаўнік па волі Божай акрыяў. А супраць тае волі не папрэш. У сваю чаргу пан Шрэдэр быццам забыўся, што вучань пакінуў яго паміраць, нібыта такі ўчынак быў сам сабой зразумелым. Засталося спадзявацца, што забіваць свайго настаўніка наўпрост пан Зыгмунд не мае права. Вырвіч падгледзеў, якімі спакойнымі ўсмешкамі і позіркамі абмяняліся езуіты, і ў чарговы раз падумаў: ну і кубло гадзючае... Што за людзі? Быццам звычайныя чалавечыя пачуцці для іх не існуюць.

Пранціш здаў каштоўны груз, дапамог перакладваць яго на калёсы, потым, калі прыехалі на двор, мусіў наладоўваць карэту золатам, як кумпяк – накрыпкай. Усё, вядома, туды не ўлезла, але цяпер іхні экіпаж быў здабычай, вартай караля.

У пакой удалося вярнуцца толькі пад раніцу, пакінуўшы ў катуху Базыля смярдзючыя апранахі – нямко па-ранейшаму салодка соп. Драгун паваліўся на ложак... Гэтак працаваць яму не даводзілася даўно. Ды што там – можа, і ніколі. Цягаў ды грузіў, як лонданскі докер. Пранціш прыпомніў лонданскую вандроўку і ўздыхнуў: тады побач была панна Багінская, і мелася надзея на яе каханне... А цяпер – карэта, напханая езуіцкім золатам... І перспектывы ператварыцца ў дзяржаўных злачынцаў. Ды калі і ўдасца ўсё выканаць гладка – ці не ўчыніць Грос з двума праваслаўнымі наймітамі так, як з панам Шрэдэрам? У імя вышэйшай мэты, без злосці і без спачування... Во патрапілі – як мышы ў дзёгаць...

Трэба распавесці ўсё Лёдніку... Але сіл устаць не было. Апошняе, што запомніў гэтай ноччу Вырвіч – далёкае скавытанне

сабакі, нібыта папярэджанне наіўным: які б не быў доўгі ланцуг – ад гаспадара не ўцячэш.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ. ЯК ПРАНЦІШ ВЫРВІЧ ПАЗНАЁМІЎСЯ З ЕГІПЕЦКАЙ ПРЫНЦЭСАЙ

Калі табе ў Таро выпала карта Караля Кубкаў, гэта вельмі някепска: сустрэнеш добрага памочніка і дарадчыка, бо картачны кароль асушвае да дна кубак праблемаў і няшчасцяў, і сваіх, і чужых. У той час, як чалавек практычны цэліць сваю порцыю воцату і жоўці выплюхнуць цераз плячо ці крадма падліць бліжняму свайму.

Не, піць трэба венгерскае, райнвайн, мальвазію ці шампанскае віно, якое ўвайшло апошнім часам у моду ў Вялікім княстве. А калі не хапае ў сумленнага шляхціца грошай на сапраўдныя напоі – а дзяруць жа за іх, халера на тых гандляроў, як з авечкі на кажух, — то заўсёды маюцца рэцэпты самадзейных алхімікаў. У кожным ліцвінскім фальварку ўмеюць прыгатаваць мальвазію з гамбургскага піва, а шампанскае – з бярозавіку, цытрыны, цукру ды дрожжаў.

Праўда, у палацы, да якога пад'язджала карэта з патаемным грузам, шампанскае з бярозавіку дакладна не гатавалі. У гаспадароў хапала дукатаў на ўсё найлепшае. Мармуровыя Артэміды і Марсы бялелі ў восеньскім прыцемку ўздоўж прысадаў прывіднай ганаровай вартай, палац падаваўся ў цемры агромністым, як белая гара, а карэтаў перад урачыстымі прыступкамі панаехала, бы на элекцыйны сойм.

Але тут адбываўся не сойм і не сеймік, дзе сабраліся дзяліць булаву ваяводы альбо месца маршалка. Не размахваў ніхто ваяўніча шабляй, выкрыкваючы пагрозы ворагам, не касавурыліся адзін на аднаго надзьмутыя шляхцюкі, гуртуючыся вакол свайго патрона, не гучалі палкія прамовы... З карэтаў ціха выслізгвалі постаці захутаных у даміно і плашчы-капуцыны дам з кавалерамі, але лёкай не абвяшчаў імёны высокіх гасцей, адзін за адным прыезджыя моўчкі знікалі за дзвярыма...

Калі карэта, нашпігаваная езуіцкім золатам, падкацiла да палацу, Лёднік утаропіўся цяжкім позіркам у пана Гроса. Той ветліва ўсміхнуўся:

— Усяго толькі свецкая забава, пан доктар. Публічны эксперымент, вам будзе цікава. Проста пасядзіце разам з панам Вырвічам, паглядзіце прадстаўленне... Атрымаеце насалоду.

— Спадзяюся, не такую, як індычка на калядным балі? – з'едліва папытаўся былы алхімік. Пан Шрэдэр, які ляжаў на сваіх

падушках, крыва пасміхнуўся на гэтыя словы, Грос загаварыў нешта супакаяльна-ветлівае…

Але настрой Баўтрамея не палепшаў. Прафесар Віленскай акадэміі ўвогуле быў страшэнна злы, ледзь стрымліваўся, ажно ад таго часу, як Вырвіч распавёў яму пра свае начныя прыгоды. Вядома, напачатку доктар пераняўся, што падапечны мог загінуць, потым абурыўся, што сам патрапіў у сэрца чужой інтрыгі. Згарача заявіў, што трэба неадкладна вяртаць наймальнікам грошы і з'язджаць, бо нават у выпадку, калі золата вывезуць, цалкам магчыма, што ад сведкаў пазбавяцца самым банальным старажытным спосабам, прыпісаўшы свінцовую дыету ці крывепушчанне проста з пячонкі.

Пранціш быў гатовы пагадзіцца… Але разважылі, супакоіліся. У інтрызе іх усё роўна "засвяцілі", як маглі – паспрабуй пасля даводзіць, што нічога не ведалі, правозячы праз жаўнераў сваіх падазроных спадарожнікаў. Здаць Шрэдэра і Гроса ўладам альбо расейцам – супраць годнасці, да таго ж нажывуцца такія ворагі, што не толькі з Акадэміі — з Вільні ды Беларусі давядзецца ад помсты ўцякаць. А што будзе з пані Саламеяй ды Алесікам? Са студыёзусамі, якіх Баўтрамей Лёднік рыхтаваў да доктарскай прафесіі, цвічыў і ганяў бязлітасна, але нізавошта не пагадзіўся б, каб з-за яго займелі непрыемнасцяў?

Вельмі ўважліва Лёднік выслухаў і расповед пра залатую сагнутую паласу, якую Шрэдэр цалаваў. Доктар запатрабаваў, каб Пранціш дакладна ўспомніў, як выглядала, што за арнамент яе прыкрашаў. А калі Вырвіч накрэмзаў алоўкам нейкую загагуліну, якую запомніў, доктар схапіўся за галаву.

— Гэта руны, — абвесціў ён. – Такія могуць быць толькі на прадмеце, які належыць каралю. І лепей бы я памыляўся, але падаецца мне, што мы зноў маем справу з рэліквіяй, за якую моцныя гэтага свету могуць доўга і зацята грызці адно аднаму горлы.

— Ды што ж гэта такое? – здзівіўся Пранціш.

— Хто ведае… — змрочна сказаў Лёднік. – Можа быць і каралеўскі пояс, і кавалак рэлікварыя ці рызы ад іконы, ці нават карона.

— Дык не падобна ж ні кропачкі на карону!

— А ты ўяві, што залаты абруч памялі і пашкамуталі…— разважыў Баўтрамей.

— Дык… дык тады гэта карона Вітаўта! – ўзрадваўся Вырвіч. Але доктар толькі паморшчыўся.

–Цяпер ніякай байкі пра даўніну не пачуеш, каб не згадваўся дзіўным чынам аднойдзены кавалак той скрадзенай Вітаўтавай

кароны, і абрыдлі гэтыя гавэнды, як казка пра цара Дадона. Не, васпан. Руны, што ты бачыў – скандынаўскія. Гэта штука з поўначы, ад саксаў ці шатландцаў... У 1649 годзе, калі кромвелеўцы ангельскаму каралю галаву адсеклі, то ўсе кароны, знойдзеныя ў скарбніцы, пастанавілі паламаць і пашкамутаць. Тады любы валацуга мог займець каралеўскую рэліквію. Ат, што гадаць, як бабка на рэшаце, лепей нам пра тую рэч нічога не ведаць.

А яшчэ Лёднік змрочна заявіў, што хутчэй за ўсё ні ў які Гутаўскі кляштар езуіты ехаць і не збіраліся, проста калі шпегі данеслі Юдыцкаму пра планы Вырвіча, абвешчаныя ва ўсе карчомныя прасторы, гэта выкарысталі, каб вярней залучыць драгуна і прафесара ў найміты. Ад чаго Пранцішу сталася яшчэ паганей – каму прыемна ўсвядоміць, што яго падманулі, як хлапчыску.

Вось такі атрымаўся расклад Таро – у цяперашнім часе ўсе карты перакуленыя, а на той, што прадказвае будучыню, намаляваны пачэплены за нагу шыбенік. Нават малітва перад абразам маці Божай Менскай, пісаным апосталам Лукою, не прынесла палёгкі. Бо тут жа маліліся езуіты Грос і Шрэдар з такой багавейлівасцю, што ўспаміналіся старагрэцкія трагедыі і акцёры на катурнах.

А пасля – вось гэты візіт у палац пад Менскам, што дастаўся ў пасаг Вераніцы Радзівілаўне, дачцы гетмана-нябожчыка Казіміра Рыбанькі.

Усе прысутныя былі з закрытымі тварамі, як на маскарадзе. Прычым і Лёдніку з Пранцішам Грос выдаў яшчэ ў карэце чорныя аксамітныя маскі. Ціха – чуўся толькі ўсхваляваны шэпт. Змова? Закалот? Таемнае таварыства?

Толькі ў паўцёмнай зале з невялікай, ярка асветленай паходнямі сцэнай, дакладней, пляцоўкай, уладкаваўшыся на крэслы ў самым куце, Пранціш і Лёднік даведаліся, куды патрапілі. На пляцоўку выйшаў чалавек у белым камзоле, без маскі, але па ўсім відаць – не пан, так, паўпанак, прыслуга.

— Ад імя яснавяльможных гаспадароў вітаю высокае панства і выказваю падзяку за той гонар, які вашыя мосці ўчынілі гэтаму дому, уганараваўшы сваім наведваннем. Але сеанс белай магіі, які зараз прадэманструе ўсім вам вядомы магнетызёр і знаўца таемных навук граф Рудольфіюс Батыста, што завітаў у гэты маёнтак па дарозе ў Варшаву, павінен апраўдаць усе надзеі вашых мосцяў і ўзнагародзіць за дарожныя нягоды.

Жабрак жабраку відаць па кійку... Пранціш скасавурыўся на Лёдніка: вядома, у цемры ды пад маскай немагчыма было разгледзець доктарскія эмоцыі, але Вырвіч выразна ўяўляў, як прафесар

крывіцца, і словы “яшчэ адзін шалбер”, напэўна, самыя мяккія з тых, якімі прафесар у думках адорвае чарговага мага. Але самому Вырвічу было дужа цікава паглядзець на дзівосы – Лёднік, хоць тое-сёе ўмеў і сам, паказваць свае магчымасці адмаўляўся катэгарычна.

Слуга нізка пакланіўся – святло паходні афарбоўвала белую парчу ягонага камзолу ў крывавы колер — і абвесціў з некаторай дрыготкай у голасе:

— Ягамосць граф Рудольфіюс Батыста і ягоная жонка, графіня Серафіна Батыста!

Зараз жа па зале прайшоўся халодны павеў ветру, агні паходняў і свечак замігцелі, прыгнуліся, як бы ў жаху... І на сцэну выйшаў чалавек сярэдняга росту, гадоў за сорак, у чырвоным камзоле, расшытым чорнымі і срэбнымі змеямі, і ў цюрбане, на якім паблісквалі каштоўныя камені. Рысы фанабэрыстага круглага твару былі хутчэй мяккія, чым суровыя, толькі куточкі роту пагардліва апушчаны, ды шырока расстаўленыя шэрыя вочы глядзелі непрыемна пранізліва. У прынцыпе, у абліччы чалавека не было нічога незвычайнага — такога можна было ўявіць на любой асамблеі, свецкай бяседзе, насупраць за ломберным столікам... Але нешта ўсёткі мелася ў рысах, што наводзіла на думку пра гадзюкаў, скарпіёнаў і тыя нябачныя позіркі, што мрояцца, калі заходзіш на гарышча ці ў цёмную камору. Чалавек нейкі час стаяў моўчкі, пільна ўглядаючыся ў залу, як палкаводзец з гары аглядае перад пачаткам вырашальнай бойкі войска праціўніка. Пранцішу нават прымсцілася на імгненне, што з вачэй мага выпраменьваюцца веерамі вясёлкавыя промні.

— У гэтай зале сабраліся смелыя людзі, якія не баяцца зазірнуць за тую завесу, за якой знаходзіцца недаступнае звычайнаму чалавечаму воку, — нарэшце, калі чаканне зрабілася амаль невыносным, прамовіў густым, заварожваючым голасам граф Батыста. – За апошнія тры тысячы дзвесце сорак адзін год я магу ўспомніць толькі некалькі дзесяткаў людзей, якія перанеслі такое знаёмства без аніякай шкоды для нерваў. І большасць з іх я сустрэў яшчэ ў той час, калі быў жрацом Тота ў Мемфісе і мяне звалі Атхесенпаамон. Калі хтосьці адчувае, што не вытрымае далучэння да таямніцаў, яму лепей зараз жа сысці.

Граф абвёў вачыма грамаду. Але ніхто не ўстаў з месца, толькі дамы пачалі мацней абмахвацца веерамі, так што ад паневаў зноў здрыгануўся агонь свечак і паходняў. Маг расцягнуў вусны ў злавеснай усмешцы:

— Ну што ж, я вас папярэдзіў. Тады зараз перад вамі пакажацца тая, каго вы ведаеце пад імем графіні Серафіны Батыста,

а насамрэч мы з ёй пазнаёміліся тры тысячы гадоў таму, і была яна дачкой фараона, і насіла імя Семпенсентра, што азначае Тая, што размаўляе са змеямі.

У цемры загучала трывожная і пяшчотная мелодыя, якую нехта наігрываў на флейце. Але графіня не з’явілася, замест яе двое слуг асцярожна ўнеслі вялізнае люстра ў цяжкой бронзавай раме з выявамі пераплеценых змей і паставілі пасярод сцэны. Граф падыйшоў да яго – усе выразна бачылі ягонае адлюстраванне, прагаварыў нешта на незнаёмай мове, сыпануў у люстра нейкім парашком і зараз жа адскочыў. Шкло памутнела, быццам запацела, потым па ім пайшлі дробныя хвалі, як па вадзе, а потым паверхня перастала быць роўнай... Яе, як тканіну, нацягвала нешта знутры... Раптам мутная паверхня лопнула, як мыльны пухір. І пад віскат кабетаў з бронзавай рамы на сцэну выйшла егіпецкая прынцэса.

Што гэта прынцэса – пазнаў бы нават вясковы пастух. Таненькая, але высокая, з каралеўскай паставай, захутаная ў залацісты шоўк, які абліваў вытачаную фігурку. Галава ганарыста адкінутая, на чорных бліскучых валасах – простая дыядэма з адзіным камнем, які ззяў зялёным агнём. І вочы– светла-зялёныя, аж празрыстыя, і вялізныя – мусіць, ад таго, что падведзеныя чорным. Тонкія бровы, таксама падфарбаваныя, узляталі над імі не ганарліва, а журботна... Скура не смуглявая, а малочна-белая, аж свяцілася. Рысы твару тонкія, але носік зусім не такі, як на карцінках з выявамі фараонаў, самую трошачку прыўзняты, да яго вельмі пасавалі б пяшчотныя рабацінкі, хаця якія рабацінкі могуць быць у прынцэсаў? Яркія вялікаватыя пульхныя вусны з цнатлівай, даверлівай складкай, як у дзіцяці. Але галоўнае – што гэтая прыгажосць была не лялечнай, а адухоўленай, здавалася, што без слоў пані расказвае трагічную гісторыю, якая не можа не кранаць... І рухі – гэтак плаўна, гэтак грацыёзна немагчыма рухацца, калі чалавек не вучыўся балету...

І тут Пранціш усвядоміў, каго яму нагадвае егіпецкая прыгажуня. Ну так, яна страшэнна падобная да прыгоннай актрысы Міхалішыўны са Слуцкага тэатру, які належаў Гераніму Радзівілу. Толькі ў той валасы былі не чорныя, а светла-русявыя. Пранціш з Лёднікам у палацы выдавалі сябе за немцаў, і Вырвіч гадзінамі сядзеў на рэпетыцыях, заварожаны плаўнымі рухамі Міхалішыўны, і як мог, перамігваўся з ёю... Праўда, калі наглядчык заўважаў, што актрыса скіроўвае ўвагу ў залу, ёй зараз жа даставалася палкай па руках і спіне. Такія ўжо былі парадкі ў палацы Радзівіла Жорсткага... У тэатр забіралі гвалтам дзяцей сялянаў і нават мяшчукоў, і дзеткі тыя ад

суровай муштры хварэлі, паміралі... А тыя, што выжывалі, маглі таньчыць так, што знаўцы з Еўропы захапляліся.

Тады Пранціш доўга не мог змірыцца з тым, што прыгонная дзяўчына выглядае так высакародна... Бо яна ж закранула ягонае сэрца, а дама шляхціца павінна быць радавітай!

А цяпер ён не мог даць веры, што графіня Серафіна Батыста – і ёсць тая Міхалішыўна! Але чым больш углядаўся, тым здагадка мацнела.

Між тым пасярод сцэны паставілі стол, накрыты доўгім чорным аксамітным абрусам з вышытымі залатой біццю незразумелымі знакамі. На стале ўмацавалі вялізны крышталёвы шар.

Лёднік выразна хмыкнуў, абазнаны ў падобных штукарствах. Падобным шарам дурыў ангельскага доктара Дзі ягоны слуга, паказваючы духаў, у прыватнасці нейкага Урыеля, так што доктар урэшце страціў аўтарытэт, жонку і грошы. Пранціш гэта таксама выдатна ведаў, бо давялося пабываць у Ангельшчыне і змагацца за спадчыну таямнічага Дзі.

Але калі егіпецкая прынцэса з жывой змяёй на шыі замест маністаў заспявала над шарам высокім чыстым голасам, і пад яе рукамі змесціва сферы пачало ажываць, закружыўся туман, узніклі незразумелыя вобразы, Вырвічу стала весела і страшна, гэтак жа, як і ўсім у зале, і ён пастараўся не зважаць на хмыканні прафесара. А граф Батыста, ці як там яго... Атхе... Андхер..., тут жа тлумачыў, што менавіта сіньёра Серафіна з падказкі сваёй празорцы-змяі бачыць праз эфіры.

А бачыла яна шмат чаго: двор кітайскага імператара, вывяржэнне вулкана на востраве ў Ціхім акіяне, атрыманне адным з прысутных у зале, які загадаў на сваю будучыню, Ордэна Белага арла – пры гэтых словах усе мужчыны нецярпліва заварушыліся, але граф не ўдакладніў наконт асобы шчаслўчыка. А што вы хочаце – гэта ж эфіры, магнетызм, тут зямному воку да драбніцаў не разгледзець. А змеі ўвогуле ва ўзнагародах не разбіраюцца, ім ордэн менш цікавы, чым здохлая мыш.

Потым шар прыбралі, зайграла музыка, сумная, як лёс беднага драгуна, і жонка мага пачала таньчыць... У дасканалых рухах праглядаўся пракаветны Егіпет і царская ўладнасць... А, магчыма, муштра радзівілаўскага тэатру.

Былі і іншыя фокусы. Граф Батыста чытаў фразы на аркушах у запячатаных канвертах, ацаляў ад мігрэні і прастрэлу на адлегласці...

А потым настала самая цікавая частка – прынамсі, пра гэта можна было меркаваць па тым, як усе ўзбудзіліся, зашапталіся – ясна, што чакалі моманту. На сцэне на пакладзеных жалезных палосах усталявалі вялізную неглыбокую бляшаную скрыню — велічынёй з каралеўскі ложак. У яе акуратна засыпалі распаленыя вуголлі, разраўнялі жалезнымі граблямі так, што ўтварыўся кавалачак пекла. Чырвоны простакутнік выпраменьваў жар, як у лазні, некаторыя гледачы нават адсунуліся назад.

Сіньёра Серафіна ўселася на крэсла, хлопчык-мурын з прыслугі зараз жа апусціўся перад ёй на калені і зняў вышытыя перлінамі чаравічкі, абутыя на босую нагу.

— Папрашу ўсіх, хто жадае, упэўніцца, што прынцэса Семпенсентра не мае ніякай абароны ад агню для сваіх чароўных ножак, што яны не намазаныя адмысловай маззю.

Вырвіч пахаладнеў, зразумеўшы, што тут рыхтуецца. Але прынцэса трошкі-трошкі прыўзняла падол сваёй залацістай спадніцы, і ўсё з галавы вылецела. Гледачы ледзь крэслы не папераварочвалі, імкнучыся прысунуцца пабліжэй да спакуснага відовішча. Той-сёй сапраўды папёрся пакратаць прынцэсавы ножкі... Тая сядзела, як бы адбывалася ганебная працэдура не з ёю, светла-зялёныя вочы адсутныя, быццам прыгажуня ўглядалася ў вывяржэнне вулкана на далёкім востраве.

Вырвіча здзівіла, што Батыста дапускае, каб з ягонай жонкай гэтак вольна абыходзіліся, не падобна, каб той гэта прыемна, але мімаволі і драгуна пацягнула неадольная сіла да таненькай постаці ў крэсле... Толькі рука Лёдніка, што тузанула за крысо, вярнула да прытомнасці.

— Сядзі! – голас доктара трымцеў ад пагарды. – Не прыпадабняйся быдлу.

Гэта шляхціцы, якія сабраліся ў зале, для сына полацкага мяшчука – быдла? Але Пранціш не паспеў абурыцца – прынцэса ўзнялася і скінула залацістую спадніцу, застаўшыся ў зялёных шаўковых шальварах, што не даходзілі да шчыкалаці. А потым рашуча падыйшла да скрыні, напоўненай распаленымі вугалямі, і... ступіла на іх. Зала дружна выдыхнула... Пранціш ажно з месца ўскочыў – трэба ратаваць шалёную! Тут табе ніякая магія не дапаможа! А прынцэса затаньчыла. Дробна пераступаючы нагамі, яна нібыта плыла ў коле распаленых вугалляў, падымала рукі, быццам збіралася ўзляцець, выгінала стройны стан, з твару не сыходзіла лёгкая ўсмешка. Нават Лёднік прыўзняўся, каб лепей бачыць... А ўжо

асабліва цікаўныя ледзь носам у скрыню не ткнуліся, наколькі дазваляў жар…

…А каралеўна ўсё таньчыць, рукі ўздымае высока…

Тонка звіняць бранзалеты, кружаць яе пакрывалы

З шоўку празрысцей завеі, з вогненным імем Ваала…

Стан выгінаецца гнуткі, твар не ўсміхаецца белы….

Флейта выводзіла сумную трывожную мелодыю, і здавалася, што гэта сапраўды ўладанне феяў.

— Яна ж пакалечыцца! – мармытаў Пранціш, але доктар не падахвоціў нікога ратаваць.

— Супакойся, драгун. Не танцорка тут ахвяра.

Нарэшце сіньёра Серафіна сышла са свойго пякельнага п’едэсталу, абапершыся на руку мужа, які дапамог ёй зноў усесціся ў крэсла і звярнуўся да публікі:

— Можаце ўпэўніцца, што агонь не нанёс прынцэсе ніякай шкоды, і на яе скуры няма і найменшых апёкаў.

Зноў госці павалілі да сцэны, цяпер нават дамы, як за дармовымі марцыпанамі. Не выседзеў і Пранціш, праігнараваўшы сычэнне Лёдніка. Драгун не насмеліўся дакрануцца да белай скуры кабеты, але разгледзеў пільна: сапраўды, сіньёра быццам хадзіла не па распаленых вуголлях, а па пухнатым кіліме. Змог і пабачыць аблічча пані бліжэй. Не класічная, велічная прыгажосць, як у Саламеі Лёднік, рысы няправільныя, але адухоўленыя, тонкія, і цяпер здаецца, нібыта ў іх сапраўды стома тысячагоддзяў, а на дне празрыстых русалчыных вачэй такая туга, якая ўжо даўно перастала асэнсоўвацца нечым залішнім, пакутным – так смала паступова ператвараецца ў бурштын, і, гледзячы на ззяючы каменьчык, немагчыма ўявіць, што ён калісьці быў ліпкай вадкасцю, якой сасна залечвала свае раны.

І ўсё-ткі гэтая прынцэса — Міхалішыўна!

Сеанс егіпецкай магіі закончыўся, і можна было толькі гадаць, колькі адваліў кожны з прысутных за права пасядзець у гэтай зале, зазірнуць у крышталёвы шар, які абяцае камусьці ордэн і паказвае Кітай, а галоўнае – каб паназіраць за танцам на агні вытанчанай прыгажуні і пакратаць яе ножкі…

Пранціш, вядома, здагадваўся, што зараз Лёднік падрабязна яму растлумачыць, як менавіта дурыць галавы даверлівай публіцы шалбер Рудольфіюс Батыста… Але няхай доктар перачакае са сваймі выкрываннямі. Бо сэрцу мілей цуд і казка, нават калі ведаеш іх ілюзорную прыроду. Вырвіч з-за гэтага не падзяліўся сваймі здагадкамі пра асобу скаральніцы агню.

Але Лёднік маўчаў – не сказаў чамусьці ні слова, пакуль іх не рассялілі па пакоях, дзе кожны змог пераапрануцца і вымыцца. Спачывальні Лёдніка і Пранціша аказаліся ў розных канцах калідора. Вырвіч сцягнуў абрыдлую аксамітную маску, што стала аж вільготнай, бухнуўся на ложак, засланы мядзвежай скурай, і, гледзячы ў столь, перакрэсленую чорнымі бэлькамі, яскрава ўявіў, як падхоплівае таненькую залацістую фігурку на рукі і нясе падалей ад згубнага агню, і прынцэса – ну чаму яна не можа сапраўды ёю быць? – пазірае трывожна-ласкава...

Пранцішавы мроі перабіў стук у дзверы — зайшоў слуга, каб правесці на вячэру. Маску зноў давялося надзяваць, хаця ў палацы зрабілася ціха, і за вокнамі больш не чулася грукату капытоў і колаў: госці раз’ехаліся гэтак жа таемна, як з’явіліся. Во цяпер павет будзе гудзець ад пагалосак... Такога напрыдумляюць урэшце, не адрозніш, што насамрэч на сеансе магіі было.

Праз нейкі час Вырвіч апынуўся ў маленькім пакоі з зачыненымі аканіцамі, дзе быў накрыты стол на шэсць персон. Пакой асвятляўся свечкамі ў бронзавых падсвечніках у выглядзе райскіх дрэваў, якія стаялі на стале, таму здавалася, што вакол сціскаецца кола няўтульнай цемры. Памяшканне, цалкам прыдатнае да таемных перамоў. Але саксонскі парцалянавы посуд паблісквАў вясёлкавай глазурай, цытрыны і апельсіны ў вазах свяціліся, як маленькія сонцы... Графін з віном, чырвоным, як пакаранне егіпецкае, таксама надаваў утульнасці. Лёднік і абодва езуіты, таксама ў масках, былі ў наяўнасці. Драгун усеўся каля былога слугі і пачаў гадаць, хто ж яшчэ сядзе з імі. Няўжо гаспадары маёнтка?

І ледзь не самлеў, калі насупраць на крэсла з высокай спінкай з абрысамі гатычнага сабору апусцілася пані Серафіна Батыста. Цяпер яна была апранутая па палацавай модзе, глыбокі выраз гарсету прыкрывала бялюткая, як студзеньская шэрань, карункавая венецыянская хустачка, на шыі і ў вушках ззялі дыяменты, а вось у напудраным парыку, нагадваючы пра незвычайнае паходжанне дамы, замест штучных птушак ці кветак віліся зялёныя бліскучыя змейкі, на шчасце, таксама штучныя. Насупраць Лёдніка аказаўся пан Батыста, а Грос і Шрэдэр азіралі бяседу з тарцоў стала, як спрактыкаваныя шпегі. Шрэдэр, хаця й моцна саслаб пасля падарожжа ў сутарэнні, сачыў за ўсім даволі пільна.

Калі лёкаі, разліўшы напоі па келіхах, выйшлі з пакою, пан Грос асабіста праверыў, ці не падслухоўвае хто пад дзвярыма, зачыніў іх на ключ і толькі тады зняў маску. Адкрылі аблічча і астатнія. Пан Грос прадставіў Батыстам Вырвіча і Лёдніка, прачытаў

кароткую малітву, і крышталёвыя кубкі пачалі пусцець, застукалі відэльцы аб парцаляну…

А Пранціш лупіў вочы на суседку і ўсё не мог да канца паверыць, што перад ім прыгонная актрыса, якую ў ягонай прысутнасці білі кіем. А раптам… ну можа ж такое быць – у Міхалішыўны ёсць двайнік, можа, егіпецкая прынцэса з невымаўляльным імем выбрала сабе аблічча звычайнай зямной дзяўчыны, каб вярнуцца з небыцця? Ды якія толькі дурныя фантазіі не лезлі ў галаву драгуна, таму што пані Серафіна пазірала на яго так загадкава, столькі абяцання было ў яе светла-зялёных вачах… Быццам камень, як ён там называўся, хрызапраз, ці што? Лёднік паказваў –празрыста-зялёны, пералівісты, унутры светлая рысачка мігціць… Алхімік тлумачыў – людзі верылі, што камень гэты адганяе злых духаў, адводзіць сурокі і не падпускае да ўладальніка нядобразычліўцаў.

Хто б ні была кабета насупраць – драгун, ды яшчэ асушыўшы пару келіхаў сапраўднага венгерскага віна, быў гатовы рушыць за ёю хоць на край зямлі… Бо менавіта яму пані зараз усміхнулася пульхнымі вуснамі. І чаму там, у зале, падалося, што ў яе вачах туга і безнадзейнасць? Пранцысь нават прапусціў частку застольнай размовы… А яна, ціхая, адрывістая, вялася. Драгун, адарваўшыся ад куртуазных марэнняў, са здзіўленнем зразумеў, што абмяркоўваюцца дэталі далейшага сумеснага падарожжа. Усе паедуць у карэце графа Батысты. Экіпаж вялікі, адно дадатковае сядзенне раскладаецца, можна скарыстаць для хворага.

Ясна, хочуць магчымых праследнікаў збіць з тропу. На заставах пыталіся ўжо пра іхнюю карэту. Напэўна, золата перагрузяць у экіпаж мага. Ён жа чаго толькі, пэўна, з сабой не возіць, каб паказваць свае цуды… Адно люстра ды скрыня для вугалляў цэлы воз займуць.

Пра фокусы зараз жа гаворка і зайшла. Што егіпецкі жрэц і полацкі алхімік, знаўцы навук таемных, счэпяцца, як два пеўні на адным двары, можна было прадказаць адразу. Напачатку абодва знарочыста адзін аднаго не заўважалі. Потым пайграліся ў “глядзелкі” – пасля таго, як граф Батыста наплёў нешта пра ахвярапрынашэнні Тот-Амону, у якіх яму даводзілася ўдзельнічаць туманістую прорву вякоў таму, і Лёднік выдаў рэпліку, што Тот-Амон, паводле расшыфраваных гліняных таблічак, ніякі не бог, а жрэц, і чалавечых ахвяраў не патрабаваў, і граф, пэўна, праз столькі гадоў штосьці падзабыўся, тым болей і іерогліфы на ягоным халаце вышытыя дагары нагамі.

І панеслася… Абодва магі, раскаяны і нераскаяны, пазіралі з мілымі ўсмешкамі адзін аднаму ў вочы хвілінаў дзесяць, так што

здавалася, пастаў паміж іхнімі позіркамі жалезны шчыт – праб’юць наскрозь, як дзідамі. А гэты Батыста, хоць і шалбер, не слабы, таксама таемнымі ўменнямі валодае... Пранціш ведаў, што такое вытрываць позірк раззлаванага Лёдніка – калі той захоча, з месца не скранешся. Праўда, Батыста вочы ўрэшце адвёў – прыкінуўшыся, што яго ўвагу адцягнула пытанне пана Гроса. Потым, адказваючы на тое пытанне, як бы між іншым пакруціў у руцэ лыжку, і яна ў ягоных пальцах сама па сабе сагнулася, нібы з воску зробленая. Батыста, не перастаючы гаварыць, паклаў яе на стол, бліжэй да віленскага прафесара... Той, як бы таксама між іншым, сагнутую цудадзейным чынам лыжку ўзяў, падняў вертыкальна, трымаючы за кончык, і яна сама па сабе выпрасталася, прымусіўшы Батысту скрыгатнуць зубамі.

Вырвічу ажно смешна зрабілася. Прафесар да фокусаў апусціўся! Далібог, як шкаляры. Хоць бы не пабіліся... Езуіты, занятыя абмеркаваннем палітычных падзеяў у Еўропе – а менавіта лёсам сына памерлага Аўгуста Саса, пазбаўленага надзеі на трон хлопчыка, які зараз жыве ў радавым замку ледзь не на становішчы вязня, таксама назіралі за прыхаваным паядынкам, што адбываўся за сталом, з паблажлівай іроніяй. Вось толькі егіпецкая прынцэса чамусьці выглядала ўсё больш устрывожанай... Нават пераляканай.

— Раіў бы пану наступным разам лепш паправіць люстэрка ў праектары, які знаходзіцца пад магічным шарам, — ветліва–атрутна прамовіў да італьянца Лёднік. – Малюнак трохі скоса адлюстроўваецца, гледачы могуць штосьць западозрыць.

Батыста расцягнуў вусны ва ўсмешцы, ягоныя шэрыя вочы былі халодныя, як ледзяшы.

— Бачу, што пан прафесар не верыць ні ў магнетызм, ні ў магчымасць выхаду ў сусветны эфір. Хоча ўсё вытлумачыць навукова. Але – вось агонь, адна са стыхій... З добра вядомымі і вывучанымі ўласцівасцямі... Але наўрад пан можа навукова растлумачыць, чаму гэты агонь часам не апякае пяшчотную жаночую скуру?

Батыста падняў далоню, скіраваўшы на падсвечнік, зрабіў ледзь заўважны імклівы рух наперад – і дзве скрайнія свечкі згаслі, мутныя кроплі воску пацяглі па бронзавым ствале падсвечніка, быццам перадсмяротныя слёзы па цёмным твары старога фараона. Лёднік спахмурнеў – бо сам жа так і не засвоіў загашванне агню на адлегласці. Так што пахваліцца ў адказ не было чым. Таму зноў пачаў біцца на словах.

— Скокі на гарачых вуголлях – з’ява даволі распаўсюджаная ў свеце, — голас прафесара гучаў, як на лекцыі. – Сам я не бачыў, але чуў ад аднакурсніка-балгарына, што такія скокі ёсць у яго краіне –

там гэта практыкуюць у кожнай вёсцы. Уменне перадаецца ў сям'і з пакалення ў пакаленне. Называецца такі звычай несцерыянства, лічыцца хрысціянскім подзьвігам, таньчаць часам з абразамі ў руках. Дзяўчыны нярэдка гэтым займаюцца. Думаю, увесь сакрэт у рухах – калі пераступаць нагамі хутка, трымаючы падэшву паралельна гарачай паверхні, як бы слізгаць, скура не паспявае награвацца і не ўтвараецца апёкаў.

— Значыць, і вы, прафесар, маглі б самі гэтак прайсціся па агні? – мякка спытаўся сіньёр Батыста. – Ведаеце, нам увесь час даводзіцца сутыкацца з энтузіястамі, гатовымі давесці сваю мужнасць і спрыт, якія запэўніваюць, што разгадалі сакрэт фокуса. Калі ж, нягледзячы на папярэджванні, яны кідаліся на вуглі, заўсёды заканчвалася апёкамі. Дык як, прафесар, рызыкнецё?

Езуіты з цікавасцю ўтаропіліся на Лёдніка. Наўрад яны будуць яго стрымліваць – а чаму б не пацешыцца забаўным відовішчам, як упарты дурань шукае гузака? Лёднік трохі пачырванеў. Вырвіч разумеў, што яго настаўніка ажно распірае ад жадання прыняць выклік, але ж розуму да канца не адняло ад азарту спрэчкі. Павінен жа палачанін разумець, што палезе зараз на гарачае вуголле – хутчэй за ўсё зганьбіцца, ды яшчэ і скалечыцца. Пранціш нават стукнуў з усяе моцы ботам па назе доктара, так што той ледзь не засычэў ад болю, але стрымаўся і, апусціўшы вочы, прагаварыў:

— Пасля пэўнай трэніроўкі рызыкнуў бы.

— Вы ж разгадалі сакрэт. A fortiori *(1.Тым больш. Лац.)*, кволая кабета таньчыць, не баіцца. Давядзіце, наколькі гэта лёгка! Мы яшчэ не прыбралі абсталяванне, – працягваў пацвельваць Лёдніка італьянец.

— Думаю, панства, не варта выпрабоўваць фартуну перад нялёгкай дарогай, — ціха прагаварыў Шрэдэр, і гэта прагучала, як загад. Італьянец пераможна ўсміхнуўся і замаўчаў. Лёднік злосна падціснуў вусны... Але ўсё-ткі адпомсціўся: калі сіньёр Батыста, з іроніяй гледзячы суперніку ў вочы, пацягнуўся ўзяць відэлец, не змог адарваць металёвы прыбор ад стала. Пранціш памятаў, што былы алхімік здатны на такія фокусы: калісьці пан Агалінскі ў Тамашове гэтак жа не змог дастаць з похваў шаблю пад позіркам доктара. Батыста зрабіў выгляд, што нічога не адбылося, прыбраў руку ад відэльца і пацягнуўся за апельсінам. Цяпер вочы доктара пераможна бліснулі, і Пранціш яшчэ раз выцяў яго пад сталом нагой. Хопіць ужо даводзіць вандроўнаму факіру, хто мацнейшы! Вучоны называецца, акадэмік... Дзіва што ўсё жыццё патрапляў у прыгоды. Тым болей у вачах сіньёры Батысты плёскаўся сапраўдны жах, нібыта зараз

адбудзецца забойства. Няўжо яна гэтак свайго мужа баіцца? Па вогнішчы таньчыць, жывую змяюку на шыі носіць, і такая палахлівая... Пані павярнулася да мага, які нешта шаптаў ёй на вуха, позірк Пранціша зараз жа адправіўся ў дэкальтэ, бо карункавая хустачка трохі саслізнула. І драгун заўважыў густа прыпудраны сіняк.

Цяпер Пранціш быў упэўнены, што перад ім актрыса са Слуцкага тэатру. Егіпецкую прынцэсу біць не сталі б. У душу аспідам запаўзала расчараванне. Мужычка ў парыку... А ён ужо намроіў сабе... З другога боку, яна жонка графа, значыць, сапраўдная графіня, бо паводле Статута жонка пераймае стан мужа. А з гэтым фанабэрыстым панам Батыстам варта пазмагацца, куртуазныя перамогі шляхціца ўпрыгожваюць.

Вячэра скончылася прачытанай панам Шрэдэрам малітвай, усе, акрамя Батыстаў, зноў апранулі маскі і адправіліся па пакоях. Пранціш так і прыліп вачыма да танклявай грацыёзнай постаці егіпецкай прынцэсы. Нечакана граф затрымаў Пранціша:

— Ваша мосць, я мушу пайсці з панам Гросам, вырашыць важнае пытанне, зрабіце ласку, праводзьце маю жонку.

Самазваная егіпцянка зараз жа працягнула Пранцішу тонкую прахалодную ручку... Лёднік фыркнуў і адправіўся за слугою, які нёс перад ім ліхтар, у свой пакой. А драгун у п’янкім прадчуванні галантна падставіў пані руку і павёў у другі бок. Цені ад свечкі, што гарэла ў ліхтары лёкая, беглі па сценах калідора, завешаных габеленамі, як прывіды закаханых мінулых стагоддзяў, што гэтаксама поўніліся палкіх прадчуванняў, выпраўляючыся на начныя спатканні, гарэзнічалі і дурэлі, утваралі подзьвігі і пракуды дзеля сваіх каханых, але ўсе ператварыліся ў тло, і ў лепшым выпадку засталіся ад іх халодныя парадныя партрэты...

Дарэмна, відаць, драгун вырашыў, што пані Серафіна баіцца свайго мужа. Таму што яна шчодра дарыла свайму кавалеру позіркі і ўсмешкі, і абапіралася на ягоную руку даволі цвёрда. І не адняла сваёй ручкі, якую Вырвіч насмеліўся пацалаваць ля дзвярэй пакоя. Больш за тое...

— Зайдзіцеся да нас на хвілю, — прамовіла таямнічым голасам прынцэса. – Мужа не будзе яшчэ доўга.

Пранціш на нейкае імгненне прамарудзіў – у пастку звычайна заманьваюць менавіта такім ласкавым, шматабяцальным галаском, але калі гэта шляхціц баяўся спакуснага спаткання з прыгожанькай дзеўкай! Гэта ж не з князёўнай Багінскай, калі зайдзі далёка па сцяжынцы Амура — галаву страціш у самым найпростым сэнсе. А з гэтай панечкай, няхай яна на агні таньчыць, Пранціш свайго не

ўпусціць… Магчыма, яна проста пазнала гожага нямецкага юнака, з якім перамігвалася калісьці ў Слуцкім тэатры?

У пакоі, не забыўшыся замкнуць дзверы на ключ, пані Серафіна запаліла свечкі ў падсвечніку на сакрэтніку з чорнага дрэва і павярнулася да госця, які не збіраўся траціць час дарэмна і прыабняў пані:

— А ты мяне, мусіць, пазнала…

Прынцэса самую трошачку разгубілася, цень спалоху мільганула ў светла-зялёных вачах:

— Можа, пан нагадае, дзе мы сустракаліся з вашай мосцю? У Парыжы? У Рыме на карнавале?

Пранціш прыцягнуў красуню да сябе і прашаптаў ёй на вушка:

— У Слуцку… У тэатры… Гадоў шэсць таму… Ішла рэпетыцыя… Ты, Міхалішыўна, была на сцэне, з такой выразнасцю і майстэрствам іграла царэўну Наўсікаю, а я сядзеў у зале, і глядзеў на цябе, не адрываючыся… Я пазнаў бы цябе ў любым уборы!

Паводзіны графіні Батысты на вуркатанне кавалера проста спалохалі. Прыгажуня вырвалася з абдоймаў і адскочыла, як французскі прынц Генрых Валуа з ліцвінскай лазні, у вачах зноў плёскаўся жах.

— Я думала, памылілася… Вы падаліся мне знаёмым… Але нам сказалі, што вучань нямецкага доктара загінуў.

Пранціш самазадаволена ўсміхнуўся – вось чаго яна пералякалася, вырашыла, што мае справу з прывідам! А яшчэ магіяй займаецца, дурнічка, з духамі размаўляе! Драгун пастараўся супакоіць самазваную прынцэсу, патлумачыўшы, што ў замку Радзівіла Жорсткага яны з Лёднікам выконвалі таемную місію, таму мусілі быць пад чужымі лічынамі, і выратаваліся дзякуючы ўласнай смеласці і жалезнай чарапасе на вадзяным рухавіку, якую Геранім Радзівіл замовіў вынаходніку Якубу Пфальцману, аднакурсніку Лёдніка. У тым, што ён жывы, Пранціш пастараўся пераканаць прыгажуню куртуазным спосабам, але тая адхінулася ад пацалунка, яе па-ранейшаму трэсла.

— Пан Вырвіч… Прашу вас… Малю… Толькі не гаварыце нікому, што вы мяне пазналі!

Цяпер у Міхалішыўне не было і следу ад той свецкай какеткі, якая прывяла яго ў гэты пакой. Вочы ліхаманкава гарэлі, пальцы, якімі яна ўхапілася за даланю Вырвіча, былі халоднымі, як лёд.

— А, вось яно што, граф Батыста не ведае, з кім ажаніўся? – трохі пагардліва спытаўся Пранціш. Такая цалкам магла выдаць сябе за шляхцянку. Але Міхалішыўна толькі горка рассмяялася.

— Яшчэ як ведае... Ён жа мяне купіў – пасля смерці князя Гераніма тэатр занепадаў, артыстаў разганялі, каго куды. Мяне маглі зрабіць пакаёўкай ці ўвогуле адправіць на мануфактуру, габелены ткаць. А граф бачыў мяне на сцэне і вырашыў, што я яму спатрэблюся. – Сіньёра Батыста глыбока ўздыхнула і, наважыўшыся, прамовіла дрыготкім голасам. — Ён мне такі ж муж, як і граф. Як казалі ў нашай слабадзе – шлюб пад плотам, а вяселле потым. Хто я? Рабыня, якая іграе прынцэсу. Калі Луіджы... Яго насамрэч Луіджы завуць... даведаецца, што я... не справілася з ягоным даручэннем... што вы пазналі мяне, і цяпер уся ягоная дзейнасць пад пагрозай, бо яму могуць перастаць верыць, і егіпецкая прынцэса страціць свае чары... Кепска будзе не толькі мне, але і вам. Пан Вырвіч, ён страшны чалавек!

Пранціш хмыкнуў:

— Не бойся, я нікому нічога не скажу. І няма чаго палохацца — мой сябар, прафесар Лёднік, твайго мага як камара размажа.

Дзяўчына перахрысцілася па-праваслаўнаму, у празрыста-зялёных вачах плёскаўся спалох.

— Ратуй нас, святы Кіпрыян... І праўда, ваш сябар яшчэ страшнейшы за Луіджы. Ён так раззлаваў графа, што не ведаю, чым гэта абернецца для мяне. Батыста падманшчык, а ваш... Ён жа сапраўдны чараўнік!

Голас дзяўчыны сышоў на пераляканы шэпт. Пранціш хмыкнуў.

— Гэта ты з духамі размаўляеш, як вядзьмарка. А Лёднік – вучоны, доктар, прафесар... Праўда, тое-сёе можа, але ён добры хрысціянін, і ніколі людзям не нашкодзіць. Ну, пакуль ён без шаблі. А... што за даручэнне табе Батыста даў?

Міхалішыўна апусціла галаву:

— Нічога незвычайнага. Завабіць вас, змусіць закахацца, каб потым здабываць патрэбныя звесткі і кіраваць вашымі дзеяннямі.

На Вырвіча быццам халоднай вадой лінула. Вось табе і куртуазная прыгода, непераможнае хараство драгуна... Той Батыста наўрад верны адэпт ордэна. Хутчэй, ад страху перад езуітамі выслужваецца, каб інквізіцыя не чапала. А золата з менскіх сутарэнняў – прываба неадольная, да якой можна дабрацца праз закаханага драгуна. У душы віравала злосць на падступную дзеўку.

— І граф часта дае табе такія даручэнні? Налаўчылася?

Міхалішыўна раптам ганарліва выпрасталася, і Пранцішу стала трохі сорамна за сваю грубасць пры поглядзе на яе змучанае і ўсё-ткі

трагічна-гожае аблічча. Маска, усяго толькі маска актрыскі! – напомніў сабе Пранціш.

— Я магла не прызнавацца вам. Магла падмануць. Але мне падалося, што вы, пан Вырвіч, чалавек сумленны і міласэрны. Магчыма, мне трэба было яшчэ ў Слуцку ўчыніць, як рымлянцы Лукрэцыі – засіліцца, абы не даць сябе згвалтаваць. Магчыма, трэба было зрабіць гэта яшчэ ў дзяцінстве, калі мяне забіралі з дому тыя, хто забіў маіх бацькоў. Але – што ж, і пырнік пад плотам дзеля чагосьці расце. Мастацтва замяніла мне ўсё... In arte libertas! *(1.У мастацтве воля! Лац.)* Прынамсі, ні Еўрыпіда, ні Шэкспіра, ні Лопэ дэ Вега ў мяне ніхто не адніме... І пан Батыста шмат чаму навучыў мяне. Мовам розным, іграць на клавесіне і флейце. І ў навуках таемных веды даў, і ў ложку. І я буду ўсміхацца вам, ваша мосць, і вы можаце скарыстацца з маіх вабнотаў, калі вам будзе заўгодна.

Міхалішыўна па-блазенску пакланілася і вымавіла фразу, з якой рымскія артысты звярталіся да публікі:

— Videte et applaudite! *(Глядзіце ды пляскайце ў ладкі! – Лац.)*

Цяпер было зразумелым, адкуль на далікатнай скуры паненкі сінякі. Не столькі ў словах, колькі ў самім тоне прамовы гучала стоеная дзёрзкасць, выклік, што сведчыла – не пакорлівая авечка перад Пранцішам.

— А хто забіў тваіх бацькоў? – папытаўся Вырвіч. Прыгажуня апусціла вочы.

— Мы з Крычава. Мой бацька быў збройнік, браў удзел у паўстанні.

Ого, крычаўскае паўстанне! Тады мяшчукі і мужыкі біліся супраць войска князя Гераніма Радзівіла так, што шляхта дасюль не любіць успамінаць. І расправа над бунтаўнікамі была жорсткай. Пранцішаў бацька, Даніла Вырвіч, тады таксама патрапіў памахаць шабляй супраць вілаў ды цэпаў. Наколькі памятаў Пранціш, увязаўся бацька ў бойку выпадкова... Мала што па дарозе з карчомкі ў карчомку з высакародным панам можа надарыцца. Але не вагаўся, які бок прыняць – вядома, шляхціцаў! Няхай прасталюдцы дзесяць разоў маюць рацыю, няхай пан беззаконнем сваім давёў іх да адчаю. Вось толькі ўспамінаць пра тыя падзеі пан Даніла Вырвіч не любіў, бо не лічыў ганаровым для шляхціца бойку з мужыкамі. Але, атрымліваецца, ён мог быць забойцам сваякоў Міхалішыўны. Пранціш пра гэта, вядома, прамаўчаў, не зводзячы вачэй з дзяўчыны: а такая і нажом можа пырнуць... Вунь як вачыма бліскае.

Але, з другога боку, пан Вырвіч ёй відавочна падабаецца, дый звязаная яна цяпер тым, што Пранціш ведае яе таямніцу. А значыць,

зброю Рудольфіюса Батысты можна выкарыстаць супраць яго самога! Зловіцца рыбачок на ўласны кручок! І гэта будзе самай прыемнай помстай!

Вырвіч зноў усміхнуўся і прыабняў прынцэсу за талію.

— Я ніколі не выкарыстоўваў жанчын, я толькі дарыў ім каханне. Таму можаш мяне не баяцца. Я нават буду перад Батыстай паказваць, што ты зусім закруціла мне галаву. А вось ты можаш мне памагчы?

Вусны Міхалішыўны здрыгануліся здзіўлёна...

— Чым я магу дапамагчы васпану?

Вырвіч схіліўся да ружовага вушка.

— Ты павінна разумець, што мы з доктарам Лёднікам зараз у небяспецы. Проста расказвай мне, што прыдумае Батыста і езуіты. Напачатку скажы, куды паедзе карэта?

Міхалішыўна апусціла вочы і ціхенька ўздыхнула.

— У Лебу.

— Што? – вырачыў вочы Пранціш. – Гэта дзе?

— Маленькі порт на беразе Балтыкі. За Лембаркам.

Вось яно што, золата пераправяць морам... І не з вялікага порту, як Гданьск альбо Гамбург, дзе поўна віжоў.

— А што тут за таемнае зборышча?

Міхалішыўна пагардліва фыркнула.

— Таемнае... Проста Луіджы шмат разоў сцвярджаў, што каб падняць кошты на білеты, трэба туману напусціць, пераканаць, што гэта толькі для выбраных, пасвечаных, ёсць небяспека... І людцы збягуцца, як пацукі на сала.

Пранціш пазіраў па актрысу, і як наяве ўспомніліся даўнія падзеі, калі яны з Лёднікам у Слуцку вызвалялі Саламею, як ім дапамагаў дырэктар опернай трупы...

— А што здарылася з сіньёрам Пучыні і з ягоным братам Джавані, калі мы са Слуцку ўцяклі?

Міхалішыўну ажно перасмыкнула ад успамінаў.

— Князь тады гэтак узлаваўся, што ныркі прыхапіла, злёг у ложак... Пералякаліся ўсе, увесь горад шэптам размаўляў. А сіньёр Пучыні ў той жа дзень знік разам з братам.

— Збеглі, значыць, таксама? – узрадваўся Пранціш. Але актрыса сумна паківала галавой.

— У Слуцкім замку вельмі проста было знікнуць, ваша мосць. Я аднойчы чула, як нехта ў сутарэннях турэмнай вежы спявае італьянскія арыі.

Вырвіч панурыў галаву. Сумная звестка... На жаль, ніколі не атрымліваецца так, каб выратаваць усіх вартых, човен Фартуны малы і хісткі.

— А як ты навучылася таньчыць на вуголлях?

Пытанне было не самае карыснае, затое даўно мучыла Пранціша. Міхалішыўна правяла рукой па плячы, там, дзе таксама быў запудраны сіняк.

— Пан Батыста сапраўды бачыў такое у Балгарыі. Вучыцца давялося доўга. Атрымалася не адразу...

Крывая ўсмешка актрысы пацверджвала, што за сціплым "не адразу" хаваецца шмат пакутлівага. Вырвіч паглядаў на прыгажуню, што трымцела ў яго абдоймах, і разумеў, што дзяўчына цалкам у ягонай уладзе. І калі ён толькі захоча...

Але Пранціш уявіў, колькі разоў дзяўчыне даводзілася вось так па загадзе ўлагоджваць важных гасцей... І грэблівасць да яе адчувалася, і шкадоба. Прыгонная дзеўка – гэта ж не шляхетная паненка, якая беражэ свае цноты дзеля адзінага, вартага, рыцара, і нават не дачка гутніка з вуліцы Шкельнай, чый гонар зацята абараняе радзіна, і калі што – і на шляхціца ў суд пададуць за абразу роднай кветачкі. Мусіць, яшчэ ў палацы Гераніма Радзівіла Міхалішыўна не раз выяўляла ў аголеным выглядзе "жывую статую", якімі магнат любіў упрыгожваць свае балі. І хто з гасцей хацеў – мог і налюбавацца, і скарыстацца. Якая ж з такой любоў... Рамантыкі менш, чым пасля кварты гарэліцы з карчмаркай у каморы. Пранціш пацалаваў ручку актрысы і адступіў.

— Скажы хоць, як цябе насамрэч завуць. Не Серафіна ж, я думаю.

Вочы несапраўднай графіні заззялі недаверлівай надзеяй:

— Раіна... Раіна Міхалішыўна.

— Ну, дабранач, Раіна Міхалішыўна.

Вырвіч ветліва пакланіўся і сышоў. Цяпер ён быў упэўнены, што сэрца графіні Серафіны Батысты, егіпецкай прынцэсы Семпенсентры і дачкі крычаўскага бунтаўніка Раіны Міхалішыўны ў адной асобе – належыць яму гэтак жа верна, як гетману – булава. Пранціш адчуваў сябе дасціпным, як тыя два шляхцюкі, у якіх была адна пара ботаў, і яны ездзілі на кірмаш, кожны звесіўшы з возу адну нагу ў боце, а другую схаваўшы ў сена.

І адначасна выспявала незадаволенасць. Так, бравага драгуна кахаюць... Але чамусьці не князёўны і прынцэсы. Ягоная доля – камерыстка Ганулька, якая, мусіць, і зараз пакорліва мроіць пра недасяжнага пана Вырвіча з русявым чубам, ды бязродная наложніца

авантурыста, вандроўнага фокусніка. А амурныя прыгоды павінны дадаваць шляхціцу бляску! Вунь той дзюбаносы пахмуры мяшчук Лёднік у Ангельшчыне стаў каханкам лэдзі каралеўскай крыві, якая ўпадабала яго падчас паядынкаў у байцоўскім клубе. А да гэтага прыжыў дзіця з дачкой свайго пана, радавітай гожай шляхцянкай пані Галенай з Агарэнічаў. Праўда, кахае доктар толькі сваю Саламею, у дзявоцтве Рэніч, дачку полацкага кнігара. Затое пані Саламея прыгажэй за любую прынцэсу, нават егіпецкую.

Вырвіч зайздросліва ўздыхнуў. Ну чаго не хапае беднаму драгуну, каб скарыць сэрца якой сапраўднай графіні?

Шкада, што Міхалішыўна такой не з'яўляецца. Усё-ткі яна такая… вытанчаная… смелая… няшчасная…

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ. ЕЗУІЦКАЕ СЯБРОЎСТВА І ГАНУЛЬКА МАКАВЕЦКАЯ.

Снілася Вырвічу, што гуляе ён каля егіпецкіх пірамідаў, пясочак жоўценькі-жоўценькі, як на адхоне Дняпра, вакол пальмы, падобныя да вялізнай папараці, і вось ідзе ўрачыстая працэсія, нясуць мурыны паланкін з ярка-чырвонага шоўку… Параўняўся паланкін з Пранцысем, расхінулася тканіна, і выглядае адтуль незямная прыгажуня, сапраўдная егіпецкая прынцэса, і кажа: “Будзеш маім фараонам, Пранцысь Вырвіч!”. А нагадвае прыгажуня адначасова Раіну Міхалішыўну, панну Паланэю Багінскую і нават амаль забытую Ганульку Макавецкую. Нібыта спалучыліся таямнічасць адной, высокае паходжанне і багацце другой і палкія пачуцці да драгуна трэцяй.

І памкнуўся драгун да прынцэсы, працягнуў ёй руку… А чырвоная тканіна раптам ператварылася ў агонь, ад паланкіна і прынцэсы пацягнула пякельным жарам…

Эх, не лёс Вырвічу пацараваць нават у сне! Пранціш патрос галавой, адганяючы драмоту. Ява ўвогуле была непрыветнай. Неба, якое бачылася ў вакно дарожнай карэты, так зацягнулі шэрыя хмары, што незразумела, ці раніца, ці дзень, ці вечар, ці мгліцца ў вачах пасля збаночка добрай мальвазіі. Буркоча сумную сваю баладу дождж, сычыць у хмызах халодны вецер, колы экіпажа правальваюцца ў яміны, як п'яныя. А насупраць — пахмурыя, як незаскваранaя капуста, аблічча Гроса і Шрэдэра, ды яшчэ ілжэ-граф Батыста паглядае, як сват, што вязе жаніха да кульгавай нявесты. На Лёдніка Пранціш увогуле пазіраць баяўся – той зашыўся ў кут вялізнай, як карабель, карэты з Лейпцыгскім навуковым часопісам у

руках і ўсім выглядам дэманстраваў, што хацеў бы знаходзіцца хоць у пінскім балоце, абы не тут. Пану Шрэдэру, якому адвялі асобную лаўку, дзе пры жаданні можна прылегчы, час ад часу блажэе, тады экіпаж спыняецца, Лёднік перабірае бутэлечкі і адмярае для хворага мікстуры... Рэзкі пах балота, камфары і валяр'яны перабівае салодка-гаркавы пах парфумы егіпецкай прынцэсы. Потым стары ківае галавой, упарта прыўзнімаецца, і карэта рушыць далей. Жалезная воля ў пана Якуба Шрэдэра. І дзіўныя адносіны з панам Зыгмунтам Гросам, які ледзь яго не адправіў на той свет. Усміхаюцца адзін аднаму – а вочы, як у змей. Халодныя і немігучыя.

Адна прыемнасць – пераглядацца з Міхалішыўнай. Ад такіх дзявочых поглядаў праўдзівы мужчына адчувае сябе ваяводай на кані. Актрысе, пэўна, добра дасталося ад італьянскага мага – сукенку зашпіліла пад горла, каля вока відзён яшчэ адзін запудраны сіняк. Італьянец зусім глуздоў не мае, калі псуе гожае аблічча асістэнткі, прывабу для кліентаў.

Затое тым вярней перамога над спакутаваным сэрцам Міхалішыўны добрага пана Вырвіча, бо жабраку і панцак — золата.

Але трэсціся ў карэце надакучыла – лепей бы ўжо на кані праехацца, няхай і пад дажджом. Ззаду цягнуўся яшчэ і вялікі воз з прыладамі фокусніка, запакаванымі ў прасмоленую рагожу, і замаруджваў і без таго нетаропкае падарожжа. Золата дзесьці побач, і, магчыма, Пранціш Вырвіч гербу Гіпацэнтаўр зараз сядзіць проста над якім-небудзь залатым рэлікварыем, упрыгожаным смарагдамі, ці над той пагнутай-пашмакутанай штуковінай, якую езуіт з такой пачцівасцю цалаваў.

Граф Батыста шалбер спрактыкаваны. У яго выявіўся каралеўскі патэнт на праезд з рэкамендацыйным лістом ад самога Панятоўскага — кароль застаўся ўражаны прадэманстраванымі ў крышталёвым шары карцінамі ўласнай светлай будучыні і засведчыў лістом, што маг у яго заўсёды жаданы госць. Таму сустрэчны раз'езд жаўнераў нават у карэту зазіраць не стаў. Але калі прыпыніліся каля карчмы пад назовам "Перліна" — трэба было памяняць стамлёных коней – патэнт не дапамог. Фурман вярнуўся з той каламутнай "Перліны" мокры і злы. Гаспадар коней не дае, хаця яны ёсць. Спасылаецца на дзяржаўныя патрэбы.

Згушчалася цемра, як кісель з чарніцаў, ліў дождж, ля карчмы настаўлена экіпажаў, як свечак у вясельны каравай, так што зразумела – вольных пакояў таксама няма. Дый не з рукі таемнай кампаніі заставацца ў людным месцы са сваім залатым грузам. І так спыніліся, не даязджаючы, каб цікаўнікі не ўсачылі.

Пан Шрэдар задумліва прамовіў:

— Параіў бы з іншага боку дзейнічаць. Бо карчмар тутэйшы, наколькі я памятаю, не прыхільнік караля.

Грос кіўнуў галавою.

— Так, мы спыняліся неяк у гэтай карчомцы, гаспадар адвёў нам добры пакой, глядзеў, каб нас ніхто не турбаваў і не падслухаў. Што ж, яшчэ прасцей. У мяне маюцца такія-сякія рэкамендацыі... Не выходзьце ніхто, на ўсялякі выпадак, пакуль не здабуду коней.

Зыгмунд Грос выйшаў у залеву, насунуўшы капялюх на самы нос, з выглядам самым разбойніцкім.

Восеньскі дождж лупіў па даху карэты, быццам абураўся, што ад яго хаваюцца. У прыцемку нельга было разгледзець твараў, і пры жаданні ўяўлялася, што знаходзішся па дарозе ў Аід з іншымі ценямі, бо ўсе маўчалі. Маўчанне парушаў толькі стук пацерак Шрэдэрава ружанца, нібыта падалі ў скарбонку Харона прывідныя нябожчыцкія манеты.

Грос затрымліваўся. Батыста пачаў нервова насвістваць бадзёрую мелодыйку, выбіваючы рытм пальцамі па раме вакна... Асабліва самотна і няўтульна было ад таго, што з боку карчмы даносілася вясёлая музыка, п’яны гуд, брэх сабак – усе прыкметы вясёлага і звычайнага чалавечага жыцця, не абцяжаранага праклятым золатам сутарэнняў.

Маг перастаў насвістваць: да карэты нехта набліжаўся... І не адзін.

— Гэты чалавек прыехаў з вамі?

Вось і Харон з’явіўся... Ліхтар у руках каралеўскага ўлана гайдаўся, як у шторм на чоўне, напоўненым грэшнымі душамі. Грос з няўважнай фізіяноміяй, без шаблі і з заведзенымі за спіну рукамі стаяў паміж двух здаровых жаўнераў.

Вырвіч прыкінуў, што раскідаць нападнікаў лёгка. Вядома, у карчме – засока, павінны быць і яшчэ жаўнеры... Воз з барахлом давядзецца кінуць, з ім ад пагоні не сысці... Эх, даўно прадзедаўская шабля з гербам Гіпацэнтаўр не каштавала варожай крыві! Але Шрэдэр высунуўся з карэты, усмешлівы такі, добры дзядок.

— Не, вашамосць, першы раз бачу гэтага пана. На разбойніка падобны... Не дай Бог з такім сустрэцца на дарозе.

Пранціш толькі вочы вылупіў. Ані ценю фальшы. Вось каму ў тэатры іграць. Каб такі маляваў, дык да яго карцінаў, як да палотнаў аднаго старажытнагрэцкага мастака, прыляталі б шпакі дзяўбсці намаляваныя вішні.

— Гэта бунтаўнік, ваша мосць, — сурова адказаў харонападобны ўлан, у няпэўным святле ліхтара на ягоны твар клаліся рэзкія цені, і замест вачэй здаваліся прагалы. — У яго ліст ад асуджанага на баніцыю князя Радзівіла, у якім гаворыцца, што гэты пан – яго прадстаўнік, і яму трэба дапамагаць, як бы самому князю. Значыць, не з вамі прыехаў?

Улан зазірнуў у карэту, трымаючы ліхтар так, каб ясна пабачыць усіх. Батыста штурхануў Міхалішыўну локцем у бок, і тая ўсміхнулася жаўнеру, зірнула, і той ледзь ліхтар не ўпусціў.

— Ах, што вы, вашамосць, мы з разбойнікамі не сябруем! Мы з мужам і сябрамі едзем у Варшаву па запрашэнні ягонай мосці, яснавяльможнага нашага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які нас дорыць сваёй міласцю…

Пры словах пра міласць грубы твар улана шматзначна змяніўся, ягоныя вусны нібыта пакаштавалі добрага вінца: Стась Цялок не прапускаў прыгожанькіх дам, мусіць, у карэце таксама ягоная амаратка. Батыста паспешліва працягнуў ліст ад Панятоўскага… Яшчэ і пажаліўся, што гаспадар коней не даў, а яны спазняюцца.

Жаўнеры апыталі на ўсялякі выпадак абодвух фурманаў – той, што на возе, залапатаў па-італьянску, пацiскаючы плячыма, той, што пры карэцэ, пацвердзіў, што арыштаванага пана не ведае.

— Я казаў, што мой экіпаж даўно з’ехаў. Такая была дамова, – холадна прагаварыў Грос. – Гэтых паноў упершыню бачу.

І Пранціш зразумеў, што, як і Шрэдэр, Зыгмунд Грос вытрымае любыя катаванні і допыты, але не выдасць нікога і нічога. У гэтых людзях не мелася любові, спачування і нават простай справядлівасці, але цвёрдая вера ў агульную мэту і ў тое, што іх справа важней нават за іх саміх. Не людзі – зброя.

Шрэдэр пачаў абмяркоўваць з Батыстай тэорыю жывёльнага магнетызму маладога Месмера, дэманструючы поўную абыякавасць да схопленага шпега. Ці праўда ўвесь сусвет прасякнуты флюідамі, якія залежаць ад фазаў Месяца, гэтак жа, як акіян? Грос глядзеў запалымі светлымі вачыма ў нейкую аднаму яму відочную кропку, дзе не было ні ўланаў, ні восені, ні былых спадарожнікаў. Вырвіч разумеў, што ўмешвацца – недарэчы, але на душы было так пагана, так пагана… Здаваць таварыша – нават такога, які сам цябе лёгка здасць – ганьба! Як там Грос прамовіў над паміраючым у сутарэннях Шрэдэрам: “Усе мы ганчакі Божыя”. Маўляў, раз папаўся – сам і хлябчы.

Гроса павялі назад, у карчму. Ён не азірнуўся, не зрабіў ніякай спробы падаць знак развітання. А ўлан паабяцаў каралеўскім гасцям,

што коней дастане – але, мусіць, расчуліўся не з-за ліста караля, а з-за прыгожых вочак егіпецкай прынцэсы.

І хутка яны трэсліся далей на дарозе, дзе ў адну халодную і мокрую няўтульнасць зліваліся неба, дарога, восень і небяспека.

— Мы б маглі адбіць пана Зыгмунта! – не вытрымаў Пранціш.

— Вы смелы малады чалавек, пан Вырвіч, — азваўся Шрэдэр. – Але гэта было б неразумна.

— Ахвяры не маюць значэння, абы справа ордэна была зроблена? – з'едліва запытаўся Лёднік.

— Мы ўсе гатовыя на ахвяры, — мякка адказаў Шрэдэр. – І Зыгмунд таксама.

Вось і ўся эпітафія па страчаным таварышы. З ваччу сышоў і з памяці зваліўся.

А вось Гутаўскі базыльянскі кляштар у дэкарацыях восеньскага дня здаваўся не тое што эпітафіяй, а надмагіллем – змрочныя, магутныя муры са слядамі стрэлаў гармат. Ніякага ўзлёту ў нябёсы, толькі стамлёнасць, каржкаватасць старога воя, які ніколі не бачыў спачування і сам развучыўся спачуваць. Калісьці пабеленыя сцены аблезлі, цэгла вызірала праз тынкоўку, як хворая плоць. Густыя краты ў вокнах нагадвалі, што тленнае наша цела не болей, чым клетка, у якой мэнчыцца дух на час зямнога выпрабавання, ды іншыя выратавальныя думкі прыходзілі ў галаву каля змрочнага будынка... Хаця напэўна ж луналі над ім і анёлы, і мелася ў гэтых мурах сваё шчасце, незразумелае грэшным прыземленым натурам... Але для Баўтрамея Лёдніка найперш гэта было месца, дзе князі Багінскія трымалі ў закладніках ягоную жонку Саламею. І таму абодва ліцвіны зайшлі ў браму з гнятлівымі прадчуваннямі...

На званіцу стамлёна села варона, хрыпла выкрыкнуўшы сваё меркаванне пра гэты шэры свет і сумніўныя шансы выратавацца ў ім. Але ўдарыў звон, і чорная вястунка безнадзейнасці цяжка ўзмахнула крыламі і зляцела – каб вярнуцца. Бо вакол кожнага святога месца кружляюць тыя, хто стаміўся ад цемры, але баіцца святла.

...У цёмную келлю глядзіць толькі месяца вока,
Ні гуку, ні руху... Але тут няма і самоты.
Тут лічаць не грошы, а шчырыя слёзы і крокі
Да брамы высокай, дзе ўменне даруецца лётаць.
У гэтых мурах не схаваць ні кахання, ні крыўды –
Як нельга схаваць у празрыстай вадзе анічога.
І стрэлы крылатага злоснага сына Кіпрыды
Бясшкодныя сэрцу, якое аддадзена Богу.

Перамовы з ігуменняй узяў на сябе Лёднік, як старэйшы і самавіты. Але пані-матухна, падобная да скандынаўскай Кунігунды, якая перамагла ў збройным паядынку ўсіх жаніхоў, таму й засталося адно пайсці ў кляштар, да размоваў была не схільная. Яна паведаміла, што і сапраўды, у кляштары апынулася дзяўчына, якая назвалася напачатку князёўнай Багінскай. Паводзінаў нахабных, грэшніца акаянная. На шчасце, яе забралі сваякі, а болей лёсам дзеўкі ніхто ў кляштары не цікавіўся. Што за сваякі, дзе жывуць, ігуменння не ведала.

Абодва госці, сыходзячы, адчувалі, быццам між лапатак кожнаму зараз уторкнецца дзіда.

Цяпер вароны абселі не толькі званіцы, але й крыжы манастырскага храма. З неба, глухога, як атынкаваны мур, сыпаў драбнюткі дождж. Пранціш спыніў унуранага Лёдніка.

— Чакай, хто ж начальства распытвае пра мясцовыя скандалы! Трэба якога простага чалавека знайсці...

— Так з табой манашкі і будуць гаварыць, — хмыкнуў Лёднік. – Ды такіх, як ты, на гарматны стрэл да сясцёр дабрадзейных не падпусцяць.

— Нашто нам манашкі, — няўважна прагаварыў Вырвіч, азіраючыся. –Тут жа не мангольскі стэп, нехта ж дровы коле, прыпасы прывозіць...

І праўда, каля гаспадарчых збудаванняў, такіх жа непрыглядных, як і ў звычайнай вясковай сядзібе, соўгаўся стары ў світцы і аблавушцы, як самотны груган. Толькі б не глухі і не нямко – бо менавіта такім і займаць месца прыслугі ў жаночым кляштары.

Але дзед аказаўся хоць і не зусім у здаровым розуме, вочы паглядалі ў розныя бакі, ды пагаварыць можна было. Асабліва пасля некалькіх манетаў, што перакачавалі ў кішэню выцертай, як папяровая аблігацыя скнары, світкі.

Ганульку стары памятаў. Аднойчы матухна ігуменння абвясціла, што ў іхнім кляштары выявіўся спадман, і адна з паслушніц ёсць страшнай грэшніцай. Хаця тую паслушніцу ўсе любілі – ціхмяная такая, а вышывала як цудоўна, такімі ружамі ўпрыгожыла покрыў на абразе Маткі Боскай... А тут – змусілі небараку да пакаяння, крыжам ляжала ад раніцы да вечара, у сутарэнні садзілі... А яна і не скардзілася. Толькі плакала ды казала, быццам выконвала загад сваёй пані. Што ж там за пані такая, што кінула бедную прыслугу на расправу?

Дзед перажагнаўся і працягваў аповед. Невядома, ці доўга вытрымала б такога жыцця паслушніца, але ў кляштар прыехала

багатая ўдава, якая жыве непадалёк. Пабачыла дзяўчыну, што на каменнай падлозе крыжам ляжыць ды ўжо ўся калоціцца ад ліхаманкі, папыталася, хто такая. Ну і высветлілася, што грэшніца — нейкая далёкая радзіна пані. І госця дзяўчыну забрала.

На шчасце, дзядок ведаў назву маёнтка – Ляшчыны, і накірунак, куды ехаць.

Часу было ажно да раніцы. Ледзь жывы, але трывушчы, як нарачанскі вугор, Шрэдэр з графам і графіняй спыніліся па суседстве, у чарговых надзейных людзей. Гутаўскі кляштар ім і сапраўды быў без патрэбы, так што казку пра паломніцтва хворага да святыняў пасля знікнення Гроса перасталі нават згадваць. Нараніцу Лёднік з Вырвічам мусілі выпраўляцца з кампаніяй да Лебы. Толькі тады, як Шрэдэра разам з золатам пагрузяць на карабель, найміты атрымаюць ліст, што місія выканана, і можна вяртацца ў спадзеве на спакойнае жыццё. Так, яшчэ колькі дзён – і вандроўка скончыцца, золата паплыве ў Італію, дзе цяпер знаходзіўся Караль Радзівіл, які гразіцца, што збярэ магутнае войска і вернецца вызваляць Айчыну, а пакуль дзівіць мясцовых жыхароў сармацкімі звычаямі. Пост у яго пачынаўся тым, што гасцям прапаноўвалі зняць накрыўку з нейкай стравы – і адтуль вылятала зграйка вераб'ёў. А кожны госць, сыйшоўшы з бяседы, знаходзіў у сваёй кішэні залатую манету.

Хутчэй бы ўсё скончылася... То спалоханыя, то закаханыя, то какетлівыя позіркі Раіны Міхалішыўны толькі трывожылі: незразумела, калі прыкідваецца. А трэба ж яшчэ ўдаваць палкую закаханасць пад насмешнымі паглядамі Лёдніка, які ведаў падбіўку дарожнага раману. Век бы не бачыць і самазванага графа з ягонымі фокусамі. Дастане калоду картаў, і такое давай вырабляць – карты між пальцаў, як жывыя, слізгаюць, і ўсё намякае, а ці не згуляць у тры каралі альбо ў віст? Каб не Лёднік, Пранціш, мусіць, згадзіўся б і даўно прайграў махляру ўсё, ажно да ўласнай пячонкі.

Дзякуй Богу, маг і былы маг перасталі спаборнічаць, як шкаляры, хто мацнейшы, лыжкі не згіналі, агонь на адлегласці не гасілі, але варта было зачапіць якую-небудзь цікавую абаім тэму, ад цыркулявання крыві да енохскай мовы, на якой нібыта размаўляюць анёлы, і пачынаўся дыспут... Да здзіўлення Пранціша, Міхалішыўна магла вучоную размову падтрымаць і часам спрытна мяняла тэму якой-небудзь цытатай на лаціне ці старажытнагрэцкай, папярэджваючы асабліва жорсткія сутычкі.

Абрыдлі і нараканні Баўтрамея на тое, што беларусаў увесь час змушаюць рызыкаваць жыццём дзеля чужых інтарэсаў, і лёс іхні — гульня ў валан, які адбіваюць гульцы адзін да аднаго. Лупяць то з

усходу, то з захаду, не даючы прыпыніцца і зразумець, дзе твае ўласныя інтарэсы. Кітайскі мысляр Канфуцый сказаў, што высакародныя людзі жывуць у згодзе з іншымі людзямі, але не ідуць за імі, нізкія ідуць за другімі людзямі, але не жывуць з імі ў згодзе. Вось і выходзіць, што калі ідзеш за тымі, з кім не ў згодзе, тым сябе прыніжаеш...

Таму прагулянка ў Гутаўскі манастыр успрынялася палёгкай, як для жаўнера – змена каравула.

А цяпер абаім было пагана. Калі яны з лістом ад князёўны Паланэі Багінскай забралі з кляштара Саламею, нат не падумалі пацікавіцца лёсам Ганулькі. Вядома, гэта была не іхняя справа... Ідучы на зубра, качак не страляюць. Ды маглі ж папытацца на ўсялякі выпадак!

Але Вырвіч чамусьці быў перакананы, што паненка дакараць не стане. Ганулька разумела, што пачуцці яе безнадзейныя, бо на яе вачах прыгажун Пранціш заляцаўся да ейнай гаспадыні. Ды першае каханне так проста не растае, і характар не пераменіш, як сармацкі строй на нямецкі касцюм. Вось выйдзе панна Макавецкая насустрач, сціплая такая, бедная, пакорлівая, і ўзрадуецца, што блакітнавокі Пранціш Вырвіч успомніў пра яе.

Драгун намацаў у дарожным хатулі цяжкі куфэрачак, набіты каштоўнасцямі Багінскіх. Ды з такімі скарбамі, калі разумна распарадзіцца, жыццё па іншаму пойдзе! Для Ганулькі Макавецкай радасная навіна! Засталося спадзявацца, што нечакана знойдзеная цётка пляменніцу не мучыць.

Да Ляшчынаў даехалі, расплёхваючы гразь, за якую гадзіну. А маёнтак не заняпалы. Багаты маёнтак. Мужыкі сустрэчныя ў акуратных світках, не абадранцы, не кідаюцца ў кусты ад панскай карэты. Над брамай – прыгожы герб з выявай дзевы на мядзведзі. Дзева была дзябёлай і немаладой, але мядзьведзь наўрад знаёмы з куртуазнымі патрабаваннямі да слічнай знешасці: стан, паводле гэтых патрабаванняў, у дамы мусіць быць тонкі, каб пальцамі абхапіць, вусны маленечкія і яркія, як вішня, скура белая, але на шчоках румянак, чорныя вочы, але бландынка. Маючы грошы на касметыку ды гарсэты, усё можна спраўдзіць, але дзева на гербе жадала заставацца сама сабой. І гэта заслугоўвала павагі.

Прысада з пажаўцелых таполяў, якія цягнулі да неба галлё, быццам спадзяваліся, што зараз адтуль зляціць для іх новае зялёнае лісцё, вяла да велічнага будынка — на два паверхі, з вежамі, з калонамі. Больш таго – у канцы бакавой прысады былі бачныя разваліны старажытнага замка – вядома, фальшывыя, рабіць якія

каля свайго жытла было дужа модна. Гаспадыня ўсяго гэтага не збяднела, прытуліўшы бедную сваячку.

Совацца наўпрост да пані было няёмка – лепей найперш распытаць пра прытуленую сірату ў каго з прыслугі.

Перахоплены на ганку лёкай з пабітым воспай тварам, нібыта на ім Хут гарох малаціў, моўчкі выслухаў прыхадняў, мармытнуў “Пачакайце, вашамосці” і пашыбаваў у пакоі. Вырвіч і Лёднік, навязаўшы коней, пераміналіся на ганку між калонамі, не стромымі, а каржакаватымі, надзейна-нязграбнымі, якія трымалі на сабе балкон, што служыў зараз абаронай ад дажджу. Дзесьці ў доме зайгралі клавікорды – простая сумная мелодыя, якраз для восені.

Праз нейкі час лёкай вярнуўся, запатрабаваў, каб госці назваліся, і знік зноў. На гэты раз чаканне было карацейшым: дзверы расчыніліся, і слуга з нізкім паклонам запрасіў вельмішаноўных паноў Баўтрамея Лёдніка і Пранціша Вырвіча да пані Гартэнзіі Гадлеўскай.

У доме пахла чымсьці агідна-салодкім і ёлкім... Лёднік прынюхаўся і шапнуў Пранцішу:

— Пазнаеш, што за лекі?

Вырвіч паціснуў плячыма: навука лекарская даўно выпарылася з галавы, чаго Лёднік чапляецца – часам і Гамер дрэмле, aliquando dormitat Homerus.

— Ад лёгачных хваробаў...

Зараз жа і высветлілася, хто хворы. Пані Гадлеўская з Макавецкіх, невысокая, кругленькая, з разумнымі цёмнымі вачыма, адкінуўшыся ў мяккім фатэлі, накрытым дарагой цюленевай скурай, пацягвала з парцалянавага кубка маленькімі глыточкамі вохкі настой. На шчоках пані гарэў нездаровы румянак, хаця твар быў старанна напудраны. У куце дыміліся зёлкі ў металёвым прыстасаванні на ножках, што нагадвала японскую пагаду з падручніка па геаграфіі.

Але пані ніяк нельга было назваць кволай альбо недалужнай. Адразу відаць – не з тых, хто, захварэўшы, стогне, жаліцца ды з ложка не вылазіць. Апранутая ў багатую сукню з чорнага аксаміту з устаўкамі з галандскіх карункаў, на галаве – каптур, таксама з карункамі і жаўтлявымі атласнымі стужкамі, рукі ў пярсцёнках, пагляд цвёрды – у крыўду не дасць ні сябе, ні падданых. Хоць зараз парадны партрэт пішы.

— Вашыя мосці пыталіся пра Ганну Макавецкую? Навошта яна вам патрэбная?

Пранціш пакланіўся:

— Маю выканаць даручэнне, перадаць панне каштоўны падарунак ад яе былой гаспадыні, княжны Паланэі Багінскай.

І паказаў куфэрачак.

Пані Гадлеўская гнеўна падціснула вусны.

— Нам нічога не трэба ад Багінскіх! Адкупіцца ўздумала падшыванка Паланэя. Дзякуй Богу, у Ганулькі цяпер няма патрэбы ў чужых падачках! Можаце пакінуць гэта сабе, панове, якія б скарбы там ні хаваліся, альбо аддайце на кляштар. Дзякую за клопаты, але думаю, на гэтым місія вашых мосцяў завершаная.

Пані адвярнулася, што трэба было разумець як канец візіту. Пранціш разгублена трымаў куфэрак, раздумваючы, ці не паказаць ягонае змесціва – не можа быць, каб бляск дыяментаў не зрабіў уражання! Але тут пачуўся спакойны дзявочы галасок:

— Не праганяйце гэтых людзей, цётачка. Гэта мае старыя знаёмыя.

У пакой зайшла Ганна Макавецкая. Але зусім не такая, якой чакаў яе ўбачыць Пранціш. Апранутая, як магнатка, на шыі і ў вушах дыяменты не драбнейшыя, чым у куфэрку Багінскай. Постаць ганарыстая, цёмныя вялікія вочы не патупленыя... Хаця ўсё гэтак жа рахманыя.

Ганулька падыйшла да старой, пацалавала ў шчаку – пані ласкава паглядзела на дзяўчыну.

— Я ж распавядала вам пра пана Пранціша Вырвіча, цётачка, — сказала Ганулька. – А гэта – доктар Баўтрамей Лёднік, вялікі вучоны, папрасіце, каб ён вас агледзеў. А раптам дапаможа...

Пані падазрона зіркнула на драгуна, не менш падазрона на лекара:

— Добра, дачушка. Калі ты за іх просіш, няхай застаюцца, павячэраюць з намі...

Лёднік ступіў наперад:

— Перапрашаем пані, але, на жаль, доўга затрымлівацца не можам – да ночы павіны з'ехаць. Таму хацеў бы прапанаваць свае паслугі, не адкладаючы. Я — прафесар Віленскай акадэміі, дыпламаваны доктар, лячыў многіх вядомых асобаў.

— І вялікага гетмана таксама! – уставіў Пранціш, які зразумеў, што Лёднік хоча даць маладому сябру магчымасць застацца сам-насам з паненкай.

Гартэнзія Гадлеўская сумна паківала галавой.

— Наўрад мне дапаможа нават самы лепшы доктар. Усё ў волі Божай. У мяне адно пытанне: чаму паны так доўга чакалі, каб знайсці Ганульку? Беднаму дзіцяці давялося прайсці праз страшныя выпрабаванні, і нікому не было да яе справы.

Госці апусцілі вочы, Пранціш горка ўздыхнуў:

— Паверце, каб мы толькі ведалі, што паненка Макавецкая ў бядзе, неадкладна кінуліся б на выручку! Да нас толькі нядаўна дайшоў ліст ад князёўны Багінскай з просьбай даведацца пра лёс яе камерысткі і перадаць ёй на пасаг каштоўнасці…

Пранціш адчыніў куфэрак, прадэманстраваўшы, як пабліскваюць маністы і бранзалеты, быццам раса на лузе сонечным ранкам. Але Ганулька засталася абыякавай, а пані Гадлеўская раззлавалася зноў, аж заперхала, і лёкай адразу ж паднёс ёй сінюю бутэлечку з нюхацельнай соллю. Пані некалькі разоў уцягнула вохкі пах лекаў.

— Яшчэ раз гавару – Ганульцы падачкі не патрэбныя! Бог паслаў мне ў маёй самотнай старасці анёла – я ўдачарыла Ганну, і ўсё, што вы навокал бачыце, і яшчэ пяць вёсак, і дзве мануфактуры, і лес, і шмат чаго іншага будзе належаць ёй. Не давядзецца беднаму дзіцяці больш ніколі пакутваць з-за распусных гаспадароў. Яна цяпер – адна з самых зайздросных нявестаў у Кароне, і я паклапачуся пра яе будучыню і не дам скрыўдзіць нікому.

— Цётачка, пан Вырвіч мяне не скрыўдзіць, — прагаварыла Макавецкая, пачырванеўшы. І Гадлеўская, сурова зірнуўшы на Пранціша, дазволіла доктару праводзіць сябе ў спальны пакой дзеля кансультацыі.

Пранціш не ведаў, як паводзіцца ў новых варунках, але Ганна сама падыйшла да яго, нясмела ўсміхнулася.

— А я вось усё думала, як адбудзецца наша сустрэча. Я ж мала што ведаю… З размоў паны Паланэі толькі і пачула, што вы і пан Баўтрамей выпраўляецеся далёка за мора, у небяспечную вандроўку, і панна хоча ехаць з вамі. А куды, навошта – не гаварыла.

Пранціш, трошкі асмялеўшы, прыняў куртуазную паставу, грацыёзна схіліўшыся ў бок дамы.

— Панна Багінская сапраўды ездзіла з намі – ажно ў Англьшчыну. І прыгодаў мы пераэжылі шмат… І збіралася яна вяртацца, але здарылася з ёю вялікае каханне – і яны з панам Гервасіем Агалінскім, нашым спадарожнікам, пашлюбаваліся і з’ехалі ў Амерыку насуперак волі найяснейшага брата панны Багінскай. Цяпер дзіця гадуюць.

Пранціш ледзь стрымаў уздых. Нялёгка вось так нязмушана распавядаць, як твая каханая знайшла шчасце з іншым. Асабліва таму, хто пасвечаны ў гісторыю тваіх заляцанняў. Шчокі Ганны трохі паружавелі, яна кінула на драгуна цікаўны пагляд.

— А як жа вы, пан Вырвіч? Вы ж…

— Я аддана служыў панне Багінскай, — Вырвіч пастараўся гаварыць як мага больш весела. – І рады, што яна шчаслівая. А я атрымаў дыплом Віленскай акадэміі, званне доктара навук

філасофскіх, потым стаў падхаружым коннага рэгіменту вялікай булавы. Там і цяпер служу... Самотны, але вольны, як вецер.

Вочы панны радасна бліснулі пры звестцы, што Вырвіч болей не ёсць кавалерам какеткі Паланэі... І Пранціш зразумеў: няхай панна стала багатай нявестай, не роўня шарачку, няхай навучылася трымацца, як належыць радавітай даме, але сэрца яе ўсё яшчэ належыць беднаму драгуну...

Худаваты тварык Ганулькі падаваўся сумным, вочы цёмныя, вялікія, з доўгімі чорнымі вейкамі, яркія вусны маленькія, скура белая... "Ды яна ж прыгожанькая!"– нарэшце прыйшло ў галаву Вырвічу, бо натура чалавечая такая, што ў рысах багатай спадчынніцы заўсёды можна лёгка разгледзець прыгажосць, якая была надзейна схаваная ў абліччы сціплай прыслугі. Пранціш узяў кволую ручку панны, як азяблае птушаня.

— Давайце ж, як старыя сябры, раскажам адзін аднаму, што адбылося за гэтыя гады...

Што-што, а красамоўна расказваць Вырвіч умеў. І як яны з Лёднікам жылі на праклятым млыне, і як Пранціш сапраўднага цмока забіў, і як на караблі плылі, ледзь не патапіліся... Распавяла трохі і Ганулька. Найміт Багінскіх Герман Ватман прыязджаў у кляштар, прывёз з сабой пані Саламею. А потым захацеў пабачыць панну Багінскую, якая мусіла перад заручынамі замольваць у кляштары грахі – а пабачыў ейную камерыстку. Тады шум яшчэ не паднялі, Ватман дамовіўся з ігуменняй, і Ганульцы толькі забаранілі выходзіць з келлі. Але ішоў час, панна Багінская ўсё не з'яўлялася, і калі ігуменні паведамілі, што і не з'явіцца, і абяцанай шчодрай узнагароды за тое, што прымала пад яе імем іншую, не дачакацца – і пачаліся Ганульчыны пакуты...

Дым ад зёлак віўся ў паветры пакоя, нібыта таньчылі змейкі, падобныя ўплеценым у парык графіні Батысты. Лёднік кансультаваў гаспадыню Ляшчынаў, мусіць, цэлую гадзіну. Відаць, нагаварыліся пра ўсё – таму што на вячэры пані Гартэнзія паглядала на маладога госця больш прыхільна, а ўжо на доктара – як на даўняга сябра.

— Мне б толькі паспець выдаць маю дачушку замуж! – абвесціла пані, змусіўшы Ганульку пачырванець, а Пранціша адчуць у сэрцы балючы ўкол рэўнасці. – Засталося пажыць няшмат, доктар Лёднік пацвердзіць... А пакідаць Ганульку без абароны нельга. Яна ж не з тых бессаромніц, што носяць сукенкі, у якіх грудзі аголеныя, ды ўжываюць бялілы, чарнілы, чырванілы ды блакітнілы, даруй, Госпадзе. Я ўжо і сватала ёй добрых людзей... З адным ледзь не зладзілася. Пан Ладыслаў, сын суседа, адзіны ў бацькоў, і гожы, як

Апалон, і паводзінаў самых прыстойных, пачцівы, ціхмяны, слова рэзкага не скажа. Але, вядома, выбіраць будзе Ганулька. Бо ў дзяўчыны могуць быць свае сардэчныя схільнасці...

Пані кінула шматзначны позірк на Пранціша, так, што той ледзь не задушыўся кавалкам качаціны з імбірнай падлівай. Няўжо ў яго, загоннага шляхцюка з Падняводдзя, ёсць шанец?

Лёднік зараз жа ўкінуў свае тры шэлегі ў скарбонку.

— Сёння рэдка сярод маладых людзей сустрэнеш чалавека добрага і сумленнага. Я вось ужо колькі гадоў ведаю пана падхаружага Вырвіча – і не расчараваўся ў ім. Род у пана знакаміты – Вырвічы з Падняводдзя гербу Гіпацэнтаўр, ад самога Палямона. Гонар свой пан абараняць умее. Чалавек надзейны, верны. Бо столькі спакусаў у гэтым свеце, і толькі моцны духам, добры хрысціянін іх адпрэчыць.

Пранціш вушам не верыў. Лёднік што, яго сватае? Заўсёды насмешнічаў над абагаўленнем радаводаў і пошукам міфічных продкаў, а тут сам пра Палямона завёў. Цноты Вырвіча ўхваляе, якога ў студэнцкія часы колькі разоў у карцэр садзіў за пракуды.

Ганулька чырванела і пільна разглядала небагатае змесціва сваёй талеркі. Пані Гартэнзія ўздыхнула.

— Сапсаваўся свет, праўду кажа ваша мосць. На змену залатому веку надыйшоў жалезны. Нават святое права ліберум вета абмяжоўваюць! Мой муж-нябожчык, хай яму на тым свеце шчасна будзе, быў узорам сармацкіх цнотаў. Ён служыў у судзе, пачаў з падсудка, потым стаў суддзёю, нястомнай працай і справядлівасцю заслужыў пашану, а рупнасцю памножыў багацце. Ажаніўся ён у сорак гадоў, а да гэтага з белагаловымі і не размаўляў. Нават мяне да шлюбу толькі два разы кароткі час бачыў, побач з маімі бацькамі. І такога чалавека аднойчы ў бездань ледзь не заманілі.

Пані перажагналася, завёўшы вочы ўгору, нібыта са столі на яе паглядаў нябожчык-муж, пацверджваючы кожнае прачулае слова.

— З'явіўся ў магістраце саслужывец, распусны малады чалавек, нічога святога. І вось папрасіў ён майго будучага мужа і ягонага сябра, такога ж годнага і цнатлівага чалавека, памагчы беднай удаве з двума дочкамі, якія прыехалі ў Гародню, каб вырашыць складаную справу пра спадчыну. А калі муж з сябрам, поўныя дабрачынных намераў, прыйшлі да тых кабетаў, аказалася, гэта жанчыны непачцівыя, гасцей апаілі нейкай дрэнню... Прачнуўся мой бедны Нічыпор уранку без кашалька, у пустым доме на ўскрайку места, ды яшчэ з адчуваннем ганьбы... Той паскуднік, які іх заманіў у логвішча граху, бо зайздросціў іхняй чысціні, знік разам з грэшніцамі, якім — мой муж абавязкова б дабіўся – адрэзалі бы паводле Статута

вушы і насы на рынкавым пляцы. І вось прыйшоў Нічыпор з сябрам у магістрат... І такі жаль на іх напаў, так мучыла пакута, што давай яны плакаць ды маліцца, кленчачы... А тады сябар і кажа: “Мусім мы сплаціць за свой грэх. Давай, браце Нічыпор, вазьмі бізун і адмер мне пяцьдзесят ударaў, не шкадуючы”. Што мой муж і зрабіў, а потым і сам лёг, каб тое ж пакаранне атрымаць. Тады лягчэй абаім на душы сталася. Вось так даўней сармацкія звычаі захоўвалі!

Пані аж расчулілася ад аповеду, выцерла насоўкай слёзы. А Пранціш падчас ейнай павучальнай гісторыі ледзь стрымліваўся, каб не зарагатаць. Вось жа святошы тыя юрысты! З прыгожымі паненкамі ў адным пакоі пабылі, і потым ад жаху абрыдаліся, ды яшчэ адзін аднаго адсцябалі. А можа, нябожчык Нічыпор усё-ткі не ўсе падрабязнасці жоначцы расказаў, ці моцна прыкрасіў аповед? Але Вырвіч пастараўся надаць сабе самы прыстойны выраз – асабліва пад пагрозным паглядам Лёдніка, які выдатна памятаў сумніўныя подзьвігі Пранціша на куртуазным полі.

Каштоўнасці Багінскай вырашана было ўсё-ткі ахвяраваць на кляштар, толькі не той, дзе пакутвала камерыстка княжны... А пані Гартэнзія была гатовая заручыны аб'яўляць – бо Ганулька, па ўсім відно, не стала б пярэчыць, а гэта для яе прыёмнай маці ўсё вызначала, няхай жаніх не багаты. Мусіць, не раз расказвала шчырая і даверлівая дзяўчына пані пра сваё нешчаслівае каханне, дык чаму не завяршыць яго шчаслівым шлюбам?

Але Лёднік нагадаў, што ў іх з панам Пранцішам Вырвічам вельмі важная справа, вось вырашаць яе – і абавязкова вернуцца ў Ляшчыны, а пакуль маладыя няхай праверацъ пачуцці, адноўленыя пасля доўгага расстання.

Вырвіч быў вельмі рады такому павароту, бо за некалькі гадзінаў стаць заручоным чалавекам – гэта неяк занадта. Хаця ручку панне Макавецкай пацалаваў з усёй жарсцю драгунскай душы. І панна шапнула, што будзе чакаць.

Калі яны, пакінуўшы гасцінныя Ляшчыны, скакалі праз вечаровы прыцемак, наетыя, але не надта напітыя – віно на стале стаяла, але які ж разумны жаніх пакажа, што неслабы пiток, Лёднік сказаў адно:

— Не будзь дурнем, Вырвіч, не ўпускай такі шанец. Дзяўчына прыгожая, сціплая, кахае цябе так, што нават не папракнула. І багатая настолькі, што кінеш ты спакойна вайсковую службу і будзеш пад бокам прыгожай жоначкі вершы пісаць і дзецям пра ўласныя авантуры распавядаць. Пані Гартэнзія больш за два гады, на жаль, не працягне. Станеш гаспадаром. І тое, што ты праваслаўны, а Ганулька

ўніятка, не перашкода, бацькі ў дзяўчыны праваслаўныя былі, зацятасці ні ў цёткі, ні ў пляменніцы ніякай няма, з Божай дапамогай усё наладзіцца. Фартуна табе ўсміхнулася, пан Вырвіч!

Памаўчаў і дадаў:

— І беднай Раіне Міхалішыўне галаву не тлумі. Яна, як пабітае кацяня, да цябе прывяжацца, а ты з ёй толькі пагуляцца можаш. А ёй і так па жыцці дастаецца. Я ведаю, як гэта, бо сам быў рабом. Калі надзяваюць ашыйнік на чалавека, які ўмее мысліць і ствараць, і дакрануўся да мудрасці асветы, і адчувае, што такое годнасць — гэта часам горш за смерць. І яшчэ адна здрада можа стаць тым каменем, пасля якога і без таго перапоўнены човен апусціцца на дно безнадзейнасці назаўсёды. І не ўздумай пра сваё жаніхоўства нават рэкнуць. Ты ж павінен падавацца закаханым у графіню Батысту…

Пранціш разумеў, што Лёднік мае рацыю. І нічога супраць Ганулькі Макавецкай не меў. Але чагось не хапала, каб п’янкое шчасце ўдарыла ў галаву, як шампанскае, каб не карцела паспрабаваць якіх іншых сцежак-дарожак. А на адной з тых дарожак свяціліся празрыста-зялёныя вочы Раіны Міхалішыўны, на другой – блакітныя гарэзныя вочы Паланэі Багінскай… Дый карчмарку Рыўку з Вільні не хацелася зусім занядбаць… А давядзецца. А можа, на якойсьці са сцежак на Пранціша Вырвіча прыхільна зірнуць вочы яшчэ не сустрэтай каралеўны?

— Рамантыка з дурной галавы не выветрылася, — паставіў дыягназ Лёднік. – Зразумей, век не будзеш у вокны паненак шастаць ды ў карчмарак на дурніцу піва выпрошваць. А паколькі двойчы з адной кветкі яблык не выспее, не дапусці, каб хто іншы яго сарваў. Бо пані Гадлеўская прызналася, што да наступных Пакроваў збіраецца Ганульку выдаць замуж, і слова ў яе ўзяла на гэта. Той сусед пан Ладыслаў не такі ўжо багатай нявесце брыдкі.

Вырвіч зноў атрымаў укол у сэрца – а гэта на пачуцці дзейнічае, як падзьмуць на чырвоныя вуглі, — і дэкляраваў урачыста, што ён не дурны, і шчасця не ўпусціць. Вернецца да Ганулькі Макавецкай, толькі вось адправяць Шрэдэра за мора.

У маёнтку, куды прывёз іх Шрэдэр, было цёмна і ціха, як на дне марскім – дзіва што, ноч на двары. Загасцяваліся драгун з былым алхімікам.

Таму Пранціш, як толькі зайшоў у адведзены яму пакой – на мансардзе, амаль што на гарышчы, паваліўся на ложак, лежачы, так-сяк сцягнуў з сябе боты… Добра, што ў Ляшчынах не начаставаліся віном, а то б зараз галава гула, як скінутая з дрэва борць.

За вакном буркатаў дождж, як прафесар на студэнтаў, якія не падрыхтаваліся да практычных заняткаў. Адзін раз ён грукнуў у шыбу асабліва гучна. Так што Пранціш, якога ахутала першая салодкая драма-паўява, з прыкрасцю прачнуўся. Цяпер грукнула так, як не мог бы зрабіць сваёй празрыстай лапай дождж. Спрасоння Вырвіч ажно пералякаўся: хто можа стукацца ў вакно пад самым дахам, ноччу, у залеву? Птушка? Альбо... прывід? Русалка? Начніца? Кікімара? Дамавік?

А за шыбай нешта варушылася і нібыта чуўся голас... Не птушка, не... Значыць, нячыстая сіла!

Але няўжо адважны драгун герба Гіпацэнтаўр спалохаецца здані?

Вырвіч перахрысціўся, схапіўся за шаблю і на дыбачках падыйшоў да вакна.

— Пан Вырвіч, адчыніце!

Голас Раіны Міхалішыўны? Альбо ейнай бесцялеснай сутнасці? А можа, яна – ламія, граф Батыста цалкам мог ператварыць прыгажуню ў начную пачвару, якая высмоктвае па начах кроў з даверлівых мужчын... А можа, Міхалішыўна, пакуль яны ездзілі, памерла, і ейны неспакойны дух захацеў наведаць маладога шляхціца?

Па шкле зноў забарабанілі тонкія пальцы:

— Ды ўпусціце ж мяне, дзеля Госпада нашага Ісуса Хрыста!

Пранцішу стала сорамна за свой страх – ён успомніў, як калісьці яго самога прымалі за прывіда. І аднакурснік па Менскім калегіюме езуітаў Міхаська Міцкевіч баяўся адчыняць вакно канвенту, пакуль Пранціш не назваў імя Гасподне.

Шыбы, на шчасце, не былі забітыя, але адчынялася толькі ніжняя частка, з двума шкельцамі. У такую адтуліну толькі птушка й пралезе... Ці танклявая акрабатка.

— Не запальвайце агонь!

У пакой праслізнула гнуткая постаць. Пранціш схапіў здань за руку: халодная, мокрая – але жывая! Графіня Батыста!

А тая ціха засмяялася.

— Ды не прывід я, пан Вырвіч, я на хвілінку, мне неабходна вас папярэдзіць...

Пранцысь узрадваўся, што ў цемры не бачна, як ён чырванее. Але ж, падобна, дзяўчына праслізнула ў ягоны пакой, апранутая толькі ў шаўковую кашульку. Вымакла ўся... А як яна прабралася ў вакно? Па сценцы караскалася?

— Там вузкі карніз ёсць, — прашаптала Міхалішыўна, як быццам умела чытаць думкі. – А я спрытная. Батыста мяне замкнуў, таму й давялося…

Дзесьці адрывіста гаўкнуў сабака, гэткі сабачы цівун, падаючы знак, што за ўсім сочыць, і дзяўчына ўздрыгнула.

— Вырашыла не адкладаць размову – мала што… Пан Вырвіч, калі прыедзем у Лебу, вас паклічуць за развітальны стол. Нічога не ешце і не піце.

— Чаму? – Пранціш прыабняў Міхалішыўну – таненькая, але моцная, як лаза, мокрая шаўковая тканіна слізгала пад рукой, нібыта абымаўся з русалкай.

— Вас з доктарам хочуць апаіць і завалачы на карабель, звезці ў Італію.

Пранціш схаладнеў. А ён паверыў, што ўсё так проста скончыцца.

— Навошта?

— Не ведаю…—Міхалішыўна сутаргава ўздыхнула. – Магчыма, проста баяцца, што вы зашмат ведаеце.

— А ў цябе адкуль такія звесткі?

— У крышталёвым шары пабачыла, — ціха засмяялася дзяўчына. – Ну вядома ж, падслухала. Будзьце асцярожныя, пан Вырвіч. Усё, мне час.

Раіна нечакана кранула вуснамі вусны Пранціша – лёгенька, як пялёстак кветкі – выслізнула з абдоймаў драгуна і зноў знікла ў дажджы і цемры.

Пранціш высунуў галаву ў вакно – амаль нічога не было відаць, угадвалася толькі, як перасоўваецца ўздоўж сцяны светлы цень.

Вырвіч зачыніў вакно, яго пачынала калаціць – ад гневу і незразумелай тугі. Магчыма, шчаслівае сямейнае жыццё шляхціца Вырвіча можа не адбыцца… Цяпер трэба старацца пазбегнуць атруты, падлітай у каву альбо падсыпанай у бігас.

Ды яшчэ хоць бы адчайная Міхалішыўна не папалася свайму гаспадару. Бач, якая… Ні агню не баіцца, ні вады, ні вышыні. Хаця панна Паланэя Багінская таксама спрытная была, як хлапчук. І на кані скакаць, і цераз сцяну пералезці, і з кінжальчыкам управіцца…

Вырвіч уздыхнуў. Але ўспамін пра блакітнавокую княжну ўжо не так кроіў сэрца, вастрыё страты затупілася, як аловак, якім занадта шмат пісалі адно і тое ж, падлічваючы згубленае. Пранціш кранаў пальцам вусны, там, дзе яго пацалавала Міхалішыўна, бо ўсё яшчэ адчуваў дотык – хоць сама ўся вымакла пад халодным дажджом, а вусны цёплыя. Урэшце, гэта першы выпадак, калі ў

вакно да Вырвіча, рызыкуючы, залезла дзяўчына – раней ён сам неаднаразова здзяйсняў такія подзвігі. Калі яна даведаецца пра ягонае жаніхоўства – наколькі гэта яе закране? Вось Ганулька ўсё б даравала. Усё сцярпела... Найлепшая ліцвінская жонка для воя. Як у казцы: прыйшоў муж, памяняўшы карову на мех з гнілымі яблыкамі, а яна толькі радуецца.

Хаця, можа, карысней усё-ткі было б паганяць нягеглага сужонца чапялой.

Заснуў драгун, толькі на ўсялякі выпадак падсунуўшы да дзвярэй цяжкі куфар. Хто аглядаецца, той не каецца. Заўтра з самай раніцы трэба перагаварыць з Лёднікам, “сватам” сваім. Хто б мог падумаць, што куплены за шэлег халоп будзе калісьці пасажоным бацькам на вяселлі свайго гаспадара!

А нікога іншага на гэтым месцы Пранціш Вырвіч уявіць не мог і не хацеў.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ. ВАНДРОЎНЫЯ ВЫДМЫ І ДВУБОЙ ЛЁДНІКА

Горы белага пяску высіліся паўсюль, куды сягала вока, толькі на поўначы замест іх спявала сваю адвечную песню мора. Шэрае, у дробных зморшчынках, там-сям пазначаных белымі мазкамі. Вецер дзьмуў так, што часам займала дыханне, быццам ад хуткага бегу, і пакідаў у роце, у валасах калючыя пясчынкі. На тле белага пяску чорныя мёртвыя дрэвы, пахіленыя ўсе ў адзін бок і нібыта абгарэлыя, глядзеліся, як пакараныя грэшнікі у пекле.

— Тут яшчэ не так даўно быў лес... – прамовіў пан Караль Рысь, які сустрэў вандроўнікаў у Лебе, забяспечыў жытлом і вось – пацягнуў глядзець мясцовыя дзівосы. – Яны рухаюцца... Гэтыя выдмы... І ўсё на сваім шляху знішчаюць, як бы лава падчас вывяржэння вулкана.

Пан Рысь, гадоў трыццаці, высокі, плячысты і гожы, быў адным з альбанчыкаў, гаварылі, што ён зухаваты і дужы не менш, чым Міхал Валадковіч, расстраляны ў Менскай ратушы, і гэтаксама карыстаўся прыхільнасцю Караля Радзівіла. Чорныя вусы пана тырчэлі на адной лініі паралельна зямлі, і на бледным ад прыроды твары здаваліся прыклеенымі. Нават тут пан быў ва ўлюбёным мундзіры Віленскага ваяводства: цёмна-сіні кунтуш, жупан з чырвонымі адваротамі, белая шапка з каракулем, бурка, жоўтыя боты.

— Дык што, гэтыя пяскі і горад замятуць? – здзівіўся Пранціш.

— Ужо замялі, — патлумачыў альбанчык. – Горад быў раней тут, дамы стаялі... Потым людзі перабраліся далей. Бо не могуць чалавечыя высілкі стрымаць гнеў Божы...

Пан паказаў на роўныя шэрагі драўляных сваяў, акаваных жалезам, што былі ўбітыя ў пясок.

— Вось так і нас нішчаць і змінаюць, і ператвараюць у вартыя жалю руіны! – з пафасам, як на сойме, прамовіў альбанчык. — Падумайце толькі – палякі не захацелі падтрымаць пана Караля Радзівіла, бо ён болей любіць ліцвінаў, у Варшаве нудзіцца па Нясвіжы. Маўляў, што за кароль, які адну палову каралеўства любіць больш за другую. І мы атрымалі на сваю шыю Цялка! Таму хутка з усёй дзяржавай будзе, як тут — паглядзіце, стагоддзе таму там стаяў касцёл!

Праз пясок чырванелі цагляныя абрысы падмурка, быццам засохлая кроў. Здавалася, гэтым руінам не менш за тысячу гадоў. Пранціш глядзеў вакол і намагаўся запомніць радкі, што складаліся ў галаве — запісваць на вачах ва ўсіх не было як, гэта Удальрык Радзівіл мог спыніцца пасярод залы з радавітымі гасцямі і крэмзаць у раптуляр прадыктаванае натхненнем, не зважаючы на насмешкі і пытанні. Але ж на тое ён і магнат, які можа быць хоць жорсткім тыранам, хоць дзіваком, замовіць партрэт неіснуючай ідэальнай дамы і суткамі распяваць карціне мадрыгалы. А Вырвіч – бедны шляхцюк і нікому не вядомы паэт, да якога проста прыходзяць вершы.

...Выдмы ідуць. Паглынаюць дамы і касцёлы.
Чорныя мёртвыя дрэвы – як помнікі ім.
Хвалі марскія ўсё прагнуць прасторы і волі,
І наступае ўсё далей імперыя выдм.
Белы пясок, а за ім – цёмна-шэрыя хвалі,
Што ні імперыя – межы свае праміне.
Ну і навошта мы храмы свае будавалі,
Раз апынуцца пад выдмамі, потым – на дне?
Мовай пяску загаворацць лясы і паляны,
І балаты ператворацца ў белы пясок.
І застанецца над выдмамі крыжам драўляным
Мачта майго карабля, што нікуды не ўцёк.

— Выдатныя дэкарацыі! – прамовіў граф Батыста. Вецер раздзімаў ягоны чорны плашч так, што здавалася, маг зараз ператворыцца ў кажана і ўзляціць у шэрае неба. –Ты згодна, міа кара?

Тужліва закрычалі чайцы. Міхалішыўна, якая ў пунсовым плашчы нагадвала дзівосную кветку сярод мёртвага саду, з насалодай удыхнула халоднае марское паветра.

— Так, менавіта ў падобных месцах павінны разыгрывацца самыя вялікія трагедыі!

— Ну што ж, — прамовіў Батыста, адварочваючыся ад парываў ветру, – падары нам незвычайнае ўражанне. Думаю, арыя Дыдоны, пакінутай Энеем, тут прагучыць дарэчы... Стань вунь там, на адхоне, ля дрэва!

Міхалішыўна пакорліва схіліла галаву і, правальваючыся па шчыкалаць у пясок, узбегла на адхон дзюны – Пранціш нават не паспеў прапанаваць ёй руку.

— Асцярожней, тут месцамі можна ўваліцца, як у дрыгву! – папярэдзіў Рысь, але Міхалішыўна ўжо застыла на месцы.

— Ёй будзе цяжка спяваць, пан Батыста! – змрочна прамовіў Лёднік. – Моцны вецер, да таго ж з пяском... Яна можа пашкодзіць звязкі!

— Серафіна мацней, чым вы думаеце, — насмешна адказаў маг. – Яна ўладарыць над стыхіямі...

— Як толькі чалавек вырашае, што над чымсьці ўладарыць, Гасподзь адразу ж даказвае яму адваротнае, — адрэзаў доктар.

— З такімі поглядамі васпану найлепей было б у кляштары, — не хаваючы раздражнення, адказаў Батыста. А Пранціш і пан Рысь глядзелі на актрысу: яна нейкі час пастаяла каля чорнага пахіленага дрэва, паклаўшы на яго руку і пра нешта думаючы... А потым, калі ўскінула галаву, з якой зняла шапку, і чорныя валасы яе ляцелі па ветры, і лунаў чырвоны плашч – драгуна як па сэрцы разанула... Бо гэта была ўжо не прыгонная актрыса і не асістэнтка шалбера-фокусніка, а царыца Карфагену Дыдона. Бровы трагічна выгіналіся над глыбокімі гораснымі вачыма, белыя тонкія рукі сціскаліся ў адчаі.

— Калі на горад, грэшны і распусны,
Багі абрушваюць свой гнеў – зямлю ўзразаюць
Расколіны, у студнях — соль і жоўць,
І гора тым, хто толькі нарадзіўся...
Мая душа – нібы пракляты горад...
З расколінаў надзеі льецца кроў,
І здрады жоўць пячэ, і вочы слепнуць
Ад солі слёз... Каханне, ты – праклён!

Словы, магчыма, былі не надта зграбныя, але пра гэта не думалася. Таму што пачуццё, укладзенае ў іх, было сапраўдным. Пранціш успомніў, як Міхалішыўна іграла ў Слуцкім тэатры – і тады яе майстэрства зачароўвала, а ад тых часоў яшчэ ўзрасло. Яе голас быў глыбокі і гучны, без дрыготкі, якая часта псуе самы лепшы тон. Батыста паглядаў на Пранціша і пана Рыся з выглядам князя

Радзівіла, які дэманструе гасцям сваю скарбніцу, набітую па самую столь, упэўнены, што тыя не ўразіцца проста не могуць, і больш за ўсё на свеце жадаюць займець хоць частку ўбачанага...

Міхалішыўна скончыла спяваць, грацыёзна раскланялася... Яе чырвоны плашч лунаў, як ветразь.

— Ну як, панове? Чароўнае відовішча? – задаволена папытаўся італьянец, чый парык на фоне шэрага неба і белага пяску здаваўся брудна-шэрым, як быццам ім выціралі пыл.

Пан Рысь падкруціў вусы, ад чаго іх кончыкі ваяўніча прыўзняліся.

— Цалую пані ручкі і ножкі... Вам пашанцавала, пан Батыста, валодаць такой прыгажуняй... У мяне ажно слёзы на вочы навярнуліся. Хаця мая мілая жоначка ў мяне слёзы яшчэ вярней здабывае.

Альбанчык весела і мройна засмяяўся сваім успамінам.

— А што, пані Рысь таксама прыгожа спявае? – хаваючы раздражненне, спытаў італьянец, які, пэўна, разлічваў, што егіпецкая прынцэса разам з драгунам счаруе і альбанчыка, раз уздзейнічаць на зацятага Лёдніка – гэта разумелася ад пачатку — было бескарысна.

Пан Рысь ганарыста ўсміхнуўся.

— О, мая Магдуля ўмее ўсё! Яна, панове, амазонка, Дыяна, каралеўна мая! Я ж яе адбіў у аднаго пястуна мамчынага, смятанніка... Я на сотні двубоях біўся, і на ўсіх перамог! А той без цёплага каптанчыка і ўлетку не выйдзе. А Магда ў бякаса на скаку трапляе! Мы з ёю – дабраная пара... Дык вось, упадабаў я адну забаву – страляць па абцасах жончыных туфлікаў... Ну так міла атрымліваецца... А паслухаць жоначку пасля ды кухталя атрымаць, і пацалункамі выбачацца – мілата! – твар пана Рыся расплыўся ва ўсмешцы. – А яна зараз цяжарная, дык забараніла мне гэтую гульню... А на днях не вытрымаў я... Былі мы ў спачывальні, а Магдуліны чаравічкі так спакусна стаяць ля дзвярэй... Прыцэліўся... А жоначка хапае са стаўбурка другі пісталет: “Як васпан мой абцас адстрэліць, дык я яму такім жа чынам пас развяжу!”. Стрэліў... А тады й яна... Я бокам да яе сядзеў, а куля мне і развязала пас!

Пан шчасліва засмяяўся, а Пранціш мімаволі зірнуў пану на жывот, нібыта там хацеў убачыць дзірку. Батыста крыва пасміхнуўся, усвядоміўшы, што альбанчык шчыра закаханы ў жонку, і пакіраваць ім праз егіпецкую прынцэсу не ўдасца.

Лёднік падыйшоў да Міхалішыўны, усмешка той стала змушанай. Падобна, доктара актрыса баялася не менш, чым мужа.

— Я б не раіў пані ў бліжэйшы час спяваць на холадзе. Я заўважаю прыкметы застуды. Перадам вам лекі, а то запаленне пяройдзе глыбей, да бронхаў. І пасядзець бы вам у цяпле колькі дзён...

— Я сам здольны вылечыць сваю жонку, — тут жа азваўся Батыста, ягоныя шэрыя, шырока расстаўленыя вочы былі калючымі, як студзеньскія ледзяшы. Чайкі закружлялі над шэрымі хвалямі і закрычалі асабліва жаласна, як людзі, што вярнуліся ў роднае паселішча ды пабачылі адны папялішчы. Лёднік не стаў спрачацца з італьянцам, паціснуў плячыма і адыйшоўся. Ён выдатна ведаў, што калі заступаешся за нявольніка перад ягоным уладаром, той спагоніць гнеў на тым, за каго ты заступаўся.

А Міхалішыўна раптам загледзелася на чаек, распрастала рукі, як крылы, засмяялася і затанцавала, пераймаючы парывістыя рухі крылатых гараватак – чырвона-чорная птушка, абрынутая на белы пясок... Артыстка, што з яе ўзяць! Але была ў гэтым такая юная дзёрзкасць і прыгажосць, што нават Лёднік усміхнуўся. In arte libertas!

Батыста, праўда, скрывіўся і злосна бліснуў вачыма – мусіць, перападзе зноў дачцы крычаўскага збройніка за тое, што забылася на годнасць егіпецкай прынцэсы.

А белыя горы павольна працягвалі свой рух, і што ім было да казюрак, якія варушацца на іх спінах, думаючы, як падмануць адна адну.

Дом, які яны займалі, знаходзіўся ля самага мора, наводшыбе. Аднапавярховы, але даўжэзны, як каралеўскія стайні, з высокім дыхтоўным плотам, ён не здаваўся асабліва багатым. Але ўнутры было дзіўна: быццам нехта вываліў воз магнацкіх рэчаў у хату шарачка, каб прыкрасіць непрывычна для сябе бедны побыт. Драўляная, неахайна выструганая лава – а побач столік вытанчанай разьбы з чырвонага дрэва. Сцяна з голых бярвенняў – а на ёй раптам італьянскі пейзаж у залачонай рамцы.

Пан Шрэдэр, з якім сустрэліся за вячэрай, з заўсёднай ласкавай усмешкай абвесціў, што карабель прыпазняецца з-за неспрыяльнага надвор'я, але будзем маліцца, і справа атрымае годнае завяршэнне.

Значыць, пакуль можна смела вячэраць: атруту падсыпаць рана.

Сцены залы былі завешаныя габеленамі з выявамі сцэн Хоцінскай баталіі, калі войска кароннага гетмана Яна Сабескага разбіла войска Гусейн-пашы – яшчэ адна праява недарэчнай у сціплым будынку палацавай раскошы. У бойцы пад Хоцінам загінуў

прадзед Вырвіча, але шаблю ягоную, Гіпацэнтаўра, напоенага варожай крывёй, баявыя таварышы перадалі сям'і загінулага, і была яна цяпер у Пранціша, апошняга з роду. На габелене гусары Ябланоўскага несліся ў атаку, за іхнімі спінамі біліся і гулі крылы на драцяных каркасах, коні пакрытыя лемпардавымі скурамі... Эх, слаўная была бітва! Не брат на брата ішоў...

Пан Рысь, асушыўшы трэці келіх віна, стукнуў рукой па стале.

— І карона, благаслаўлёная папам, знойдзе, нарэшце, годную галаву! Qui desiderat pacem, praeparet bellum! *(1. Хочаш міру – рыхтуйся да вайны. – лац.)* Я прывёз сюды сто тысячаў дукатаў – сабраў з усіх сваіх маёнткаў і з маёнткаў братоў маіх альбанцаў, каб перадаць пану свайму Каралю Радзівілу, і калі трэба будзе апошні срэбны кубак закласці – закладу. Гэта ж выдатная задума – адкрыць у Рыме кадэцкі корпус! Станіслаў Ляшчынскі зладзіў жа такі ў Францыі, у Люнэвілі... Няхай хоць далёка ад радзімы гадуюцца сапраўдныя патрыёты!

Строгія погляды Шрэдэра на пана Рыся ўплыву не мелі. Ён, асабліва падагрэты мальвазіяй, лічыў, што знаходзіцца ў кампаніі адзінадумцаў, і не збіраўся нічога ўтойваць.

— А хто больш годны? Князь Міхал Багінскі, які пра тую карону марыў, з Цялком сябруе, і кажуць, завёў сабе каханку-мужычку, за сэрца якой яны з Панятоўскім зараз змагаюцца. О то ж высакародныя асобы! Аляксандр Сапега прыняў булаву вялікага гетмана – і радуецца, як дзіця цацку атрымала. Толькі пан Караль – сапраўдны шляхціц, захавальнік сармацкіх традыцый! Памятаю, як у юнацтве апынуліся мы з ім за адным сталом. Я – сын слуцкага арганісты, ён — сын князя. І пан Караль сказаў, што мне пасуе не шляхецкая шапка, а дактарантка, якія арганісты носяць. А я выклікаў яго на двубой, бо і я шляхціц такі ж, як ён! Пабіліся добра... І мне пашана толькі ад пана Караля была – за смеласць. А пасля, калі памёр ягоны дзядзька, пан Геранім Радзівіл, які мной апекаваўся, пан Караль узяў мяне да сябе, і прыняў у альбанскую банду. І міласцямі сваймі адорваў...

Тры чалавекі за сталом пачуліся не лепшым чынам. Значыць, пан Рысь бываў у Слуцкім замку пры Геraніме Радзівіле і мог бачыць там Пранціша і Баўтрамея, якія ледзь той замак на кавалачкі не разнеслі, вызваляючы Саламею Рэніч. І актрысу Міхалішыўну мог пазнаць... Але калі б такі відны пан тады ў замку прысутнічаў, Пранціш абавязкова б яго запомніў! Мусіць, размінуліся яны з ім, слава святому Франтасію...

— А вось чараўнікоў пан Геранім не любіў! – як па намове, заявіў пан Рысь, падымаючы чацвёрты келіх і кідаючы хуткі позірк на Батысту. – Чараўнікоў у нас на ланцуг у сутарэнні садзілі. Яны брата пана Гераніма, князя Марціна, з розуму звялі!

Пра чараўнікоў на ланцугу Пранціш і Лёднік ведалі выдатна. Бо абодва ў слуцкіх сутарэннях пабывалі. На шчасце, Батыста занадта раззлаваўся, адчуўшы выпад у свой бок, каб прамаўчаць.

— Ёсць чараўніцтва, а ёсць высокія духоўныя практыкі! – завёў ён. – Не кожнаму проста пад сілу іх асэнсаваць. Мяне запрашалі праводзіць сеансы каралеўскія фаміліі Еўропы! Я паказваў тое, чаму навучыўся ў бесцялесных субстанцый, перад ягонай мосцю Аўгустам III, перад ягонымі мосцямі французскім каралём і герцагам Брандэнбургскім, мяне запрашае да сябе расейская імператрыца, і ў дамах іх мосцяў Радзівілаў я з поспехам выступаў, і чуў ухвалы і сустракаў пашану!

Пан Рысь пазіраў зялёнымі шалёнымі вачыма — ён толькі што асушыў пяты келіх, і Пранцысь разумеў, што пан шукае толькі найменшай падставы, каб схапіцца за шаблю.

— У Варшаву прыехаў ваш зямляк, такі фацэт Казанова. Таксама яго прынялі ў лепшых дамах, нават Цялок-Панятоўскі прыгалубіў... Што мяне не дзівіць, бо Цялкі – не самая старажытная шляхта, і нюху на высакародную кроў не маюць. З-за нейкай італьянскай балярыны Казанова пасварыўся з князем Браніцкім, падстоліем, і выклікаў на двубой... Ды не на сумленных шаблях біліся, а на пісталетах! Няшчасны князь быў падступна паранены ў жывот – ляжыць цяпер, дактары не ведаюць, ці акрыяе. Тады пачалі высвятляць, што за асоба можа стацца прычынай смерці падстолія і ваяводы. І што б вы думалі? – пан Рысь выжлуктаваў яшчэ адзін келіх, выцер кроплі з вусоў, якія пачалі стамлёна абвісаць. – Высветлілася, што Казанова – нат не дваранін, а звычайны шалбер, прайдзісвет, у Італіі сядзеў у турме за зганьбаванне высакароднай дзяўчыны, з Францыі ўцёк, бо скраў грошы... Вядома, усе дзверы пасля такіх звестак перад махляром зачыніліся, і ён хуценька з’ехаў. А Браніцкі яшчэ й высакародна прасіў, каб ягонага магчымага забойцу не пераследвалі. Я б з тым Казановам шаблі не скрыжоўваў! Я б яго на зямлі расклаў ды загадаў сто дзягаў усыпаць!

Батыста трохі збляднеў і прыкусіў губу. Пан Рысь угледзеўся ў яго каламутнымі зялёнымі вачыма і расчаравана адвярнуўся, зразумеўшы, што гэты шаблю не выхапіць, хоць ты яго вінom аблі. Цяпер пад прыцэл патрапіў Лёднік.

— Не прызнаю, як і князь Караль Радзівіл, новай шляхты. Але ведаю, што пан Лёднік зарабіў шляхецтва паводле Статута, на полі бойкі, выратаваўшы жыццё вялікаму гетману, светлай памяці ягонай мосці Міхалу Радзівілу, бацьку пана Караля. Бачыў пана Лёдніка на хаўтурах гетмана ў Вільні... Напэўна, пан добра валодае шабляй? Тады чаму ён не пайшоў служыць свайму дабрадзею, як шляхціц? У войска? Няўжо клісцірная трубка больш годная, чым сумленная зброя?

— Пан Лёднік – знакаміты вучоны, — умяшаўся Вырвіч. – Ён лячыў пана Міхала Радзівіла!

— Вось яно што...—пагрозна прамовіў Рысь. – Відаць, доктар вы не такі добры, як фехтавальшчык.

— Усё ў волі Божай. Я ўсіх лячу аднолькава, і жабрака, і князя, укладаючы ўсё сваё ўменне. Відаць, я быў няварты таго, каб праз мяне Гасподзь даў ацаленне майму дабрадзею, ад чаго шчыра сумую.

Лёднік глядзеў у талерку і здаваўся каменным помнікам, які чамусьці вырашыў павячэраць. Пранціш ведаў, што доктар угневаны, але ведаў, як сын полацкага гарбара не любіць звычая шляхты чапляцца, падвыпіўшы, адзін да аднаго, каб паказаць зухаватасць ды пабіцца. Ён часта казаў, што ад дурной смерці не ўратуе нават дасканалае ўменне – бо аднойчы і качарга страляе.

Рысь нейкі час сядзеў, утаропіўшыся ў доктара вачыма, якія здаваліся ўжо не зялёнымі, а жоўтымі, як у сапраўднай рысі. Лёднік калупаўся лыжкай у гуляшы, жаданы двубой зноў зрываўся. Тады пан перавёў вочы на Пранціша.

— А адкуль родам пан Вырвіч? Якімі маёнткамі ўладае?

Пранціш адчуў, як загарэліся шчокі, кроў застукала ў скроні. Колькі яму ў юнацтве давялося выцерпець насмешак за тое, што бедны, што разам з бацькам поле арэ! Таму падобныя закіды падалі на ягоную свядомасць, як вада на распаленую патэльню. Лёднік паспяшаўся перавесці размову на апошні сойм – той, дзе абмежавалі ліберум вета, выклікаўшы незадавальненне шляхты, але ж і расейцаў з прусакамі раззлавалі, бо гэта азначала, што новы кароль усё-ткі наважыўся на рэформы, насуперак дамове, і краіна, якой наканавана згінуць, можа ўзмацнець. Згадкі пра сойм звычайна адразу выклікалі буру, але пан Рысь быў занадта напіты, і бачыў перад сабой адну мэту: пабіцца.

— Чаму пан Вырвіч не адказвае мне? Ён саромецца сваёй радзіны?

Пранціш адсунуў талерку, Ян Сабескі на габелене замахнуўся шабляю на туркаў.

— Я – Франтасій Вырвіч з Падняводдзя, герба Гіпацэнтаўр, апошні ў родзе, які ідзе ад самога Палямона. З намі ў сваяцтве князі Слуцкія і Астрожскія…

— А яны пра гэта ведаюць?

Гэта была сапраўдная абраза, якой ні адзін праўдзівы шляхціц сцярпець не можа. Вырвіч, сціснуўшы зубы, падняўся, каб узяць шаблю, пакінутую разам са зброяй іншых гасцей на спецыяльнай падстаўцы ля дзвярэй – па звычаі, за стол са зброяй не садзіліся, бо тады ў келіхі занадта часта наліваўся б цёплая кроў.

Шрэдэр нарэшце ўмяшаўся… Але ягоныя словы з пана Караля Рыся сцякалі, як вада з воску.

— Ты, манах, пацеры свае чытай, а ў шляхецкія справы не лезь.

Вось тут, мабыць, Шрэдэр пашкадаваў, што пазбавіўся ад баявітага Зыгмунта Гроса.

— А ці не станьчыць мне дзеля высакароднай кампаніі? – ускочыла з месца Міхалішыўна. – А пан Рысь будзе маім кавалерам… Я ўпэўнена, што вашамосць гжэчна таньчыць…

— Егіпецкіх скокаў не ўмею, — з’едліва адказаў Рысь, нат не перавёўшы позірк на прыгажуню. – А вось пан Вырвіч, падобна, захацеў са мной патаньчыць…

Вырвіч ужо схапіў сваю шаблю, але перад Каралем Рысем вырас Баўтрамей Лёднік.

— Я не толькі клісцірнай трубкай валодаю, вашамосць. Хаця вам не пашкодзіла б добра прамыць… толькі не вантробы, а мазгі.

— Бутрым, не ўмешвайся! – крыкнуў Пранціш. – Ён мяне абразіў!

— Але мяне ён абразіў першым. Праўда, вашамосць? – спакойна прамовіў доктар. Рысь задаволена выскаліўся, адзін вус у яго зноў тырчэў баявіта, другі быў апушчаны.

— Гатовы зараз жа задаволіць крыўду васпана!

Альбанчык быў п’яны, але не так, каб хістаўся. Наадварот – прадчуванне хуткай сутычкі нібыта працверазіла пана, вочы яго блішчэлі, ноздры раздзімаліся… Адразу было відно, што зараз ён – у роднай стыхіі, як стронга ў вадаспадзе, і ніякія ўгаворы не падзейнічаюць.

— Толькі ў мяне адна ўмова, – цвёрда сказаў доктар. – Калі я тры разы запар выб’ю шаблю з рукі васпана, ён папросіць прабачэння ў пана Вырвіча.

— Тры разы? – пан Караль зарагатаў, схапіўшыся за пояс, быццам пабачыў, як заяц нюхае табаку. – Ну, калі гэта неверагоднае

здзейсніцца, гатовы папрасіць прабачэння і ў пана Вырвіча, і ў цябе, і больш з вамі абаімі на двубоях не біцца — бо толькі нячыстая сіла можа даць подобнае ўмельства, а супраць нячысціка толькі наш князь Караль Радзівіл здольны выстаяць, а не мы, простыя шляхціцы.

Пане Каханку, як вядома, любіў частаваць гасцей і прыдворных байкамі пра ўласныя прыгоды, як нарадзіў з русалкай селядцоў ці выбраўся з бітвы на палове каня, а таксама пра сваю пераможную бойку з нячысцікам. Чым збіў з тропу калісьці свайго сябра Валадковіча, які зажадаў здзейсніць падобны ж подзьвіг і бегаў п’яны ноччу па могілках, выклікаючы суперніка з рожкамі.

Гусары на габеленах скакалі ўсё гэтак жа баявіта і няўмольна, змінаючы купку ворагаў у цюрбанах. Шрэдэр незадаволена хмурыўся, але маўчаў.

— Пайшлі на двор! – альбанчык узяў шаблю і рушыў за дзверы. Граф Батыста з задавальненнем застаўся б у пакоі са Шрэдэрам, але нікуды не дзенешся, калі выдаеш сябе за графа – у высакароднай асобы свае абавязкі. Пайшла за мужчынамі і ўстрывожаная, збялелая Міхалішыўна.

Зямля размокла ад дажджу, ад травы засталася толькі рудая каша. Лёднік стаяў у расслабленай паставе, апусціўшы шаблю, чорныя пасмы валасоў захіналі ягоны змрочны худы твар. Пан Рысь паблажліва глядзеў на суперніка, які не выклікаў ніякай перасцярогі. І, калі Пранціш падаў знак сыходзіцца, альбанчык нават не зразумеў, як гэта ягоная шабля аказалася на зямлі. Пачырванеў, як кармазынавы жупан, патрос рукой, схапіў сваю зброю і кінуўся на доктара, што, нібыта засумаваўшы, стаяў насупраць.

Лязо зноў уторкнулася ў вільготную зямлю, эфес загайдаўся, як бы ад ветру.

Цяпер назіраць двубой было цікавей за любы сеанс магіі. Віленскі доктар рухаўся імкліва, не ўсочыш, гэта сапраўды нагадвала пагрозны танец. Шабля раз’ятранага пана Рысі зноў вылецела з рукі гаспадара, той і сам некалькі разоў паваліўся, не ў змозе стрымаць ворага ці хаця б угнацца за ім. Жоўтыя боты пана цяпер былі жоўтымі толькі часткова, пераняўшы плябейскі колер глебы.

Нарэшце задыханы пан, змушаны круціцца ваўчком, паваліўся проста на тое месца, пад якое высакароднай асобе на цвёрдую лаву падкладаюць аксамітную падушачку. Тут жа дзесьці побач закукарэкаў певень, яму азваліся таварышы па ўсёй Лебе, быццам птушынае войска праводзіла пераклічку перад рашучай бойкай з усімі кухарамі свету.

— Тры! – пераможна выгукнуў Пранціш, на ўсялякі выпадак не здымаючы рукі з дзяржальна свайго Гіпацэнтаўра. Мала што зараз выкіне гэты шалёны!

Але пан Рысь устаў, крэхчучы, абцёр рукавом спацелы твар, падняў здрадлівую шаблю, сунуў яе за пояс і паматаў галавою, як чалавек, які толькі што прачнуўся ад начнога жаху і спрабуе хутчэй вярнуцца да свядомасці. Доктар стаяў, як нічога не было, ягоная шабля таксама месцілася за поясам, рукі скрыжаваныя на грудзях, аблічча спакойна-грэблівае.

— Трэба ж, ні кроплі крыві... Што ж гэта за бойка, у якой кроў не пралілася! – трохі пакрыўджана прамовіў пан Рысь, як малы, які ўпэўніўся, што алавяны жаўнерык сам не ходзіць.

— Васпан незадаволены? – халодна прагаварыў Лёднік. Рысь шумна ўздыхнуў.

— Дамова ёсць дамова, шляхціц слова стрымае, нават калі за гэта яму ў чыстцы пяты падсмажаць.

Павярнуўся да Пранціша, урачысты, як штандар.

— Пан Вырвіч, прыношу сваё шчырае выбачэнне. Не сумняюся, што вашамосць мае самых высакародных продкаў.

І зноў паглядзеў на доктара.

— І перад васпанам выбачаюся. Прызнаю, што пан умела валодае не толькі клісцірам, але і шабляй.

Махнуў рукой і аж застагнаў ад роспачы.

— А я слова даў, што з панам больш біцца не стану! А як жа я хацеў бы яшчэ выпрабаваць ваша майстэрства!

Лёднік паціснуў плячыма.

— Для гэтага не абавязкова сыходзіцца на двубоі. Я магу проста пафехтаваць з панам дзеля ўзаемнага трэнінгу.

Аблічча Рысі прасвятлела, вусы ваяўніча натапырыліся.

— Скарыстаюся літасцівай прапановай вашамосці!

— Толькі не зараз жа, — паспешліва прамовіў Лёднік. –Давайце пойдзем у дом – а то графіня Батыста зусім змерзла.

І праўда, Міхалішыўна выбегла з дому ў адной сукенцы, і цяпер абдымала сябе тонкімі рукамі, спрабуючы сагрэцца. Граф Батыста, зразумеўшы, што выглядае не надта галантна, падыйшоў да жонкі, накінуў на яе свой плашч, абняў за плечы і павёў у дом. А пан Рысь, падобна, прасякнуты самымі цёплымі пачуццямі да свайго нядаўняга праціўніка, запатрабаваў ад таго адзначыць шчаслівае сканчэнне бітвы. Рука пана, з якой выбівалі шаблю, была ўсё-ткі пашкоджаная, Лёднік паставіў дыягназ – расцягненне звязак, наклаў шчыльную

павязку, і пан Рысь запэўніваў, што найлепшыя супернікі па двубоі – гэта дактары: сам параніць, сам вылечыць.

Напаіць доктара не ўдалося, ён абмяжоўваўся карысным для стрававання бураковым квасам, але затое пан Рысь, зморaны практыкаваннямі, якія ўчыніў яму Лёднік, суцешыў сябе, як мог, і мальвазіяй, і медавухай, і ядлоўцавым ліквoрам крамбамбуляй, і ў ложак пана аднеслі слугі. А доктар нарыхтаваў адвары Шрэдэру і яшчэ з дапамогай Пранціша перадаў зелле Міхалішыўне. Батыста як бы выпадкова час ад часу пакідаў маладога драгуна са сваёй жонкай, ад чаго было і прыемна – чаму б лішні раз не патрымацца за белую ручку, і трохі непамысна – як шчупаку, які спазнаў, што спакусны кавалачак ежы, які сам просіцца ў пашчу, неаддзельны ад сталёвага кручка.

Мора шумела, як быццам незадаволеныя сваім лёсам вадзянікі і русалкі праводзілі сойм і ніяк не маглі прыйсці да адзінай думкі, як лаўчэй затапіць абрыдлую сушу халоднымі хвалямі. Белыя дзюны няўмольна і незаўважна набліжаліся да чалавечага жытла, ламаючы, як сухія травінкі, векавыя сосны.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ. ЯК ПРАНЦІШ ВЫРВІЧ ВІНА НЕ ПАКАШТАВАЎ

Пранціша пабудзіў штуршок у плячо. Над драгунам стаяла ў цьмяным святле раніцы, шэрай, які нябелены лён, Міхалішыўна, захутаная ў чырвоны аксамітны халат, расшыты чорнымі цмокамі.

— Пан Пранціш, карабель прыйшоў!

Дзяўчына шаптала ледзь чутна, але была не напалоханая, а напятая, як перад бойкай. З суседняга ложка прыўзняўся Лёднік.

— Здаецца, я нанач зачыняў дзверы…

Міхалішыўна моўчкі пакруціла ў пальцах шпільку – падобна, яна перастала баяцца злоснага доктара. Лёднік усміхнуўся.

— Ясна… Замкі для нас не перашкода. Дзе Батыста?

— Замкнуў мяне і пацягнуўся некуды са Шрэдэрам. Стары ісці не мог, дык двое слуг на насілках панеслі.

Вырвіч паглядзеў у вакно, дзе шэрае неба зліваласся з морам і чарнелі на светлым пяску рыбацкія чаўны, быццам чыісьці самотныя сны. Ад прычалу, дзе стаяў карабель, да іх дома ішлі людзі… А вось і насілкі… Вяртаюцца галубочкі езуіцкія.

— Нам трэба паслухаць іх размову, — сурова сказаў Лёднік. Міхалішыўна на імгненне задумалася, потым матнула галавой, і яе чорныя валасы рассыпаліся па плячах – а пачцівая паненка

абавязкова перацягнула б іх стужкай, мімаволі прыйшло ў галаву Пранціша.

— Пойдзем у мой пакой, там чутно і бачна ўсё, што робіцца ў зале, а яны звычайна там і перамаўляюцца. Толькі ціха...

Пранціш паспеў на хуткую руку зладзіць з вопраткі і футраў балваноў і сунуць пад коўдры, Лёднік пакруціў галавой, але не стаў высмейваць шкалярскія хітрыкі. Колькі разоў у Вільні, у доме з зялёнымі аканіцамі, прыходзячы будзіць студыёзуса Вырвіча, каб не спазніўся на заняткі, заспяваў вось такую імітацыю. Воўк кожны год ліняе, але нораву не мяняе.

У пакой актрысы слуцкага тэатра можна было прайсці толькі праз залу, дзе спыніўся Батыста – фактычна, апартаменты Раіны былі альбо гардэробнай, альбо катухом для прыслугі. Цеснавата і беднавата, з раскошы толькі маленькі срэбны збаночак для ўмывання, які глядзеўся зусім недарэчы побач з глінянай шчарбатай місай, як разбагацелы родзіч на хрэсьбінах у сваёй ушчэнт згалелай радні. Недарэчна выглядалі і клеткі са змеямі. Адна тварына, здаровая, зялёная, ляжала сабе, як п’яны млынар, а маленькая, чорная, якую Міхалішыўна звычайна насіла на шыі, злавесна соўгалася па сваёй турме, аж млосна рабілася ад ейных пруткіх рухаў.

— Туды станьце! – шапнула Міхалішыўна, і драгун з доктарам паслухмяна ўціснуліся справа ад дзвярэй у завешаную грубым выцвілым сукном нішу для адзення, якая замяняла шафу. Цяпер, нават калі б Батыста расчыніў раптоўна дзверы да сваёй наложніцы, заставалася надзея, што госці застануцца незаўважанымі. Але быў і яшчэ адзін сакрэт Міхалішыўны: у сцяне паміж дзвума бярвеннямі свяцілася пракалупаная шчыліна, з таго боку завешаная карункамі. Падобна, якраз пад абразам Маці Божай. Спрактыкаваная шпіёнка паўсюль знойдзе зручнае месца для асочвання.

Строі, яркія, стракатыя, прапахлыя экзатычнымі зёлкамі, былі прыдатныя для выступленняў, але стаяць, уткнуўшыся ў іх носам, не надта выгодна. Тым больш страшэнна хіліла ў сон: хоць кавы б глыточак... Пранціш здушыў пазяханне, уцягнуў носам саладкавата-ёлкі пах сукенкі... І чамусьці аж галава закруцілася, уявілася, што пад тканінай пругкае гарачае цела. Лёднік ткнуў драгуна ў бок: пачуліся галасы. Абодва шпегі прыпалі да шчыліны, а Раіна Міхалішыўна прыхінулася да дзвярэй.

Цяпер дом быў повен народу. Гаварылі па-італьянску, па-польску, па-беларуску. Двое слуг усадзілі Шрэдэра ў мяккі фатэль. Батыста пачакаў, пакуль застанецца са старым сам-насам.

— Я выканаў яшчэ адно заданне. Дапамог давезці золата, вось карабель, вось вы ў бяспецы... Вы абяцалі мне, што гэтае даручэнне будзе апошнім, і мне аддадуць, нарэшце, ліст. Але я пачаў ужо сумнявацца, ці ён у вас ёсць... Можа, вы мяне проста палохаеце, трымаючы за дурня?

— Гэты ліст? Мне яго сёння перадаў пасланец з Рыму... Вельмі цікавы змест, дарэчы.

Шрэдэр паказаў італьянцу пажаўцелы канверт, падпісаны дробным почыркам. Батыста глядзеў, нібыта зараз кінецца... Шрэдэр усміхнуўся і схаваў аркуш за пазуху.

— Не раю, спадар Манчыні... Прашу прабачэння, граф Батыста. Слабога старога вы, напэўна, адужаеце, але ж я не сам па сабе, вы і трох крокаў за парог гэтага пакою не ступіце. Ды й не варта недаацэньваць старую гадзюку, яна ўсё яшчэ можа ўджаліць.

Графа калаціла ад гневу і страху, рот яго перакрывіўся, быццам зараз разаб'е паралюш.

— Што вам яшчэ ад мяне трэба, гнюсныя стварэнні?

Шрэдэр глядзеў ласкава-ласкава, як на неразумнае немаўля.

— Вам нагадаць, спадар Манчыні, хто з нас аўтар гнюсных учынкаў, за якія ў любой дзяржаве вас павесяць?

Батыста рыпнуў зубамі. Ён быў на той стадыі злосці, калі загнаная котка гатовая кінуцца ў вочы сабаку-медыялану і дзёрці, і кусацца, не зважаючы на тое, што вораг непазбежна яе парве.

— Аддайце ліст!

— Толькі пасля таго, як золата апынецца на караблі і мы яго пералічым. Мала што магло знікнуць за доўгую дарогу... Гэта хутка, пан Батыста. Скрыні перанясуць ноччу, не прываблiваючы ўвагі.

Круглы твар італьянца зрабіўся пунсовым, незразумела, ці ад злосці, ці ад страху.

— Ну і пасля таго, як нашы спадарожнікі апынуцца таксама на караблі – у бяспечным для нас стане, — дадаў Шрэдэр, звузіўшы вочы і раптам страціўшы ўсю дабрэннасць. – Спадзяюся, вы зможаце напаіць пана Лёдніка і пана Вырвіча адпаведнымі парашкамі? Хлопчык, здаецца, закахаўся ў сіньёру. А вось доктара беражыцеся. Калі западозрыць... Я вас не абараню. А ўжываць грубыя гвалтоўныя метады супраць вартых і карысных людзей не хочацца.

Батыста пакланіўся. Ён паступова супакойваўся, на твары нават з'явілася з'едлівая ўсмешка.

— Пастараюся зрабіць усё, як найлепей.

— Ну і добранька... Вы ж егіпецкі жрэц, вам колькі, тры тысячы гадкоў? Будучыню прадказваеце, думкі бачыце, лыжкі

позіркам згінаеце... Усемагутны вы чалавек, пан Батыста, аж страшна з вамі знаходзіцца ў адным пакоі простым смяротным. Што вам нейкі доктар!

Паздзекваўшыся над самазваным графам, езуіт пляснуў у ладкі, і адразу ж у пакой зайшоў здаравучы слуга, але які напэўна больш звык да вайсковага мундзіра, чым да лёкайскай курткі — abeunt studia in mores, заняткі накладаюць адбітак на характар. Слуга абмерыў поглядам Батысту, ад чаго італьянец інстынктыўна адступіў падалей да сцяны, бо такім позіркам прыкідваюць, куды зручней усадзіць кінжал, але прыхадзень проста дапамог Шрэдэру падняцца.

Італьянец нерухома стаяў, ажно пакуль дзверы не зачыніліся і не сціхлі крокі на калідоры. Потым вызірнуў за дзверы, пераканаўся, што ніхто не падслухоўвае, асцярожна павярнуў ключ у замку і кінуўся да Міхалішыўны. Тая ледзь паспела ўсесціся ў крэсла з кніжкай лацінскіх вершаў і набыць засяроджаны выгляд.

— Не прыкідвайся, ведаю, што ўсё чула, пройда, — Батыста размаўляў з уяўнай жонкай зусім не так, як на людзях. – Зараз жа бяжы да гэтага дурня драгуна і запэўнівай, што страціла галаву ад кахання да яго, што я цябе за гэта заб’ю, і трэба неадкладна ўцякаць. Можаш выкрыць план езуітаў, што збіраюцца іх з доктарам атруціць. Што хочаш рабі – кладзіся пад яго, плач, ручкі цалуй – але каб узяў два мяхі, што ляжаць пад маёй буркай – ты ведаеш, дзе, і ехаў з імі ў карчму ля Ганевіч. Скажы, што гэта твой пасаг. Няхай рыцар цябе чакае, і з’едзеце вы з ім у шчаслівую будучыню. Схлусі пра сваякоў – ты ж графіня, прынцэса егіпецкая, а можа, я скраў цябе з палацу... Абяцай хоць трон плюс вернае каханне. Галоўнае – каб твой драгун адсюль непрыкметна з’ехаў з мяшкамі! А то скуру злуплю і ў куфар замкну не на два дні, а на дзесяць! Ты мяне ведаеш! Ну што стаіш, як намалёваная?

Батыста груба штурхануў Міхалішыўну, і тая выбегла за дзверы, кінуўшы перасцерагаючы позірк на нішу за фіранкай. Вырвіч з усяе моцы намагаўся не чхнуць, бо нейкая пушынка так і лезла ў нос. Але італьянец не збіраўся сыходзіць. Ён нешта мармытаў на роднай мове і зласліва падсмейваўся, і Вырвіч зразумеў, што ў пана ёсць яшчэ ў рукаве пара вострых стылетаў... Батыста высунуўся за дзверы:

— Джавані!

Лёднік і Пранціш асцярожна вярнуліся да плённага занятку падглядвання. Праз нейкі час прыбег чарнявы, як падгарэлы блін, італьянскі слуга мага, які ехаў з імі за фурмана вазка з дэкарацыямі і прыкідваўся, што ні зернейка не разумее па-тутэйшаму. Батыста пра

нешта з ім загаварыў, злуючыся і хвалюючыся, Джаванні залапатаў у адказ, ківаючы галавой. Вырвіч са здзіўленнем пачуў у плыні слоў імёны князя Мікалая Рапніна і Міхайлы Разанцава, а таксама пана Рысі і Караля Радзівіла. А яшчэ Лёднік побач так напяўся, што, здавалася, зараз выскачыць з шафы, і Пранціш, папярэджваючы, сціснуў ягонае плячо. Сядзець тут, як двум шкалярам – дурноцце, вядома, але выяўляць сваю прысутнасць – яшчэ большае глупства.

Батыста ўважліва выслухаў слугу, перапытваючы па некалькі разоў, твар ягоны прасвятлеў зласлівай радасцю. На развітанне маг даў Джавані цяжкі кашалёк, слуга раскланяўся і сышоў, ззяючы, як начышчаная спражка жаўнерскай дзягі, а італьянец усеўся ў крэсла з пераможным выглядам, бы кароль Жыгімонт Аўгуст, які абвесціў суровай матулі, што насуперак ёй ажаніўся з ліцвінкай Басенькай, і тая ўжо замовіла сабе новы ўбор для каранацыі. Падобна, Шрэдэр з кампаніяй будуць мець яшчэ ад яго непрыемнасцяў… А Лёднік сядзеў, сціснуўшы кулакі.

Пачуліся лёгкія крокі, у пакой забегла Міхалішыўна. Яе гожы твар быў звыкла спакойны.

— Ён згадзіўся.

Батыста задаволена хмыкнуў.

— Яшчэ б… Ты і не такіх жаўтадзюбікаў разводзіла, як муку на клёцкі. Калі ён з’едзе?

— Як толькі сцямнее. Зараз ніяк не атрымаецца — кругом адзін пясок, дзюны, усё відно, людзі шастаюць ля коней…

Голас Міхалішыўны гучаў так натуральна, што нельга было западозрыць спадману, як у роўненькай зялёнай палянцы, якая раптам аказваецца бяздоннай дрыгвой. Пранціш зацяўся – яго пакрыўдзіла параўнанне з “чарговым жаўтадзюбікам”.

— Мне трэба пасля ехаць да яго?

— Навошта? – насмешна сказаў Батыста. – Галоўнае, каб усе пабачылі, што ён з’ехаў і звёз мяшкі.

— Але ж мяшкі трэба забраць? Там каштоўнасці? – працягвала пытацца роўным голасам Міхалішыўна – Пранціш зразумеў, што хоча выцягнуць як мага больш звестак для схаваных у шафе. Батыста злосна засмяяўся.

— Усё каштоўнае я даўно пераправіў у іншае месца. Мне трэба, каб думалі не на мяне, а на хлопца. А з ягоным апекуном як? Хлопец яму раскажа, альбо ўцячэ тайна?

— Думаю, яны паедуць разам. Я распавяла, што іх хочуць атруціць.

Батыста ўстаў і захадзіў па пакоі.

— Напачатку я думаў, што доктара лепей усё-ткі ўсыпіць ды адправіць на карабель... Хай бы ганарлівец гэты пакруціўся ў нераце. Але няхай з'язджаюць абодва, хай за імі пагоняцца, і шалёны доктар пачысціць нашым працадаўцам пер'і...

Італьянец зноў нядобра пасміхнуся.

— А калі ўмяшаецца пан Рысь са сваймі слугамі? – як бы мімаходзь запыталася Раіна. – Ён жа таксама шалёны, і невядома, чый бок прыме. З доктарам пасябраваў...

— Не бойся, з'ехаў той Рысь, — паведаміў Батыста. – Атрымаў з Рыму ліст ад свайго князя і паскакаў у Вільню разам з усёй світай – агучваць, каму трэба. Патрыётаў збіраць.

Маг, як сыты кот, падыйшоў да егіпецкай прынцэсы, абняў:

— А мы з табой, мія кара, паедзем у Санкт-Пецярбург! Цяпер нам туды – дарога вольная! Няхай толькі ўсё скончыцца, як я планую – абяцаю, ты станьчыш свой вогненны танец перад расейскай імператрыцай!

Батыста па-гаспадарску правёў рукой па целе актрысы, даткнуўся вуснамі да яе тонкай шыі... Але Міхалішыўна не магла ж забыцца, што тут ёсць сведкі, і паспрабавала выслізнуць з абдоймаў мужа. Батыста схапіў яе за валасы.

— Зноў за сваё? – засычэў ён. – Табе не падабаецца маё каханне?

— Я проста зараз стамілася, Луіджы... – ціха прамовіла дзяўчына, адводзячы вочы. Батыста адштурхнуў яе ад сябе.

— Падзякуй, што не хачу зараз псаваць тваё аблічча. Табе трэба быць сёння прыгожай. Пайшла... Натхняй свайго драгуна, толькі асцярожна, каб не надта з ім разам свяціцца.

Раіна выбегла за дзверы. Маг пахадзіў па пакоі, насвістваючы вясёлую песеньку, паперабіраў шкляначкі ў саквояжы, некаторыя парассоваў па кішэнях і таксама выйшаў з пакою, замкнуўшы яго на ключ.

Нічога, калісьці Пранціш навучыўся адчыняць замкі не менш спрытна, чым Раіна Міхалішыўна.

Дзяўчыну яны і знайшлі ў сваім пакоі. Раіна сумна паглядала ў вакно, усеўшыся на ложак каля фальшывага Пранціша Вырвіча, зробленага з рызманоў. Шэрая раніца за вакном была не цяплей за мора, і гэтак жа хавала ў сваіх нетрах пачвараў.

Пранціш злосна піхнуў нагой ножку стала, нібыта той быў ворагам, але ж колькі ні пхай мёртвае дрэва, жывей ад гэтага не станеш.

— А я ж гэтаму Шрэдэру жыццё выратаваў у Менску!

— Можа, каб не выратаваў – цябе б проста забілі, — змрочна сказаў Лёднік. – Мяне іншае хвалюе... Падобна, граф Батыста вырашыў пайграць на два бакі. Пан Рысь з'ехаў у Вільню з лістом ад князя Радзівіла, у якім той заклікае моладзь Вялікага княства і Польшчы ехаць да яго ў Рым, атрымліваць вайсковую адукацыю і змагацца з узурпатарам Панятоўскім. Пан Рысь зачытае ліст натхнёным юнакам, тыя прысягнуць, што адправяцца на калядных вакацыях дружненька пад штандары Пане Каханку, а тут іх усіх і павяжуць... З доказамі злачынства. Каб выкараніць бунт у парастку.

— Як гэта? – разгубіўся Пранціш.

— Батыста пра гэта са сваім Джавані гаварыў... Ён загадзя дамовіўся з Рэпніным праз Міхайлу Разанцава, што здасць ім атрад змоўшчыкаў, а тыя ўзамен забяспечаць яму абарону, магчымасць выступаць у Санкт-Пецярбургу і зробяць пратэкцыю перад царыцай.

— Праўда... – ціха прагаварыла Міхалішыўна. – Ён мне распавядае не ўсё, але я ведаю, што з расейцамі звязваўся, і сам сустракаўся, і Джавані пасылаў, і тут чакаў нейкага пасланніка. А частку золата ён даўно скраў, яшчэ ў Гародні. Вось і баіцца, што зараз пералічаць і спахопяцца. А галоўнае не золата – а нейкую рэліквію прысабечыў, за якую спадзяецца шмат выгандляваць.

— Такі залаты змяты пасак? – ажывіўся Пранцысь.

— Так... Казаў, што гэта наш запрашальны ліст да ўсіх каралеўскіх двароў.

Што ж, гісторыя сведчыць, што чым болей скрадзена, тым менш верагоднасці, што злодзей будзе пакараны. Вунь каралева Бона пасля сваркі з сынам уцякла з каралеўства са сваімі “неапалітанскімі сумамі”, і шукай ветру.

Лёднік ускочыў і захадзіў па пакоі, кусаючы вусны.

— У любой інтрызе заўсёды гінуць лепшыя, наіўныя, маладыя, гатовыя памерці за ідэалы. Гэта неабходна прадухіліць... Каб я толькі ведаў, дзе адбудзецца сход будучых кадэтаў! Прасцей за ўсё папярэдзіць Шрэдэра – але гэта не адменіць нашага выкрадання... А Батыста ўсё будзе адмаўляць... І нас вінаваціць. Ды яшчэ на панну накінецца за здраду...

Павярнуўся да Раіны.

— Нам трэба пабыць на вячэры!

Дзяўчына кіўнула галавой.

— Добра, зараз я пайду да Батысты і скажу, што вы хочаце з'ехаць пасля развітальнага застолля. Толькі я ж мушу вам падсыпаць соннага парашку! Батыста будзе незадаволены... Не падсыплю –

Шрэдэр нас з ім западозрыць. Падсыплю – вы не зможце з’ехаць і адвесці ад Луіджы падазрэнні...

— Гэта наш клопат... – задумліва прамовіў доктар, складаючы ў галаве часткі будучай інтрыгі. – Чым будзеце нас усыпляць? Назавіце ўсе складнікі...

— Чысты опій. Без дамешкаў. – Міхалішыўна цвёрда гледзела на доктара празрыста-зялёнымі вачыма.— Рэакцыя наступае праз дваццаць хвілінаў. Сімптомы – рэзкае звужэнне зрэнкаў, замаруджанае дыханне, пахаладненне скуры...

— Ведаю... — нецярпліва кіўнуў доктар. – Але, спадзяюся, сімуляваць не давядзецца, што-небудзь іншае прыдумаем. А вы рабіце, як скажа ваш гаспадар. Кажыце ўсё на мяне, я вас змусіў, нікога не слухаю, пагражаў Батысту забіць, а вы мяне ледзь адгаварылі. Карацей, усё, каб самой не пацярпець. Я насіў рабскі ашыйнік, і разумею тое-сёе... Так, і дадайце абавязкова, што калі заўважу на вас найменшыя сляды пабояў, неадкладна выклічу яго на двубой, і гнуць лыжкі ў пальцах і падмяняць лісты ў канвертах пану жрацу будзе праблематычна. Знайду за што зачапіцца – не адкруціцца, баягуз.

— Дзякую... — Міхалішыўна раптам прыўзнялася на дыбачкі, хутка пацалавала доктара ў шчаку і выбегла за дзверы імкліва, як бы сапраўды стыхійны дух. Пранціш пачуўся дужа непрыемна.

— Што, Бутрым, усё-ткі чарам егіпецкай прынцэсы паддаўся? – раздражнёна прагаварыў ён. Лёднік з неразуменнем паглядзеў на драгуна, потым у позірку доктара з’явілася злосць.

— Калі я стаўлюся да паненкі, як да роўнай, гэта не абавязкова з-за пажадлівасці, высакародны пан Вырвіч. Калі вы пагладаеце на бедную дзяўчыну, як на ніжэйшую істоту, дык мне дазвольце, як не шляхціцу па нараджэнні, быць іншай думкі. А думаю я, што Раіна Міхалішыўна таленавітая больш, чым усе вашыя князёўны, і адораная большымі душэўнымі вартасцямі, і заслугоўвае абароны і шчасця. А вам, вашамосць, нагадаю яшчэ, што вы – практычна шчаслівы жаніх багатай радавітай нявесты, і не мусіце пераймацца з-за таго, што прыгонная актрыса раптам абдзяліла вас увагай.

— Вось добра, Бутрым, што нагадваеш час ад часу, што ты не шляхціц! – выгукнуў угневаны Пранціш. – А то я і з табой на роўных пачаў... Забыўся на тыя часы, калі ты мне ў ручку цалаваў!

Не гледзячы на зледзянелае аблічча доктара, Пранціш выбег з пакою... І хутка вакол яго былі адны дзюны. Вандроўныя выдмы, якія пахавалі пад сабою не аднаго занадта смелага ці неразважнага чалавека.

Вецер навяваў у валасы дробныя белыя пясчынкі, як быццам хацеў выветрыць з галавы злыя словы, якімі драгун узнагароджваў фанабэрыстага кмета з дыпломамі. Пранціша разрывалі і гнеў на сына гарбара, ягонага былога слугу, які разыгрывае рыцара перад прыгоннай актрыскай, і сорам за сябе… Таму што ясна было, што, разважыўшы і супакоіўшы свой “вогненны тэмперамент”, як буркатаў прафесар, Вырвіч застанецца з сорамам і раскайваннем. Але цяпер так прыемна было пахадзіць між дзюнаў, пашкадаваць сябе… Чым Пранціш вінаваты, што нарадзіўся шляхціцам, а Міхалішыўна – дачкой простага збройніка, да таго ж бунтаўніка? Гэта ж Гасподзь учыніў так, што ён, падхаружы Вырвіч – мужчына, жаніх хоць куды, а яна – дзеўка, якая даўно страціла цноту.

Але цяпер пры думцы, колькі пажадлівых мужчынскіх рук дакраналіся да егіпецкай прынцэсы, Вырвіч адчуў не гідлівасць, а боль. І як бы нейкая думка паўтаралася: не вернеш… Нічога не вернеш… А што драгун хацеў вярнуць? Пабачыць трагічную прыгажосць Раіны некранутай, у сціплым дзявочым пакоі шляхецкай сядзібы, пад аховай высакародных бацькоў ды слугаў? Каб прасіць рукі, і лічыць пасаг, і мерацца радаводамі, і каб да вяселля – толькі сціплы пацалунак, скрадзены ў сенцах, пры развітанні, пакуль бацькі не бачаць, і марцыпаны на заручынах? Усё, што ён можа мець з Ганулькай Ціхнавецкай — але без п’янкой радасці, без трымцення, як лязо дамаскай шаблі трымціць, уторкнуўшыся ў сталешніцу піравальнага стала, прадказваючы, што зараз пральецца кроў.

Але ж, расказвалі, Пане Каханку ў маладосці так упадабаў адну прыгажуню-шляхцянку, дачку войскага, што не паглядзеў, што дзеўка радавітая, што ў яе жаніх – наехаў на маёнтак, звёз… Пасля, вядома, каяўся, адгаворваўся, што п’яны быў, штоВаладковіч падбіў… Грошы велізарныя пакрыўджанай сям’і прапаноўваў, але позна было. Дзеўка ў манастыр сышла ад сораму. А з другой, дачкой уніяцкага святара, простай дзяўчынай, дужа хацеў ажаніцца – але маці не дазволіла. Не, няма ратунку ад чужой пажадлівасці ні ў хатах, ні ў палацах.

— Пан Вырвіч, што здарылася?

Па белым пяску імчала да яго танклявая постаць у чырвоным плашчы, чорныя доўгія валасы зблытваў вецер — вечны бясплённы заляцаннік.

І застаўся драгуну толькі сорам, які змусіў апусціць вочы і прамовіць:

— Няхай панна Раіна даруе мне, што не я за яе заступіўся.

Мора кідала свае хвалі на бераг так апантана, як прайграўшыся да кашулі гулец шпурляе на карчомны стол косткі: а раптам Фартуна! А ўдачы ўсё няма і няма…

Але ў празрыста-зялёных русалчыных вачах ззялі такія шчырыя здзіўленне, удзячнасць і нешта яшчэ, што Пранцішу стала яшчэ больш сорамна, бо не варты ён такіх пачуццяў… Успомніліся і суровыя словы Лёдніка, каб не гуляўся з Міхалішыўнай… Але ж яшчэ адзін пацалунак нічога не значыць, праўда? Ну толькі што галава круціцца, як ад ангельскага потэру, ды ад гарачых вуснаў не адарвацца...

А ў полі вярба
Нахілёная,
Маладая дзяўчынонька
Заручоная.
Заручоная
І запітая…
І пакуль яшчэ нікім
Не пабітая…

Перад боем асірыйцы заўсёды ўчынялі пір. Мачалі свае завітыя пад баранчыкаў бароды ў чашы віна. Кідалі вінаградзінкі за пазуху прыгожым прыслужніцам. Шпурлялі косткі ў паўлінаў, якія выдыгвалі на худых нагах паміж піравальнымі сталамі і не спяшаліся распраўляць хвасты, бо п’яныя асірыйцы – не птушыныя самкі, дзеля прывабы якіх і даводзіцца цягаць такі вось неверагодны стракаты веер на не самай зручнай частцы цела.

Напэўна, звычку застолля перад боем перанялі многія. Сапраўды, калі ведаеш, што хутка не зможаш атрымаць насалоды ні ад добрай ежы, ні ад пітва, ні ад пагляду жаночых ласкавых – трэба ўсё пералічанае назапасіць, хай і не знясеш на той свет. Затое весялей будзе да Абрама на прывіднае піва выпраўляцца…

Але гэты развітальны стол цяжка было назваць пірам. Мусібыць, кухар тут быў беларускі, бо на стол патрапіла бацьвінне, з-за якога ляхі дражнілі ліцвінаў бацвіннікамі, наліснікі, панцак… Як за сялянскім сталом. А што зробіш – посны дзень. Затое віно было… Праўда, пакуль не разлітае па крышталёвых келіхах, чырванела сабе ў графіне з накрыўкай у выглядзе вінаграднай гронкі, магчыма, ужо атручанае. Пан Шрэдэр са светлай усмешкай працягнуў Лёдніку і Вырвічу па складзеным аркушы:

— Тут засведчана, што вашыя мосці выканалі ўзятыя на сябе абавязкі і могуць вяртацца і атрымліваць усё абяцанае. Шчаслівай

навуковай працы на кафедры, доктар Лёднік! Шчаслівай вайсковай службы ў новым чыне, пан харужы Вырвіч!

Найміты з належнай пачцівасцю прынялі лісты, якія насамрэч каштавалі не болей, чым леташняе лісце. Шрэдэр кіўнуў Міхалішыўне:

— Цяпер можна і адзначыць завяршэнне нашага шляху. Няхай менавіта чароўныя рукі графіні Батысты разліюць гэтае віно, надаўшы яму болей смаку – думаю, такое паслабленне посту не будзе грахом, бо надта важлівая падстава.

Міхалішыўна зараз жа ўстала і разліла віно па крышталёвых келіхах. Староннi чалавек убачыў бы перад сабой толькі важную свецкую даму, багатую і ўпэўненую ў сабе, магчыма, жорсткую какетку. Граф Батыста сядзеў з самай крывой фізіяноміяй і намагаўся не глядзець на Лёдніка – італьянец ужо засведчыў сябе, як не самага смелага і спрактыкаванага ў вайсковай справе чалавека, і перададзеная пагроза доктара пра двубой пана трывожыла. Батыста, відаць, лічыў хвіліны, пакуль доктар і драгун не ўцякуць.

Вырвіч гадаў, што ж прыдумае Лёднік, каб не піць віно. А той пакруціў у доўгіх пальцах келіх, паглядзеў праз яго на агонь у каміне і нязмушана папытаўся Шрэдэра:

— Перш чым мы развітаемся, дарагі пан Якубе, хацелася б пачуць пра святую рэч, пра якую не пасуе мянціць п’янымі языкамі. Мой сябар, ягоная мосць Франтасій Вырвіч распавёў мне, як выглядае рэліквія, здабытая ў менскіх сутарэннях, і ў мяне з’явіліся такія-сякія меркаванні... Асабліва калі мой малады сябар па маёй просьбе намаляваў арнамент, які прыкрашае тую рэч. Гэта праца друідаў... Англія, дзявятае стагоддзе. Ці не так?

Шрэдэр нічым не выявіў незадавальнення, што доктар не спяшаецца хлябтаць віно.

— Вы дасведчаны чалавек, доктар. Значыць, здагадаліся, што маем справу з каронай святога Альфрэда.

— Той, у якой каранаваўся Эдуард Спаведнік? – удакладніў доктар нудным голасам. – І, выбачайце, якім жа цудам трапіла такая рэліквія ў Менск?

Батыста, які сядзеў як на распаленых вуголлях, злосна ашчэрыўся.

— А цуд не мае патрэбы ў тлумачэннях, васпан.

Шрэдэр усміхнуўся.

— Ну чаму не? Промысел Божы існуе, аднак інструменты выбірае падчас самыя дзіўныя. Праз трыццаць гадоў пасля рэвалюцыі Кромвеля ў Ангельшчыну прыехаў стольнік жамойцкі Тэадор Білевіч, той, які дапамог каранацыі Яна Сабескага і па ягоным даручэннні

катаўся па ўсёй Еўропе, шукаючы саюзнікаў для супрацьстаяння шведам. Магчыма, вы нават чыталі ягоны “Дзённік, пісаны ў Англіі пра тое, як там вандравалася і жылося”.

— Дзённіка не чытаў, — прамовіў Баўтрамей, — а вось працу “Трайная філасофія, рацыянальная, натуральная і маральная”, пісаную ў нашай жа Віленскай акадэміі гэтым панам, чытаў. І пан Вырвіч мусіў вывучаць яе на занятках...

Лёднік кінуў строгі позірк на Пранціша. Але той зрабіў выгляд, што заўважыў нешта цікавае на стале, хаця акрамя сучкоў ды куродыму ад свечак на ёй нічога не было, гэтак жа, як у галаве студыёзуса Вырвіча не затрымалася праца шаноўнага стольніка жамойцкага...

Шрэдэр паблажліва кіўнуў і працягваў аповед.

— У Лондане пан Білевіч асаблівую ўвагу аддаваў наведванню каралеўскіх скарбніцаў – упадабаў смарагд з галубінае яйка, які ўпрыгожваў каралеўскую карону, скіпетр з аметыстам велічынёй з грэцкі арэх, купель з чыстага золата... А яшчэ хадзіў у каралеўскі звярынец, дзіваваўся на слана, які хобатам вырабляў штукі з мушкетам, на барана з чырвонай поўсцю, марскога ката, які паліў тытунь. Але было тое, што шаноўны Білевіч у дзённік не запісваў. А менавіта свае вандроўкі па ігорных клубах, да чаго пан таксама меў вялікую схільнасць. Вось там аднойчы наш зямляк і выйграў у нейкага разбойніка дзіўны кавалак золата. Як запэўніваў яго шалбер – з каралеўскай скарбніцы. Пан Тэадор асаблівай увагі набытаму не надаў, кінуў сабе ў куфар... І праваляўся б той прадмет у куфры, пакуль хтось са спадчыннікаў не пусціў бы яго на пераплаўку, каб не адзін сябар пана Тэадора па акадэміі, які прысвяціў сябе служэнню Богу і ўвайшоў у Ордэн Ісуса. Той і пазнаў арнамент на залатым пасе, бо такі быў намаляваны на кароне святога Альфрэда з хронікі Роберта Глочэсцерскага. Рэліквія адметная! Апошні раз яе адзявала Ганна Балейн, адна з жонак караля Генрыха Восьмага...

— Якой адсяклі галаву за здраду... — удакладніў занудлівы прафесар. – А ў скрутак, пазбаўлены камянёў, яе ператварылі жаўнеры Кромвеля, так?

— Дакладна так, — згадзіўся Шрэдэр. – На шчасце, нехта з іх аказаўся дастаткова сквапным, каб прыўлашчыць святую рэч, з якой павінны былі, як з іншых каронаў, нешта выплавіць.

— І цяпер святая карона дастанецца ягонай мосці князю Радзівілу, які мусіць стаць нашым наступным каралём? – падрахункаваў Пранціш.

— Усё ў волі Божай! – пабожна вымавіў Шрэдэр і пацягнуўся за келіхам, каб нарэшце ўзняць тост. Але Лёднік з поснай фізіяноміяй заявіў:

— Не хачу пакуль паганіць віном вусны, бо мару, каб яны дакрануліся да кароны святога Альфрэда і Эдуарда Спаведніка, першых хрысціянаў Брытаніі, якіх павінны шанаваць вернікі ўсіх хрысціянскіх канфесій.

— І мне таксама хочацца такога гонару, пан Шрэдэр! Як жа не скарыстацца магчымасцю дакрануцца да святыні! – ялейным голасам падтрымаў Баўтрамея ўвішны драгун, які зразумеў ягоную гульню. Зараз павінна высвятліцца прапажа кароны, а сутыкнуць ілбамі ворагаў – самы лепшы шанец выратавацца самому...

Батыста ледзь не скрышыў зубы. Шрэдэр пастараўся схаваць незадаволенасць і павярнуўся да дзвярэй, ля якіх чакаў здаравучы слуга з бледным абыякавым аблІччам...

Але маг ускочыў, быццам сапраўды з гарачых вуголляў:

— Я сам перахоўваў святыню, таму хутчэй яе знайду.

І рушыў да дзвярэй... І калі праходзіў за спінай пана Шрэдэра, зрабіў рэзкі, такі хуткі, што вока ледзь усочыць, рух рукой, як тады, калі гасіў на адлегласці свечку.

З усіх прысутных у зале штукарства Батысты заўважыў толькі Пранціш, бо сядзеў на рагу стала, праваруч ад Шрэдэра... Удар на адлегласці, які не толькі гасіць агонь, але пашкоджвае ўнутраныя органы.

Стары, не паспеў граф выйсці за дзверы, схапіўся за сэрца і пачаў асядаць на падлогу. Яго падхапіў слуга. Той, вядома, нават не западозрыў, што да хваробы пана мог быць датычны граф, які, не прыпыняючыся, прайшоў ад хворага далей, чым дастане рука, нават узброеная кінжалам. А вось Шрэдэр напэўна нешта зразумеў, бо кінуў на Батысту, які схіліўся над ім з клапатлівым выглядам, ненавісны позірк. Аднак гаварыць ужо не асабліва мог, толькі хрыпеў.

Лёднік, які таксама штосьць западозрыў, расшпіліў камзол старога, агледзеў грудзі, спіну – ніякіх слядоў...

— Прынясіце маю валізку з лекамі! І збярыце ўсе бутэлечкі са стала ў маім пакоі... – крыкнуў ён, і слуга пакрочыў у другое крыло будынка... Да прыступаў хворага ўсе звыклі, і вэрхалу ўзнімаць ніхто не збіраўся. А Батыста хуценька выцягнуў з-за пазухі старога канверт і кінуў у печку.

Граф стаяў, абапершыся абедзьвума рукамі аб цёплую зеленкаватую кафлю, нібыта назіраў праз цэглу, як у вантробах печкі агонь круціць у чырвоных пальцах паперу, і тая рассыпаецца на попел, і ў

паставе мага адчувалася такая палёгка, як бы скінуў цяжар, што мусіў валачы на сабе доўгія мілі. А Пранціш між тым адчуў, што Шрэдэр укладае ў ягоную руку нейкую скамечаную паперку. Пальцы старога былі халодныя і вільготныя... Амаль нежывыя. Але вочы разумныя, хворы патрабавальна глядзеў на Вырвіча, і калі той забраў і схаваў у кішэню ўкладзеную у ягоную руку паперу, ухвальна прымружыўся.

Міхалішыўна трымала галаву паміраючага на каленях... Ёй і давялося закрыць яму вочы. Батыста стаяў, як смуткуючы святы... І Лёднік, упэўніўшыся, што ягонае майстэрства ўжо бескарыснае, ірвануўся да мага, схапіў таго за грудкі і зацiснуў у кут за печкай.

— А ну кажы, паскуднік, дзе пан Рысь будзе зачытваць ліст Радзівіла! А то зараз усім скажу, што ты забіў старога і скраў карону!

Маг паспрабаваў вырвацца, але погляд Лёдніка як прыбіў яго да сцяны.

— Вам ніхто не паверыць, доктар! Хутчэй мне ўдасца ўсё зваліць на вас. Таму што ў людзей, якія прыплылі на караблі, загад – вас забіць! Гэта Шрэдэр угаварыў усыпіць вас з маладым панам ды забраць з сабою. А цяпер – вы нябожчыкі! Нават калі загубіце мяне – вам не ўратавацца!

Па калідоры нехта бег, відаць, вяртаўся слуга з валізай. Лёднік сціснуў горла мага мацней:

— Кажы, дзе будзе сход, і мы з Вырвічам зараз жа з’едзем!

Батыста быў баязлівец, але не дурань. Ён крыва пасміхнуўся і прамовіў:

— У Віленскай акадэміі, вядома. У нядзелю, пасля ўрачыстай службы.

Пранцысь аж застагнаў. Можна было і самім дадумацца! Дзе больш зручнае месца? Моладзь з усёй Рэчы Паспалітай, уся патрыятычна выхаваная...

— Мы яшчэ пабачымся, пан Батыста! – пагрозна сказаў Лёднік. – І барані вас Божа спаганяць злосць на ні ў чым не вінаватай кабеце.

Гідкая ўсмешка перакрывіла вусны італьянца.

— Трэба ж, адразу дваіх ахмурыла!

Тут ужо не вытрымаў Пранціш, але паспеў толькі, сыходзячы, страсянуць графа так, што пудра з парыка пасыпалася.

Каля цела Шрэдэра ўжо мітусіліся заклапочаныя слугі...

Цямнела, як быццам у паветры разлілі бутэльку атраманту. Да стайні, дзе доктар і Вырвіч паспешліва сядлалі коней, падыйшлі шасцёра, агонь паходні выхапіў з цемры іх абыякавыя, пасечаныя шнарамі абліччы. На жаль, тут не было альбанчыкаў, якім можна было

штось патлумачыць, адны маракі са шхуны, найміты, якія проста выконваюць за грошы загады, не ўдаючыся ў іх слушнасць.

— Куды сабраліся, панове?

— Пан Шрэдэр даў нам тэрміновае даручэнне. Мы мусім ехаць да пана Рысі, папярэдзіць, што ў Віленскай акадэміі яго чакае пастка! – адрывіста прамовіў Лёднік.

— Ды я проста так пытаўся. Нам усё роўна, куды пан сабраўся і навошта. Бо гэта апошні прычал для карабля вашай мосці,—марак наставіў на Лёдніка шпагу.

— Ды ці не ўчыняць тую пастку сабраліся самі паны схізматыкі, — дадаў адзін з кампаніі, захутаны ў плашч з капюшонам, напэўна, пасланец ад езуітаў, больш пасвечаны ў справу.

А ў іх пісталеты, гэта кепска...

— А можа, напачатку паны папытаюцца ў графа Батысты, дзе карона святога Альфрэда, і чаму да яго прыязджаў пасланец ад Міхайлы Разанцава? – бязвінным голасам прамовіў Пранціш.

Чалавек у плашчы трохі разгубіўся і заазіраўся, нібы жадаючы сапраўды знайсці Батысту, да якога даверу было не больш, чым да схізматыкаў. І тут пачуўся стук капыт і грукат колаў – ад дому ірванула карэта, два ліхтары на ёй здаваліся балотнымі згубнымі агеньчыкамі, якія заводзяць у дрыгву. Воз са скрыняй, у якой на вуголлях таньчыла егіпецкая прынцэса, застаўся ў доме на дзюнах, пэўна, назаўсёды, і хто-небудзь з будучых гаспадароў доўга будзе ламаць галаву над прызначэннем жалезных шчытоў. А карэта, запрэжаная шасцю сытымі коньмі – Батыста відавочна падрыхтаваўся да ўцёкаў – імчала ў вечаровым змроку так, што дагнаць было немажліва, агеньчыкі ліхтароў усё аддаляліся. Пакуль людзі раіліся, што рабіць, а ім трэба ж найперш золата грузіць ды вывозіць, Лёднік агаліў шаблю, Пранціш узяў коней за аброці.

— Слова гонару, мы едзем ратаваць будучых кадэтаў! – пракрычаў драгун.

Але слова гонару тут значыла няшмат. Галоўнае, што ад'езд Батысты, які справядліва вырашыў, што былыя спадарожнікі яго таямніцы хаваць не стануць, зблытаў людзей Шрэдэра, частка пагналася за карэтай... А Вырвічу і Лёдніку давялося працярэбліваць шлях зброяй. Засвісталі кулі... І Вырвічу, калі ўжо ўскочыў на каня, апякло плячо.

Перавязаць толкам рану ўдалося толькі праз гадзіну, у лесе, навобмацак, бо ноч была цёмнай, як сумленне егіпецкага жраца.

І толькі нараніцу, калі ўжо валіўся ад стомы, болю і бяссоннай ночы, Пранціш змог пры святле, што скупа прасявалася праз хмары,

прачытаць ліст, што пакінуў яму Шрэдэр. І нават ускрыкнуў ад узрушэння. Лёднік зараз жа забраў аркуш і толькі й змог вымавіць: “Вось падлюка...”

Бо ў тым лісце пан Батыста адчытваўся перад князем Геранімам Радзівілам пра сваё выступленне перад Аўгустам Трэцім. Аказваецца, падчас свайго сеансу магіі Батыста па замове князя мусіў караля атруціць. Хітра, з адцягнутым дзеяннем. Выпарыўся б атрутны газ з адтуліны ў магічным шары, у які зазірае кароль... Пачалася б лёгачная хвароба з разладжваннем страўніка... І праз які месяц – гамон.

Лысы і заіклівы князь Геранім шчыра лічыў сябе прыгажэйшым мужчынам краіны і самым вартым кароны рыцарам. Дзеля здзяйснення сваёй мары не пагарджаў звяртацца да містычных рэчаў, хоць ведзьмакоў караў сапраўды бязлітасна. Але забойства не ўдалося, кароль пасля візіту мага толькі паперхаў ды ў прыбіральні даўжэй пасядзеў... І зноў узяўся папяровых чалавечкаў выразаць, да чаго быў вялікі аматар. Батыста апраўдваўся тым, што кароль пабаяўся надта зблізу пабачыць сваю будучыню, і ў пакоі быў скразняк... Хаця, можа, і наблізіў сеанс магіі смерць манарха, бо апошнія гады Аўгуст быў зусім недалужны.

І хаця бачыць караля ў залатой труне жадалі многія, але выкрыты замах на каралеўскую персону мусіў быць пакараны! Гэта сапраўды смяротны прысуд – у любой краіне, у любым асяродку. Як кажуць ліцвіны, здраду прымаем, а здрадніка вешаем. Мёртвы Геранім Радзівіл абаронай свайму найміту быць не мог, і гонар Радзівілаў ад ягонага ўчынку, калі б той выкрыўся, не цярпеў, бо Геранім карыстаўся славай шаленца, і радзіна ад яго даўно адраклася. Так што езуіты трымалі Батысту моцна!

А цяпер, выходзіць, ён у залежнасці ад ненавіснага драгуна і яшчэ больш ненавіснага віленскага доктара! Бо спаліў у грубцы ўсяго толькі пусты канверт, і зараз дарэмна радуецца. Шрэдэр, ясная рэч, прадугледжваў, што прайдзісвет-маг можа паспрабаваць выкрасці ліст, і на ўсялякі выпадак трымаў паперку ў нейкай таемнай кішэні асобна ад канверту.

І, можа быць, цяпер удасца палегчыць лёс Міхалішыўны... Дзякуй Шрэдэру хаця б за гэтую спадчыну.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ. ЯК БАЎТРАМЕЙ ЛЁДНІК У АКАДЭМІІ ЗНОЎ ДАКЛАД РАБІЎ.

Чаго толькі не ўспомніць былы студыёзус пра часы свайго навучання! І непрыемнае можа падацца праз гады смешным, напры-

клад, як аднойчы ў саламянай “аслінай кароне” вадзілі па вуліцах за непаспяховасць у лаціне, а пакараны з самай жаласнай фізіяноміяй умудрыўся сцягнуць па дарозе пернік, жменьку разынак і мігдалавую цукерку ў разявакаў-вулічных гандляроў, якія ціснуліся бліжэй, каб парадвацца прыніжэнню пракудлівага шкаляра. А як давялося ў езуіцкім калегіюме іграць князя Святаполка ў містэрыі пра дабраверных князёў Барыса ды Глеба, і падвязаная на вяровачцы барада з афарбаванай у чорнае кудзелі ўвесь час спаўзала набок, а з ложы ганаровых гасцей пaглядала сястра князя Міхала Багінскага ў сукенцы, падобнай да торту з узбітымі вяршкамі альбо клумбы, ды міла пасмейвалася... А як на першым курсе Віленскай акадэміі ўзяліся пераплываць Вяллю ў бочках, а потым біліся з падмайстрамі залатарскага цэху на палках-пальцатах!

Не, праз гады студэнцкае жыццё падаецца куды больш рамантычным – а вось некаторыя ўласныя выбрыкі ды крыўды дурнымі.

Баўтрамей Лёднік, выпускнік Полацкага калегіюма, а таксама факультэта вольных навукаў Пражскага ўніверсітэту ды медычнага факультэта Лейпцыгскага ўніверсітэту пра свае пракуды ў студэнцкія часы расказваў скупа. Вядома, да навукі сын полацкага гарбара з маленства імкнуўся, як прапойца да келіха, і нат у юнацтве больш хадзіў па таемных навукова-эзатэрычных таварыствах ды дэманстрацыях рызыкоўных эксперыментаў, чым па карчомках, але што пракуды былі – Вырвіч не сумняваўся. Навучыўся ж Лёднік у Лейпцыгу фехтаваць, каб быць першым у абавязковых буршаўскіх двубоях. А стрэчаны аднойчы аднакурснік па Лейпцыгу, вынаходнік Пфальцман адразу нагадаў Баўтрамею, колькі піва яны папілі ў карчомцы “Пад карасём”.

Не, нават такога зацятага чалавека, як Баўтрамей Лёднік, не маглі прамінуць радасці студэнцкага жыцця... Але выпытаць у яго штосьці было не лягчэй, чым дастаць з нерата жывога спалоханага вугра.

Але пакуль Бутрым важдаўся з куляй, што засела ў Пранцішавым плячы, распавядаў, відаць, замест абязбольваючага, як у Празе ягоны аднакурснік, балгарын родам, упадабаў адну паненку з Градчанаў, дачку прафесара. І каб зрабіць уражанне на пекную даму, упрасіў Баўтрамея, які ўмудраўся спасцігаць курс і вольных навук, і прыродазнаўчых адначасова, зладзіць пад вакном красунькі феерверк, каб ракета вымалёўвала ў паветры сілуэт Купідончыка, што будзе прызнаннем у каханні... А ўзамен паабяцаў выпісаць з радзімы адзін дужа рэдкі інгрэдыент для доследаў, а менавіта жывую смалу, якая ўтвараецца на камені і вылечвае ад усіх хваробаў. Пасля

двух бутэлек някепскага вінца – таксама балгарскага – палачанін згадзіўся. І ўсё было б цудоўна... Каб не невялічкая памылка будучага доктара, які быў выдатна абазнаны як у логіцы, так і ў механіцы, але з маляваннем меў праблемы.

Амурчык у аблоках дыму і ў суправаджэнні мілых выбухаў вымаляваўся на фоне аксамітна-чорнага неба вельмі эфектна, але меў чамусьці нейкую перакрыўленую фізіяномію, а на галаве замест кудзерак выразна бачыліся рожкі... Красунька, пабачыўшы проста перад сваім вакном вогненны абрыс нячысціка, пералякалася так, што ад ейнага віскату абудзіліся ўсе пеўні, сабакі і п’янюгі карчомныя ад Градчанаў да Залатога гораду, дзе жылі паважаныя алхімікі ды залатары, а радзіна паненкі ўзняла вэрхал, быццам іх дом пачала штурмаваць уся Асманская імперыя. І ўцякалі студыёзусы цёмнымі завулкамі, як зайцы, замест таго, каб святкаваць перамогу саюза Мінервы і Амура над дзявочым сэрцам.

Дарэмна Бутрым апраўдваўся, што рожкі ў паветранага Амурчыка выраслі выпадкова. Давялося абменьвацца з раззлаваным сябруком кухталямі, аж пакуль зубы ў роце абодвух не захісталіся, як у старэчаў, а потым запіваць афронт слівавіцай. А назаўтра намагацца захаваць сур’ёзнымі пабітыя фізіяноміі, выслухоўваючы неверагодную навіну пра з’яўленне над Прагай д’ябальскага знаку, што неадменна прадвяшчае... Што менавіта прадвяшчае – кожны распавядаў у межах сваёй фантазіі, і толькі два студыёзусы ведалі дакладна, што прадвяшчае гэта канец адной сардэчнай схільнасці, а калі не пашанцуе і ўсё выкрыецца – знаёмства са святой інквізіцыяй і развітанне з надзеяй атрымаць дыплом.

Самае цікавае ў гэтай гісторыі, што закаханы студыёзус змог павярнуць прыкрае здарэнне на сваю карысць, перадаўшы пераляканай красуні асабліва святыя сакраменты: кавалачак плашча благавернага балгарскага цара Барыса і слёзы святой Параскевы ў крышталёвай шкляніцы, якія любыя сурокі і ўплыў нячыстай сілы адганяюць, і змог пераканаць прафесараўну, што з’яўленне здані пад яе вакном было выклікана ні чым іншым, як зайздрасцю вядзьмацкай хеўры да цнотаў красунькі, а таму для гэтых цнотаў тэрмінова патрэбны надзейны абаронца.

Так што для балгарына ўсё скончылася шчаслівым шлюбам, тым болей быў ён багаты княскі нашчадак, і бацька ягоны, і ён сам праславіліся ў барацьбе з басурманамі-туркамі. А вось Баўтрамей так і не атрымаў каменнай смалы.

Пранціш шчыра павесяліўся, наколькі гэта было магчыма для пацыента, у свежай ране якога калупаюцца хірургічнымі

інструментамі. Ганулька Макавецкая стаяла побач з місай гарачай вады, і вада плёхалася мініяцюрным штормам, аж пакуль доктар не загадаў дзяўчыне паставіць місу на стол, а самой – добра выплакацца за дзвярыма. Гаспадыня Ляшчынаў нават не асабліва здзівілася з'яўленню гасцей, задыханых, запырсканых гразёй, адзін з якіх быў паранены – у краіне, якую ўвесь час раздзіралі войны, для шляхцюка звычайнае здарэнне. Хаця бачна было, што ўсё-ткі больш ухваляла б пані Гартэнзія жыццё ціхамірнае і нораў не ваяўнічы.

Лёднік спадзяваўся пакінуць Пранціша тут, пад надзейным даглядам – але, калі трэба, Вырвіч мог быць упартым не менш, чым доктар. Урэшце, гэта ў фехтаванні Лёднік — майстар, а вось з коньмі драгун Вырвіч упраўляўся куды лепей. Таму, дазволіўшы сабе самы неабходны — абы не зваліцца з каня – адпачынак, драгун і доктар выправіліся ў шлях. Ганулька глядзела ўслед заплаканымі вачыма, і Пранціш адчуваў сябе апошнім нягоднікам. Ласкавая жонка будзе, клапатлівая...

Але ў Вільню яны мусілі паспець да нядзелі. Коней у Ляшчынах здабылі, а вось Фартуна адвярнулася. Да корчмаў пад'язджаць баяліся, калі бачылі побач жаўнераў... Вельмі верагодна, што Батыста папярэдзіў сваіх цяперашніх апекуноў наконт двух шпегаў ад князя Радзівіла, якія будуць прабірацца ў Вільню. Але неабходна было зноў памяняць коней, дый Вырвіч, як ні трымаўся, усё-ткі саслаб, і варта было б пасядзець у цяпле хоць пару гадзінаў... Прынамсі, так лічыў Лёднік. Таму да наступнай карчмы пад назвай "Парыж", каля якой не бачна было ні жаўнераў, ні жаўнерскіх коней, усё-ткі пад'ехалі. Дождж абыякава паліваў сціплы будынак карчмы пад гонтавым дахам, сосны, на ствалах якіх ваяўнічыя госці не аднойчы выпрабоўвалі вастрыню сваіх палашоў ды стылетаў, і двух падарожных, якія і без таго вымаклі, бы вярнуліся ад вадзяніка. Вырвіч цяжка злез з каня.

— Пачакай тут, зазірну ў карчму, ці бяспечна, — хаваючы трывогу, прамовіў Лёднік. – А то пападземся, як небарака Грос.

У драгуна не было сіл запярэчыць. Ён жаваў нейкую дужа лекавую і страшэнна горкую траву, якую яму сунуў Лёднік для прафілактыкі запалення, і злаваўся на сябе – рана лёгкая, кулю дасталі, сам такіх ранаў колькі на другіх залячыў, а вось жа – саслаб, як паненка. Дый не такая, як Раіна Міхалішыўна, якая любога драгуна па трывушчасці ды спрыце пераганіць.

У карчме прыветна свяціліся вокны, гула басэтля. Ніяк не хацелася верыць, што і тут – anguis in herba, змяя ў траве, як казалі лаціняне пра таемную небяспеку. Подбегам вярнуўся Лёднік.

— Сядзяць, заразы, як гарох у струку. Жаўнеры ды шпегі. Сыходзіць трэба, пан Вырвіч. Ну чаму ты не застаўся ў Ляшчынах...

Раптам з цемры вынырнулі нечыя постаці.

— Пан доктар, сюды! Не бойцеся! Хутчэй, хутчэй! Зараз за вамі ўланы прыйдуць!

У змроку і дажджы можна было толькі й разгледзець, што падбеглі двое, дзяўчына і хлопчык.

— Пане, бацькамі клянуся, што хачу вам дапамагчы! Там далей, на дарозе, засока, і з карчмы вас убачылі. Іцка вашых коней зараз схавае, і вам трэба...

У дзявочым голасе чуўся сапраўдны адчай, а далёка ў цемры перагаворваліся мужчынскія грубыя галасы, і вось шчаўчок, нібы хтось узводзіў курок пісталету.

— Пайшлі...— шапнуў Лёднік Пранцішу.

Іх пацягнулі да карчмы, але не да дзвярэй, а ў абход, па кустоўях. Працісквацца давялося праз нейкі лаз, зладжаны ў павеці, караскацца па вузкім ходзе, умацаваным бярвеннямі, і вось абодва апынуліся ў катуху, які знаходзіўся, як можна было зразумець па гуках, пад падлогай карчомнай залы. Дзяўчына, паўнаватая, у акуратным каптурыку, павесіла на адмысловы крук ліхтар:

— Пасядзіце тут, вашыя мосці, пакуль уланы не сыдуць. Там матуля з імі разбіраецца. А я вам пакуль есці-піць прынясу...

І збегла.

Госці агледзеліся, бо пакуль не было зразумела, ці пастка гэта, ці ратунак. Катух быў завалены скруткамі тканінаў, пачкамі гарбаты і кавы, нават персідскі дыван ляжаў, укручаны ў палатно: Вырвіч з цікаўнасці прадраў накрыўку.

— Ну што, падобна, мы ў патаемным сховішчы гаспадароў, — шапнуў Лёднік. – Калі сюды пусцілі – ёсць надзея, што не здадуць.

Наверсе чуўся п'яны гуд, стукалі аб сталешніцы келіхі і косткі, спявак выводзіў пад дуду і басэтлю:

— А былі ж людзі ды няверныя,
А паверылі пагану цмоку.
Ой, таму цмоку на дзень па чалавеку,
А ў пятніцу рана яму двух мала.
Прышла радавая да самаго цара,
А ў таго цара ні чалядачкі,
Ні чалядачкі, ні дзіцятачкі,
Толькі ў таго цара прамудра царэўна.
Прамудра царэўна, адзявайся,
Надзявай шаты, шаты дарагія,

Абувай боты да ўсё залатыя,
Да ідзі ў поле пад сіне мора.

Раптам нехта з гульцоў зароў, што ягоны партнёр такі ж махляр, як Рыгор Осцік, што фальшывыя манеты чаканіў, на расейскага цара шпегаваў і якому ў Вільні галаву адсеклі. У адказ пачулася лаянка, потым крык ад болю... Потым ляснулі дзверы, і крыкі сціхлі. А спявак усё выводзіў:

— А сіняе мора ўскалыхнулася,
Прамудра царэўна ўлякнулася.
Выплываець з мора паганы цмок,
У яго з роту агонь валіць...
Як зачуў Госпад да ўсю праўду,
— А святы Юры, адзявайся,
Надзявай шаты, шаты дарагія,
Надзявай боты да ўсё залатыя,
Да ідзі ў стайню, выбірай каня.
Да едзь у поле пад сіне мора
Прамудру царэўну да й бараніць.
— Ой, Госпадзі ж Божа, сам я баюся,
Ад паганага цмока не адбаранюся.
— А святы Юрай, чаго баяцца?
Сячы канём, войстрым кап'ём,
Закідай ланцуг, ланцуг на рогі,
Ой, вядзі цмока па ўсяму свету.

Спявак, мяркуючы па голасе, быў зусім малады, але голас ужо надтрэснуты, з тымі ноткамі вечнай скаргі ды нуды, якія з'яўляюцца ў голасе жабракоў і якіх не павінна быць у голасе таленавітых артыстаў – але, на жаль, на гэтай зямлі чуюцца...

Раптам песня абарвалася, бо голас кабеты, які загучаў, немагчыма было ні перапець, ні перакрычаць:

— Ой, вой мне, гора маё, каб пада мной зямля трэснула – не было тут ніякіх бандзюкаў! І не бачыла, і не чула! Каб мне дзетачак маіх не дагадаваць! І не пушчу нікога такога! Ды ў нас паважаная самая карчма, у нас пан Лапушынскі бывае, не грэбуе келіх выпіць! Самыя шаноўныя госці начуюць, а вы нас падазраеце невядома ў чым, каб з вас чорная юшка палілася, а галоўка мая гаротная, каб вас распрынзіла, каб вы жыватом ездзілі, а праз вушы вецер свістаў... Паелі ўсё, папілі, па свеце нас пусцілі, не заплаціўшы, ды яшчэ вінавацяць, што злачынцаў хаваем!

Гэты голас не пазнаць было нельга. Карчмарыха Майсеіха з Чорных Соснаў, якую яны з Лёднікам выкупілі ў пана Лапушынскага!

Значыць, заехалі яны з Лёднікам якраз у ейную карчму, якая, аказваецца, носіць горды назоў “Парыж”...

— Паночкі мае, а літасцівыя мае, даруйце жоначцы, хворая яна... – дрыжачы танклявы голас належаў, пэўне ж, гаспадару карчмы.

— Каб вам на Крэўскі замак давялося каменне цягаць! – тут жа азваўся магутны “глас” карчмарыхі.

Гэткі гармідар доўжыўся яшчэ хвілінаў дзесяць, потым, відаць, жаўнеры не вытрымалі дзікай сумесі галашэнняў і праклёнаў і сышлі. У таемным ходзе пачуўся шолах, паказалася дачка карчмара, нагружаная, як на кірмаш. Паставіла на падлогу збанок піва, гаршчок, ад якога пахла нечым смачным, кінула на падлогу два кажухі, ад якіх патыхала цвілой скурай, але ў якасці коўдраў маглі паслужыць, а галоўнае – сухую вопратку.

— Няхай вашыя мосці тут пераначуюць, там два жаўнеры яшчэ засталіся, маці іх зараз напоіць добранька. Усю карчму перавярнулі, латругі, наваколле абшукалі, каб іх вантробы на плоце сохлі... – а карчмароўна, падобна, вырасце ў годную пераемніцу маткі. – Добра, што маці вас, пан доктар, угледзела, калі вы ў карчму зазірнулі. У матулі маёй вока, як у ахоўніка брамы нябёснай, — з гонарам паведаміла Майсееўна, яе цёмныя вочы глядзелі не падзявочы смела, а постаць была ганарлівай, як у царыцы амазонак. – А ранкам два коні будуць стаяць там, дзе мы з Іцкам вас перастрэлі.

— Дзякую, панна... Як, дарэчы, вас завуць? – папытаўся Лёднік.

— Я Рахель, ваша мосць. Але гэта мы мусім вам павек дзякаваць. Каб не вы – давялося б нам карчму прадаваць, каб матулю выкупіць з палону, і пайшлі б мы блукаць па свеце, гаротныя...

Галасіць ды бедаваць, падобна, панна Рахель магла, як і маці, не менш таленавіта, чым клясці.

— Папрасіў бы яшчэ панну прынесці хлеба з цвіллю і трошкі спірытусу – пан Вырвіч паранены...

Карчмароўна з годнасцю кіўнула галавой – сапраўдная гаспадыня, уладарка вар’яцкага карчомнага каралеўства:

— У нас аптэчка добрая... Прынясу, што ёсць – хай пан доктар выбірае. Зёлкі якія там, настоі...

А ў Вырвіча ўжо зліпаліся вочы, і ўсё цела ламала, як бы хтось па ім патаптаўся, і рана пульсавала балюча. Драгун асцярожна пакруціўся на кажуху, зручней прыстройваючы параненае плячо. Карчма наверсе заціхала, апошнія п’яныя мармытанні раставалі ў шуме дажджу. Як жа добра пасля небяспекі, холаду і стомы патрапіць

у ахоўнае цяпло! Успомніліся словы Лёдніка, які казаў, што ніколі не трэба шкадаваць пра тое, што ўдалося камусь дапамагчы...

А наранку іх чакалі коні – ды не два, а чацвёра, з мяшкамі, набітымі неабходнымі ў дарозе прыпасамі. Хаця дарогі было, калі хутка ехаць, усяго суткі...

Але суткі тыя даліся ў знакі. Тройчы давялося збочваць у гушчар і перачыкваць, пакуль праедуць падазроныя атрады. Да прыдарожных корчмаў пад'язджаць баяліся. Лёднік трывожна паглядаў на драгуна, паіў мікстурамі, якія змог здабыць у карчме, нават зрабіў з дошчачак і бінтоў такую павязку, каб параненая рука найменш варушылася, і ўсё ўгаворваў параненага дзесьці застацца, а Пранціш лаяўся і выскаляўся, паказваючы, што драгуну такая рана – як камар укусіў.

У Вільню ўляцелі, як начніцы за імі гналіся, пад нядзельны святочны перазвон. На шчасце, ці ніхто не насмеліўся затрымаць знакамітага доктара, які водзіцца з дэманамі, і ягонага сябрука, зухаватага харужага, ці не паспелі сюды яшчэ паведаміць, што іх належыць затрымаць. Капыты звонка цокалі па мокрай брукаванцы, люд паспаліты раздражнёна шугаўся ўбакі – гоніць жа паноў у святую нядзельку некуды... Лёднік змэнчыўся ўвесь ад трывогі – ці не спазніліся? А Вырвіч думаў толькі пра тое, як не зваліцца з каня – бо рабілася млосна...

У Акадэмію доктар заляцеў, як чорны віхор, і адразу кінуўся ў кабінет да рэктара. Пранціш, абліваючыся потам, бег следам, перад вачыма мітусіліся залатыя пчолкі.

А ў калідорах і аўдыторыях пуста, як у каморы пасля каляднага карнавалу... Можа, зманіў Батыста?

Рэктара не было на месцы, знайшоўся толькі намеснік, паўнаваты ўсмешлівы пан, знаўца рыторыкі. Прарэктар, калі выслухаў упэцканага і знерваванага прафесара, збялеў, як варанае яйка.

— Яны там... У зале, дзе вы рабілі даклад... Пан Рысь, ксёндз Марэк... І студэнтаў з сотню, але ўсе правераныя, рэкамендаваныя! Што рабіць? Калі іх тут схопяць – Акадэмію могуць зачыніць!

За зашклёнымі дзверцамі шафы стаялі кнігі па юрыспрудэнцыі – не так даўно гэтую свецкую навуку ўпусцілі ў акадэмічныя муры.

— Вы лепш думайце пра лёс маладых людзей! – раўнуў Баўтрамей. – Іх жа перастраляюць, як куранятаў! А хто выжыве, пасадзяць — і хто быў, і хто не быў. Ключы ад маёй лабараторыі ў каго?

Прарэктар трошкі памарудзіў, потым моўчкі палез у шуфляду стала, пабразгаў там жалеззем і дастаў звязку розных ключоў памерам з добрую вінаградную гронку.

— Ваш – вось гэты, з самай доўгай бародкай... А ад сутарэнняў – з шышачкай...

Паколькі ў начальства аказаліся ўсе ключы, было зразумелым, як у свой час з таемнай лабараторыі Лёдніка знікалі некаторыя каштоўныя рэчы, а менавіта лялька-аўтамат па імені Пандора, і якім чынам рабіліся рэгулярныяператрусы ў крамольнага прафесара.

— Дзякую, калега, не сумняваўся, што ад вас ніякіх таямніцаў у акадэміі не захаваеш, — не прамінуў з'едліва азвацца Бутрым. – Паспрабуем маладых вывесці такім шляхам.

— Думаю, мне лепей застацца тут... – адвёў вочы прарэктар. – Вы ж разумеце, пан Лёднік, што ў інтарэсах Акадэміі трэба, каб кіраўніцтва не было замешанае... А вось каб вы, калега, узялі на сябе перагаворы!

Знаўца рыторыкі ліслíва ўсміхнуўся.

— Вы ж чалавек аўтарытэтны, ваша мосць, з Рапніным і Разанцавым сябруеце! Перастрэньце тых, хто прыйдзе арыштоўваць студэнтаў, патлумачце, што юнакі ўсяго ў карты гулялі, што не было закалоту... Вам паверацць!

— Усе мне давер аказваюць, — гнеўна адказаў Лёднік, — Толькі пасля чамусьці ў аддзяку хочуць забіць!

І шпурнуў на стол ліст ад Шрэдэра.

— Спадзяюся, хаця б мае вучні не пацерпяць ад такога даверу!

Ясна, што дапамогі тут не дачакацца, і акадэмікі дружненька запэўняць улады, што нічога не ведалі, студыёзусы самі па сабе сваволілі...

Калі Лёднік, як з шыбеніцы сарваўся, уляцеў у залу вучонай рады, у дарожнай вопратцы, зарослы чорнай шчэцццю, а побач быў яшчэ Пранціш з рукой на перавязі, студэнты ў жаху расступіліся, пан Рысь падавіўся ўрачыстым словам, а той-сёй і схапіўся за шаблі.

Тая самая зала, куды харужы Вырвіч з'явіўся, каб паслухаць блюзнерскі даклад прафесара Лёдніка пра крывезварот у арганізме чалавека. Цяжкія лаўкі, высокія скляпеністыя вокны... Вунь там сядзела пані Саламея з малым Алесікам... Там – выкрыкваў свае рэплікі граф Міхайла Разанцаў... А за кафедрай стаяў фанабэрысты прафесар.

За кафедру ён і стаў зноў, сагнаўшы агаломшанага пана Рыся. Лёднік быў па–прафесарску лаканічны, абмалёўваючы сітуацыю. Твары студэнтаў паказвалі гнеў, расчараванне, а часам і страх –

юнаку можна адчуваць страх, бо толькі ў ягоным пераадоленні выспявае сапраўдны вой. Вядома, спрабавалі крычаць, што зараз пачнуць біцца – розум не кулеш, у галаву не ўвальеш, але прафесар быў як вопытны вайскаводца і некалькімі словамі суцішыў бунт. Далучыўся і ксёндз Марэк, жыццярадасны таўстун, які выдатна ўмеў натхняць моладзь на патрыятычныя дзействы, але разбіраўся і ў палітычных кампрамісах. Пераможныя бойкі – наперадзе. А пакуль – разумны манёўр дзеля ўратавання вайсковага патэнцыялу і роднай альма матэр. Хто ж будзе вучыцца ў акадэміі Пане Каханку, калі ўсе тут палягуць, не стаўшы кадэтамі? А за таемнай лабараторыяй Лёдніка пачынаўся шлях у сутарэнні, якія вялі за межы ўніверсітэту, ажно да каралеўскіх стайняў.

Ксёндз адамкнуў дзверцы насупраць галоўнага ўваходу ў залу, справа ад кафедры:

— Ціха! Выходзім моўчкі! Бог нас абароніць!

І тут у дзверы залы грукнулі. Пачуўся ўладны голас:

— Адчыніце імем караля!

— Не паспеем... – схаладнеў Пранціш. Лёднік стамлёна перадаў ксяндзу Марэку ключы.

— Паспееце... Давай, Пранціш, ідзі! Ты ведаеш усе хады-выхады...

Студэнты адзін за адным знікалі ў вузкім ходзе. Пан Рысь падскочыў да Лёдніка:

— Давай гасцей пасячэм на капусту!

Прафесар сумна пахітаў галавою.

— Паверце, тут будзе дастаткова войска, каб перабіць усіх. І Акадэмію зачыняць... Нават калі проста вас тут пабачаць, пан Рысь – адразу выявіцца сувязь з князем Радзівілам. Закалот, антыдзяржаўная змова... Расейцам толькі таго і трэба! Падставы ўмяшацца. Можа пачацца сапраўдная вайна! Колькі народу бязвінна і дарэмна загіне... А так – сабраліся студэнты ў карты гуляць, а я іх разагнаў. І акрамя ўсяго – можа, яшчэ атрымаеце сваю бойку, калі на юнакоў нападуць па дарозе. Ну, хутчэй жа сыходзьце!

У галоўныя дзверы пачалі калаціць чымсьці цяжкім, як бервяно.

— Бутрым, я не пакіну цябе! – выкрыкнуў Пранціш. – Што за глупства – ты што, адзін збіраешся стрымаць цэлае войска?

— Ды не бойся, там мой сябар, граф Міхайла Разанцаў, я пазнаў ягоны голас, дамоўлюся як небудзь, час пацягну, — нудна прагаварыў Лёднік, падыйшоў блізка да пана Караля Рыся і нешта зашаптаў яму на вуха. Той пачціва пакланіўся, раптам рашуча схапіў

Пранціша за параненую руку і выкруціў яе... Вырвіч ускрыкнуў ад болю, у вачах заімглілася... Так, што ўсвядоміў, што яго ганебным чынам нясуць, як мяшок, толькі тады, калі над галавой была не каменная столь, а шэрае ліцвінскае неба.

Пан Рысь асцярожна паставіў драгуна на напоеную дажджыма і спалоханую блізкімі замаразкамі зямлю, падтрымаў за плечы:

— Ісці самі зможаце, ваша мосць? А то ваша рана адкрылася, выбачайце... Але пан Баўтрамей папрасіў так зрабіць, сказаў, што адзінае, што ён просіць – вывесці вас.

Вакол былі дрэвы — сосны, пахіленыя на адзін бок, бо іх карэнні падмывала рачулка, голыя пруты ляшчыны. Непадалёк шарэў будынак гарадской лазні. Самая ўскраіна Вільні, далей ціснуліся хаціны беднаты прадмесця.

Вырвіч адчуў, што па шчоках коцяцца пякучыя слёзы, але яму зусім не было сорамна за гэта. Сорамна было за іншае... І пану Рысі, падобна, таксама, бо і ён плакаў, адвярнуўшы твар з чорнымі, як прыклеенымі, вусамі.

— Як вы маглі кінуць яго аднаго! Я вас заб'ю! І езуітаў гэтых падлючых — таксама! Яны яго атруціць хацелі, а ён жыццё паклаў з-за іхніх інтрыгаў!

Вырвіч не мог крычаць – бо горла пераціскала ад гора і гневу... Пан Рысь скрушна ўздыхнуў:

— Даю слова, што калі адважны пан Лёднік загіне, дазволю Вашай мосці пакараць смерцю й мяне. Але спачатку даю слова, што калі ён застанецца жывы – а я ў гэтым упэўнены, бо, нават калі пачнецца бойка, яго абавязкова захочуць узяць жывым, каб дапытаць — мы яго выратуем! Слова гонару! Нічога не пашкадую...

Пан Рысь памаўчаў, паглядзеў на зусім зняможанага Пранціша:

— А студэнтаў усіх удалося вывесці... Бо ніводзін жаўнер не выйшаў за намі з залы, пакуль апошні з нас не прайшоў сутарэнні і мы не падалі дамоўленага знаку. Як пану Лёдніку ўдалося іх затрымаць? Можа, сапраўды дагаварыліся мірна, як дэкляраваў доктар?

Вырвіч горача захацеў, каб менавіта так і сталася. Доктар жа разумны, ён жа і збіраўся загаварыць зубы нападнікам, прадухіліць сутычку...

Дождж сыпануў халодныя слёзы, але каго ён аплакваў – наўрад сам ведаў.

Што рабілася ў тую злавесную нядзелю ў зале вучонай рады, было пасля апісана не раз, і ва ўсіх падрабязнасцях. Так што даведаўся ў свой час і Пранціш Вырвіч.

Калі дзверы зламалі, і паперадзе жаўнераў забег граф Міхайла Разанцаў, перад ім было нечаканае відовішча: пустое, як трэснуты збан, памяшканне, а на краі бліжняй да дзвярэй лаўкі, у праходзе, сядзеў прафесар Баўтрамей Лёднік, стамлёна абапершыся абедзьвума рукамі на дзяржальна аголенай шаблі, упёртай у падлогу. На худым дзюбаносым твары прафесара люстравалася сусветная туга з дамешкам лёгкай грэблівасці, вопратка была ўпэцканай, і боты па самыя халявы ў гразі, чорныя доўгія валасы звісалі неахайнымі пасмамі... Мала падобнае да прафесарскага аблічча.

— Варфаламей! Што ты тут робіш? А дзе... ўсе? – разгублена папытаўся Разанцаў, даючы свайму войску знак затрымацца.

Лёднік не зварухнуўся.

— Я выконваю свой доўг, Міхайла. Дысцыпліну падтрымліваю. Сабраліся тут студыёзусы ў карты гуляць, давялося паганяць іх.

— У карты? — у голасе Разанцава з’явіліся саркастычныя ноткі. – Ці ў іншыя, небяспечныя гульні? Дзе змоўшчыкі?

— Ваша мосць граф, яны праз тыя маленькія дзверы выбеглі! Чуеце, там тупочуць! – закрычаў нехта з жаўнераў, але калі Разанцаў ступіў крок наперад, Бутрым падняў галаву і цвёрда прамовіў:

— Прабач, сябар, але я не магу даць вам туды прайсці.

— А ты навошта ў гэта ўлез, Варфаламей? – з горыччу спытаў Разанцаў. – Нашто табе змовы магнатаў, езуітаў, каталікоў? Ты ж праваслаўны, вучоны! Жарты скончыліся... Адыдзі!

Вучоныя мужы паглядалі з партрэтаў так абыякава, быццам у іхнім жыцці ніколі не было ні болю, ні нянавісці, ні здрады... Ні пакутлівага выбару: адысціся ўбок і атрымаць спакойнае і шчаслівае жыццё, ці рызыкаваць за такое плыткае паняцце, як гонар, каб не мець нават удзячнасці. Лёднік устаў і скіраваў шаблю насустрач былому аднакурсніку.

— Прабач, не магу...

— Хопіць! – угневаўся пан Міхайла. – Хочаш, каб цябе зараз на кавалачкі пасеклі? За бунтаўнікоў, разбойнікаў, якія цябе ж за чалавека не лічаць?

— Гэта ўсяго толькі юнакі, — цвёрда сказаў Лёднік. – Таленавітыя, шчырыя, палкія, соль, рошчына любой нацыі... Я не магу дазволіць іх знішчыць. І я не хачу забіваць ні цябе, ні тваіх жаўнераў. Давай скончым ладам – не было тут ніякай змовы, я разагнаў гульцоў у карты...

Жаўнеры за дзвярыма раздражнёна гулі, не разумеючы прычыны затрымкі.

— Вашамосць, хопіць балбатаць з гэтым бунтаўнікам! Уцякуць заразы! – бялявы афіцэр каралеўскай гвардыі ірвануўся наперад, але зараз жа быў спынены шабляй Лёдніка, якая зрэзала ягоны вус.

— Што ты творыш! – угневаны Разанцаў выхапіў шаблю, але яна адляцела да сцяны, заваліўшыся са звонам пад лаву. Граф, чырвоны ад злосці, адступіўся:

— Ну, ты сам захацеў... Дагнаць змоўшчыкаў! У доктара не страляць, узяць жывым! Ён важны сведка!

І пачаўся балаган... Таму што толькі ў балагане часам можна пабачыць такія штукарствы. Доктар умела карыстаўся тым, што праход між лаўкамі вузкі, лаўкі цяжкія, доўгія, з высокімі разнымі спінкамі – з месца не зрушыш, а жаўнеры не маглі так спрытна скакаць па тых лавах, як прафесар. А галоўнае, дзверы залы абмяжоўвалі магчымасці нападнікаў, больш чым некалькім чалавекам прафесар зайсці не даваў, і тых жа змушаў вяртацца. Пракляты доктар, мроілася, быў паўсюль, арудуючы адразу двума шаблямі, адной – сваёй, і другой — здабытай у ворага. Лязо ягонай зброі здавалася размытым, як крылцы страказы ў палёце. Нехта з тых, што стаялі ў калідоры і назіралі за бойкай праз выламаныя дзверы, са злосці прыцэліўся ў фехтавальшчыка, але граф Разанцаў выбіў пісталет.

— Я ж сказаў – браць жывым!

Доктар скакаў па спінках лаваў і абрушваўся зверху, як віхор, а неяк – у гэта было немагчыма паверыць – калі яго амаль абкружылі, заціснулі ў кут – скочыў проста на сцяну, адштурхнуўся ад яе і апынуўся за спінамі ворагаў.

— Гэта д’ябал! – заверашчалі людзі.

Але доктар быў усяго толькі чалавек. Пот сцякаў па ягоным твары, дыханне рабілася хрыплым, на плячы і баку крывавілі драпіны...

— Варфаламей, спыніся! – крычаў Разанцаў. – Цябе зараз заб’юць!

Але Бутрым толькі страсянуў валасамі і, сцяўшы зубы, крутануўся, дзве шаблі са свістам акрэслілі вакол яго смяротнае кола, у якое нікому не хацелася патрапіць – хаця ніхто пакуль не загінуў і не быў сур’ёзна паранены. Ды ясна было, што сілы адзінага абаронцы на сыходзе, і каб не забарона яго забіваць, канаў бы ён ужо, прастрэлены-пасечаны.

Дзесьці далёка за вакном пачуўся стрэл з пісталету і адразу ж — другі... Лёднік прыслухаўся, твар ягоны прасвятлеў – ясна, чаканы знак. Тыя некалькі хвіляў, якія ён выйграў, сталі ратункам многіх. Але

цуды скончыліся, зняможанага фехтавальшчыка нарэшце адцяснілі, у залу ўварваліся жаўнеры. Абедзьве шаблі Лёдніка ўпалі на каменную падлогу. Ён, хістаючыся, выпрастаўся, скрыжаваў рукі на грудзях. Аблічча было спакойным, як у чалавека, які нарэшце зрабіў складаную, непрыемную, але неабходную справу.

Нейкае імгненне да яго яшчэ баяліся падысці... Але гэтая бойка для прафесара была скончаная.

Чакала новая, куды больш цяжкая.

Усе вязьніцы, напэўна, падобныя адна да адной... Не столькі выглядам, як назапашанымі там пачуццямі – болем, страхам, адчаем, якія, каб можна было іх пабачыць, сівой вільготнай плесняй пакрываюць сцены, столь, запаўзаюць у кожны куток і шчыліну... Падобныя і ролі, якія там раздаюцца – кат, ахвяра... І той, хто задае пытанні, не пэцкаючы сам рукі ў крывавай працы.

— Ты мусіш назваць прозвішчы ўсіх студэнтаў, якія збеглі, — халодна прамовіў Разанцаў, але вочы яго былі апушчаныя, як ад гневу, быццам і бачыць не хацеў таго, да каго звяртаўся. Прафесар пакуль што спакойна сядзеў на зэдліку, паклаўшы рукі на калені, бы знаходзіўся не ў каменным мяшку, дзе са столі звісалі ланцугі, грувасціліся драўляныя прылады, аб прызначэнні якіх страшна было нават здагадвацца, і паўсюль ляжалі інструменты, вынайдзеныя чалавекам, каб рабіць балюча другому чалавеку. Пісар з пляскатым, як у рапухі, тварам, што сядзеў за столікам ля вакна, натапырыў вушы і падрыхтаваўся запісваць паказанні.

— Прабач, Міхайла... Ты ж разумееш – не назаву. Кожны з нас робіць тое, што павінен... Я – сваё, а ты рабі сваё.

Разанцаў павярнуўся да яшчэ аднаго з прысутных у гэтым пакоі, велізарнага, як мядзьведзь, у скуранай куртцы, з паголенай галавой – яна была чамусьці ўся ў драпінах і шнарах.

— Рукі не калечыць, косткі не ламаць. Гэта знакаміты доктар, ягонае лекарскае ўменне яшчэ можа прыдацца.

Павярнуўся да былога аднакурсніка і прамовіў, на гэты раз з горыччу:

— Прабач, Варфаламей, больш нічога не магу для цябе зрабіць.

І выйшаў, ляснуўшы жалезнымі дзвярыма, быццам яны павінны былі адсячы кавалак памяці.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ. ЯК ПРАНЦІШ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў ЕГІПЕЦКАГА СЛУГУ

Калі чароўная птушка Алканост, спевы якой робяць усіх шчаслівымі, адкладае яйкі на беразе мора, а тады на восем дзён апускае іх у хвалі, то восем дзён мора спакойнае, як люстэрка.

Вядома, не тое, з якога падчас магічнага сеансу з'яўляецца, як скула на ілбе, егіпецкая прынцэса.

Павінны ж быць такія нечакана спакойныя дні ў самым бурлівым жыцці, у самым пякельным колазвароце, і павінны сустракацца людзі, што як абыдзённікі — рушнікі, вытканыя за адзін дзень удовамі і чыстымі дзяўчатамі вёскі, забіраюць у сябе ўсё нядобрае, захіляюць ад зла...

Перад вачыма драгуна лунала белае аблічча, прахалодныя рукі мянялі вільготную тканіну на ілбе... Было так спакойна, так хораша гайдацца ў хвалях гэтых хвілінаў на мяжы блёкату і явы...

Але вось рысы схілёнага твару пачалі набываць пэўнасць... Вялікія сінія вочы з цёмнымі кругамі стомы, дасканалыя ружовыя вусны з цвёрдай складкай, цёмныя, гладка зачасаныя валасы... Пані Саламея!

Адразу ж успомнілася і іншае – Баўтрамей Лёднік!

Пранціш ірвануўся, каб прыўзняцца, але ў вачах паплылі кругі, як на вадзе...

— Ляжыце, пан Вырвіч... – на лоб зноў лягла халодная мокрая тканіна. – У вас моцнае запаленне ад раны. І як толькі Бутрым дадумаўся пацягнуць вас у цяжкую дарогу? Доктар называецца...

— Гэта я сам... Сам напрасіўся... – язык ледзь варушыўся, але ў вачах патроху разімглялася. Пранціш змог усё-ткі адарвацца ад падушкі, абапёрся на локаць здаровай рукі. — Дзе... ён? Дзе Бутрым?

Саламея адвяла вочы.

— У вязьніцы.

Значыць, зусім дрэнныя справы. Наўрад пасля мірных перамоваў доктар бы там апынуўся.

— Колькі ўжо?

— Тры тыдні.

Не можа быць! Няўжо Пранціш столькі праваляўся ў ложку, пакуль...

Вырвіч сціснуў зубы і, нягледзячы на пратэсты пані Саламеі, сеў, свет, вядома, паплыў вакол, як карусель, але не час для слабасці! Калі дыханне выраўнялася, і ў скронях перасталі грукаць маленькія кавалі сваймі балючымі малаткамі, драгун нарэшце агледзеўся.

Незнаёмы пакой з новенькімі сінімі ў залатыя кветачкі шпалерамі, якія пачалі вырабляць на пастаўскіх мануфактурах. Дамы і кавалеры, што ганарыста паглядалі з партрэтаў, былі таксама раней не бачаныя. Пранціш прыгледзеўся да герба, намаляванага на парсунах: “Парай”... Белая кветка з пяццю пялёсткамі на чырвоным фоне... Такім гербам карыстаюцца многія.

— У нашым доме вам было б небяспечна...—вінавата прамовіла Саламея. – Да мяне ж прыходзілі судовыя, дапытвалі... І пра вас таксама. А гэта дом сябра пана Караля Рысі, які зараз у Італіі. Тут ніхто вас не знойдзе. Дом пусты, для догляду за вамі нанялі двух добрых кабетаў, і я прыходжу. А яшчэ спадар Чунь Лі наведваўся – гэта дзякуючы яму вы, мабыць, і апрытомнелі: ён учора рабіў вам кропкавы масаж...

Вось яно што... Дом змоўшчыка... І раз сюды не з’яўляюцца зператрусам, значыць, з гэтага вынікае, што ад Лёдніка ніякіх звестак следчыя не дабіліся, і магчымых удзельнікаў закалоту не чапаюць.

— Як Бутрым? – горла зноў перацiснула ад гора. Саламея сутаргава ўздыхнула і ціха прамовіла:

— Кепска...

Памаўчала, збіраючы сілы, яе тонкі профіль, здавалася, яшчэ больш вытанчыўся ад перажыванняў, і ціха патлумачыла:

— Ён жа ў Акадэміі біўся, жаўнераў затрымаў. Нікога не засек, так, падрапаў, шаблі павыбіваў з рук... Сам ведаеш, як доўга ён адпрацоўваў методыку – як абязбройваць ворагаў, у якія кропкі на руцэ наносіць удары, пад якім вуглом выкручваць... Спецыяльна, каб не забіваць. Але ўяўляеш, у якім усе шаленстве! Яго там, калі нарэшце здаўся, жаўнеры з-за свайго прыніжэння ледзь на часткі не раздзёрлі. На шчасце, Бутрым у горадзе многім дапамог, як доктар, і паўсюль знаходзяцца ўдзячныя яму людзі. І ў турме таксама. Ён калісь выратаваў сына аднаго з наглядчыкаў, у якога гнойнае запаленне было. Той чалавек мне і расказвае ўсё... Носіць Баўтрамею добрую ежу, коўдру здабыў, каб на саломе не ляжаў, вопратку цёплую. Нядаўна я зноў перадала праз яго драўлянае масла... Цэлы збан. Турэмшчык папярэдзіў, што яшчэ спатрэбіцца. Шмат лекаў перадала... Для спынення крыві, ад запалення, абязбольваючае... Спадар Лі нейкі бальзам адмысловы нарыхтаваў.

Саламея адвярнулася, каб схаваць плач. Вырвіч прыгнечана маўчаў. Драўляным маслам змазвалі раны, якія марудна зажывалі... Калі скура здзёртая, напрыклад, ударамі пугай. Але доктар сам вучыў – пакуль чалавек жывы, усё можна перамяніць, біблейскі Іоў вунь

сядзеў на кучы гною ды язвы свае чарапком расчэсваў, а потым Гасподзь зноў яго ўзвысіў ва ўладары зямныя…

— Прыдумалі, як Бутрыма выручаць?

Пані Лёднік паціснула плячыма.

— Пан Рысь ужо столькі пражэктаў выдаў… Ад падкопу да патопу. Але ён зараз дома, у маёнтку – жонка павінна нарадзіць. Студэнты, якія тады на сходзе былі, хочуць проста напасці на вязніцу, глупства, зразумела. Хадзіла да Міхайлы Разанцава – вочы хавае, сам ледзь не плача, але ён – расейскі патрыёт, адданы царыцы, для яго дзяржаўнае злачынства – недаравальны грэх, і дапамагаць не стане. Яго ў Санкт-Пецярбург выклікалі, магчыма, па гэтай самай справе. Суддзя Юдыцкі таксама з’ехаў – на лекавыя воды. Лісты напісала каралю, у Трыбунал, рэктару Акадэміі… Праўда, ад езуітаў аднаго баюся дачакацца – з самых лепшых намераў возьмуць ды Бутрыма атруцяць, каб не пакутваў, небарака, ну і, вядома, іх не выдаў. А кароль, можа, адгукнецца – ён вучоных людзей шануе, а ніякіх прамых доказаў, што мой муж удзельнічаў у змове супраць яго, няма – толькі даносы. Праўда, не толькі вашага мага Батысты, але і кагосьці з Акадэміі…

Вырвіч пры згадцы пра Батысту ледзь не падскочыў – боль перашкодзіла.

— А дзе камзол, які на мне быў? Вы з яго нічога не даставалі?

Саламея, мудрая жанчына, не стала нічога перапытваць, а хуценька прынесла Пранцішаву вопратку.

— Не стала мыць, каб чагось не сапсаваць, мала што ты мог прыхаваць…

Вырвіч, як мог паспешліва, абмацаў кішэні: вось ён, ліст, перададзены Шрэдэрам! Магчыма, дапамога егіпецкага жраца, здрадніка, з-за якога Бутрым і патрапіў у турму, спатрэбіцца, каб доктара ж і выцягнуць. І ўспамін пра Міхалішыўну прымусіў сэрца здрыгануцца… Што маг з ёй вытварыў за гэты час?

— А не чуваць нічога пра нягодніка Батысту? – спытаў Пранціш праз зубы.

Саламея горка ўсміхнулася.

— Яшчэ як чуваць! Уся Варшава толькі пра іх і гаворыць, аж сюды чуткі дайшлі: пра вялікага прадказальніка і чарадзея графа Рудольфіюса Батысту і ягоную прыгажуню-жонку, як яна на гарачых вугаллях таньчыць і бессаромна ногі паказвае. Пан Рысь збіраўся быў паехаць мага на двубой выклікаць, але яго адгаварылі: Батыста ў фаварытах у Панятоўскага, кароль нават за жонкай яго валочыцца, і, кажуць, быў адораны ейнымі ласкамі…

Пры гэтых словах Вырвічу стала так балюча, што, здаецца, сэрца спыніцца... Пані Саламея ажно спалохалася:

— Табе кепска? Прыляж...

Вырвіч адкінуўся на падушку, сцяўшы зубы. А чаго ён чакаў, што егіпецкая прынцэса ні з поля вецер будзе захоўваць яму вернасць? Што ж, яна дастаткова прыгожая, таленавітая, разумная і... і незвычайная, каб счараваць нават караля, тым больш маладога і кідкага на кабетаў. А Батыста яшчэ, пэўна, і змушае нявольніцу да выгаднага флірту з манархам. А можа, Міхалішыўна ў Цялка і закахалася – а чаму не, прыгожы, дужы, далікатны, на флейце грае, Шэкспіра перакладае... А яна для яго ў спачывальні Афелію або Віёлу разыгрывае... А што ж, усемагутная мадам дэ Пампадур, фаварытка французскага караля, таксама з беднаты, з гразі вылезла, а ўсёй дзяржавай кіруе, каралева ёй кланяецца... Пазалаці вароне пер’е – вось табе і пава.

— Кажуць, Батысту расейская царыца да сябе запрашае на Каляды... А ў Расіі яго зусім не дастанеш,— скрушна прагаварыла Саламея.

— Нічога, я яго адусюль дастану... – ненавісна прагаварыў Вырвіч. – У мяне ёсць чым яго на наліснік раскатаць. А ты не чула, ці не перадаваў ён Панятоўскаму адну дужа рэдкую рэліквію?

— Не, не расказвалі такога...

Для каго ж італьянскі шалбер прыберагае карону святога Альфрэда, якую везлі для Пана Каханку? Бо трымаць такую рэч пры сабе – усё роўна што ездзіць з бомбай з запаленым кнотам. Няўжо для імператрыцы? Эх, з Лёднікам бы параіцца...

Успамін пра доктара зноў увагнаў у тугу.

Саламея лекаркай была дасведчанай, рану драгуна спрытна перавязала, паабяцала, што праз некалькі дзён можна паспрабаваць устаць.

Некалькі дзён! Ды для Бутрыма кожны дзень у вязніцы – пакутлівае стагоддзе... Драгун не збіраецца адлежвацца, калі ўжо ачомаўся. Ды зараз ён усю Вільню на ногі паставіць, каб доктара вызваліць! І Батысту знойдзе, і Разанцава...

— Вітаю ягамосць Вырвіча і пані Лёднік.

Граф Міхайла Разанцаў зайшоў у пакой, як быццам да сябе дахаты. У дарожным плашчы і капелюшы, з якога яшчэ не строс першы, вільготны, снег, рука яго нервова камячыла дарагія шчыгрэневыя пальчаткі.

— Рады бачыць, што пан Вырвіч апрытомнеў.

Па голасе графа, аднак, гэтага не было чуваць. Халодны быў голас, са стрыманым гневам і горыччу, быццам гаварыў з сябрамі, якія яго моцна расчаравалі.

Саламея ўскочыла, у яе руцэ апынуўся кінжал. Вырвіч пакутліва азіраўся ў пошуках шаблі.

— Не хвалюйцеся, вам нічога не пагражае. Калі будзеце паводзіць сябе разумна. Калі б я хацеў, пана Вырвіча даўно б арыштавалі.

А граф змяніўся. Схуднеў, на твары стома, вочы пачырванелыя, зморшчыны паглыбіліся... Здаецца, гады, а не месяцы прайшлі ад Бутрымавай лекцыі, пасля якой ягоны сябар Міхайла Разанцаў, абараняючы дакладчыка, распавядаў пра расейскую кунсткамеру...

— Спадзяюся, вы зацікаўленыя ў тым, каб доктар Лёднік быў жывы і здаровы?

Саламея і Пранціш перазірнуліся, жанчына насцярожана спытала:

— Што ад нас для гэтага патрабуецца?

Граф нават не пасміхнуўся.

— Нічога, што было б для вас ганебна.

Памаўчаў, пахадзіў па пакоі, нібы наважваючыся на шчырасць, невясёлая ўсмешка перакрывіла ягоны твар.

— Кола Фартуны круціцца незалежна ад нашых жаданняў... Я сёння вярнуўся з Санкт-Пецярбургу. Выклікалі мяне па справе закалоту, які я па даручэнні канцлера Паніна павінен быў выкрыць. Справа мусіла быць гучнай, з прыцягненнем многіх вядомых родаў... Усе мы ведаем, што дзякуючы майму сябру Баўтрамею Лёдніку і ягонаму своеасабліваму пачуццю доўгу гучная справа пераўтварылася ў фарс.

Разанцаў з сілай сцебануў пальчаткамі аб край стала, нібыта той быў ва ўсім вінаваты.

— Майму рапарту ніхто не паверыў! У мяне, як і ў кожнага больш-менш прыкметнага чалавека, шмат ворагаў, якія не супраць заняць маё месца або нашкодзіць тым, хто мной апякуецца. Дзвесце ўзброеных жаўнераў супраць аднаго прафесара! Ну, добра, у бойцы ў зале змаглі ўзяць удзел не больш трох дзесяткаў... Але – ён быў адзін! Ніхто не забіты. Не паранены... Ды нада мной проста пасмяяліся!

Граф хадзіў туды-сюды, як звер у клетцы.

— Яе вялікасці даклалі, што я згаварыўся з маім сябрам Варфаламеем Лёднікам, што я дазволіў змоўшчыкам сысці, зрабіўшы імітацыю бойкі... І што ягоная мосць князь Рапнін, мой апякун, атрымаў за гэта вялікія грошы ад князя Радзівіла. А вы ж ведаеце,

што канцлер Панін – дзядзька ягонай мосці Мікалая Рапніна, таму падазрэнне падае і на яго, чаму многія ў Санкт-Пецярбурзе вельмі рады, бо дасюль ніяк не маглі ачарніць яснавяльможнага канцлера ў вачах яе вялікасці. Вось бачыце, што нарабіў наш агульны знаёмы, вучоны доктар?

Пан Міхайла быў амаль у адчаі, так што Пранцішу нават зрабілася яго трохі шкада. Але Лёдніка было шкада куды больш. І Вырвіч спытаўся насмешна:

— Выходзіць, вы цяпер таксама дзяржаўны злачынца, ваша мосць?

Разанцаў злосна бліснуў шэрымі вачыма:

— У нашым родзе ніколі не было здраднікаў! І не будзе! Ёсць адзін сродак давесці, што рапарт быў праўдзівы... Князь Рапнін пацвердзіў і ягонай мосці канцлеру Паніну, і яе вялікасці Кацярыне, што прафесар Лёднік сапраўды з'яўляецца выбітным майстрам фехтавання і здатны на падобныя подзвігі. Але яе вялікасць не можа даць веры такому цуду, не ўбачыўшы сваймі вачыма.

— І гэта значыць...—пачаў здагадвацца Пранціш.

— І гэта значыць, што ў мяне загад прывезці дзяржаўнага злачынцу ў Санкт-Пецярбург, дзе ён мусіць пацвердзіць праўдзівасць маіх слоў. Альбо абвергнуць... Яе вялікасць літасціва дала згоду высветліць усё падчас калядных карнавалаў, калі ў яе з'явіцца вольны час. Але...

Разанцаў апусціў вочы і кусаў вусны, быццам яму стала страшэнна няёмка.

— Але... Варфаламей у кепскім стане.

— Што вы з ім зрабілі, нягоднікі? – Саламея кінулася на графа.

— А што вы хацелі, каб дзяржаўнага злачынцу пернікамі частавалі? – выкрыкнуў знерваваны граф, адчапляючы ад сябе ўгневаную кабету. – Ён сам вырашыў свой лёс – сваім учынкам і сваёй упартасцю падчас следства! Я і так загадаў яго не калечыць, косткі не ламаць... Проста, пакуль мяне не было, ён паводзіўся занадта дзёрзка, ну і тыя, хто дапытваў, перастараліся...

— Я павінна яго ўбачыць!

Вочы Саламеі гарэлі сінім агнём, так, што Разанцаву было відавочна не па сабе.

— Я і хацеў прапанаваць... Я ведаю, што вы, пані Саламея, таксама выдатная лекарка... Доктар, думаю, жадаў бы, каб менавіта вы яго і лекавалі, ад рук любай усё ж хутчэй зажывае, праўда? Мы перавядзем Варфаламея ў добрыя ўмовы... Усе лекі, якія патрэбныя, дамо... Зможаце сына да яго прывесці... Пану Вырвічу, нават калі

паправіцца, лепей не паказвацца – ён таксама пад падазрэннем, але ліст зможаце яму напісаць.

— Карацей, гатовы на ўсё, каб толькі Бутрым ачуняў і згадзіўся вас абяліць перад царыцай, — саркастычна прагаварыў Пранціш. – Вы ж цяпер усе ад ягоных словаў і ягонага самаадчування залежыце, ці не так?

— Так...— Разанцаў цвёрда зірнуў Вырвічу ў вочы. – Магу легчы пад тыя ж бізуны. І я зразумею, калі цяпер Варфаламей не захоча за мяне заступацца. Але гэта шанец вылатавацца і для яго. І, паверце, я не зраблю закладнікамі ягоную сям’ю. Вам у любым выпадку нічога не пагражае, даю слова.

— Вязіце мяне да яго зараз жа! – пані Саламея хапала бутэлечкі з лекамі і ссыпала ў чорную валізку, якой карыстаўся Лёднік, калі хадзіў да пацыентаў. Павярнулася да Разанцава, і ў яе быў такі твар, з якім царыта Іпаліта змагалася за свой пояс з нахабным афінянінам Тэсеем.

— Але калі з маім мужам здарыцца штосьці непапраўнае, я вас выклічу на двубой і заб’ю!

У абодвух прысутных мужчын не ўзнікла і цені сумніву, што менавіта так і станецца.

Тое, што Разанцаў даверыў лячыць вязня Саламеі, ні яе самую, ні Пранціша не здзіўляла: па-першае, пані Лёднік сапраўды была добрай лекаркай, навучанай геніяльным мужам, а па-другое, у доктара ўтварылася такая рэпутацыя, што ні адзін віленскі медык не наважыўся б без ягонай згоды ўзяцца за лячэнне, калі заставаўся шанец, што злосны прафесар ачуняе і выкажа ўсё, што думае, пра здольнасці калегі. Дый звязвацца з бунтаўніком і блюзнерам мала хто захацеў бы.

...За вакном згушчаўся чорна-белы прыцемак – снег яшчэ толькі намацваў свае новыя ўладанні, і першыя сняжынкі, пасланыя на выведку, утваралі сіня-белыя лапікі на жабрацкіх рызманах ліцвінскай глебы, якая зараз жа абтрасала са сваіх лахманоў прыгожыя, ды халодныя латкі. Але тыя ліцвіны, хто ўвесну, на святога Марціна, варажыў на грудной костцы марціновай запечанай гусі, ведалі дакладна, што зіма чакаецца снежнай і марознай.

— Кавалю Марціну,
Падкуй ты мне свінню,
Бо зіма падходзіць,
Свіння боса ходзіць, — напяваў Пранціш дзіцячую песеньку і нецярпліва пазіраў праз цьмяныя шыбы – ці вернецца сёння пані Саламея? А пакуль спрабаваў вярнуць целу былы спрыт, што не так

проста пасля трох тыдняў у блёкаце і гарачцы. Пацiху соўгаўся, трымаючыся за сцены і мэблю, рабіў дыхальныя практыкаванні, якім навучыў Лёднік.

Прыйшла кабета, немаладая, маўклівая, у белай хустцы. Не здзівілася, што хворы прытомны, на ўсе пытанні адказвала: “А Бог яго ведае, мой пане...”. Зато прыгатавала смачны булён і аўсяную кашу, якая падалася драгуну далікатэсам. А раз есці зноў хочацца, значыць, будзем жыць, і трымціце, ворагі, і чакайце нас, прыўкрасныя дамы... Ганулька Макавецкая, пэўна, сядзіць у Ляшчынах і тужыць, і лье слёзы па бравым драгуне. Вось яна б зараз вакол яго насілася з лекамі і напоямі, тонкія ручкі б дрыжэлі, цёмныя вочы напаўняліся слязьмі – то ад жалю, то ад шчасця. А Пранціш паблажліва б камандаваў: гарбату падагрэй! Кнігу падай! Люльку пачысці! О, трэба яшчэ вывучыцца курыць — Лёднік дужа не ўхваляў гэтую агульную моду, і Вырвіч падпаў пад занудны ўплыў доктара. А гэта ж так мужна выглядае – адкінуўся ў фатэлі, нага за нагу, і пускаеш дым з доўгай люлькі...

Вось Міхалішыўна, напэўна, толькі пасмяялася б над тым, як важна драгун пыхкае дымам – не раўнуючы цмок... І даглядала б яго, як пані Саламея – не плакала, а спрытна рабіла перавязкі, змушала захоўваць дыету, жартамі ды трапнымі гісторыямі не давала б хвораму надта шкадаваць сябе... “Вось ваш святы Франтасій змог нават пазбаўлены галавы дайсці да храма, развітацца са сваім біскупам. А ў вас, пан Франтасій, і галава, і рукі-ногі на месцы... Ёсць людзі, якім нашмат горай, чым вам!”. Вырвіч нібыта наяве пачуў іранічны голас Міхалішыўны. Якую цяпер, магчыма, абдымае кароль і цалуе празрыста-зялёныя русалчыны вочы...

Вырвіч ажно замыкаў ад гневу і болю і пастараўся адагнаць непрыемнае відовішча... Праўда, яшчэ больш балюча было ўяўляць, як зараз валяецца ў каменным мяшку непрытомны доктар Лёднік...

Хворая рука пачынала патроху ажываць, боль у плячы ўжо не ірваў на часткі. Вырвіч абшукаў камзол: вось ліст для палкоўніка Масальскага, у якім нябожчык Шрэдэр запэўніваў, што падхаружы Вырвіч як найлепей выканаў даручэнне па суправаджэнні хворага шляхціца ў паломніцтве да святых мясцінаў. Каб ведаць, чым абернецца – адразу паслаў бы да Хута суддзю Юдыцкага з ягонай спакуснай прапановай! Вось скрэмзаныя паперы і аловак — а вершаў набралася парадкам, хаця што гэта за вершы — няўклюдныя, як матылі з абарванымі крылцамі, хоць зараз адпраўляй іх у вогненную магілу... Толькі абяцанне Лёдніку не давала так учыніць.

...Люструюцца ў вострым лязе вочы майго Алканоста,

Што напявае пра свет без нянавісці і крыві...
Здацца і адысціся, змірыцца – гэта так проста,
Ды шабляй адной аддзелена смерць ад маёй любві.

Саламею прывезлі назад у карэце Разанцава, калі было ўжо зусім цёмна, і цені ад полымя свечак варушыліся па сценах, абклееных цёмна-сінімі шпалерамі ў залатыя кветкі, як начніцы. Жанчына зайшла ў пакой, валізка выпала з яе рукі на падлогу. Жонка доктара бяссіла апусцілася на крэсла, закрыла твар рукамі, і раптам плечы яе затрэсліся – Вырвіч яшчэ ні разу не бачыў, каб яна так адчайна плакала, хаця перажыць давялося разам нямала. Ён у самых жахлівых прадчуваннях падкульгаў да пані і крануў рукой за плячо. Яна падняла твар, велічная прыгажосць якога змусіла б не аднаго рыцара кінуцца зараз жа на абарону хай бы і ад крыважэрнага цмока.

— Прабач, нервы не вытрымалі...

Выцерла тонкай рукой слёзы, цяпер у яе рысах праз адчай вызірала тая ўнутраная сіла, якая робіць прыгажосць нечым большым, чым аб’ект для прыемнага сузірання.

— Збілі яго так, што жывога месца няма, — голас Саламеі быў суровы, толькі ледзь прыкметна дрыжэў. — Спіна – адна суцэльная рана, так што давялося цэлае палатно бальзамам вымачыць і прыкласці... Апрытомнеў толькі на хвілю... Каб прабурчэць, што я ў бальзам не дадала дастаткова ладану.

Усмешка кранула куточак вуснаў Саламеі. Доктар, напэўна, і на тым свеце пачне вучыць прабацьку Абрама правільнай рэцэптуры піва, а херувімаў – гігіене наконт падтрымкі пер’яў у чысціні.

— Перанеслі Бутрыма ў самы лепшы пакой, здаецца, каменданта выселілі, — працягвала жанчына. – Вырашыла адразу заехаць да цябе, каб Алесіка слязьмі не палохаць – бо адчувала, што не вытрымаю, а пры... гэтых таксама плакаць не хацелася.

Жанчына здушыла ўсхліп, страсянула галавой, яе нізкаваты голас зноў загучэў цвёрда.

— Зараз заеду дадому, суцешу сыночка, набяру яшчэ лекаў – і назад... Да Бутрыма... Алесік з Хвелькай перабудзе. Прабач, і да цябе ў бліжэйшыя дні наўрад выберуся, застанешся з Агапай, яна маўклівая, але старанная. Трэба яшчэ спадара Лі абавязкова да мужа прывезці. З ягонымі нетрадыцыйнымі метадамі весялей справа пойдзе...

— Як ты думаеш, доктар ачуняе? – у страшнай трывозе папытаўся Пранціш.

— Не ведаю... Усё ў волі Божай... – ціха прагаварыла Саламея, голас яе дрыжэў. – Але Бутрым моцны. Будзем маліцца і спадзявацца...

Памаўчалі...

— А гэтыя ж хочуць, каб я паставіла яго на ногі за месяц, – з горыччу прагаварыла жонка доктара. – На Каляды ён мусіць быць у Санкт-Пецярбурзе... Разанцаў ажно манжэты згрыз ад нецярпення – Бутрым жа непрытомны ўвесь час, дык пан Міхайла дасюль не змог з ім дамовіцца і штосьці патлумачыць. Нічога, пацерпіць, — Саламея нядобра пасміхнулася. – Наколькі я ведаю Баўтрамея, ён, калі свядомасць вернецца, яшчэ добра прыпячэ языком сябрука нашага.

І пацягнуліся дні панылыя і трывожныя, як час паміж позняй восенню і ранняй зімой, калі дрэвы ўжо ўсе голыя, страшныя, як пакараныя грэшнікі, а неба ўсё не скідвае на іх белае цнатлівае покрыва снегу.

Хаця снег, трывалы, сыпкі, нарэшце выпаў... Пад капытамі каня пана Караля Рыся ён разлятаўся іскрыстымі фантанамі, і пляваць было альбанчыку, ці сочаць, ці не сочаць, арыштуюць, заб'юць: шляхціц конна – каралю роўны! Твар пана свяціўся ад шчасця:

— Сын! У мяне нарадзіўся сын, пан Вырвіч! Я назваў яго Станіслаў Баўтрамей!

Пранціш ледзь не заперхаўся ад навіны. Вядомы шляхціц назваў спадчынніка ў гонар сына полацкага гарбара! А першае імя, Станіслаў – гэта адно з імёнаў Пане Каханку, князя і магната. Ну што ж, кожны сам каваль свайго лёсу, можна нарадзіцца князем, а пра цябе загавораць уголас толькі тады, калі спадчыну дзяліць давядзецца.

Ідэі з пана Рыся па вызваленні Лёдніка білі гданьскім фантанам, чорныя вусы тапырыліся, як дзве шпагі, гатовыя да бою, але Пранцішу хутка надакучыла выслухоўваць гэтыя "А тады мы як кінемся...", і ён паставіў перад альбанчыкам канкрэтную, як пляшка гарэлкі, задачу: любым спосабам выведаць, калі і якім шляхам маг Батыста выправіцца ў Санкт-Пецярбург, на якіх станцыях будзе спыняцца, хто з ім паедзе. У Вільні, дзе вакол паўжывога Лёдніка аховы і шпегаў было, як машкаты над лужынай, разлічваць на ўдалы напад не даводзілася.

Найбольш, вядома, чакалася візітаў пані Саламеі. Тая прыходзіла змучаная, але ўсё больш радасная: вось Бутрым перастаў траціць прытомнасць... Зрабіў ласку нармальна пад'есці... Пачаў уладна кіраваць працэсам свайго лячэння... Адбылася і нялёгкая размова з Міхайлам Разанцавым. Да гонару апошняга, той ні аб чым

ні прасіў зняволенага, не ўгаворваў. Проста паведаміў пра абставіны, якія склаліся, і даў зразумець, што цяпер цалкам залежыць ад словаў былога аднакурсніка, але прымушаць гаварыць тое ці іншае не збіраецца.

— Маеш магчымасць мне адпомсціць, — толькі і сказаў, апусціўшы вочы. На што Баўтрамей, які ўсё яшчэ не мог перавярнуцца на спіну, прабуркатаў “Кожны павінен выканаць свой доўг і захаваць гонар”.

Як гэта разумець – Разанцаў мог толькі гадаць. Следства па справе прафесара Віленскай акадэміі Баўтрамея Лёдніка часова прыпынілася. А, каб не ягонае маўчанне, магло раскруціцца адчувальна і для ягоных блізкіх. Бо, аказваецца, усплыло і падарожжа прафесара з драгунам Вырвічам у якасці суправаджаючых падазронага хворага: з Менску даклалі, што яны праязджалі праз заставу. На шчасце, Батыста не стаў у даносе распісваць вываз езуіцкага золата, бо сам быў уквэцаны ў “залатой” справе, як котка ў смятане. Аднойчы на допыт прывялі для апазнання яшчэ аднаго вязня: Зыгмунд Грос абыякава агледзеў скрываўленага прафесара і запэўніў, што яго не ведае. Лёднік, у сваю чаргу, рашуча адмовіўся ад усялякага знаёмства з падазроным панам. І ясна было, што хоць збівай кожнага да смерці або другіх сведкаў прывядзі, меркавання не зменяць. Сапраўды, кожны мусіць выканаць свой доўг, якім чынам бы ён яго ні разумеў, як аднойчы сказаў над паміраючым Шрэдэрам Грос.

Прыйшоў наведаць Пранціша і кітаец. Сунуўся ў дом, ступаючы бязгучна, як дух-Хатнік, нізенькі, у сінім халаце, падбітым ватай, з вечнай усмешкай на маршчыністым твары, са смешнай казлінай бародкай. Так і здавалася, што зараз вымавіць якое-небудзь пагрознае “Фух-фух, чур мяне, дай-дай, гаспадар, без солі яечні, а то атрымаеш у плечы”.

Але спадар Лі гаварыў ветліва і ціха, смешна перакрыўляючы словы. Ён агледзеў Пранціша, балюча націскаючы на асобныя кропкі цела, павадзіў рукой над ранай, якая ўжо зацягнулася, паглядзеў у вочы, ды так, што галава закруцілася – хаця вузкія вочы кітайца з жаўтаватымі бялкамі зусім не здаваліся страшнымі ў параўнанні з цёмнымі пранізлівымі вачыма Лёдніка.

— Паправішся хутка, малады чалавек! – паляпаў Чунь Лі Вырвіча па спіне. – Будзеш жыць доўга, ажэнішся, прыгожыя словы напішаш!

Вырвічу ажно стала непамысна: чаму кітаец сказаў пра словы, а не пра слаўныя бойкі? Няўжо, як і Лёднік, хоча з яго выхаваць вершаплёта?

На роспыты пра здароўе Бутрыма Чунь Лі сказаў, што доктар “Моцны, вельмі моцны. Але жарсны. Жарсць перашкаджае, бо толькі халодны розум павінен кіраваць высакародным мужам у часы небяспекі, стрыманасць прыводзіць да поспеху”. І дадаў, што Канфуцый вучыў, не з тым трэба быць у бойцы, хто можа кінуцца на тыгра з голымі рукамі ці кінуцца ў раку, не чакаючы лодкі.

— Але Чунь Лі сам чалавек жарсны... – заўздыхаў скрушліва дзядок і прызнаўся, што з радзімы давялося яму ўцякаць пасля таго, як ягоны гаспадар, вельмі важны чыноўнік, патрапіў у няміласць да імператара, і прыйшлі жаўнеры з загадам усё сямейства чыноўніка забіць. Чунь Лі, улюбёны вучань і целаахоўнік, не змог разам з гаспадаром ды іншымі слугамі добраахвотна прыняць смерць, а наадварот, пачаў біцца з прыхаднямі... А калі ўсіх перабіў – выратаваны гаспадар з раздражненнем на занадта стараннага слугу сябе зарэзаў, бо волю імператара парушаць нельга. Вось і блукае цяпер Чунь Лі па чужыне, як бяздомны сабака...

Пранціш трошкі не разумеў такой філасофіі, а калі спытаўся, як дапамагчы доктару Лёдніку, зноў сустрэўся з дзіўнотай.

— Канфуцый вучыў, калі табе скажуць, што высакародны муж, вядомы сваёй чалавечнасцю, патрапіў у студню, кідацца яму на дапамогу не трэба. Таму што высакародны муж можа ісці на смерць, але не можа гінуць неразважна.

Як з такой філасофіяй спалучалася выбітное баявое ўменне, невядома. Відаць, для ўжывання ўсялякіх хітрамудрых удараў у кітайца былі свае вучоныя абгрунтаванні — філосаф заўсёды здольны абгрунтаваць самы дзікі свой учынак такім высокім ды наймудрым слогам, што не тое каб упікнуць мудраца – яшчэ і ў ладкі яму пapляскаюць прасцякі. Але ясна, што разлічваць на спадара Лі ў вызваленні доктара не выпадае. Добра, палечыць яго ды дапаможа аднавіцца... Нетрадыцыйнымі, хаця й жорсткімі, метадамі. Калі паедуць у Пецярбург, Лёднік павінен быць у як мага больш добрым стане.

Дзядок аказаўся вясёлы, жартаўнік... Цяпер было зразумелым, чаму перадаваў Лёднікам стравы, у якіх плавалі вочы ды іншыя жарсці. Распавядаў Пранцішу і пра звычаі кітайскіх паэтаў – як толькі такі паэт дасягаў вяршыні славы, тут жа ўсё кідаў, перасяляўся на іншае месца, дзе яго ніхто не ведаў, мяняў імя і пачынаў усё спачатку... Дзівакі, адно слова.

Распавядаў і пра свае вандроўкі па Сібіры. Як сустракаўся з тунгусамі, яны ўсе былі з тварамі, расфарбаванымі ў розныя колеры, так, што нельга адрозніць жанчын ад мужчын. Тунгусы вандруюць ад ракі да ракі, ловяць рыбу, з забітага звера смокчуць цёплую кроў, памерлых сваіх не хаваюць, а ставяць на дрэвах, страляюць з лукаў незвычайна трапна. Чунь Лі пабываў у адным іх племені ў палоне цэлы год, пакуль не абмянялі яго ў рускага пасланніка на дзесяць нажоў.

Алесіка доктар дазволіў прывесці да сябе, толькі калі змог больш-менш прыўзнімацца і, каб не напалохаць малога, пагаліў бараду, якая ўжо ладна адрасла. А Пранцішу перадаў, каб не рабіў глупстваў і не ўздумаў арганізоўваць фантастычныя планы па ягоным выратаванні. Баўтрамей Лёднік сам пра сябе паклапоціцца.

Пранціш толькі фыркнуў. Ведаем, як гэты высакародны муж умее пра сябе клапаціцца.

Праз пару тыдняў доктар пачаў сам хадзіць. Яшчэ праз тыдзень – займацца з Чунь Лі гімнастыкай. Паколькі Лёднік, як праўдзівы беларус і палачанін, валодаў усімі якасцямі трыпутніка – здольнасцю ўставаць, калі чужым колам пераехала, капытом прытаптала, зноў і зноў, і лекаваць іншых, і трымацца за неласкавую родную зямлю, Вырвіч зразумеў, што час дзейнічаць і яму. Бо пан Рысь пра шлях Батысты даведаўся дакладна...

На маленькай прыдарожнай станцыі давялося прачакаць два дні. Каб быў пры сабе птах-кабец, па чыім палёце продкі варажылі, дык запусцілі б у сіняе неба... Бо цяпер удзень неба сінела, і ўсё здавалася прыгожым, як на нямецкай парцалянавай талерцы. Дом, з шэрых бярвенняў, з гонтавым дахам, зацярушаным снегам, нагадваў палац Зюзі, славянскага бства холаду. Падслепаватыя вакенцы зацягнула шэранню, як самымі каштоўнымі фіранкамі. Хвойкі ля весніцаў, улетку, напэўна, здратаваныя мінакамі, цяпер прыбраліся ў аксаміт і дыяменты, як сіроткі, якіх узяў пад апеку магнат, даў пасаг і вывез на баль, падабраць вартых жаніхоў. Унутры карчма была, як карчма – смярдзела лоем ды кіслай капустай. Госці пілі яшчэ больш, каб сагрэцца, спявалі яшчэ грамчэй, каб адагнаць тугу доўгіх цёмных зімовых вечароў... Пранціш, пан Рысь і яшчэ двое ўвішных хлапцоў, з выратаваных Лёднікам студэнтаў, па мянушцы Рак ды Сак, пілі і спявалі, як і астатнія. І каб не прываблівць увагі, і проста таму, што як яшчэ маладым воям перад бойкай прабавіць час?

...Дзяўчо маё маладое, маеш вока цудаўное,
Я з-за тварыка твайго страціў коніка свайго.
З-за тваіх белых ручок страціў залаты лучок,

З-за тваіх харошых вочак чатырох не выспаў ночак...

А пан Рысь, хаваючы ў чорныя вусы ўсмешку, вучыў студыёзусаў, як змусіць закахацца ў сябе дзяўчыну. А ўсяго толькі трэба зачапіць яе кажановым кручком. Робіцца ён проста: трэба злавіць кажана, пасадзіць у гаршчок, завязаць анучкаю з дзірачкаю, пайсці ў лес і закапаць у мурашнік. А тады бегчы бегма, каб не пачуць з гаршка крыку кажана, якога мурашы пачнуць заядаць, бо як пачуеш – дык памрэш. Праз сем дзён у гаршку застануцца адно белыя костачкі, з якіх трэба выбраць кручок і вілку. Калі ўзяць іх у рот — можна нябачным стаць, а кручком дзевак прыварожваюць. А як дзеўка надакучыць – адпіхні яе кажановай вілкай, і адчэпіцца. Вось толькі калі ты схопіш таго кажана, у якога пасля смерці ператварыўся чараўнік – гамон табе. Самога ўночы мурашы заядуць... І застанецца раніцой у ложку ад цябе адна скура, з якой якая-небудзь вядзьмарка патрапіць барабан вырабіць, каб твая душа пасля смерці ёй слугавала...

Пранціш ціха рагатаў, паглядаючы на пераляканых маладзёнаў, якія храбрыліся і дэкляравалі, што ніякіх кажаноў не баяцца, і без кручкоў чароўных дзевак чапляюць, а сам крадма мацаў плячо, пакручваў рукою: ці зможа, як раней, валодаць шабляй? Лёднік у свой час натрэніраваў яго біцца абедзьвума рукамі, але левай усё-ткі Пранціш валодаў горш.

А Пранцішаў бацька, Даніла Вырвіч, расказваў яшчэ, што карчмары прывабліваюць наведнікаў, прыбіваючы кажана да сцяны карчмы. Мусіць, вісеў забіты звярок і дзесьці тут – бо ў наведніках недастачы не было. Мніхі, купцы, шляхцюкі, судовыя... Але калі ўвечары падкаціла карэта Батысты, не заўважыць яе не змог бы нават глухі Піліп, які да печы прыліп: вялікі пан прыехаў! Карэта ззяла пазалотай, як новы куфэрак. На ёй красаваўся герб з выявай арла і змяі, якога Пранціш раней у вочы не бачыў, а значыць, быў ён фальшывы, як начаканеныя ў Прусіі польскія талеры. Ззаду, быццам грахі за валацугам, цягнуўся воз з дэкарацыямі, шчыльна ўхутанымі прасмоленай тканінай. Нават лёкаі апранутыя ў сает і чырвоныя боты. А ўжо калі выйшлі граф з графіняй, карчмар ледзь на калені не паваліўся. Надзьмутая фізіяномія Батысты выяўляла такую пагарду да гэтага вартага жалю свету, што назапасіцца яна магла сапраўды толькі за тры тысячагоддзі быцця егіпецкага жраца. Затое графіня, захутаная ў белае казачнае футрачка, была такой узнёсла прыгожай, што нават п’янтосы, якія не маглі адняць галавы ад стала, заўзіраліся, разявіўшы раты.

Для важных гасцей адвялі асобны пакой, вытурыўшы з яго кагосьменш самавітага і страшэнна абуранага несправядлівасцю. А што ж небрака хацеў, у гэтым свеце каму матавіла, каму булава. Людзі часалі языкі ды лупіліся на прыезджых. Толькі маладыя шляхціцы, якія вось ужо два дні праседжвалі ў карчомцы, гулялі ў карты, гучна размаўлялі і нахабна разглядалі ўсіх, не паказваліся, і ніхто не ведаў, што за паляндра ў іх учамерылася.

Але граф Батыста з прыгажуняй жонкай даведаліся.

Калі ў іх пакоі раптам вымалявалася чужая постаць, быццам проста са сцяны выйшаў дух яшчэ аднаго егіпецкага жраца.

Батыста ненавісна-насмешна паглядаў на маладога драгуна:

— Вы сур'ёзна спадзяецеся, пан Вырвіч, што можаце беспакаранна напасці на госця польскага караля і расейскай царыцы? Ды вас зараз...

Вырвіч развёў рукамі, паказваючы, што не трымае зброі.

— Ну што вы, пан Батыста, які напад... Усяго толькі гутарка старых знаёмых. Пра вельмі прывабную і карысную прапанову...

— Вы ўпэўненыя, што вам ёсць што мне прапанаваць? – Батыста намацваў рукой пісталет. Міхалішыўна, якая пры з'яўленні Пранцыся не змагла стрымаць здзіўлена-радаснага ўскрыку, напружылася, падабралася бліжэй да графа, і драгун, намагаючыся не глядзець на яе, разумеў, што дзеўка прыкідвае, як не дапусціць да бойкі.

— Так атрымалася, што ў мяне ёсць адзін дужа цікавы і добра знаёмы вам ліст...— Пранціш усміхаўся, бы карчмар, што спаіў гасцям бочку бярозавага соку, прыпраўленага спірытусам, замест дарагога венгерскага віна. Батыста самую трошку занепакоіўся.

— Які ліст?

— Разумееце...—Пранціш перабольшана скрушна ўздыхнуў, – часам можна па няўважлівасці спаліць у печцы пусты канверт...

Цяпер Батыста захваляваўся ўжо прыкметна.

— Пра які канверт кажа пан?

— Той, у якім быў ліст наступнага зместу...

Вырвіч не спяшаючыся дастаў з кішэні аркуш, распрастаў:

— "Яснавяльможны пан Геранім Радзівіл, даруйце, што прамарудзіў з адказам на ліст Вашай мосці, прыніжана цалуе вам ручкі і ножкі нявартры ваш слуга Рудольфіюс Батыста..." Ой, які плябейскі стыль... Вас вучылі рыторыцы?

Маг ірвануўся і выхапіў з рук Пранціша аркуш... Гэта была копія, знятая з арыгіналу, засведчаная подпісамі двух сведкаў.

Аблічча мага зрабілася аднаго колеру з напудраным парыкам.

— Што вам патрэбна? А, здагадваюся… Наша чароўная дама!

Батыста кінуў позірк на Міхалішыўну, нібы ацэньваў, наколькі зможа без яе абысціся. І Пранціш з няёмкасцю ўсвядоміў, што Міхалішыўна раптам уся затрымцела, і яе вочы загарэліся надзеяй – паверыла, што драгун вярнуўся за ёю… Няўжо апякунства караля ёй аказалася мала?

Вырвіч з цяжкасцю адвёў вочы ад актрысы, не жадаючы бачыць яе расчаравання, і змусіў сябе зноў жорстка ўсміхнуцца.

— Не пацэлілі, пан Батыста.

Маг здзіўлёна прыўзняў бровы.

— А вы паразумнелі, малады чалавек… Значыць, спакусіліся каронай святога Альфрэда, ці заадно і езуіцкім скарбам? Але ў мяне засталося не так шмат…

Пранціш адмоўна пакруціў галавою.

— Мы вернем вам той ліст, які зараз захоўваецца ў надзейным месцы і ў выпадку вашай здрады будзе адпраўлены ў Трыбунал, і дамо слова ніколі не распавядаць пра ваша злачынства, калі вы дапаможаце патрапіць інкогніта мне і яшчэ тром ліцвінам у Санкт-Пецярбург і пабываць там, дзе нам спатрэбіцца.

— За доктарам Лёднікам сабраліся? – насмешна, але з дамешкам нянавісці прагаварыў Батыста. – Павінен папярэдзіць, што ўсе пражэкты па ягоным вызваленні не спраўдзяцца. Надта сур’ёзная справа.

— А што здарылася з панам Лёднікам? – Раіна Міхалішыўна шчыра ўстрывожылася, і Пранціш мімаволі заглядзеўся на яе зялёныя вочы, хаця даваў сабе слова аніяк не выяўляць увагі да новай каралеўскай фаварыткі. Вырвіч коратка апісаў сітуацыю. Батыста злосна засмяяўся і выказаў свае меркаванне.

— Я не сумняваўся, што доктар скончыць дрэнна. Ён у вас проста герой гішпанскага раману Дон Кіхот, які з тазікам на галаве і іржавай дзідай кідаецца на ветракі. І што пасля дзівіцца, калі атрымлівае па галаве? І гэта замест таго, каб спакойна карыстацца дадзенымі небам талентамі, за якія многія душу б заклалі. Што ж, абяцаю, вы будзеце побач са сваім доктарам, але вызваляць яго я не збіраюся. І палец мачаць у гэта не стану. Якая мне розніца, за што быць павешаным, за старую справу ці за новую?

Вырвіч нахмурыўся.

— Вы павінны забяспечыць нам магчымасць быць побач з доктарам і сачыць за ягоным лёсам.

— Ну, гэта я магу… — Батыста пасміхнуўся. — А цяпер падумаем, што з вамі рабіць. Паклічце сюды вашых трох ліцвінаў…

Калі пан Рысь і двое студыёзусаў, высокі бялявы Рак ды плячысты чарнявы Сак, зайшлі ў пакой, пад дзвярыма якога вычыквалі, Батыста, зноў упэўнены і зласліва-іранічны, абыйшоў невялікі атрад, крытычна аглядаючы кожнага.

— Ну што, адважная банда Дон Кіхота, будзем падбіраць кожнаму адпаведную ролю!

Пан Рысь паспрабаваў быў абурыцца і паказаць нахабнаму блазну ягонае месца, таму што больш за ўсё на свеце хацеў засячы здрадніка, але пан Батыста звузіў шэрыя вочы, выскаліўся, і хаця да Лёдніка, які поглядам прыбіваў да месца, яму было далёка, спрачацца чамусьці ўсім расхацелася. Не, баязліўцам назваць мага ўсё-ткі нельга.

Італьянец абмерыў вачыма высакародную постаць пана Рысі, затрымаўшыся на чорных баявітых вусах.

— Ну, вас, вашамосць, магу зрабіць фарэйтарам... Будзеце з коньмі ўпраўляцца. Бо вам пры вашай паставе абавязкова трэба мець мундзір! І зброю тады зможаце пры сабе пакінуць.

Пакуль пан Караль буркатаў нешта няўхвальнае, маг спыніўся каля бялявага Рака ды чарнявага Сака.

— А гэтых куды, мія кара? – азірнуўся на Міхалішыўну. – У асістэнты не падыходзяць, занадта няўклюдныя. З роляй лёкаяў таксама не справяцца – упусцяць прылюдна пару разоў паднос альбо грэлку, і што тады, лупцоўку ім даваць, каб легенду не разбураць?

Павукі разбегліся па кутах пакою, бо адчулі, што зараз людзі могуць пачаць шпурляцца адзін у аднаго не толькі словамі і парвуць павуту, столькі працы ляснецца... Хіба людзі здольныя гэтак карпатліва высноўваць ды пераплятаць таненькія ніты! Не, ім бы сакануць, загадаць і атрымаць сваю муху адразу, пад анісавай падлівай на саксонскай парцаляне...

Раіна агледзела абураных студыёзусаў.

— А няхай паны едуць у карэце на дваццаць чатыры вакны... Ну, на возе пры дэкарацыях, быццам насільшчыкі! Будуць дапамагаць сцэну абсталёўваць, рэчы грузіць, здаецца, хлопцы дужыя.

— І праўда...—пагадзіўся Батыста. – Паступіце ў распараджэнне майго Джавані. Ён дасць вам вопратку. А што рабіць з вамі, пан Вырвіч?

Пранцішу зрабілася няўтульна, надта іранічны позірк быў у мага.

— Пан Вырвіч, напэўна, пад падазрэннем, — нагадала Міхалішыўна. Батыста задумаўся.

— Яшчэ як... Яны ж з доктарам – як нітка ды голка, усім вочы скалолі. Тут простага пераапранання мала...

Маг нядобра так прыжмурыўся, як цэнзар з калегіюма, які дакладна ведае, што ў гэтага шкаляра ў кішэні схаваныя карты, і зараз з'явіцца прычына адхвастаць гульца бярозавымі розгамі.

— Вось што, вы, пан Вырвіч, будзеце маім асабістым егіпецкім слугою! Лічыце сябе хоць нашчадкам фараона... Валасы пафарбуем, скуру вымажам, касцюмчык падбяром... Затое зможаце паўсюль за намі соўгацца, апахалам графіню абмахваць, у фокусах мне дапамагаць – вы ж чалавек спрактыкаваны ў розных пракудах, гэта я адразу ўбачыў. Паспрыяеш яму пераўвасобіцца, мія кара?

Міхалішыўна весела засмяялася.

— Басмы хапае. Крэм для скуры намяшаю. Цюрбанчык накручу...

— Ну вось і добранька! А на досвітку з'едзем, каб ніхто не пабачыў, што былі вашамосці – паважаныя шляхціцы, а сталі прыслугай егіпецкага жраца Атхесенпаамона, прыемна пазнаёміцца.

Вось і адкрыўся сакрэт чарнавалосасці Раіны... А што зробіш, калі ў егіпецкай прынцэсы русявых ліцвінскіх косаў быць не можа. Уночы артыстка з вясёлымі жарцікамі пафарбавала Пранцішу валасы і бровы найлепшай індыйскай басмай, якой карысталася сама. Пранціш мімаволі млеў ад дотыку далікатных, але моцных ручак, і нат не засмучаўся пераменай аблічча, бо цікаўнасць у вырвічаўскай авантурнай натуры заўсёды перамагала ўсе разумныя і практычныя разважанні. Брунатны тлусты крэм і адпаведны касцюм давершылі пераўвасабленне. З люстэрка ў круглай жалезнай раме на Пранціша глядзеў нахабны смуглявы юнак, з-пад цюрбана з бліскучай жоўтай матэрыі выбіваўся смаляны чуб, вочы з-пад падведзеных сурмою броваў блішчэлі блакітным гарэзным агнём, падпярэзаны жоўтым пасам чырвоны халат ладна абцягваў драгунскую постаць.

Міхалішыўна падыйшла з-за спіны, паклала рукі юнаку на плечы:

— А вам пасуе, пан Вырвіч. Так і хочацца павучыць вас таньчыць на вуголлях – эфектна б глядзеліся.

Вырвіч рэзка абярнуўся і абняў прыгажуньку.

— Мы і так таньчым на вуголлях, дарагая панна.

І само зляцела з вуснаў недарэчнае пытанне, якое смыліла і назаляла, як ні адганяў яго, быццам авадзень у спёку.

— Ты... была з каралём?

З празрыста-зялёных вачэй знікла шчырая весялосць, вялікаватыя ружовыя вусны падціснуліся.

— Ягоная каралеўская мосць вельмі ўпадабаў мае танцы ды спевы, і драматычны мой талент ацаніў...

Выкруцілася з абдоймаў, зноў усміхнулася па-блазенску дзёрзка:

— А асабістае жыццё караля – дзяржаўная таямніца, пан Вырвіч! Вы не мусіце гэтага ведаць, пан... Ахмед, давайце я вас буду клікаць Ахмедам!

І затаньчыла на дыбачках усходні танец, загайдала клубамі, уздымаючы ўверх сцябліны рук... Артыстка!

Раніцай Батыста з крывой усмешкай паведаміў, што жаданне пана Вырвіча быць побач з ягоным сябрам Лёднікам выконваецца няўхільна. Экіпаж егіпецкага мага на адной са станцый перастрэнецца з карэтай, якая ў суправаджэнні цэлага атраду гвардзейцаў вязе ў Санкт-Пецярбург дзяржаўнага злачынцу. Аказваецца, у Батысты і Разанцава запланаваная сустрэча... Батыста, праўда, адмыслова папярэдзіў, каб найміты сядзелі ціха, бо атрад будзе не менш чым у сотню вояў, не жартачкі.

Палазы парыпвалі па сыпкім снезе, пакідаючы ў ім глыбокія шнары. Карэта з закратаванымі вокнамі спынілася каля прыдарожнай карчмы, дзе ўжо два дні знаходзіўся маг са спадарожнікамі. Разанцаў, захутаны ў мядзвежае футра, выйшаў на стаптаны снег, падазрона азірнуўся і адправіўся ў будынак. А жаўнеры заняліся тым, чым спрадвеку займаюцца тыя, хто спыняецца каля карчомкі. Вядома, асабліва шляхетных гатункаў віна тут не было, але піва налівалі някепскае. А хутка яшчэ з вокнаў пачуўся дзівосны жаночы спеў на італьянскай мове... Нават фурман злез з аблучка і пацягнуўся, як зачараваны, бліжэй да дому. Жаўнеры, якія дзяжурылі ля карэты, таксама адышліся, задраўшы галовы да вакна, за якім разводзіла рулады райская птушка.

У закратаванае вакно экіпажу з адваротнага ад карчмы боку зараз жа зазірнуў, выслізнуўшы невядома адкуль, егіпецкі хлопец:

— Бутрым!

Дзяржаўны злачынца, які драмаў, адкінуўшыся на мяккім сядзенні, адплюшчыў цёмныя вочы, абведзеныя кругамі, адчыніў знутры зашклёную шыбу:

— Пранціш! Ну і выгляд у цябе... Адкуль?

— Ціха! Зараз паспрабуем цябе адбіць... Мы разам з Батыстам прыехалі. Там пан Рысь, яшчэ колькі чалавек пазбіралі з суседніх маёнткаў... Жаўнераў ля карэты ціха прыкончаць, і бяжым. Іншай магчымасці не будзе. Трымай пісталет і нож...

Але Лёднік пакруціў галавой з адрослымі чорнымі валасамі, на яго схуднелым абліччы была стома:

— Выбачай, не магу...

— Ты што, прыкаваны? Справімся...

— Не, дарагі! – доктар з мяккай усмешкай паціснў праз краты руку нечаканага госця. – Я даў слова Міхайле, што паеду з ім. Я павінен пацвердзіць, што ён не здраднік.

Вырвічу на імгненне мову адняло. І сапраўды падалося, што на галаве доктара – дзіравы медны тазік, апрануты ён у іржавыя рыцарскія латы, а рука сціскае дзіду, нацэленую на вятрак. Дон Кіхот няшчасны, рыцар сумнага вобразу!

— Ты што, здурэў? Якое слова? Цябе ледзь не замучылі! Выратуеш яго, твой сябручок зноў цябе на крук павесіць! І яшчэ мяне побач!

Лёднік трохі змяніўся ў твары:

— Ты не павінен папасціся... Сыходзь!

— Пайшлі разам! – Вырвічу хацелася проста аглушыць зараз упартага доктара, як рыбіну, і звалачы сілком. – Пра Саламею падумай! Пра Алесіка! У Італіі пажывем, там вучоных шмат!

Спевы ў карчме скончыліся, людзі ўхвальна загулі.

— Зразумей, у мяне ёсць магчымасць заступіцца не толькі за Міхайлу... – з тугою адказаў Лёднік. — Магчыма, удасца пераканаць, каб не чапалі Акадэмію, не пераследвалі студэнтаў. Сам ведаеш – наш кароль зробіць тое, што скажа Пецярбург... Ты лепей Батысту прыцісні, каб ад даносу адмовіўся... Зараз мне збегчы – гэта здрада! Гэта пацвердзіць, што ўсё-ткі ёсць змова, і трэба ўсіх арыштоўваць і дапытваць! Увядуць ваеннае становішча, і... Да таго ж – пагоня, кроў, загінулыя людзі... Ды жаўнеры тут пекла ўчыняць! Навошта тады ўсе мае высілкі былі?

Пачуўся ціхі свіст, што азначала – егіпецкаму слузе, які так і не падаў знаку на пачатак аперацыі, трэба ўцякаць. Калі вядзецца, дык і на трэску прадзецца, а калі Фартуна маўчыць, дык і мёд гарчыць.

— Дурань! Усё роўна будзе вайна! – Пранціша аж калаціла ад злосці і адчаю. – Шляхта збірацца скласці канфедэрацыю супраць Панятоўскага і расейцаў, расейцы агітуюць, каб у іхнюю канфедэрацыю ўступалі...

— Тым больш я павінен абараніць хоць тое, што магу. Не трэба ўчыняць тут безнадзейнай бойкі. Сыходзь, Вырвіч!

Адзін афіцэр ужо заўважыў, што ля карэты с арыштаваным круціцца падазроны тып, і сярдзіта закрычаў. Пранціш паспеў яшчэ

абмяняцца з доктарам тужлівымі паглядамі і змушаны быў хуценька слізгануць між коламі карэты...

Нягоднік Батыста, які да гэтага не быў пасвечаны ў бліскучы план выкрадання вязня на станцыі, паводзіны доктара ўхваліў, затое Пранціша і пана Рыся аблаяў на чым свет... Авантурысты, гатовыя загубіць усё і ўсіх непрадуманымі планамі! Калі ўжо яны вымушаны дзейнічаць разам, трэба хаця б трохі пытацца, хто і што збіраецца рабіць... Ледзь усё не сапсавалі, у тым ліку і свайму доктару! Amicus incommodus ab inimico non differt! *(1.Някемны сябар не адрозніваецца ад ворага. Лац.)*

Пан Рысь выхапіў шаблю, а Пранцішу толькі цяпер прыйшла ў галаву запозненая здагадка – не здарма ж маг адправіўся ў расейскую сталіцу ў адзін час з Разанцавым, не выпадковая і гэтая сустрэча на станцыі! Батыста ж таксама замяшаны ў справе закалоту ў Віленскай акадэміі, гэта ж з ягонага даносу ўсё пачыналася! А Лёднік зблытаў усё і яму... І цяпер на расследванне выкліканы і Батыста. Напэўна, Разанцаў з магам пра нешта дамовіліся, і пан Міхайла па дарозе ўсё абмяркуе з Лёднікам: якой версіі хто стане трымацца, як выйсці ўсім з сітуацыі з найменшымі стратамі. Дыпламатыя, палітыка, палацавыя інтрыгі! Цяпер Вырвіч быў упэўнены, што карона святога Альфрэда будзе выкупляць правіну мага перад расейцамі. А Панятоўскі – што, яму цікавей з актрысай Шэкспіра разыграць, чым разбірацца ў даносах і змовах. Ён толькі рады, можа, што ўдалося пазбегнуць вялікай бойкі.

Батыста пацвердзіў, што збіраецца ператлумачыць уладам па-іншаму словы свайго даносу, і чым менш Пранціш з кампаніяй будуць умешвацца, тым лепей. Нават Міхалішыўна, якая выканала просьбу Пранціша пацешыць спевамі расійскіх жаўнераў, але таксама не ведала пра рызыкоўную задуму спадарожнікаў, нечакана выказалася, як і маг. Людзей бы толькі загубілі, сябе загубілі... Пацвердзілі б, што закалот існуе, а пан Лёднік на пакуты пайшоў, каб гэта абвергнуць.

Пранціш яшчэ раз падзівіўся, як выпадкова часам мяняецца ход гісторыі. Вось патрапіў між яе адладжаных, грувасткіх колаў адзін чалавек – і змусіў усю машыну спыніцца. Праўда, для гэтага чалавек павінен быць не парушынкай і не простым каменьчыкам, а адамантам, дыяментам...

Падобнае здарылася, калі па намове князя Вітаўта жонку старога Ягайлы Соф'ю Гальшанскую абвінавацілі ў здрадзе мужу-каралю, нібыта сыноў яна нарадзіла не ад яго, а ад маладога прыгожага рыцара Генрыка з Рогава. Кароль раз'юшыўся і загадаў аддаць магчымага суперніка на допыт... І каб той зламаўся пад

катаваннем, прызнаў віну – прынцы, будучыя манархі, былі б пазбаўленыя права на трон, з’явіліся б іншыя прэтэндэнты, і як бы тады ўсё павярнулася? Але рыцар паўтараў: “Каралева не здраджвала каралю”, і ўсё пайшло тым шляхам, які застаўся ў летапісах…

Цяпер гэты шлях залежыць ад нязломнасці Лёдніка, якая ўжо змусіла моцных свету мяняць планы, а здрайцаў і падлюкаў прыстасоўвацца.

Пан Рысь ад злосці і расчаравання шабляй усе сцены пакоя пасек, як быццам тут начаваў галодны лемпард з вострымі кіпцямі.

Што ж, заставалася ехаць далей на Поўнач.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ. ЯК ПРАНЦІШ І ЛЁДНІК З ПАЎНОЧНАЙ ПАЛЬМІРЫ ЎЦЯКАЛІ

У чорным, як пашча астылай печы, небе ўспыхвалі вогненныя кветкі і вензелі. Асабліва часта паўтараліся ініцыялы імператрыцы. А што вы хочаце – хто на куце, для таго й булкі…

А неба тут было асабліва цёмнае… Як столь у сутарэннях, дзе дагарэла апошняя свечка. Але й удзень не пакідала адчуванне, што да гэтага нізкага паўночнага неба можна, добра падскочыўшы, дакрануцца рукою, асабліва паміж шэрых камяніцаў і раўнюткіх, як накрэсленых, брукаваных вуліцаў і каналаў.

Смуглявага юнака ў чалме, які трымаў нешта вялікае, захутанае ў футра, штурханула паненка ў сукенцы, расшытай перлінамі. Крыналіны спакусна шаргатнулі, паненка азірнулася, у мігатлівых агнях феерверкаў і паходняў толькі і можна было разгледзець бліскучыя вочы ў прорэзях чорнай аксамітнай паўмаскі, ды ярка нафарбаваныя вусны ўсміхаліся… На карнавале любая дама сыдзе за прыгажуню.

Цяпер штурхаліся з усіх бакоў, і паненка пабегла далей… Мала што тут малады блакітнавокі егіпцянін… Навокал хапала самых неверагодных персанажаў, з велізарнымі дзюбамі, у капелюшах-караблях… Нехта нават у мурына пафарбаваўся – а можа, гэта і насамрэч быў мурын, у вясёлай мітульзе карнавалу нельга было адрозніць сапраўднае ад несапраўднага.

Вось пад карліка не падробішся… А іх тут было столькі, быццам спецыяльна вырошчвалі (а хадзілі чуткі, што так і ёсць – калечаць дзяцей адмыслова, трымаюць іх у спецыяльных прыстасаваннях, каб косткі раслі няправільна, і вось – жывая забаўка для багацееў). І як ні любіў Пранціш Вырвіч пагулянкі ды зухаватыя бяседы, не было яму весела пад гэтым нізкім, як скляпенне, небам,

між бліскучага натоўпу, кожны з якога ў любы момант мог ператварыцца з усмешлівага прыдворнага ў атласе і карунках у апальнага раба з вырванымі ноздрамі і кляйном дзяржаўнага злачынцы на ілбе… Хто ведае, дзе паслізнешся на наваскаваным палацавым паркеце? Тут шляхціц не выкрыкне таму, хто займае трон, што гэта ж ён і выбіраў цяперашняга манарха на элекцыйным сойме, а раз яны ўсе – роўныя ў шляхецтве сваім, дык няхай Трыбунал вырашае, чыя праўда. Вунь Панятоўскі паспрабаваў цыдулкі адной замужняй пані перасылаць з даверaным чалавекам, муж высачыў, пасланца дзягай збіў, а з цыдулкай на суд прыйшоў… Кароль ледзь адкупіўся, а пані ў кляштар адправілася грахі замольваць.

Тут такое ніколі не было магчымым… А вось што дзесьці побач могуць знайсціся землякі, ліцвіны, захопленыя падчас змагання супраць новага польскага караля – цалкам верагодна. Але што толку… Нават у Англельшчыне Пранціш не адчуваў сябе такім загубленым і самотным.

Ад чарговага выбуху змяюка, якую насіў Пранціш у пазалачанай клетцы, цяпер захутанай у футра, прачнулася і закруцілася, нягледзячы на холад, які павінен быў надзейна ўганяць яе ў сон. Такая роля выпала шляхціцу Вырвічу гербу Гіпацэнтаўр – насіць за магам і ягонай жонкай залаціста-зялёную пачварыну, з дапамогай якой егіпецкая прынцэса нібыта зносілася з духамі, а насамрэч проста для важнасці.

— Пойдзем, Ахмед, фейерверк закончыўся… – прашаптаў за плячом знаёмы голас. Вырвіч удзячна азірнуўся: графіня Батыста ў неверагоднай шырыні і багацці сукенцы хутала аголеныя плечы ў белае футрачка. Пранціш пакланіўся сваёй часовай гаспадыні і рушыў за ёю ў палац, які нагадваў залаты куфэрак вужынай каралевы, у якім ззяюць незгасальным агнём дыяменты, але простаму смяротнаму лепей да іх не дакранацца.

Егіпецкі жрэц і егіпецкая прынцэса паспелі ўжо паказаць сваё майстэрства, і танец на гарачых вуголлях прынёс парачцы залаты дождж. А трое падпітых зухаватых прыдворных, якія вырашылі здзівіць усіх і паўтарыць подзьвіг графіні Батысты, залечвалі апечаныя ногі.

Пранцішу давялося на вачах зацікаўленай публікі здымаць з Міхалішыўны чаравічкі, потым абуваць, і, нягледзячы на лёкайскую ролю, ён адчуваў сябе не лёкаем, а зняволеным Ланцэлотам, і, трымаючы ў руцэ чаравічак, страшэнна хацеў усю гэтую бліскучую публіку загнаць замест Раіны ў пякельнае карыта.

Цяпер графа-жраца прасілі неадкладна прадказаць будучыню, нагадаць жаніха, павялічыць смарагд ды чапляліся з іншымі вечнымі просьбамі, з якімі па ўсім свеце звяртаюцца да вандроўных чарадзеяў і алхімікаў. Чароўная графіня адпалохвала закаханых кавалераў тым, што насіла на шыі жывую змяю, нашмат меншую за тую, якая сядзела ў клетцы, але застрашліва чорную, ды паведамляла заляцаннікам млявым тонам, што за тры тысячы гадоў балі зрабіліся куды больш вытанчанымі, вось двесце гадоў таму з-за яе пры двары Людовіка Чатырнаццатага чатыры двубоі адбылося. Кавалеры падлічвалі розніцу ва ўзросце між сабой і прынцэсай Семпенсентрай і трохі сумнелі. Дапамагаў і Пранціш, тут жа падсоўваючыся са сваёй змяюкай, якая жадала перамовіцца з прынцэсай. А галоўнае – чарадзейнай парачкі пабойваліся, і наконт сурокаў, і наконт таго, што знаёмства з прыезджымі магамі можа адгукнуцца падазрэннем у захапленні чарнакніжніцтвам, якога імператрыца не ўхваляла. Бо пакуль не было зразумелым, як яе вялікасць ставіцца да італьянскага гастралёра: у ладкі пляскала, але стрымана, і прыдворныя пакуль не спяшаліся з прагнозамі.

Натоўп стаяў уздоўж сцен доўгай залы з белымі мармуровымі калонамі, абвітымі пазалочанымі вінаградными гронкамі. Пранцішу падалося, што нават пры Варшаўскім каралеўскім двары не бачыў такіх багацюшчых убораў. Успомніліся сустрэтыя ў мінулым годзе запарожскія казакі: плячыстыя вусатыя малойцы прыехалі на кірмаш, пераапрануліся ў такія ж багатыя саеты ды парчу, гулялі-балявалі, а як свята скончылася – па чарзе ў сваёй дарагой вопратцы залезлі ў бочку з дзёгцем, а тады ўпэцканае паскідалі і зноў пераапрануліся ў звыклае, зручнае на полі бойкі. Бо не павінен сапраўдны казак, рыцар, даражыцца ўборамі, як кабета альбо палацавы шваркун.

Раптам гуд сціх, усе нізка схіліліся...

Хаця зала была асветленая ярка – сотні свечак палалі ў крышталёвых падвясных свяцільніках і пры сценах, агонь адбівалі шматлікія люстэркі, але Пранціш дасюль не мог толкам разгледзець імператрыцу. Хто ён такі, слуга, які стаіць за спінамі паноў... Цяпер таксама бачыў толькі здалёк: невысокая, паўнаватая... Але лупіцца ды праштурхоўвацца бліжэй не станеш, не на кірмашы.

Чаму разгляд “віленскай справы” быў прызначаны менавіта на гэты вечар, можна было толькі здагадвацца. Мусіць, канцлер Панін палічыў, што яму выгадней, каб імператрыца была ў добрым гуморы пасля карнавалу і феерверкаў, і паабяцаў уладарцы яшчэ адно цікавае відовішча. Гэта вельмі ўдалы прыдворны прыёмчык –

ператварыць рашэнне сур'ёзнай справы ў тэатральнае прадстаўленне, стварыць забаўныя дэкарацыі, звесці да жарту... Каб сама абстаноўка навязвала ролю велікадушнага, дасціпнага ўладара.

Пранціш пазнаў Мікалая Рапніна, галоўнага расейскага “спецыяліста” па Рэчы Паспалітай, які стаяў па той бок залы з самым вясёлым выглядам, фанабэрыстага польскага пасла Ржэвускага, які не рабіў нат спробаў усміхацца. Звярнуў увагу і на маладога высокага прыгажуна, што аціраўся паблізу ад імператрыцы з такой пыхай, што мог быць толькі царскім фаварытам Георгіем Арловым. Казалі, царыца так яго пакахала, што хацела пашлюбавацца. Але Панін асмеліўся сказаць яе вялікасці ў вочы, што пані Арлова не можа быць расейскай царыцай. Пры гэтым, ганарыста адкінуўшы галаву, канцлер так стукнуўся патыліцай аб сцяну, што на ёй утварылася белая пляма ад пудры парыка. Панін нажыў смяротнага ворага ў асобе Арлова, а маладыя прыдворныя празвалі сцяну з плямай ад пудры “сцяной смеласці” і бегалі даткнуцца да яе перад важнай справай.

Але сёння Паніна не было. Магчыма, і праўда прыхварэў, а можа, хвароба была “дыпламатычнай”, каб у выпадку няўдалага вырашэння “віленскай справы” канцлер мог сцвярджаць аб сваёй непасвечанасці.

Калі ў залу ўвайшлі граф Міхайла Разанцаў і доктар Баўтрамей Лёднік, Пранціш ледзь не парушыў ролю слугі, бо падаўся наперад, каб лепей усё бачыць і чуць, ледзь сваю змяюку не выраніў.

Разанцаў і Лёднік выглядалі самым важным і гжэчным чынам. На Лёдніку быў акуратны парык, сіні камзол, расшыты срэбрам, белыя панчохі, чаравікі... Напудраная фізіяномія фанабэрыста-засяроджаная, быццам на вучонай радзе. Толькі тое, што быў без зброі, сведчыла пра статус арыштаванага злачынцы, ды рэзкія цені ад вечаровага асвятлення рабілі аблічча трохі злавесным.

Абодва расшаркаліся і раскланяліся, як мае быць. Імператрыца прыняла з рук важнага пана з выцягнутым тварам паперу, перачытала... І, цэдзячы словы, звярнулася да доктара з рэзкім дакорам, маўляў, вучоны чалавек, прафесар, яна, царыца, ягоныя артыкулы ў Лейпцыгскім навуковым часопісе чытала, і ўвязаўся ў змову, падбухторваў сваіх студэнтаў са зброяй у руках выганяць з Вільні рускіх і звяргаць законнага караля.

— У вас не ўніверсітэт, а пітомнік для дзяржаўных злачынцаў!

Пранціш не мог бачыць аблічча Лёдніка, але голас таго гучаў спакойна і ветліва. Лёднік патлумачыў на расейскай, праўда, з акцэнтам – але ж і сама імператрыца размаўляла з заўважным

акцэнтам – што яе вялікасць падманулі, дакладней, мае месца некаторае непаразуменне.

— Студэнты, вядома, сваволілі... Але на тое яны і студэнты, такія ж, як па ўсім свеце, ваша вялікасць – пасля імшы замкнуліся ў зале, дасталі карты, віно... Вядома, гэта падлягае пакаранню, і я сам перасаджаў бы блазнюкоў у карцэр. Але калі наляцелі жаўнеры, якія гатовы былі страляць, гэта ўжо занадта... Я – прафесар, я адказваю за сваіх вучняў. Я павінен быў іх абараніць. Мне нічога не вядома пра іх палітычныя сімпатыі, але губіць з-за аднаго падазрэння маладых людзей, з якіх могуць вырасці карысныя для Айчыны людзі, нельга.

І пачалося. Разанцаў сцвярджаў, што ў Акадэміі антырасейскія настроі, што многія сімпатызуюць адпраўленаму ў выгнанне князю Радзівілу, таму звесткі пра закалот выглядалі вельмі верагодна. Князь Мікалай Рапнін пацвердзіў пра няправільныя настроі віленскай моладзі, але пэўна сказаць, ці ўдзельнічаў прафесар у закалоце, не мог, бо доказаў не знайшлі. Кіраўніцтва Акадэміі, як будысцкія малпачкі, сцвярджалі ў лістах, што нічога не ведалі, не бачылі, не чулі і занятыя выключна асветніцтвам, а што там доктар Лёднік вытварыў, чаму счапіўся з жаўнерамі – гэта ягоная асабістая справа.

Успомнілі і пра Батысту.

На егіпецкага жраца царыца глядзела трохі грэбліва, як на змяюку ў клетцы. Ягоныя дасканала велягурыстыя і прыніжаныя запэўніванні пра вернасць трону, жаданне папярэдзіць пра бунт і непаразуменні наконт месца і часу зборышча выслухала няўважліва.

— Ясна, усе стараліся, усе мне адданыя, і ніхто нічога толкам не ведае, бо не злоўлены – не злодзей. Мы цэнім ваша старанне, граф Батыста, і мне перадалі ад вас незвычайнае паднашэнне. Толькі прыняць яго не магу. У мяне, па волі Божай, свая карона ёсць, і ў чужых патрэбы не маю. Праўда, і ў вашых руках такой рэліквіі не месца. Мы падумаем, што рабіць.

Батыста аж загайдаўся ад такіх слоў. Вось табе і карона святога Альфрэда, “запрашальны ліст да любога каралеўскага двара”. У манархаў свой гонар, пан жрэц... Людзі зашапталіся, спрабуючы адгадаць, што паднёс імператрыцы маг, але царыца ўдакладняць не стала, а загаварыла пра самае цікавае.

— Ты, Разанцаў, сцвярджаеш, што не быў у змове са сваім сябрам прафесарам Варфаламеем Лёднікам, і калі прыйшоў на чале войска ў дзвесце жаўнераў арыштоўваць змоўшчыкаў, той проста сілай не даў вам гэта зрабіць, не пусціўшы ў залу.

— Так, ваша вялікасць... На жаль, Варфаламей не паслухаўся голасу розуму, – Разанцаў схіліўся ў нізкім паклоне. Жанчына на троне перавяла позірк на палачаніна.

— І ты можаш пацвердзіць, Варфаламей Лёднік, што адзін спыніў дзвесце чалавек?

Высокі маладзён ля трону выразна хмыкнуў, абмерваючы пагардлівым позіркам худую постаць злачынцы.

— Я не Галіяф, ваша вялікасць, каб справіцца з двумя сотнямі, — пачціва пакланіўся Лёднік. – Мне проста давялося цягам некалькі хвілінаў абараняць уваход у залу, у дзверы якой адначасова могуць прайсці не больш двух чалавек...

— І на колькі ты іх затрымаў? – з паблажлівай зацікаўленасцю спытала імператрыца.

— Думаю, хвіліны на дзве, ваша вялікасць.

— Разанцаў, тваё слова?

Пан Міхайла цвёрда адказаў:

— Не менш пяці хвілін пратрымаўся, ваша імператарская вялікасць.

У зале зашапталіся, заварушыліся, як госці на вяселлі, на якое спазняецца жаніх. Пранціш ад хвалявання пераступіў з нагі на нагу, праклятая рэптылія зноў варухнулася ў клетцы, на гэты раз не захутанай, таму на егіпцяніна з ягонай пачварай увесь час раздражнёна касавурыліся.

— Матухна, царыца, ды яны хлусяць табе! – выступіў наперад Арлоў, які адзіны мог дазволіць тут сабе дзёрзкасць умешвацца ў размову ўладаркі. – Ды паглядзі на гэтага чарнявага палячышку, я ж яго адной рукой размажу! Трубка клісцірная, а не ваяр! Падзялілі золата ад бунтаўніка Радзівіла, і табе, матухна, вочы зацярушваюць...

— Я не паляк, ваша светласць, я ліцвін, — дазволіў сабе нечуваную дзёрзкасць і Лёднік, насмеліўшыся запярэчыць. – І даю слова, што граф Міхайла Разанцаў, хоць і аднакурснік мой па Лейпцыгскім універсітэце, у змову са мной не ўступаў, сумленна выконваў свой доўг перад вашай імператарскай вялікасцю і ніякай паблажлівасці да мяне не праяўляў. Следства было самым суровым, доказы чаму ёсць на маёй спіне.

Загаварыў рашуча і Міхайла Разанцаў:

— А я мушу засведчыць, што доктар Баўтрамей Лёднік адразу заявіў, што не хоча нікога забіваць, толькі абараніць сваіх студэнтаў, і ніхто ад ягонай шаблі не загінуў і не быў паранены. Ён здаўся сам. І падчас допытаў прызнання віны ад доктара атрымаць не ўдалося.

Арлоў ганарыста пасміхнуўся:

— Вось бачыш, матухна, як яны адзін аднаго абяляюць... Дазволь, пасля таго, як іх абаіх адправіш у таемную канцылярыю, я вазьму пару палкоў ды тое бунтоўнае кубло ў Вільні з зямлі прыбяру.

Відаць, Мікалай Рапнін вырашыў, што час пераводзіць размову на іншае:

— Няхай ваша імператарская міласць дазволіць мне выказаць сваё нявартае меркаванне, але, думаю, мы зможам лёгка даведацца, хто гаворыць праўду. Паколькі ў нас ёсць галоўны герой, — Рапнін паказаў на Лёдніка, — дык няхай ён і прадэманструе нам, як змог затрымаць адзін узвод жаўнераў.

Ясна было, што менавіта на гэтую пастаноўку і разлічвалі. Царыца павесялела:

— Што ж, гэта будзе цікавы працяг карнавалу!

Звярнулася да Лёдніка:

— Ты гатовы да выпрабавання?

Доктар пацiснуў плячыма.

— Баюся, што я не ў лепшым стане зараз і магу расчараваць вас...—азірнуўся на збялелага Рапніна і не менш збялелага Разанцава. – Але пакажу, што змагу.

— Вось і выдатна! – кіўнула царыца. – Тут справа не ў закалоце студэнтаў, а ў тым, што пастаўлена пад сумніў вернасць маіх людзей. Так што пастарайцеся, пан Лёднік. Забіваць забараняю, а лёгкія раны будуць на сумленні тых, хто схібіў і прапусціў удар.

— Ваша імператарская мосць, — ступіў наперад Рапнін. – Мы адчынім вось гэтыя бакавыя дзверы, і няхай з галерэі паўз доктара паспрабуюць прабіцца жаўнеры ў дзверы насупраць.

— А людзей я падбяру сам! – заявіў Грыгорый Арлоў. – Каб пану ліцвіну яшчэ лепей спіну начысцілі!

Дэкарацыі хуценька арганізавалі. Від на імправізаваную сцэну для ўсіх адкрываўся выдатны, хаця Лёднік папрасіў усіх пасунуцца падалей, каб не здарылася няшчаснага выпадку, калі вылеціць выбітая з рукі шабля.

“Ага, зараз шаблі ў яго дажджом паляцяць”, — бурчэў Арлоў. Дамы ў прадчуванні відовішча хутчэй замахалі веерамі, ажно свечкі заміргцелі, і жыва абмяркоўвалі дэманічнае аблічча ліцвіна, які, кажуць, з’яўляецца магутным чараўніком. А мужчыны, наколькі мог чуць Пранціш, рабілі стаўкі на доктара, але часцей – супраць яго, а яшчэ на тое, колькі чалавек ён зможа абяззброіць. Усім было весела... Акрамя некаторых дужа зацікаўленых асобаў.

— Ён справіцца? – прашаптала Пранцішу Міхалішыўна, яе абцягнутая белай шаўковай пальчаткай тонкая рука, якая трымала

веер з пухнатых страўсавых пер'еў, пазалочаных па краях, бы аблачынкі сонцам, трохі дрыжэла.

— Справіцца, калі не надта пагана пачуваецца...— шапнуў у адказ устрывожаны Пранціш. Бо што далей – не ведалі нават егіпецкія багі, таму што далей мог быць і змрочны Шлісельбург, і зноў катоўня, і Сібір...

Лёднік рыхтаваўся да вызначальнай бойкі спакойна, як да трэніроўкі з вучнем, але грунтоўна. Зняў камзол, застаўшыся ў белай кашулі і пералівіста-срэбнай камізэльцы, сцягнуў парык, і цёмныя валасы, перавязаныя стужкай, упалі на спіну. Выбраў з прапанаваных дзве шаблі, адыйшоўся, крутануў зброю ў апушчаных руках, рухам адных кісцей – шаблі са свістам выпісалі ў паветры кругі, і той-сёй задумаўся наконт правільнасці ставак. Спыніўся насупраць бакавых дзвярэй, у расслабленай паставе, апусціўшы шаблі. Худы дзюбаносы твар выказваў трохі грэблівы сум...

— Можаце пачынаць.

Дзесьці непадалёк рака моўчкі несла свае цёмныя думкі пад ільдом. Сумленныя мяшчукі пазяхалі, углядаючыся праз маленькія вакенцы туды, дзе над царскім палацам згасалі featureзнакаляровыя ўспышкі, санліва хрысціліся і кладліся спаць, настолькі далёкія ад панскіх крывавых гульняў, што не прыходзіла ў галаву зайздросціць тым, хто зараз у асветленых тысячамі свечак залах атрымлівае асалоду ад сузірання розных цудаў. Цуд для добрага хрысціяніна – справа небяспечная, бо можа ўвесці ў спакусу.

А ў палацы імператрыца кіўнула, і відовішча пачалося.

Гвардзейцы былі ўсе, як адзін, не ніжэй за Лёдніка, а многія больш плячыстыя, і стараліся, як маглі. Тым болей задача выглядала смешнай: прыбраць з дарогі ўсяго аднаго чалавека. Але той чалавек больш нагадваў пруткую змяю, а ягоныя рухі – злавесна-прыгожы танец, за якім немагчыма было ўсачыць. Вырвіч неаднойчы падобныя выступленні доктара назіраў, у ангельскім байцоўскім клубе той біўся за грошы, якія ім тэрмінова былі патрэбныя, і ўсіх мясцовых чэмпіёнаў перамог. Можа, цяпер, пасля гасцявання ў катаў, Лёдніку было і цяжэй, чым калісьці, але гэтага ніхто не заўважыў. Ён круціўся ваўчком, зразаў вусы і гузікі, выбітыя шаблі са звонам бразгаліся на паркет, а абяззброеныя жаўнеры з выццём хапаліся здаровымі рукамі за выкручаныя.

Людзі ажно крычалі ад азарту, падбадзёрвалі і лаялі вояў, верашчалі ад страху, калі ў іх бок адлятала шабля ці адступалі тыя, хто біўся... А вось і балаганныя трукі ў ход пайшлі, хаця Пранціш і так быў упэўнены, што калі Лёднік хоць трохі ачуняў, не папусціцца

прадэманстраваць незвычайныя ўменні: скачок на мармуровую калону, неверагодны пераварот – і шабля бліскае ўжо за спінамі разгубленых ворагаў.

Шаблі ліцвіна са свістам разразалі паветра, а маглі жывую плоць. А кідацца на лязо, каб гераічна стрымаць коштам жыцця ворага, ніхто не збіраўся, таму ўрэшце пад націскам палачаніна ўсе гвардзейцы аказаліся за дзвярыма. На тым бойка па дамоўленасці і была скончаная. На паркеце валяліся шаблі, гузікі, зрэзаныя манжэты і напудраныя пасмы, была і кроў – хтось атрымаў свае баявыя драпіны. Лёднік з той жа нудна-фанабэрыстай фізіяноміяй паклаў шаблі на падлогу перад імператрыцай, пакланіўся і выпрастаўся, як і не вытанцоўваў толькі што тут імклівы танец смерці. Імператрыца пapляскала ў ладкі, і зала выбухнула воплескамі і выкрыкамі захаплення. Пранціш перавёў дух і адчуў, што Міхалішыўна лёгка пацiснула яго руку.

Але наперад лянівай хадой моцнага драпежніка выходзіў Грыгорый Арлоў.

— Паскакаць перад жаўнерамі – справа няхітрая. А вось са мной разбярыся, цвыркунок!

— Грыша! – угневана сказала імператрыца ў спіну фаварыту. – Суніміся.

— Матухна, дазволь, я пакажу яму, што такое бойка! – прамовіў Арлоў і пагрозна насунуўся на Лёдніка, які нават не зварухнуўся. – Бяры шаблю, палячышка!

Арлоў выхапіў зброю, лязо небяспечна дрыжэла ля горла ворага, прагнучы напіцца крыві. Лёднік застыў на месцы:

— Я не паляк, а ліцвін, ваша мосць, — упарта паўтарыў ён. – І тут павінны выконвацца толькі загады яе вялікасці.

Фаварыт павярнуўся да царыцы:

— Хрыстом-Богам малю, матухна, дай з ім пабіцца! Слова даю, забіваць не стану, але не вытрымаю, калі фанабэрыю з яго не саб'ю!

Царыца зрабіла выгляд, што ўгневаная, хаця Вырвіч здагадваўся, што ёй самой хочацца працягу відовішча.

— Толькі, калі што, вінаватых не шукай, Грыша! – сурова папярэдзіла яна.

Па фізіяноміях Разанцава і Рапніна Вырвіч зразумеў, што лепей бы Лёдніку не біцца з фаварытам. Прыніжэння на вачах імператрыцы той ніколі не даруе, а калі, не дай Бог, Баўтрамей суперніка параніць – тут ужо царыца раз'юшыцца.

І Пранціш ведаў, што выйсця няма, бо Лёднік сваім гонарам таксама ніколі не паступіцца, хоць з гарматы па ім страляй, і не

падумае паддацца ці паддобрыцца. Вось, гуляе з супернікам, як з мышкай... Вельмі вялікай, прызнаемся, і дужа злоснай мышкай... Мядзведзем, сказаць праўдзіва. Хаця б для прыліку даў усемагутнаму пану пакрасавацца! Не, з той жа зануднай фізіяноміяй змусіў выпусціць шаблю, арудуючы сваёй так імкліва, што вока не паспявала сачыць. І другі раз. І трэці. А на чацвёрты Арлоў ужо не стаў падымаць здрадлівую зброю, а кінуўся на суперніка з кулакамі. Кулакі пудовыя, морда перакрыўленая, вочы белыя ад шаленства... Усё, гамон...

Толькі выкрыкі імператрыцы, на гэты раз з непадробным гневам, змусілі фаварыта спыніцца.

— Ды я яго на пыл... – сычэў Арлоў.

— Можа, і на пыл, дружа мой, але зараз астынь, з’ездзі ў Царскае Сяло, праветрыся, прывязі мне новыя клавікорды, што на днях з Нямечыны прыслалі.

У голасе імператрыцы цяпер гучала сталь, гэта быў голас улады, якой немагчыма аслухацца, бо значыць кінуць выклік яе моцы... Тут ніякая сардэчная схільнасць не ўратуе. Арлоў пакланіўся і толькі ўдакладніў праз зубы:

— Клавікорды? З Царскага? Цяпер?

— Менавіта цяпер, – імператрыца глядзела светлымі невыразнымі вачыма. – Думаю, як раз раніцай вернешся. А доктар Лёднік пакуль пабудзе маім госцем.

Фаварыт яшчэ раз пакланіўся, развярнуўся і сышоў размашыстымі крокамі, але позірк, які ён кінуў на доктара, быў як смяротны прысуд.

У залу зноў вярнулася весялосць. Але наступная частка вечарыны была ўжо не для ўсіх. На сёння карнавал заканчваўся. Царыца загадала накрыць стол у малой зялёнай зале, але патрапіць за яго маглі толькі выбраныя. Стамлёныя і поўныя ўражанняў госці пацiху раскланьваліся, разыходзіліся, каб разнесці плёткі па ўсёй сталіцы, як мухі разносяць на лапках прыліплы бруд... Злосны і расчараваны Батыста, атрымаўшы ад імператрыцы халодную ўсмешку, сыйшоў адным з першых. Пранціш, які мусіў сысці следам, паспеў толькі пабачыць, як у куце залы, ля трону, Разанцаў і Рапнін размаўляюць з Лёднікам, які паспеў апрануць камзол і парык, і відавочна нікуды не спяшаюцца.

У камяніцы, знятай у самым цэнтры горада за шалёныя грошы, Батыста нарэшце даў выхад разражненню.

— Усё, праз пару дзён з’язджаем... Заўтра яшчэ выступім у княгіні Дашкавай, пакуль ад нас усе не адвярнуліся, пастрыжэм

авечак. Зарабілі дастаткова, паездка акупілася. Царыца падарунак не вярнула, прыслала ўзамен куфэрак залатых. Ды ў ангельскага караля я б за такую рэліквію добрае месца пры двары выкупіў! На ўсё жыццё сябе забяспечыў! А тут... Не любіць, ці ж бачыце, імператрыца чарнакніжнікаў... – Батыста злосна хмыкнуў. – Тады, спадзяюся, вашага доктара яна спаліць на вогнішчы.

Вырвіч абурыўся:

— Мы нікуды не з’едзем, пакуль не даведаемся пра лёс Бутрыма і не паспрабуем яго вызваліць!

Пан Рысь, які ўсё яшчэ быў узрушаны расповедам пра тое, што адбылося ў палацы, Пранціша горача падтрымаў... Але Батыста стамлёна махнуў рукой.

— Самі пабачыце, праз два дні нам тут не будзе чаго рабіць, нас перастануць пускаць у дамы, а затрымаемся – вышлюць. Вялікі свет – гэта калі хутка ўспыхвае захапленне, і яшчэ хутчэй гасне, змяняецца расчараваннем, а потым жаданнем пазбавіцца ад таго, на каго патраціў захапленне. Думаю, ваш доктар адчуе ў хуткім часе гэта на сабе. Усё, пайшлі спаць... Заўтра нешта вырашыцца.

Абняў уладна Міхалішыўну за тонкі стан і павёў у спачывальню. Здаецца, апошнім часам ён наложніцу не б’е.... У Вырвіча раптам узнікла проста дзікае жаданне ўсадзіць нягодніку шаблю між лапатак. Відаць, гэтае жаданне адлюстравалася ў Пранціша на твары, таму што пан Рысь паклаў яму руку на плячо:

— Супакойся, егіпцянін. Паспеем прыкончыць паскудніка. Лепей раскажы мне яшчэ раз, як пан Лёднік маскалям лазні даў.

Халодная зімовая ноч была непрагляднай, як магіла. Але тут, у ганарыстым горадзе, яе працінал і выстраеныя шыхтамі ліхтары, бы пакорлівыя салдаты, якія нават задумацца не хочуць, што задачу ім паставілі немагчымую, і ўпарта трымаюць абарону. Холадна і няўтульна было так, што нават сабакі не брахалі, толькі павіскваліі жалобна. Часовыя насельнікі камяніцы, што прыехалі сюды з далёкай Беларусі, гэтай ноччу выспацца не паспелі. Яшчэ не развіднела, у дзверы загрукалі. Потым у доме пачуліся ўстрывожаныя галасы, вось верашчыць Батыста...

Пранціш, спатыкаючыся, апрануў яркія егіпецкія анучы і кінуўся ў вітальню. Граф Міхайла Разанцаў з памятым абліччам, ясна, што ноч была бяссоннай, адрывіста камандваў:

— Аддаю сваю карэту... Толькі хутчэй грузіцеся!

— Што такое? – устрывожыўся Вырвіч.

— А, вось вы дзе, пан Вырвіч... Чорныя валасы вам пасуюць. Ягоная мосць Грыгорый Арлоў пабудзіў ягоную мосць Мікалая Рапніна

і запатрабаваў, каб зараз жа, пакуль яе вялікасць не прачнулася, звозілі прэч Лёдніка. Усе правіны яму даруюцца, дый іншым таксама. Акадэмію загадана не чапаць, усім, хто заслужыў, дадуць марцыпанаў... – Разанцаў быў страшэнна стамлёны, але ўстрывожана-шчаслівы. – Галоўнае – каб сёння ж духу ліцвінскага ў горадзе не было. Ягоная мосць Арлоў хоча з царыцай мірыцца, нешта выключна-цікавае для яе падрыхтаваў... Ну а Варфаламей адмовіўся з'язджаць без вас.

Міхалішыўна прабегла міма, апранутая па-дарожнаму, з кучай стракатай вопраткі ў руках.

— Змей не забудзьцеся! – гарлаў у пакоі побач Батыста.

— Дзе Бутрым? – ускінуўся Пранціш.

— Там, у маёй карэцэ, сядзіць... Хутчэй збірайцеся, ваша мосць, і сустрэнецеся!

Вырвіч, блытаючыся ў рукавах, улез у світку, схапіў шапку і кінуўся на вуліцу. Перад брамай стаяла невялікая ладная дарожная карэта з гербам Разанцава. У стайні пад камандай пана Рыся запрагалі коней у Батыставы экіпажы. Воз ужо чакаў на вуліцы, на яго грузілі прыстасаванні для фокусаў. Мільгалі заспаныя фізіяноміі двух віленскіх студыёзусаў, бялявага ды чарнявага – абодва, па сваім статусе насільшчыкаў, асабліва нікуды не траплялі, затое рассмакавалі мясцовую гарэліцу, настоеную на журавінах, і яшчэ нейкі фінскі напой каламутна-белага колеру, і патрабаваць ад абодвух маладзёнаў жвавасці ў такі ранні час было, што гнаць сабаку на дрэва.

Вырвіч ускочыў у разанцаўскую карэту:

— Бутрым!

У водсвеце святла ліхтароў толькі і была бачная цёмная постаць, што бяссіла адкінулася на падушкі. Пранціш абняў доктара:

— Жывы!

— Калі цяпер не задушыш, дык буду жывы...

Голас доктара гучаў стамлёна і хрыплавата... Падобна, што і ён ноччу не спаў. Вырвіч адкінуўся на мяккае сядзенне такі шчаслівы, якім даўно не пачуваўся. Цяпер засталося як найхутчэй уцячы з гэтай Паўночнай Пальміры.

Палазы слізгалі па снезе з бадзёрым пасвістваннем. За вакном святлела, хоць сонца толькі ўгадвалася за шэрым сувоем неба. Вырвіч прадраў блакітныя вочы пасля кароткай драмоты. А Лёднік яшчэ спаў, як чужое вяселле адгуляўшы. Вырвіч угледзеўся ў ягонае худое дзюбаносае аблічча. Вочы выпадкова слізганулі ніжэй, там футра расхінулася, пад ім была бялюткая кашуля, відаць, таксама з

Разанцаўскага пляча, і на гэтай кашулі, ніжэй ключыцы, набрыньвала цёмная пляма...

— Бутрым! – Вырвіч у жаху патрос доктара. –Ты паранены? Што гэта ў цябе?

Упарты палачанін цалкам мог не прызнацца да апошняга, нават калі б яго ў дзесяці месцах наскрозь праткнулі. Але доктар лена сунуў руку ў адварот кашулі, правёў па грудзях, дастаў нешта дробнае, страсянуў грэбліва з пальцаў на падлогу.

— Гэта цукерка... Вішнёвая... Ліпучыя, зараза...

Пранціш з непаразуменнем глядзеў на сонную фізіяномію доктара, які нават вачэй не адплюшчыў.

— Нешта не памятаю, каб ты так любіў цукеркі, каб аж качаўся ў іх.

Лёднік трохі памаўчаў і прамармытаў:

— Яе вялікасць захацела праверыць, наколькі спрытна я буду ўварочвацца...

У Вырвіча на нейкі час адняло мову, потым ён яскрава ўявіў, у якіх абставінах такая праверка магла адбывацца... Значыць, нездарма Арлоў гэтак запанікаваў і на золку адправіў дадому дэманічнага доктара з усімі магчымымі выгодамі! Пранціш змог выгукнуць толькі адно:

— Ну, доктар, ну, пройда...

— Памаўчы...—злосна буркатнуў прафесар, закруціўшыся на падушках, і ясна было, што абмяркоўваць нічога не збіраецца. Але гаварыць прыйшлося, калі развіднела і прыкідвацца, што спіш, было дурноццем.

— Нічога добрага нас усё роўна не чакае, — паныла паведаміў Бутрым. – Езуітаў, ясная рэч, пагоняць, але горш, што прышлюць на іх месца сваіх, расейцаў. Дарэчы, мне ўжо прапанавалі ў недалёкім будучым стаць рэктарам... Калі, вядома, я прыму прысягу, давяду сваю лаяльнасць і гэтак далей. З Акадэміі выключаць усіх нядобранадзейных...

— А ты што? – захваляваўся Пранціш.

— Адмовіўся. Адгаварыўся, што заняты навуковымі доследамі, не хачу лезці ў палітыку... І ў адсутнасць змовы не надта паверылі, нягледзячы на мой спектакль. Зжаруць краіну, не задушацца.

Лёднік сумна ўздыхнуў.

— Паўстануць лепшыя, загінуць... А яе вялікасць запэўніла, што Пане Каханку з ёй перапісваецца, намякае, што гатовы папрасіць прабачэння... Магнаты заўсёды сваё месца знойдуць. Вунь Аляксандр Сапега пра каралеўскую карону марыў, потым Пане

Каханку горача падтрымліваў... А цяпер перад Панятоўскім прагінаецца, жонку сваю да яго падсылае фіглі строіць, як калісьці да маладога Бруля, сына сакратара Аўгуста. Такім месца ёсць, а нам – не. У Санкт-Пецярбурзе я таксама адмовіўся заставацца... Бо не магу даць імператрыцы слова, што ніколі не апынуся на баку ейных ворагаў. Цалкам магчыма, што і апынуся. І што далей рабіць – незразумела. Хаця адно пэўнае ёсць: цябе ажэнім.

Пранціш адвёў вочы: ясна, што ад свайго шчасця не адмаўляюцца, але ж часам яно з'яўляецца, як абухом па галаве, трэба радавацца – а ў цябе ў вушах звініць і ў вачах мухі мітусяцца... Ці нечыя празрыста-зялёныя вочы падміргваюць.

— А што яшчэ царыца паабяцала?

Лёднік пацiснуў плячыма.

— Абацанка-цацанка, дурню радасць. Куфэрак нейкі перадала, зараз паглядзім...

Доктар пакруціўся, намацваючы нешта вакол сябе, і паставіў на калені квадратную скрынку, абцягнутую пунсовым аксамітам, з залатымі зашчапкамі. Трохі паваждаўшыся з зашчапкамі, доктар адкінуў накрыўку, і... На сіняй падушцы ляжаў няроўны, са шматлікімі выёмінамі, залаты абруч, прыкрашаны незвычайным арнаментам, з пустымі мацаваннямі для камянёў. Карона святога Альфрэда...

— Проста колазварот каронаў у прыродзе... – разгублена прамовіў Пранцысь.—Нібыта яна прыліпла да нас, як неразменны склют.

— Гэта ж я сказаў яе вялікасці, што людзі, якія маюць кароны, кіруюцца сваймі законамі, далёкімі ад звычайных чалавечых, і маюць між сабой асаблівыя рахункі, незразумелыя простым смяротным... Ну вось цяпер і я маю па ейнай волі карону... – прагаварыў агаломшаны Лёднік.

Пранцысь дастаў са скрынкі рэліквію, пакруціў туды-сюды і насунуў на галаву сына полацкага гарбара.

— А што, табе пасуе! Кароль – не кароль, але такі пагрозны друід, які вядзе племя зразаць амялу, не папярэджваючы, каго прынясуць у ахвяру пад дрэвам.

Лёднік з незадаволенай мінай сцягнуў з сябе карону і паклаў у куфэрак.

— Проста такія рэчы не могуць, відаць, знаходзіцца ў выпадковых руках і выпадковых месцах. Вось і шукае сабе месца рэліквія... Падумаем, што з ёй зрабіць. Глядзі толькі, нікому не разбалбачы, што яна ў нас, і тым больш, якім чынам дасталася.

— Думаеш, тое, што робіцца ў палацы, можа заставацца таямніцай? – насмешна адказаў Пранціш. – Ды аб тваю персону ў Санкт-Пецярбурзе ўжо ўсе языкі абмазолілі... Пэўна, хутка і ў Варшаве запляткарань.

— Галоўнае, каб нікога не чапалі, — прабуркатаў доктар і пазмрачнеў. – Сітуацыя дурная... Чым больш стануць пляткарыць – тым мацней мы будзем абароненыя. Але тым больш ганьбы для мяне і гора для маёй сям'і... Для Саламеі...

Пранціш скептычна хмыкнуў – шмат каму тая ганьба за найвялікшы гонар, а сам аж гарэў ад цікаўнасці: што ж здарылася з Лёднікам у палацы? Колькі праўды акажацца ў плётках? З доктара ўдалося выцягнуць толькі, што яе вялікасць пасля вячэры зажадала ўпэўніцца ў праўдзівасці сцверджання, што Разанцаў сябра не шкадаваў і следства ў дачыненні прафесара было суровым, а для гэтага ж неабходна пабачыць доказы на ўласныя вочы. Для чаго загадала даверанай фрэйліне таемна прывесці вучонага ліцвіна ў свой пакой.

А як там далей – снегам замяло. Полацкі алхімік заццяўся, як камень.

І хаця снег за вакном карэты паўсюль ляжаў аднолькава белы, неўзабаве павінны былі пачацца беларускія землі.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ. ЯК ЛЁДНІКА І ВЫРВІЧА ДОМА СУСТРЭЛІ

Продкі ведалі, што хату нельга ставіць на тым месцы, дзе калісьці праходзіла дарога, пралілася чыясьці кроў ці закапаныя чыісьці косткі... А што месца чыстае, пераканацца лёгка: паставіў гаршчок з мёдам, калі мурашы набягуць – усё добра...

Невядома, ці па ўсіх правілах быў пабудаваны дом з зялёнымі аканіцамі, у якім жыла сям'я віленскага прафесара Лёдніка, ці прыбеглі б да мёду мурашы — цяжка знайсці на беларускай зямлі месца, дзе б не пралілася кроў, не ступала нага ворага. Але цяпер гэты дом больш не звязваўся з паняццем бяспекі і абароны... Баўтрамей Лёднік і Пранціш Вырвіч моўчкі стаялі і глядзелі на будынак з выбітымі шыбамі, з паламанымі бярозкамі пад вокнамі. Колькі разоў Вырвіч глядзеў на гэтыя бярозкі, то прыбраныя ў магнацкія залатыя саеты, то ў дыяменты, то ў зялёныя рызманы, і складаў вершы... Падобна, гаспадар дома проста баіцца зайсці далей брамы – твар доктара быў бялей снега, вусны дрыжэлі...

Але вось пачуўся вясёлы брэх Піфагора, а з дзвярэй выбеглі пані Саламея і паніч Алесь, паказаўся ўсхваляваны Хвэлька, і пацалункі і абдоймы на нейкі час адагналі трывогу.

Але ў доме – такім знаёмым, з партрэтам Арыстоцеля і сіня-белым гадзіннікам-вазай на каміне – першае пытанне ўсё-ткі было, “Што тут здарылася?”.

Пані Саламея апусціла вочы.

— Ведаеш, Пане Каханку адмяніў стварэнне кадэцкага корпусу ў Італіі… І чуткі пайшлі, што гэта Бутрым вінаваты.

— Што? – не вытрымаў Пранціш. – Ды ён за выратаванне будучых кадэтаў такое прайшоў!

— А што вы хацелі? – усміхнулася збялелымі вуснамі Саламея. – Гэта, панове, Беларусь. Тут першае памкненне – паспець абліць гразёю першым, знайсці ворага сярод сваіх. Кажуць, Бутрым паехаў у Санкт-Пецярбург, каб усіх змоўшчыкаў здаць, а ўзамен атрымаў ад царыцы пост рэктара, месца пры расейскім двары, ну тут ужо ў каго як фантазія працуе…

Пранціш не мог паверыць у такую подласць… Ён жа шчыра верыў, што зараз іх з Лёднікам сустрэнуць, як герояў! Пан Рысь вунь сына ў гонар Бутрыма назваў!

— Гэта ж Пане Каханку хоча з царыцай дамовіцца! Ці лянота яму стала пачынаць клопатную справу… Як маглі на Бутрыма ўсё навесіць! Чаму яны вокны не б’юць самім расейцам, ці тым, хто ім адкрыта служыць?

— Таму, што сваіх біць лягчэй, — уздыхнула Саламея. – Праваслаўныя нашы, з прыходу, таксама са мной перасталі вітацца… Гавораць, Бутрым езуітам прадаўся, у змовах іхніх удзел бярэ… Шпіталь улады зачынілі, маўляў, зараза там разводзіцца, на ўвесь горад пошасць можа пачацца. І зноў для ўсіх – доктар вінаваты…

Лёднік на імгненне прыкрыў вочы, як ад болю, але амаль не здзівіўся.

— Пазнаю цябе, Айчына… Што ж, нармальная беларуская сітуацыя, — прафесар пагладзіў жонку па галаве, дакрануўся вуснамі да цёмных бліскучых косаў. — Паколькі я праваслаўны, выходзіць, вораг тым, хто абараняе незалежнасць Рэчы Паспалітай ад Расіі і пры гэтым пазбаўляе праваслаўных усіх правоў… А паколькі лічу сябе не рускім, а ліцвінам, беларусам, і не хачу ісці на службу расейцам, значыць, вораг Генеральнай канфедэрацыі і Расіі. – Прафесар падхапіў на рукі сына, сумна ўсміхнуўся. –Зерне паміж жорнамі… Мне не падабаецца, што канцылярыі і навучальныя ўстановы перайшлі на польскую мову – але не хачу, каб яе замяніла расейская,

бо ўсё роўна не дадуць гучаць беларускай, мове Статутаў, мове Скарыны... А значыць, мне будуць біць вокны і калом гнаць у тую ці іншую партыю.

— А што ж рабіць? – разгубіўся Пранціш, і Арыстоцель з партрэту сумна паглядзеў на запхнутыя анучамі вокны.

— Пакуль што мы будзем адпачываць, ад'ядацца і лячыцца! – рашуча скамандвала Саламея, і Алесік, забыўшыся, што ён ужо вялікі, і такому шляхціцу не пасуе сядзець на руках, яшчэ мацней абняў за шыю татку.

Асобнай размовы заслугоўвала пераўтварэнне пана Вырвіча з русявага ліцвіна ў егіпецкага брунета, якое выявілася, калі Пранціш неахвотна сцягнуў з сябе шапку. Алесік доўга скакаў вакол, паказваючы пальцам на "падмененага" дзядзьку і рагочучы, пані Саламея запэўніла, што Пранціш выглядае найлепшым чынам... А Вырвіч з тугой усведамляў, што давядзецца альбо пагаліць галаву па старажытным сармацкім звычаі – некаторыя яшчэ і сёння так учынялі, праўда, пакідаючы доўгі чуб, альбо не здымаць шапку ці хадзіць увесь час у парыку... А што рабіць у шапцы ў храме, ці пры сустрэчы з шаноўным чалавекам? І ў парыку, у нямецкім строі не ў кожную ліцвінскую кампанію сунешся, калі ты не замежнік. Шляхціц павінен шанаваць сармацкія звычаі, бо калі ўвесь час будзе хадзіць у нямецкім строі, за фармазона палічаць, высмейваць пачнуць. Гэта доктар можа сабе дазволіць у замежнае апранацца. А Вырвіч — драгун каралеўскай харугвы, у яго форма...

— Калі давядзецца ісці куды без парыка, забінтуеш мне галаву... – змрочна сказаў ён Лёдніку, які не бачыў нічога асаблівага ў часовай чарнавалосасці Вырвіча. – Пакуль валасы не адрастуць, буду казаць, што паранілі мяне ў Масковіі!

Доктар трошкі паздзекваўся, але ўрэшце, задумліва памацаўшы валасы вучня, паабяцаў, што заўтра ж намяшае расчынне, якое справіцца нават з індыйскай басмай, і верне Пранцішу няхай не дакладна такі самы колер валасоў, але найбольш падобны. Калісьці Лёднік па мянушцы полацкі Фаўст нават філасофскі камень знайшоў... Што яму перафарбаваць нядаўняга студыёзуса!

А за стол давялося сесці ў абліччы егіпцяніна.

Але як жа добра зноў паесці нармальнай ліцвінскай ежы, падрыхтаванай гаспадарлівымі рукамі самай прыгожай у княстве кабеты! Рубцы з анісам, шалтаносы, юц, бэбах, пячыста, крыпаная грыбамі... Пані Саламея прыпасла і калядныя стравы – бо Нараджэнне Хрыстовае сям'я не змагла сустрэць разам. Пернікі, паліваныя рознакаляровай глазурай, з карыцай ды бергамотам, ды сліжыны з

макавым малачком раставалі ў роце... Смачныя былі і вішнёвая налівачка, і прыхаваная бутэлька сапраўднай мальвазіі, віна, якое пілі рымскія цэзары, і ў бочцы з якім кароль Рычард Трэці ўтапіў свайго брата, хаця, хутчэй за ўсё, ачарнілі няшчаснага караля, як і віленскага доктара... Нават Хвельку было дазволена выпіць кубак.

Пранціш меркаваў, ці ўмее Ганулька з Макавецкіх так вось смачна гатаваць. Але якая розніца — калі ён з ёй ажэніцца, у яго ж будуць кухары ды кухцікі... А Міхалішыўна, мусіць, проста не змагла нідзе мастацтву кулінарыі навучыцца. Артыстка, адно слова...

— Дык вып’ем жа за самыя беларускія расліны – трыпутнік, дзядоўнік ды жасцёр! – змрочна жартаваў доктар. – Мы — як дзядоўнік, што хавае прыгажосць сваіх кветак за калючкамі і вечна чапляецца за чужое крысо, мы – трыпутнік, які ўстае, як толькі прыбяруць з яго абцас альбо праедзе кола, мы – жасцёр, які не гарыць нават у агні!

Быў, вядома, і няёмкі момант. Лёднік, са знаёмай скрынкай пад пахай, хаваючы вочы, папрасіў Саламею зайсці ў ягоны кабінет на сур’ёзную размову. Палачане доўга гутарылі за зачыненымі дзвярыма – Пранціш зразумеў, доктар распавядае жонцы пра некаторыя абставіны свайго гасцявання ў Паўночнай Пальміры і паказвае карону. Была ў доктара такая прыкуда, не мець сакрэтаў ад сваёй прыгожай палавіны. Вырвічу дужа карцела падслухаць, але ўстрымаўся. Выйшлі абодва з кабінету засмучоныя, але абняўшыся. У чым бы там Лёднік ні прызнаўся, Пранціш быў упэўнены, мудрая Саламея скажа, ёй дастаткова, што Бутрыма вярнулі дадому жывым і нават адносна здаровым.

Так што Каляды, хоць і запозненa, але сустрэлі, нават спяваць калядныя песні паспрабавалі хорам.

У Батлееме, у доме ўбогім
Вол ды асляця грэюць дзіцяцю...
Анёлы з неба ўсім даюць знаці,
Каб паспаліты йшлі Бога вітаці.
Саўка з Яхімам, сваім брацімам,
Скора прыспелі, зараз запелі.
Карусь з Тарасам гудзелі басам,
Бутрымка з Кантам пішчаць дыскантам...

У гэтым месцы старой шкалярскай калядкі ўсе дружна смяяліся, бо ўявіць іхняга “Бутрымку”, які пяе дыскантам, было немагчыма.

Дзямід з Данілам зайгралі міла,
Барыс з Пратэсам спяшалі лесам.
Міхайла долам спяшыў з Антонам,
Грысь з Маланнёю гналі раллёю,
Знахарка Дося спекла парося,
Покуль даспела, сама ўсё з'ела...

А назаўтра ў доме з пабітымі шыбамі былі госці. З'явіліся, як грымоты на снег.

Ды не абы якія. Пазалочаная карэта з гербам Багінскіх, на запятках якой стаялі два лёкаі, а паперадзе ехалі два фарэйтары ў расшытых мундзірах. Піфагор гаўкаў, як заведзены, ды што такое сабачая адданасць перад узброенымі жаўнерамі...

Але не столькі прысутнасць у доме доктара самога віленскага ваяводы, які ўспадчынніў пасаду пасля выгнання Пане Каханку, усхвалявала насельнікаў дому, а з'яўленне ягонага целаахоўніка. Здаровага, як мядзьведзь, з белымі валасамі і брывамі, з бяздоннымі чырвонымі вачыма...

— Ватман! Не запрашаў цябе ў свой дом, — прамовіў збялелы доктар, захінаючы сабой жонку, якая працінала ненавіснымі сінімі вачыма таго, хто калісьці яе згвалціў.

— А я не па запрашэнні, Баўтрамей, я з ягонай мосцю князем Міхалам Казімірам Багінскім! – выскаліўся найміт. – Не мог прамінуць такой магчымасці – паглядзець на вас, мае даўнія сябры. А вы не змяніліся... Ты, Бутрым, усё такі ж нецярплівы, ты, пані мая, гожая, як мадона, а ты, шкаляр, пракудлівы... А дзе ж наймалодшы Лёднік? О, кропля ў кроплю бацькавіч... Умееш ты, Бутрым, баб счароўваць, і сваіх, і чужых, і зусім-зусім чужых...

— Сціхні, Ватман! – спыніў князь Багінскі насмешны маналог найміта, ад якога гаспадар пачаў ужо азірацца ў пошуках шаблі. Вось князь змяніўся: з'явілася выразнае другое падбароддзе, постаць акруглілася, светлыя вочы сталі яшчэ больш пустымі. Князь неадрыўна пазіраў на Лёдніка з сумессю нянавісці і грэблівай цікаўнасці, як на двухгаловае цяля альбо антыкаўнда з вывернутымі ступакамі.

— Мне паведамілі, што ты маеш падарунак асабіста ад яе вялікасці Кацярыны!

Светлыя вочы князя, здавалася, засвяціліся, як у вупыра ад жадання запусціць іклы ў шыю ахвяры. Ды ён жа раўнуе! – дайшло да Вырвіча. Раўнуе да шаленства! Князь што толькі не вырабляў, абы прыцягнуць увагу Кацярыны, у Санкт-Пецярбурзе месяцамі жыў, на

флейце перад тады яшчэ жонкай спадчынніка трону мелодыйкі наігрываў, паркет капелюшом падмятаў, кампліментамі сыпаў, як дзядоўнік калючкамі... Кукарэцыямі займаўся, як называлі залёты студыёзусы Віленскай акадэміі. Гатовы быў дзеля дамы самую рэдкую рэліківію здабыць ды аддаць. І дасюль надзей не страціў, медальён з пасмачкай валасоў ды партрэцікам царыцы на шыі носіць, падарункі пасылае, лісты кранальныя сачыняе. І ўсё дарэмна. Магчыма, таму, што не любіць царыца нерашучых ды мягкіх мужчынаў, а Мікалай Рапнін нездарма называў свайго сябра Багінскага мокрай курыцай.

Але такія, як магнат Багінскі, заўсёды перакананыя ў сваёй прыгажосці ды неадольнасці ўласных чараў. Таму й цяпер пазіраў князь на дзюбаносага доктара, якога памятаў яшчэ бяспраўным рабом, як індык на чырвонае, і, напэўна ж, не мог уцяміць, чым гэты прасталюдзец змог зваяваць увагу царыцы, што ў ім ёсць такога, чаго няма ў магутным прыгожым князі. Затое ўвага царыцы да доктара, відаць, падняла таго ў вачах князя настолькі, што не палічыў за ганьбу сам да яго прыехаць. Раней толькі наймітаў слаў.

— Прадай мне гэтую рэч!

Доктар ветліва пакланіўся.

— Выбачайце, ваша мосць, але хіба годна прадаваць падарункі венцаносных асобаў? Гэта абраза каралеўскай улады!

Ватман скептычна пасміхнуўся, а Багінскі злосна раздзьмуў ноздры трохі кірпатага носу.

— Я лепей за цябе ведаю, што такое годнасць і павага да трону! Забыўся, што гэта я цябе з няволі выкупіў, а, доктар?

Пранціш пачырванеў – бо князь Багінскі выкупіў Лёдніка менавіта ў яго, Пранціша Вырвіча, якому ўздумалася са злосці на ганарыстага раба прыкінуцца, што яго прадае. А давялося і прадаць. Лёднік яшчэ раз пакланіўся.

— Павек удзячны вам, ваша мосць. Але прыпамінаецца мне, што выкупілі вы мяне з умовай, каб я спусціўся ў полацкія сутарэнні за рэліквіяй, а за мной вы паслалі Германа Ватмана з загадам па вяртанні мяне забіць.

Пранціш ледзь не стукнуў доктара ў бок, каб зменшыў з’едлівасць, бо так з магнатамі не размаўляюць. Але Багінскаму нават трохі стала няёмка.

— Ну, не варта варушыць даўнія падзеі. Важна тое, што адбываецца цяпер. А цяпер, Баўтрамей, ты ў становішчы незайздросным.

— Я б на ягоным месцы адразу ў труну паклаўся і цвікамі забіўся, — дадаў Ватман.—Столькі ворагаў адразу нажылося з усіх бакоў.

— Затое мы татку любім! – выкрыкнуў Алесь і ступіў наперад з сапраўды годнай шляхецкай паставай. – Мой пан-бацька людзей ратуе! Ён доктар! А ў двубоі перад ім ніхто не выстаіць!

Саламея адразу ж адцягнула сына назад, а князь Багінскі ад здзіўлення трохі супакоіўся і адвёў вочы, памаўчаў і працягнуў больш лагодным тонам:

— Я хачу прапанаваць табе, Бутрым, месца свайго асабістага доктара. З добрай аплатай. І падару табе дом у Слоніме. І дом у Варшаве.

Гэта была шчодрая прапанова... Але Баўтрамей толькі пахітаў галавою.

— Дзякую, ваша мосць. Мне не хочацца пераязджаць у Варшаву. Дый вам было б непрыемна лячыцца ў чалавека, які вам... несімпатычны.

Багінскі ад нецярплівасці парваў карункавую манжэту. Гадзіннік на каміне адбіў час — пяшчотныя званочкі прайгралі некалькі тактаў Гайдна, і накрыўка на бела-сіняй вазе з масянжовай стрэлкай павярнулася на адно дзяленне.

— Тады скажы сам, што ты хочаш за падарунак царыцы! Нашто ён табе, што ты будзеш рабіць з каронай святога Альфрэда? На карнавал адзяваць?

— Дазвольце, ваша мосць, мы пагутарым з ім па-свойску, па-вайсковаму...—лена сказаў Ватман. – Думаю, абшукаўшы гэтую халупу, знойдзем, што трэба...

Пранціш крадма адыйшоўся і ўзяў з падстаўкі шаблі, сваю і Лёдніка... Разумеючы, што справа безнадзейная. Хай бы Лёднік лепей аддаў той кавалак золата, сам жа сказаў, што не ведае, што з ім рабіць.

Але князь Багінскі найміта супыніў.

— Такія падарункі не аднімаюць. Бо гэта абражае таго, хто дарыў. А я глыбока паважаю кожнае волевыяўленне яе вялікасці Кацярыны.

Багінскі кінуў тужлівы позірк на змрочнага доктара. Падобна, ён усё яшчэ верыў, што якая-небудзь цудоўная рэліквія альбо шчаслівы выпадак усё пераменяць і зробяць яго ўладаром над уладарамі і падораць каханне імператрыцы.

— Але я гатовы выкупіць гэты падарунак за любую цану. Як ваявода віленскі, я б мог дапамагчы табе, доктар, шмат у якіх

пачынаннях. Падумай. І ў Слоніме табе было б цікава. Я хачу стварыць там Горад Музаў... – цяпер на бледных шчоках князя з’явілася фарба, невыразныя вочы загарэліся – бо князь больш за ўсё на свеце любіў мастацтва, гэтак жа, як ненавідзеў палітыку. – Я будую тэатр – самы лепшы і вялікі ў краіне, каб на сцэну артысты маглі выязджаць на конях! Набраная ўжо выдатная оперная трупа, балет. Будуецца абсерваторыя... Бальніцу хачу зладзіць. Вы б маглі там праводзіць доследы! А, магчыма, і арганізаваць медычную школу!

Багінскі захапіўся, і верылася, што ён сапраўды ўчыніць у Слоніме гэткую выспу прыгажосці і навукі...

— Я падумаю, ваша мосць, — схіліўся доктар.

— Толькі думай не надта доўга, — папярэдзіў Ватман, але глядзеў не на Лёдніка, а на ягоную жонку, якая старанна адварочвалася.—А то самому сябе лячыць давядзецца. Не адсядзішся, доктар. Усё роўна давядзецца далучацца да нейкай большасці, якая заўсёды ўсё вырашае. Дык чаму – не да пераможцаў?

Лёднік прыжмурыўся.

— Вы, пан Ватман, кепска, напэўна, ведаеце беларускую гісторыю. А вось ягонай мосці князю я нагадаю словы канцлера Льва Сапегі, якія ён сказаў, закрываючы правам ліберум вета вальны сойм: “Большасць – гэта глупства. Розум заўжды толькі ў меншасці. Дзяржава, якой кіруе большасць і глупства, мусіць рана ці позна загінуць”.

Князь Багінскі пачырванеў ад гневу, але палітычныя спрэчкі наганялі на яго заўсёды такую тугу, што ён пазбягаў іх нават у выпадку, калі на ягоным баку была перавага. Таму павярнуўся да дзвярэй.

— Дарэчы, ваша княская мосць, ваша малодшая сястра, яе мосць Паланэя, даслала нам ліст, — прамовіў Пранціш у спіну князю – надта ўжо абурыла абыякавасць Багінскага да калісьці ўлюбёнай сястрыцы.

Князь спыніўся, тузануўся, нібы яго выцялі, але не павярнуў галаву.

— І як там наша сястра?

— У вашай княскай мосці цяпер ёсць пляменнік. Францыск Казімір Агалінскі.

Пачуўшы ненавіснае прозвішча нежаданага зяця, князь махнуў рукой, ягоныя плечы бязвольна апусціліся, і Багінскі сышоў, нібыта раз і назаўсёды выкрасліў непакорлівую сястрыцу са свайго жыцця. Падобна, падарункаў ад багатага заакіянскага дзядзькі Францыск Казімір не дачакаецца.

І кітаец Чунь Лі чарговага падарунку не прынёс. Прысеў сціпла на варыўні, параспытваўся пра здароўе пана Лёдніка, з дазволу пана патрымаў яго за руку, заплюшчыўшы вочы, відаць, рабіў сваю асаблівую дыягностыку. Задаволена кіўнуў галавой – падобна, здароўе Лёдніка непакою не выклікала. А тады і пераўёў размову ў няспешнай мудрагелістай манеры на свайго гаспадара, вельмішаноўнага пана Міхайлу Разанцава, які прыехаў з Санкт-Пецярбургу, каб здаць справы па купецкім прыказе і з'ехаць з Вільні па новае прызначэнне, і свайго кітайскага слугу прыхопіць.

— Пан Міхайла жадае вас бачыць, пан Лёднік, — пакланіўся кітаец.—Думаю, вам варта суцішыць свае жарсці, высакародны муж павінен быць спакойным, як вада ў шырокай рацэ. У гэтую ваду можа ўвайсці кожны без аніякай перашкоды, але калі ў яго няма сілы пераплысці такую раку, патоне. А вузкая ручаіна бурліць, пырскаецца, адпалохвае ад сябе мінакоў, але той, хто не пабаіцца, яе пераскочыць. Сёння, як сцямнее, па вас прышлюць карэту.

— Я паеду таксама, — падазрона сказаў Пранціш, незадаволены такой таемнасцю. На звычайныя сяброўскія гасцяванні ўначы, патаемна не запрашаюць.

На развітанне кітаец распавёў яшчэ некалькі баек пра мудраца Канфуцыя, які лічыў, што час мяняць імёны – што азначала, кожны павінен заняць у грамадстве месца не па праве нараджэння, а па сваіх асабістых якасцях. Такім чынам сын багдыхана можа аказацца пекарам, а сын пекара – вайскаводцам. Вырвіч надзьмуўся і выйшаў з варыўні: адмаўляць права шляхецкай крыві – гэта ж самога Палямона абразіць!

А потым спадар Лі з Лёднікам, у чаканні, пакуль не сцямнее, зноў гасілі свечку на адлегласці... Ясна, што Лёдніка да пячонак закранула, што граф Батыста змог учыніць такі фокус, а ён, знаўца навук таемных, не!

Але свечка ўсё не жадала згасаць, да шаленства доктара.

А ў доме Разанцава быў рэзрух. Спакаваныя куфры, закрытая палотнамі мэбля... Пранціш сціпла сеў у куце, каб не перакаджаць дзіўнай размове.

Былыя аднакурснікі моўчкі сядзелі за сталом, не кранаючы кубкаў з гарбатай. І надта шмат хавалася за іх маўчаннем.

— Я рады, што ты не памёр, — нарэшце прамовіў Разанцаў.— Хаця там, у вязьніцы, мне падалося, што з табой усё скончана.

— Я, напэўна, таксама павінен быць рады, што не памёр, — глуха адказаў Лёднік. – Хаця мая наяўнасць у свеце жывых усё ўскладняе.

— Не гавары так, Варфаламей! – Разанцаў падняў на сябра змучаныя вочы. – Усё ўскладняе толькі твая ўпартасць. Ведаеш... – павагаўся ён. – У Санкт-Пецярбурзе ёсць магутныя людзі, якія даўно ненавідзяць Георгія Арлова... Ён дурны, нахабны, і царыца ад яго ўжо стамілася. Часам дазваляе сабе проста неналежнае – сам бачыў... Гэтыя людзі маглі б зрабіць стаўку на цябе, Варфаламей...

— Калі б былі ўпэўненыя ў маёй вернасці, і калі б я пагадзіўся кінуць жонку і жыць у граху, загубіўшы душу. Не, запэўніваю цябе, нічога б не атрымалася. Я не Геркулес і не Апалон. І тым болей не палацавы шваркун. Я ліцвін і люблю сваю радзіму.

— Я ведаю...— пасміхнуўся Разанцаў. – Мы і самі не чакалі такога... куртуазнага павароту. Арлоў цяпер са скуры лупіцца, каб яе вялікасць забаўляць ды задавольваць найлепшым чынам. Царыца зноў падпала пад ягоны ўплыў. Вось, мяне адсылаюць у Кітай...

— Значыць, я і табе жыццё паламаў...—задумліва прамовіў Лёднік, аднак без раскайвання. Разанцаў паціснуў плячыма.

— Гэта не такое благое месца, Варфаламей. Калі вярнуся, змагу заняць яшчэ больш высокую пасаду, чым тут.

Сябры – былыя, ці не – не разабраць, ізноў памаўчалі.

— Ведаеш, хачу сказаць, як бы цябе ні цкавалі, штосьці кепскае рабіць цяпер пабаяцца. Яе вялікасць не забываецца на тых, з кім была хоць аднойчы. Ты заўсёды можаш ёй напісаць і папрасіць абароны.

Выразна перакрыўленая фізіяномія Лёдніка сведчыла, што аніколі ў жыцці такога пісьма ён не напіша, няхай бы зноў на кавалачкі дзёрлі.

— З’язджай у Вену, Баўтрамей...—ціха прагаварыў Разанцаў. – Ва ўніверсітэце цябе добра ведаюць. Альбо ў Прагу, у Лейпцыг. І там палітычныя мітрэнгі, але там ты чужы, цябе ў інтрыгі не ўцягнуць, а добрыя дактары патрэбныя ўсім аднолькава. Ты вялікі вучоны. А тут хутка будзе горача. Ведаеш, царыца перапісваецца з магілёўскім біскупам Георгіем Каніскім, пра тое, як абараніць тут праваслаўную царкву. Хутка праваслаўная і пратэстанцкая шляхта збярэцца, падпішуць зварот да імператрыцы, каб заступілася. Пачнецца вайна. Гэтыя землі ўсё роўна ўвойдуць у склад Расіі. Ты не зможаш застацца ўбаку, а куды цябе занясе пры тваім характары – не ведаю...

Прафесар правёў рукой па худым твары.

— Дзякуй за клопат. Я падумаю.

Разанцаў уздыхнуў.

— Пакідаю табе ўсё, што магу... Вось купчая на дом, коней у стайні забярэш... Усё, што ў доме – мэбля, карціны. Мне – навошта... Няма куды цягнуць.

— Не вазьму, – зацяўся Лёднік.

— А я не табе пакідаю. А твайму сыну. Можаш зладзіць тут шпіталь, як марыў... Але найлепей – з'язджай...

Памаўчаў.

— Вось жа, і браты мы па веры, і аднадумцы ў навуцы, а так атрымалася... Спадзяюся, нам не давядзецца адзін аднаго забіваць.

— Кожны павінен выканаць свой доўг перад Айчынай, — ціха прамовіў Лёднік. – Проста Айчына ў нас розная. Ведаеш, я – просты паходжаннем чалавек, але я палачанін... У 1605 годзе ў маім горадзе быў прыняты маніфест, у якім "рыцарства і абывацельства Полацкага ваяводства" заяўлялі, што "ніякія кошты, цяжары і бяспека не такія важныя, як свабода. Яна наймілейшая і найудзячнейшая, пад ёй мы нарадзіліся, жывём і хочам яе цэлую, непарушаную нашчадкам нашым пакінуць..."

На развітанне яны пастаялі моўчкі, хаваючы вочы, а потым усё-ткі рыўком абняліся.

Назад доктар з драгунам ехалі, не размаўляючы, падаў снег, мядзяна-залацісты ў святле ліхтароў, і можна было не азірацца, каб упэўніцца, што сляды твае замяло.

Гэтак жа, як і кафедру прафесара Лёдніка ў Віленскай акадэміі.

Рэктар быў з калегам выключна ветлівы, і выдаў гадавую аплату, але – паколькі лекцый прафесар з пачатку навучальнага году не чытаў, студэнты з сярэдзіны сяместру не могуць жа ўзяцца за вывучэнне прадмету... Так што пагуляйце да наступнага верасня, прафесар. У вас багатая медычная практыка, можаце чытаць факультатыўныя лекцыі... Аптэка акадэмічная зноў жа пад вашай рукою застаецца.

Але на прыём да доктара Лёдніка запрасіліся адразу ўсе... Нават той жа рэктар пачаў жаліцца, што ў спіне штосьці страляе, быццам фартэцыя абараняецца ад злога войска, і добра было б, каб шаноўны калега ўлучыў часу на кансультацыю, а яшчэ лепей – на свой цудадзейны масаж...

Рэшту дня прафесар правёў у лабараторыі, рыхтуючы лекі – мікстуры, адвары, мазі, нават памочнікаў не папрасіў. Вырвіч ведаў, што доктар такім чынам змагаецца з моцнымі перажываннямі. Альбо фехтаваннем, альбо зельніцтвам. Але як прыехаў, за шаблю яшчэ не браўся. Відаць, хапіла пакуль з яго збройных подзьвігаў.

Новаспечаны харужы Пранціш Вырвіч таксама быў пакуль не пры справе. З палка прыйшоў ліст, што ягоная харугва перафармуецца, і, магчыма, пана Вырвіча перавядуць у другое месца, аб чым яму паведамяць лістом.

А плату за год прыслалі таксама.

— Плюнь ты на гэтую акадэмію, Бутрым! – рашуча сказала пані Саламея. – Напеклаваўся ты ўжо з-з яе. Нават калі не хочаш з'язджаць у іншы ўніверсітэт, як лекар не прападзеш, да цябе вунь Масальскія пасылаюць, Пацы, старая пані Браніцкая запрашае для кансультацыі... Ды другі б азалаціўся. Пражывем.

А назаўтра Бутрыму прынеслі нейкі ліст, запячатаны чорным воскам. Доктар пачытаў з невызначальнай фізіяноміяй, раскатурхаў драгуна, які прыдрамаў ля каміну з томікам вершаў, і заявіў:

— Збірайся, жаніх, паедзем у Ляшчыны. Хоць я не бачу, каб ты гарэў палкім жаданнем хутчэй пабачыцца з нявестай, да яе цябе давязу. І буду спакойны хоць за твой лёс. А па дарозе спаткаемся з Батыстай...

Паглядзеў, як Пранціш ускінуўся, і патлумачыў:

— Ад яго, паскудніка, ліст. Паказвацца ў Вільні не хоча, а спаткацца неабходна. Трэба тым-сім з ім абмяняцца... Гэты пазёр прызначыў спатканне ў Гародні, пасля свайго выступлення ў доме гарадзенскага старасты Антонія Тызенгаўза. Вось і білеты даслаў...

Пранціш узяў у доктара два аркушыкі з выцісненымі вензелямі – пальцы чамусьці дрыжэлі – і прачытаў і пра тое, што нашчадак егіпецкіх жрацоў граф Рудольфіюс Батыста будзе дэманстраваць карціны далёкіх краінаў і часоў, і пра егіпецкую прынцэсу Серафіну, якая размаўляе са змеямі, таньчыць на распаленых вуглях і выканае для прысутных сцэну з оперы “Дыдона”.

Пранцішу адразу так яскрава ўспомнілася фігурка ў чырвоным плашчы на фоне белых дзюнаў і чорных дрэў, голас, які ўзлятаў разам з ветрам, крыкі чаіц... Горасныя вочы... Вялікаватыя ружовыя вусны...

Няўжо Раіна Міхалішыўна ўсё жыццё так і правядзе ва ўладзе бессардэчнага Батысты? І той будзе па вечарах па-гаспадарску адводзіць яе ў спачывальню, а пры выпадку прымушаць фліртаваць з уладарамі? Вырвічу нават прыйшло ў галаву, што калі б бацька Раіны, паўстанец Вашчылы, ведаў, які лёс чакае ягоную дачку, ён цалкам меў права заганяць вілы ў жываты панам...

Лёднік пахмура паназіраў за перайманнямі былога гаспадара, прабуркатаў “Ясна...” і сышоў у свой кабінет.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ. ЯК ПРАНЦІШ І ЛЁДНІК КАРОНУ СВЯТОГА АЛЬФРЭДА АБМЕНЬВАЛІ.

У “Кнізе Кайранід” расказваецца пра марскога аленя, які ўздымае над паверхняй мора галаву з галінастымі рогамі і прываблівае птушак, якія садзяцца на ягоныя рогі, каб адпачыць.

А тады марскі алень хапае іх і зжырае, нібыта мала яму водарасцяў.

На шчасце, у беларускіх рэках, нават велічным Нёмане, такіх пачвараў не вадзілася. А вось алень Святога Губерта з крыжам у лобе быў — на гарадзенскім гербе. Аленя, паводле легенды, пабачыў Губерт з Аквітаніі, калі быў на паляванні, і раскаяўся ў сваім грэшным жыцці...

Наўрад, праўда, беларускія алені плююць вадой у кожную шчылінку, каб адтуль выпаўзлі змеі, і раздушваюць гадаў сваймі капытамі, як сцвярджаюць пра гэтых звяроў сярэднявечныя бестыарыі. Затое бясспрэчна, што грэцкі цар Андранік загадваў прыбіваць на дзверы дамоў жанчын, з якімі ён спаў, рогі аленя, бо мужыкам тых жанчын даваў паляўнічыя прывілеі.

Так атрымалася, што Вырвіч ніколі раней у Гародні, горадзе, на чыім гербе красаваўся алень Святога Губерта, не быў, таму круціў галавой па баках, як шкаляр. Слаўны горад! Адзін Фарны касцёл чаго варты... Каменныя скляпенні ўзлятаюць уверх, як пена марская на высокай хвалі...

А ўсё места чамусьці нагадвала хату, дзе спехам рыхтуюцца да неспадзяванага прыезду вельмі ганаровых гасцей. І там, і тут узводзяцца новыя будынкі, кладзецца брук, ставяць ліхтары... Часам адбывалася гэта трохі бязладна, калі ліхтарны слуп укопвалі каля дарогі, якая яшчэ ўяўляла з сябе яміну, дый хто ў мерзлую зямлю брукаванку кладзе? Але загадалі – і дзяўбуць рыдлёўкамі родную глебу мужыкі з панылымі да адчаю абліччамі...

Незвычайна выглядала і зала ў доме пана Антонія Тызенгаўза, старосты гарадзенскага, сябра дзяцінства сённяшняга караля, якому той даверыў усе фінансавыя справы каралеўства. Падобна, там сабраўся сапраўдны Бабілон – вунь гучна гутараць рудаватыя чэхі, там – немцы ў чорных камзолах, там балбочуць чарнявыя французы, там – паважныя галандцы... Ніхто не хаваў твараў пад маскай, ніякай таемнасці, як падчас сеансу ў палацы Радзівілаўны пад Менскам. Ясна, Батыста за гэты час узняўся ад падазронага шалбера да прызнанага каралеўскімі асобамі артыста, і прыйсці на ягоны спектакль больш не лічылася нечым заганным.

Да доктара Лёдніка падляцеў пузаценькі невысокі пан у багатым камзоле, расшытым срэбнымі галунамі.

— Баўтрамеюс!

— Якуб Пфальцман! Вось дык сустрэча...

Былыя аднакурснікі па Лейпцыгу прывіталіся са стрыманай радасцю, але абдымацца не сталі. Апошняя іх сустрэча скончылася тым, што давялося ўцякаць са Слуцкага замка Гераніма Радзівіла, і вынаходніцтва Пфальцмана, жалезная чарапаха на вадзяным рухавіку, была расстраляная з гарматаў.

Пранціш, ва ўрачыстым мундзіры харужага, быў таксама радасна прывітаны і пачуў, што вырас, узмужнеў, сапраўдны рыцар...

— Што ты тут робіш, Баўтрамеюс? – трохі насцярожана папытаўся Пфальцман. — Цябе запрасіў дзеля нейкіх праектаў пан Антоній?

У голасе ясна чулася боязь моцнага канкурэнта. Лёднік паспяшаўся супакоіць знаёмца, што ён тут прысутнічае ўсяго толькі ў якасці гледача.

— Адкуль столькі замежнай публікі? – не мог не пацікавіцца доктар. Твар Пфальцмана заззяў ад захаплення.

— О, гэта справы пана Антонія Тызенгаўза! Гэта вялікі чалавек! Які рухавік прагрэсу! Ён хоча, каб любая вытворчасць, якая існуе ў свеце, была годна прадстаўленая і тут. У прадмесці горада будуюцца дзесяткі мануфактур! Пан Тызенгаўз – геній! Вам хочацца чэшскага піва? Ён выпісвае лепшых чэшскіх піваварaў, і тыя ладзяць тут бровар. Ёсць попыт на ліёнскі шоўк? Вунь сядзяць майстры з Ліёну... Персіянскія паясы, брабанцкія карункі, саксонская парцаляна... Усё ў хуткім часе будзе рабіцца тут, па самых лепшых узорах. І кожны з майстроў падпісвае кантракт, што возьме ў навучанне некалькі тутэйшых вучняў і перадасць ім дасканала сваё майстэрства. Мне, як ты разумееш, тут таксама знайшлося пачэснае месца! Адно з самых важных!

Таўсманы твар Пфальцмана наздьмуўся ад гонару. Лёднік паківаў галавой.

— Вельмі паважаю такія пачынанні. Падобным чынам дзейнічаў расейскі цар Пётр Першы. А якімі сіламі будуюцца ўсе гэтыя мануфактуры? Сялянаў, напэўна, зганяюць?

Пфальцман надзьмуўся яшчэ больш.

— І ты паўтараеш за ўсёй гэтай зацятай магнатэрыяй пра заганнасць метадаў пана Антонія! Маўляў, сялянам зноў увялі паншчыну, халопы пішуць скаргі, бунтуюцца... Ніякі прарыў да

лепшага не адбываецца без ахвяраў! Хто б пірамідыа егіпецкія пабудаваў, каб простых людзей бізунамі на будоўлю не гналі?

Доктар скептычна глядзеў на разгарачанага вынаходніка, які, падобна, блізка да сэрца прымаў рэформы пана Тызенгаўза.

— Я толькі падтрымаю любую праяву прагрэсу. Але ведаю і іншае, калі простых людзей давесці да адчаю, любы прагрэс абернецца сваёй супрацьлегласцю. І што ім брабанцкія карункі, калі не стане часу засейваць сваю ніву?

— Ты проста рэспубліканец нейкі, — раздражнёна сказаў Пфальцман. – Пры чым тут быдла? Пан Антоній, між іншым, не дэспат які-небудзь, а натурфілосаф, сябруе з Жан-Жакам Русо… Тых жа мужыкоў адукоўваць збіраецца. Проста павінен прайсці нейкі час, каб усе ўсвядомілі карысць ад рэформаў. Калі па загадзе яго вялікасці Пятра будавалі на балатах Санкт-Пецярбург, таксама цара клялі, бо людзі, як мухі, мерлі. А цяпер горад які прыгожы! Ягоная мосць князь Багінскі ў мінулым годзе мяне туды з сабою браў. Дзе дрыгва была – масты каменныя, на кожнай мілі пяць слупоў з шыльдамі, на якіх надпісы па-маскоўску, па-нямецку і на лаціне, аўстэрыі з выгодамі… А вуліцы шырокія, чысціня – але таксама не з паветра ўзялася, бо калі мужык з горада выязджае, дык мусіць заплаціць дзве капейкі. А калі вывозіць з сабой смецце, дык з яго платы не бяруць. А калі ў горад едзе – таксама мусіць заплаціць дзве капейкі, альбо прывезці з сабою камень ці дрэва для рэпарацыі мастоў. Вось што значыць – кіраваць народам!

— Слушныя законы…— пагадзіўся Лёднік, хаця пры згадцы пра Паўночную Пальміру яго ажно скаланула.

Людзі між тым рассаджваліся ў крэслы, пачыналі нецярпліва азірацца, чакаючы вызначальных персон вечарыны… Зазбіраўся і Пфальцман, які з гонарам паведаміў, што ў чацвёртым радзе сядзіць яго жоначка.

І тут здарылася тое, чаго б не хацеў нямецкі вынаходнік. Людзі змоўклі, бо ў залу імкліва ўвайшоў хударлявы падцягнуты пан з крыху запалымі вачыма і вострым носам. Здавалася, за ім развяваецца чырвоны ўладарскі плашч, хаця ніякага плашча не мелася, а быў белы ўрачысты касцюм з залацістай камізэлькай. Пільныя вочы пана нібыта маглі ахапіць залу з усімі дробязямі, да апошняга веера і спражкі. Вось погляд спыніўся на Пфальцмане.

— Ваша мосць Пфальцман, сёння бачыў у дзеянні ўдасканалены вамі ткацкі станок. Думаю, такіх трэба зрабіць штук дзесяць… Зможаце? А гэта хто?

Погляд пана слізгануў па Пранцішы і затрымаўся на Лёдніку, фанабэрыста-важным і на галаву вышэйшым за шчуплага пана ў белым строі.

Пфальцман пастараўся не скрывіцца і зрабіць усё згодна палітэсу.

— Ваша мосць пан Тызенгаўз, дазвольце прадставіць, гэта доктар Баўтрамей Лёднік, прафесар Віленскай акадэміі, мой былы аднакурснік, і ягоны сябар пан Пранціш Вырвіч...

— Харужы каралеўскай харугвы, ваша мосць, — удакладніў Вырвіч, спрытна адвесіўшы паклон.

Але позірк ягонай мосці Тызенгаўза засяродзіўся на прафесары, і неяк падазрона загарэўся.

— О, пан Лёднік! Прыемна пазнаёміцца з вашай мосцю... Чуў, што вы нядаўна былі ў Санкт-Пецярбурзе... Мелі аўдыенцыю ў яе вялікасці імператрыцы...

Усмешка прафесара была ветлівай, але Вырвіч мог прысягнуць, што за ёй хаваецца скрыгат зубоўны. Працуе “сарафанная пошта” ад палаца да палаца, сарокі ў кармазынавых жупанах стракочуць заўзята...

— Так, вашамосць, мне выпаў такі гонар.

Твар Лёдніка зрабіўся яшчэ больш фанабэрыстым. Тызенгаўз абмерыў вачыма постаць доктара, падобна, ацэньваў ягоныя Геркулесавы вартасці.

— Імператрыца чароўная жанчына, ці не так, ваша мосць?

Гэта была ўжо наўпростая правакацыя, і звычайны часовы фаварыт зараз жа пачаў бы хваліцца атрыманымі рэспектамі ды намякаць на сваю значнасць... Але прафесар толькі ветліва схіліў галаву.

— Яе імператарская мосць — уладарка вялікай краіны.

Антоній Тызенгаўз нейкі час вывучаў засяроджанае аблічча суразмоўцы, потым усміхнуўся нейкім сваім думкам, падхапіў Лёдніка, чыя стрыманасць яму, падобна, спадабалася, пад руку.

— Думаю, вы – менавіта той чалавек, які мне патрэбны, ваша мосць. Напэўна, да вас даходзілі чуткі, што я не чытаю кніг, таму што не хачу быць залежным ад чужой думкі. Але змест газет і часопісаў мне пераказвае сакратар. Мяне вельмі ўразілі вашы артыкулы пра неабходнасць медычнай адукацыі ў нашай краіне. Маю тут вельмі цікавыя планы... Пойдзем у маю ложу разам з вашым маладым сябрам, я тое-сёе з вамі неадкладна абмяркую.

Пфальцман застаўся стаяць у праходзе між крэслаў, злюшчы і натапыраны, як вожык, у якога варона здзяўбла з калючак спакусны яблык.

Так Вырвіч і Лёднік апынуліся ў ложы ўсемагутнага міністра фінансаў – а менавіта гэта і азначала пасада каралеўскага падскарбія. Варта было Тызенгаўзу заняць сваё месца, тут жа пачалося прадстаўленне.

Прыгасілі частку свечак, запалалі на сцэне паходні… Зноў было эфектнае з'яўленне егіпецкай прынцэсы з люстэрка, ад чаго ў аднаго маладога драгуна ледзь сэрца не выскачыла ад узрушэння. Пераліваўся вялізны крышталёвы шар, паказваючы карціны светлай будучыні Гарадзенскага краю і ўсяе Рэчы Паспалітай пад моцнаю рукою пана Антонія Тызенгаўза, каралеўскага падскарбія. Графіня Батыста расхаджвала па сцэне, упрыгожаная жывой змяюкай… А потым былі танцы на гарачых вугаллях, праўда, на гэты раз прынцэсу не змусілі дэманстраваць усім свае аголеныя ножкі, седзячы на крэсле, і прапаноўваць іх пакратаць – мусіць, у зале знаходзіліся пільнавальнікі сармацкіх нораваў, і Батыста вырашыў не рызыкаваць абвінавачваннямі ў распусце. Увогуле італьянец пазбягаў трукаў, якія нагадвалі вядзьмарства, думак не чытаў, таямнічых памаванняў рукамі пад злавесныя формулы не рабіў… Ды яшчэ час ад часу заклікаў на дапамогу святых Хрыстафора ды Антонія Падуанскага. Пра сваю кар'еру ў якасці егіпецкага жраца Тот-Амона таксама асабліва не распаўсюджваўся. Гэткі свецкі варыянт "прыстойнай" магіі, якая больш забаўляе, чым страшыць.

Скрыня для вугалляў была новая, на гэты раз круглай формы, і егіпецкая прынцэса слізгала па коле, гнуткая, прыўкрасная, як Мятлушка, а Пранціш Вырвіч з абміраннем сэрца сачыў за яе рухамі. Таму што ўжо ведаў, што хаця Міхалішыўна ўмее пазбягаць апёкаў, часам выстрэльвае які-небудзь вугалёк, і тады ўтвараюцца раны, а паказваць, што балюча, нельга. І драгуну здавалася, што вось да ножкі танцоркі прыпаў у згубным пацалунку агеньчык… І страшэнна злавала тая прага, з якой гледачы назіралі за відовішчам, асабліва позіркі мужчын, ад якіх на скуры артысткі быццам заставаліся сляды, як ад выпацканых у тлушчы пальцаў. А яшчэ Вырвіч ніяк не мог зразумець, заўважыла яго Міхалішыўна ў зале ці не, і кожны раз, калі яна паварочвалася ў ягоны бок, сэрца драгуна абрывалася. Каб не Лёднік, які час ад часу сярдзіта касавурыўся на падапечнага, дык Пранціш не вытрымаў бы ды пачаў як-небудзь падаваць актрысе знакі…

А прафесар між тым перагаворваўся з панам Антоніем Тызенгаўзам, і тое, што далятала да Пранціша, сведчыла: мара Лёдніка пра медычную акадэмію на Беларусі можа здзейсніцца!

Пан Антоній быў імклівы, амбіцыйны і ўсемагутны, яго не спынялі ніякія мяркуемыя цяжкасці. Тое, што вытваралі на сцэне маг з асістэнткай, пакідала яго абыякавым: вось каб там дэманстравалі дзеянне новага станка, больш уважлівага гледача не знайшлося б.

Падскарбій проста прапанаваў Лёдніку, без усялякіх нюансаў ды ўгавораў, скласці праект стварэння ў Гародні вышэйшай медычнай школы. Якія мусяць быць кафедры, якое абсталяванне, колькі студэнтаў, каго браць на вучобу... Ну і хто мог бы там выкладаць. Зразумела, Лёднік быў адным з галоўных кандыдатаў.

Бутрым дапамагчы згадзіўся, і адразу параіў запрасіць прафесара медыцыны з Каралеўскага Ліёнскага каледжу Жана Жылібера, з якім меў ліставанне і агульныя погляды на тое, якім мусіць быць медычнае навучанне і шпіталі, а ў іх не павінны хворыя валяцца на саломе, ці па трое на адным ложку, як паўсюдна здаралася.

Вырвічу нават прыйшло ў галаву, ці не лёс ім цяпер надоўга затрымацца ў Гародні?

Так што калі Батыста разлічваў уразіць фанабэрыстага доктара новымі штукарствамі, яму гэта не ўдалося, бо Лёднік прадстаўленне глядзеў у паўвока, адцягнуты сур’ёзнымі дзяржаўнымі размовамі. Толькі тады, як Міхалішыўна заспявала арыю Дыдоны, нават Тызенгаўз змоўк і ўтаропіўся на сцэну праз павелічальнае шкельца на ручцы са слановай косткі.

— Вось бы такую актрысу для майго тэатру... – прамармытаў ён, а гэта быў ужо амаль план дзеянняў.

А Вырвіча ажно да душы кожная нотка спеваў даставала... Гэх, нашто такі талент на фокусы траціць – няхай бы Раіна Міхалішыўна іграла проста ў оперы ці ў п’есе, гэта было б самае ўражлівае... Гэта было б мастацтва... А так – балаган, дзіцячы бой на палках-пальцатах, у якім змусілі браць удзел дарослага і знакамітага вайскаводцу.

Між тым прадстаўленне падыходзіла да канца. Хто хацеў, атрымалі прагнозы на паспяховую будучыню. Хто хацеў, налюбаваўся егіпецкай прынцэсай... Магі раскланяліся, і Вырвіч ажно падскокваў, каб хутчэй адправіцца з імі на спатканне. Дакладней, пабачыць Міхалішыўну. Ледзь дачакаўся, пакуль скончыцца цырымонія развітання з ягонай мосцю падскарбіем.

Цяпер з віленскім прафесарам раскланьваліся асабліва ветліва ўсе, хто бачыў, што ён сядзеў у адной ложы з гэткай важнай персонай і меў з ёй доўгую і змястоўную гутарку. Той-сёй, праўда, пазіраў зверавата, бо рэформы Тызенгаўза пачыналі выклікаць і сапраўднае

шаленства, асабліва ягоныя рэвізіі каралеўскіх уладанняў ды правядзенне добрых дарог, якія часцяком праставалі праз шляхецкія землі, што лічыліся непарушнымі.

Пара Пфальцманаў расчынілася ў натоўпе, як цукар у кіпні. Асцярожлівы Якуб добра памятаў, чым заканчваюцца спатканні з былым аднакурснікам.

Але і тут для Вырвіча выпрабаванні не скончыліся. Лёднік, замест таго, каб нарэшце пайсці сустракацца з Батыстай, моцна ўхапіў Вырвіча пад руку і павалок некуды ў другую частку залы, спрытна слізгаючы між прыбраных гасцей, занятых свецкай гаворкай. І вось – невысокая пані ў старасвецкім багатым каптуры і строгай чорнай сукенцы, а побач з ёю танклявая дзяўчына з вялізнымі цёмнымі вачыма, рахманымі да наіўнасці. Ганулька Макавецкая з цёткай! Вось што Лёднік, апякун клапатлівы, утварыў…

Шчокі Пранціша запалалі, але чамусьці не ад радасці. Між тым пані Гартэнзія расцалавалася з Лёднікам, і драгуна доўга туліла да грудзей, той аж ледзь не зачхаўся ад моцнай саладкаватай парфумы з прысмакам лекаў. А Ганулька зачырванелася амаль да слёзаў, калі Пранціш пацалаваў яе халодную, як пралеска, ручку…

— Дай вам Бог здароўя, пан доктар, так вы мяне палекавалі, такія парады далі! Год таму я б да Гародні не дабралася.

Пані Гартэнзія падала знак, і лёкай спрытна паднёс ёй сінюю шкляніцу з нюхацельнай соллю. Пані некалькі разоў удыхнула пах лекаў, адкашлялася, прыкрываючы рот хустачкай.

— Але не, ваша мосць Лёднік, больш я на такія вядзьмарскія вечарыны не пайду! – рашуча заявіла пані. – Зусім свет сапсаваўся… Змеяў, гадаў сатанінскіх, абдымаць! А гэтая распусніца з голымі нагамі! Чаму ёй толькі пяты не падсмаліла?

Вырвіч ледзь стрымаўся, каб не заступіцца за Міхалішыўну.

— Але добра, хоць нагода надарылася дачушку ў свет вывезці. Мы спыніліся ў камяніцы насупраць Новага замку. Заўтра сходзім на імшу ў Фарны, а тады чакаем вас з панам Пранцішам, і разам адправімся ў Ляшчыны.

Пані Гартэнзія азірнулася на Пранціша і Ганульку, якія, здавалася, вялі ветлівую размову, і нейкі сумніў адбіўся на яе твары.

— Часам мая Ганулька нагадвае мне слуцкую князёўну, Сафію Алелькавіч, — прамовіла да Лёдніка пані Гартэнзія. – І абліччам, і рахманасцю сваёю, і дабрадзейнасцю… Княжна Сафія стала жонкай Януша Радзівіла, і напакутвалася, бедная. Бо хоць муж яе і кахаў напачатку, але ён быў ваяр, бuяш, любіў тлум ды небяспечныя

забавы. Нічога добрага не атрымліваецца, калі такія розныя натуры з'яднаць.

— Што ж, усё ў волі Божай, — сур'ёзна прамовіў Лёднік. – Я, як і вы Ганульцы, хачу толькі шчасця для гэтага маладога чалавека. А Гасподзь управіць, як належыць.

— Амін, — прагаварыла пані Гартэнзія.

Калі яны ішлі да фурманкі, каб нарэшце адправіцца да Батыстаў, Лёднік папытаўся Вырвіча, як прайшло спатканне з патэнцыйнай нявестай.

А Пранціш толькі мармытаў нешта няпэўнае. Ганулька яму падабалася, асабліва як чырванела ды трапятала перад ім, але пра што з ёй на гэты раз размаўляць, так і не прыдумаў. Вядома, паненка цікавілася, як здароў'е пана Вырвіча, ці зажыла ягоная рана... Пранціш, у сваю чаргу, пытаўся, як здароўе цётухны... Здаецца, у драгуна заўсёды быў язык добра падвешаны ў куртуазных справах, любую кабету мог загаварыць, забалбатаць, хоць карчмарку, хоць магнатку. Вунь перад князёўнай Багіскай якія вензеля плёў. Але ж тут— будучая жонка, тут мянціць абы што не станеш, тым болей яна такая сціплюсенькая... Пранціш такіх звычайна пазбягаў. Гэтай не пачнеш, як пан Рысь, абцасы адстрэльваць, бо памрэ ад страху, небарака.

Што ж, многія пачыналі сямейнае жыццё з яшчэ меншага, нават не бачылі аблiччаў адно аднаго. Драгун у іхнім палку хваліўся, што, як ажаніўся, з жонкай за пяць гадоў ні разу не пагаварыў болей хвіліны. А што з белагаловай размаўляць? Яе справа – загады мужа выконваць ды ў ложак класціся.

А вось і дом вандроўных артыстаў. З фурманкі доктар выйшаў з цяжкой валізай і самай суровай фізіяноміяй, быццам збіраўся лекаваць складаную хваробу. Пранціш нервова прыгладзіў папранейшаму русявы чуб...

Батыста сустрэў гасцей у пакоі, асветленым трыма свечкамі ў кандэлябры, ад чаго вечаровыя цені клаліся густа, як масла на лусту пасля посту. Вырвіч ледзь не замыкаў ад расчаравання, калі не пабачыў Міхалішыўны. Дзе яна, што з ёю?

Але вось паказалася танклявая фігурка, наблізілася да згаслага каміну, на якім стаў кандэлябр, і шчыпчыкамі для нагару падправіла свечкі... Падалося, ці не, што ў пакоі адразу стала светла? Міхалішыўна нарэшце падняла вочы на драгуна, усміхнулася куточкамі вуснаў... Здаецца, яе трагічны твар трошкі абсунуўся...

Лёднік між тым абменьваўся з Батыстай рытуальнымі ветлівымі фразамі, потым усеўся з магам за столік. Вырвіч бачыў, што

доктар дастаў складзены ў чатыры столкі пажаўцелы ліст, які Батыста схапіў прагна і тут жа спаліў на свечцы, попел расцёр па камінной дошцы і садзьмуў...

Пазбавіўся, нарэшце, ад доказаў свайго злачыства. Тады пачаў скандаліць наконт знятай з ліста копіі, якую яму хацелася таксама неадкладна спаліць.

А потым разгарэлася гарачая дыскусія наконт новых трукаў, паказаных магам не ў апошнюю чаргу ў разліку ўразіць суперніка.

Вырвіч скарыстаўся момантам і адвёў Міхалішыўну падалей ад разгарачаных алхімікаў і магаў у самы далёкі і цёмны кут.

— Як ты, Раіна? Ён цябе не крыўдзіць?

Міхалішыўна сумна пахітала галавой.

— Крыўда – паняцце адноснае, пан Вырвіч. Кагось можа смяротна пакрыўдзіць недастаткова нізкі паклон, а другі нават удар бізуна ўважае за "добры дзень". Не, мяне цяпер не крыўдзяць... Батыста трохі напалоханы ўсімі гэтымі палітычнымі інтрыгамі і хоча вярнуцца ў Італію. Кажа, што ажэніцца са мной, купім добры дом у яго роднай Таскане, вінаграднікі... Апрану каптур і буду гаспадарыць, пералічваць куфры і бочкі з віном. А вы як, пан Вырвіч? Якія планы?

Міхалішыўна гаварыла сумна і проста, як паведамляла, што на вуліцы снег. У Пранціша ажно зайшлося сэрца.

— Я таксама жанюся... – вымавіў ён, таму што змаўчаць было ганебна. – Добрую нявесту мне знайшлі, багатую... Вайсковую службу кіну...

Актрыса толькі ўсміхнулася, празрыста-зялёныя вочы не напоўніліся бескарыснымі слязьмі.

— Рада за вас, пан Вырвіч. Мне будзе прыемна думаць, што дзесьці вы ў бяспецы і шчаслівы. Гэтае ўсведамленне... самае дарагое, што ў мяне застанецца.

Яна стаяла перад ім, танклявая і моцная, як лазінка, і проста лёгенька правяла пальцам па шчацэ пана, амаль не дакранаючыся, нібыта хацела найлепей запомніць ягоныя рысы...

І тут Вырвіч збурыўся, як маладое піва. Вогненны тэмперамент, з'яднаўшыся з імклівай вадой, якая, па сцвярджэнні Лёдніка, у характары драгуна таксама прысутнічала, даў такую выбуховую сумесь, што не толькі жалезную пфальцманаву чарапаху змусіла б скрануцца з месца, але й цэлую гару зруйнавала б. Пранціш схапіў Раіну за плечы:

— А са мной хацела б быць?

Вусны дзяўчыны ўздрыгнулі.

— Гэта немагчыма, пан Вырвіч. Батыста мяне не прадасць.

— Ну і кадук з ім!

Драгун азірнуўся. Магі сядзелі насупраць адно аднаго, выскаліўшыся, як два ваўкі над адным кавалкам мяса. Раптам Лёднік выкінуў руку ў бок каміну, і свечкі на ім згаслі.

Налаўчыўся ўсё-ткі, вось упарты! Саламінай сцяну прадзяўбе, калі заманецца. Батыста напружыўся...

Падобна, паны магі ў бліжэйшы час будуць грунтоўна занятыя.

Вырвіч вывеў Міхалішыўну ў калідор між жылымі пакоямі, які заканчваўся вакном-эркерам. У святле ліхтара, да якога на вуліцы падляталі снежныя пчолы, афарбоўваючыся ў мядзяны колер, Пранціш зазірнуў у зялёныя спалоханыя вочы.

— Пойдзеш са мной?

— Пайду! – дзяўчына нават на імгненне не прамарудзіла, быццам адказ быў гатовы раней, чым прагучала пытанне.

Пранціш прагна прыпаў да яе вуснаў, потым змусіў сябе адарвацца, хаця галава знаёма круцілася. Amantes sunt amentes. *(1.Закаханыя – гэта вар'яты. Лац.)*

— Тады бяжым! Зараз жа!

І зноў яна нават не перапытала, куды бегчы, навошта... Не згадала, што трэба штосьці з сабой прыхапіць. І ён ведаў, што яна сапраўды пойдзе за ім паўсюль, і вытрымае ўсё, і нічога не папросіць... Асаблівага плану ў драгуна не было, ён ведаў адно: ён мусіць забраць гэтую дзяўчыну з сабой зараз жа і ніколі не адпускаць. Можна рушыць у Падняводдзе. Дамок там стаіць, зямлю ў арэнду здалі, а хата пустуе.

Пранціш зняў з сябе кунтуш, захутаў дачку крывіцкага паўстанца і ірвануў раму вакна... І хаця яно было зачыненае наглуха, пад націскам распаленага драгуна дасталася з праёму, як рамка з вулею.

Вырвіч ужо адной нагой стаў на падваконне, калі ў калідор забег раз'ятраны Лёднік:

— Стой, блазнюк! Што ты творыш!

— Бутрым, не мяшайся! – крыкнуў Пранціш, але Лёднік ужо агаліў шаблю і адным скачком апынуўся ля вакна.

— Пану цацак мала? – доктар быў угневаны, як ніколі. – Карчмарак паціскаў, цяпер артыстку захацелася?

Вырвіч выхапіў шаблю.

— Я з ёй ажанюся! Сёння ж абвянчаемся!

У калідоры паказаўся Батыста, які, аднак, умешвацца не стаў, бо туды, дзе блішчаць шаблі, набліжацца не любіў. Проста скрыжаваў

на грудзях рукі і перадаверыў разбірацца са сваім вучнем віленскаму прафесару. Лёднік крыва пасміхнуўся.

— Жаніцца, значыць, сабраўся? А як жа Ганулька Макавецкая?

— Я яе не люблю!

Пранціш упарта нахіліў галаву, трымаючы шаблю напагатове.

— А гэтую актрысу, прыгонную, між іншым, з прыгажосці якой скарысталіся шмат разоў, хто хацеў, любіш? Прабач, не веру. Проста пабачыў чужую прыгожую забаўку і захацеў прыўлашчыць.

Міхалішыўна вінавата апусціла галаву, яе вусны дрыжэлі. Пранціш наставіў на Лёдніка лязо.

— Я яе кахаю! Яна вінаватая ў тым, што з ёй адбылося, не больш, чым ты, разумнік, калі ў рабстве быў! Яна чысцей за цябе! Дай сысці!

— А ты яе спытаўся, можа, яна проста ад гора гатовая збегчы з кім заўгодна? А актрыса яна выбітная. Сыграе любую любоўную пакуту...

Пранціш, схаладнеўшы, кінуў позірк на Раіну, у яе вачах стаялі слёзы.

— Мія кара, заканчвай з гэтым жаўтадзюбікам. Пацешылася, і хопіць, — голас Батысты быў вальяжна-насмешны. – А то зараз увесь дом выстудзіш. Не выспімся, а нам з'язджаць рана...

Лёднік выпрабавальна глядзеў на Раіну. Тая смела сустрэлася з ім вачыма.

— Я не прыкідваюся. Я гатовая быць пакаёўкай пана Вырвіча, чорную работу рабіць, абы з ім...

— Ты будзеш пані Вырвіч, альбо я ўвесь свет нашаткую! – заявіў Пранціш, і адчуваў у сабе сілы здзейсніць пагрозу. – Без цябе мне нічога не трэба, нават самога жыцця! Усё, што маю, прадам, калі спатрэбіцца, а цябе выкуплю!

— Не гаварыце так, пан Пранціш...— па шчоках Міхалішыўны каціліся слёзы ўжо ручаямі.

— Хопіць разыгрываць сцэну з Рамэа і Юліі...— незадаволена кінуў Батыста. – Доктар, ды ўтаймуйце вы ўжо свайго маладога сябра!

— І праўда, хопіць драмы...— прагаварыў Лёднік, і Пранціш ускінуў шаблю.

— І ты будзеш біцца са мной, блазнюк? За прыхамаць, якая прынясе ўсім толькі гора? – Лёднік пакруціў шабляй, як бы лёгенька, але лязо са свістам разрэзала паветра. –У цябе ўсё роўна ніякіх шанцаў супраць мяне, сам ведаеш...

— Ведаю… Але буду біцца! – Пранціш пільна сачыў за кожным рухам доктара. – І калі ты мяне не заб’еш зараз – я ўсё роўна вярнуся за Раінай!

— І пану не будзе сорамна, што ажаніўся з мужычкай? Ты ж пра князёўну, між іншым, марыў, — здзекваўся доктар.

— Вось я яе і знайшоў, — упарта прагаварыў Пранціш, не зважаючы на шчыры рогат Батысты. –Давай, Бутрым, не марудзь! Альбо адпусці нас, альбо давай біцца!

Міхалішыўна дрыжэла, пазіраючы з адчаем на адкрытае вакно… Але доктар схаваў шаблю ў ножны і пахмура кіўнуў у бок другога канца калідора.

— Пазнаю пана Вырвіча. Ні плана ніякага, ні разумных дзеянняў… Выбухнуць, кінуць, рынуць, і хоць трава не расці… Пайшлі ў залу, дамовімся па-даросламу. Слова даю, трымаць вас больш не стану, захочаце — сыдзеце. Acta est fabula. *(1.П’еса адыграная. –Лац.)*

Вырвіч змрочна паглядзеў на Лёдніка, але шаблю хаваць не стаў, абняў левай рукой Раіну і павёў услед за доктарам і Батыстам.

Свечы свяцілі яшчэ больш цьмяна, быццам іх абразіла магічнае загашэнне.

— Ну што, пан егіпецкі жрэц, колькі вы хочаце за вашу асістэнтку? – стамлёна прагаварыў Лёднік. Батыста раззлаваўся.

— Ды я за яе ў свой час пяцьсот дукатаў адваліў! А колькі ўклаў у ейнае навучанне, каб адшліфаваць гэты талент! Ды цана найменш удвая ўзрасла!

— Значыць, тысяча дукатаў…—задумліва прамовіў Лёднік, адчыніў валізу і раптам кінуў на стол цяжкі мяшок.

— Пералічыце і давайце сюды паперы…

Пранціш разгубіўся: адкуль у доктара з сабою такое багацце?

А Батысту як вада з гусі.

— Грошы немалыя… Але з дапамогай графіні Батысты я магу зарабіць яшчэ больш. Да таго ж, пан Лёднік, вы не думаеце, што ў мяне могуць быць свае сардэчныя схільнасці? Я ажаніцца са сваёй прыгажунькай сабраўся… Ужо столькі гадоў разам, у адным ложку, пачуцці праверания… Лепшую наўрад знайду.

— Знайдзі хаця б тую, якую ванітаваць ад тваіх дотыкаў не будзе! – выкрыкнула Міхалішыўна, і Батыста злосна прыжмурыўся. Цяпер ясна, калі Раіна застанецца ў гэтым доме, яе чакае самае суровае пакаранне. І Пранціш вырашыў біцца да апошняга…

— Значыць, тысячы дукатаў пану за ягоную асістэнтку мала…— задумліва прагаварыў Лёднік.

— Запэўніваю, у вас ніякіх грошай не хопіць! – насмешна пацвердзіў Батыста. –А паводле закону, калі звезяце маю маёмасць, я заўтра ж падам у суд, і дзеўку мне вернуць з жаўнерамі, а вы сядзеце ў вязніцу.

Лёднік на насмешкі італьянца ўвагі не звярнуў, зноў палез у валізу і дастаў знаёмы квадратны куфэрак, абцягнуты пунсовым аксамітам, адчыніў.

— Карона вульгарыс, звычайная, трохі памятая, але пазнавальная, арнамент друідычны...

Пакуль Лёднік блазнаваў, Батыста ажно ўсякую раўнавагу страціў, ягоны рот ледзь сліну не пускаў, а рукі самі цягнуліся да рэліквіі, як у прапойцы да кварты.

— Адкуль...—прахрыпеў ён.

— Шпегі вашы слаба працуюць, — усміхнуўся Лёднік. – Усё законна, падарунак яе вялікасці імператрыцы.

— А, — саркастычная здагадка з дамешкам зайздрасці мільганула ў шэрых, шырока расстаўленых вачах мага.—Плата за палкую ноч... А я думаю, чаму ваша мосць дасюль не генерал і не ўладальнік вялікіх маёнткаў, яе вялікасць шчодрая да фаварытаў. А вы вось што атрымалі...

— А пан Манчыні, трэба разумець, са свечкай каля мяне ў тую ноч стаяў, каб у фаварыты запісаць. У любым выпадку, я не бяру платы за каханне, — халодна прагаварыў Лёднік. – А гэта – так, сувенір, забаўка напамяць... Магу прапанаваць як дадатак за выкуп вашай асістэнткі.

Батыста перавёў позірк на Міхалішыўну, якая ўхапілася за Пранціша, як той, хто патанае, за човен.

— Жанчын час ад часу трэба мяняць... Тым болей такіх, якія могуць цябе нажом пырнуць. Не паверыце, пан Пранціш – спрабавала, і не раз. Добра, пан Лёднік, пагодзімся...

Папера на куплю-продаж актрысы Раіны Міхалішыўны была падпісаная ў прысутнасці сведкаў, прыведзеных прыслугай з бліжэйшай карчмы, дзе заўсёды аціраліся “юрысты з палестры”. Потым Пранціш Вырвіч засведчыў, што адпускае сваю набытую кметку Міхалішыўну на волю, на што таксама была складзеная адпаведная папера.

— Калі яшчэ адзін чалавек у гэтым свеце выходзіць са стану рабства, свет робіцца на прыступку вышэй да неба, — задаволена прамовіў Лёднік. – Бывайце, пан Батыста! Паслухайцеся маёй парады: едзьце ў Ангельшчыну! Карона святога Альфрэда – рэч не простая, бачыце, як гаспадароў мяняе... Проста як валан у гульні. Магчыма,

сапраўднае месца ёй толькі на радзіме, у скарбніцы ангельскіх каралёў. Да таго ж, там вам заплоцяць даражэй за ўсё. Кароль Георг неадменна захоча пакрасавацца перад сваім бунтоўным народам у кароне, якую насіў святы Эдуард Спаведнік, ды ўцерці нос вігам.

— Слушная парада, прафесар, — усміхнуўся маг, прыціскаючы абедзьвума рукамі да сябе куфэрак, як вясельны каравай. – Шчыра спадзяюся больш з вамі не сустрэцца.

Перавёў позірк на Міхалішыўну.

— А ты, мія кара, заўсёды можаш вярнуцца, калі надакучыць засцянковае жыццё і засумуеш па вялікіх сцэнах ды ўвазе каранаваных асобаў.

— Хутчэй памру! – з нянавісцю прамовіла Раіна, і госці сышлі з дому, асветленага чужым золатам і цьмянымі свечкамі.

У фурманцы Пранціш, тулячы да сябе Міхалішыўну, падняў на Лёдніка шчаслівы твар.

— Ты ж з самага пачатку гэта задумаў, Бутрым! Яшчэ ў Вільні! Грошы ўзяў, карону... Выпрабаваць мяне вырашыў?

Аблічча Лёдніка было задаволеным, як пасля дыспуту, на якім удалося ўсіх апанентаў абвергнуць.

— З табою нешта задумаеш... Хіба я мог уявіць, што ты ў вакно станеш з дзеўкай сігаць? А з'ясаваць трэба было. Ты сам мне казаў, што не ведаеш, чаго хочаш. І заставаўся варыянт, што высакародны пан Вырвіч выбера не прыгонную актрысу, а панну Макавецкую.

— І што тады? – насцярожана папытаўся Пранціш.

— Тады я проста выкупіў бы ў Батысты панну Раіну і ўладкаваў яе дзесь згодна ейнаму жаданню. На такіх актрыс у Еўропе попыт вялікі.

— Дзякую, пан Лёднік...— ціха прагаварыла Міхалішыўна, у яе вачах было столькі ўдзячнасці, што доктару стала няёмка.

— Мяне самога куплялі і прадавалі, — нагадаў ён.

Вырвіч кранруў вуснамі фарбаваныя басмай валасы каханай, якім абавязкова павінен вярнуцца першапачатковы русявы колер:

— Я не буду замыкаць яе ў хаце. Яна зможа выступаць на сцэне...

Лёднік скептычна паглядзеў на маладзейшага сябра.

— Я таксама лічыў, што змагу дапусціць, каб Саламея мела медычную практыку. Паглядзім, як складзецца ваша сямейнае жыццё, пан Вырвіч. З такой легкадумнай асобай, як ты, нічога не сплануеш. Гэта ж адурэць, павалок нявесту на сцюжу, у адной сукенцы, акно выбіў, калі дзверы маюцца...

— А дзе ты столькі грошай узяў?

Лёднік адвёў вочы.

— Прафесарскі аклад за год, плюс прадаў спадчыну Разанцава, пару грашовых пацыентаў наведаў, тое-сёе ж адкладзена было, ну і набралася. Якая табе розніца?

Доктар пабуркатаў яшчэ, а пасля далікатна зрабіў выгляд, што задрамаў. Для маладой пары вельмі дарэчы.

— Я не была з Панятоўскім, — прашаптала ў перапынках паміж пацалункамі Раіна. – На Пісанні магу прысягнуць. Спявала для яго, танцавала... Але ў яго каралеўскай мосці зараз вельмі раўнівая каханка, так што далей, дзякуй Богу, ён зайсці не наважыўся, а я вельмі старалася трымаць бяспечную адлегласць.

Вырвіч пацалаваў яе бровы, вочы і сказаў тое, што думаў.

— Мне ўсё роўна, з кім ты была... Мінулае – страшны сон, а ты са мной ад сёння і да веку...

А над горадам велічна плыў-скакаў алень Святога Губерта, пагружаючы капыты ў сінія хмары, і залаты крыж паміж ягонымі рогамі некаторыя прымалі за месяц, некаторыя – за веер з мануфактуры пана Тызенгаўза, закінуты ветрам на дрэва, а некаторыя – за наступствы добрай беларускай медавухі, толькі што выпітай у гасціннай карчомцы...

І калі і было што пэўнае ў гэтым свеце, дык гэта словы і пацалункі між двума, якія ледзь не страцілі адзін аднаго.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ. АПОШНІ НАЕЗД ГЕРМАНА ВАТМАНА

Калі чалавека гоніць па свеце, як сарваны ліст, неадменна ў ягонай хаце пасялілася Бадзюля, страшная істота, якая змушае чалавека падарожнічаць і шукаць краіну, дзе, вядома, лепей, чым тут...

Прагнаць Бадзюлю проста: падмесці хату, вымыць падлогу чысцютка, і ўвесь бруд выліць на заход сонца. Тады й выскачыць следам Бадзюля, нечасаная, струплівая, апранутая ў адну посцілку...

Вось, здаецца, пані Саламея Лёднік хату трымае ў чысціні, а мужа ейнага час ад часу гоніць па белым свеце, так, што невядома, ці вернецца... А як атрымаецца ў Пранціша і Раіны? Дзе будзе іхні дом, і куды панясе абаіх суворы Пахвіст, зімовая завіруха?

Яны прыехалі ў Вільню яшчэ засветла, калі сінія цені дрэў кладліся на заснежаную брукаванку амаль незаўважна, а шэрае неба яшчэ не набыло колеру дыму... Пранціш даўно распавёў Раіне пра гасцінны дом з зялёнымі аканіцамі, пра пані Саламею Лёднік, у дзявоцтве Рэніч, прыгожую, як Сільфіда, пра маленькага Алеся, нават пра Піфагора і Хвельку. Як жа хацелася апынуцца там, у бяспецы ды

ўтульнасці, няхай і ўяўных... Дзе з карціны паглядае Арыстоцель, вельмі падобны да Лёдніка ў старасці, на каміне пакручваецца сіня-белы гадзіннік-ваза, а ў лабараторыі, умацаванай, як маленькая крэпасць, узіраецца шэрымі шклянымі вачыма ў ангельскую далеч, за мора і дзюны, васковая лялька-аўтамат Пандора...

Калі знаёмы дах яшчэ толькі паказаўся з-за заснежаных дрэў, з таго боку пачуўся стрэл і сярдзітыя крыкі... Яшчэ стрэл... А вось, здаецца, жанчына крычыць...

Лёднік высунуўся з фурманкі, выхапіў з рук наёмнага фурмана пугу і сцебануў коней.

Дом з зялёнымі аканіцамі трымаў сапраўдную аблогу. Ля яго стаяла дзясяткі два асёдланых коней, на двары, хаваючыся за дрэвы, бегалі людзі са стрэльбамі і шаблямі. Не ў мундзірах, а, відаць, найміты, бо добра ўзброеныя і з фізіяноміямі, шмат разоў залатанымі... А вось ляжыць штосьці рудое, калматае... Піфагор! Загінуў, верны абаронца...

Час ад часу з гарышча дома стралялі – калісьці Пранціш пастараўся ператварыць тое гарышча ў сапраўдную фартэцыю, з амбразурамі і ладным запасам зброі і пораху. А белавалосы волат прыхінуўся да дрэва і гучна ўгаворваў кагосьці ў доме:

— Ну навошта столькі шуму і клопатаў, мая красунька! Мой замак у Сілезіі чакае цябе, месца вольнае... Няўжо ты забылася нашу палкую ноч? Выходзь разам з каронай, і мы ўсе ціха сыдзем.

У адказ куля зрэзала кару з дрэва якраз каля вуха волата.

— Ну нашто ўсё ўскладняць? На дапамогу табе ніхто не прыйдзе...

На двор чорным віхорам заляцеў Лёднік, за ім бег Пранціш, а Раіна Міхалішыўна, замест таго, каб застацца ў фурманцы, якая, дарэчы, адразу знікла з небяспечнага месца, адно снег узвіхурыўся, таксама бегла з пісталетам і кінжальчыкам.

Лёднік сходу заваліў аднаго з нападнікаў, Пранціш параніў у руку другога, змусіўшы выраніць шаблю.

— Што табе трэба ў маім доме, Ватман?

Найміт глядзеў на доктара, і ягоныя вочы здаваліся то празрыста-белымі, як туман, то бяздонна-барвовымі.

— Ды калі ж ты перастанеш узнікаць, як чорцік з табакеркі, а, Бутрым? Можа, ты не чалавек, а стыхійны дух, і цябе выклікаюць нейкай сакрэтнай формулай: прамовіш услых, бэнц – і доктар Лёднік тут, як мазоль на пятцы, з шабелькай сваёю... А трэба мне дзве каштоўнасці. Адну – для князя Багінскага, другую – для сябе... Князю – карона, мне – красунька.

— Пайшоў прэч! – Лёднік кінуўся на белавалосага волата, але калі і быў у свеце чалавек, роўны доктару па фехтавальным майстэрстве, дык гэта Герман Ватман. Лёднік больш рухавы, але Ватман – настолькі дужы, што ламаў шыі адным дотыкам. А паколькі забойствы былі ягонай прафесіяй, а ў ёй ён лічыўся лепшым у Еўропе, Бутрымавы скачкі і каруселі маглі толькі трохі ўраўнаважыць сілы.

Пранціш біўся адразу з двума, але вось адзін з лаянкай паваліўся, паранены ў нагу. Вырвіч азірнуўся: Міхалішыўна спакойна перазараджала пісталет, нібы не ў чалавека пацэліла, а торт парэзала, і не кулі і лёзы тут свісталі, а веeры ўзмахвалі.

З гарышча зноў пачуся стрэл і крык Саламеі:

— Бутрым, злева!

Лёднік кінуўся на зямлю, і вельмі ў час: адзін з нападнікаў прыстроіўся за агароджай са стрэльбай і ледзь не змяніў ход бойкі.

Становішча адчайнае... Галоўнай перашкодай быў Ватман, а яшчэ стрэльбы і арбалеты.

— Герман, у доме няма кароны! – гэта зноў крычала Саламея. – Жыццём прысягаю!

Яе крык згас у халодным паветры і свядомасці нападнікаў, як вылітая ў раку чарка чырвонага віна.

— Пан, не ведаю, як вас там, — крыкнула Ватману і Раіна, яе чорныя валасы дзёрзка выбіваліся з-пад шапачкі з белай апушкай, як у каралевы Кінгі. — Магу пацвердзіць – на маіх вачах карону святога Альфрэда прадалі графу Батысту!

— Гэта яшчэ што за шылахвостка? – незадаволена папытаўся Ватман, лёгка адбіваючы наскокі Лёдніка.

— Гэта мая нявеста! – раўнуў Пранціш, арудуючы непадалёк шабляй.

— Талковая нявеста, баявітая... – ухваліў Ватман. — Але мая красунечка, там, у доме, не горшая, і даражэй мне за любую карону. Ну што, Бутрым, давершым даўнюю справу?

Яны біліся зноў – апантана, засяроджана, як могуць толькі старыя ворагі, і тое, што выраблялі абодва на стаптаным двары з паламанымі дрэвамі і кустамі, маглі паўтарыць адзінкі ў свеце, а можа, і ніхто. А Пранціш не мог дапамагчы, спрабуючы не дапусціць нападнікаў да будынка. Іх заставалася яшчэ чалавек дзесяць, спрактыкаваныя, яны не кідаліся пад кулі ды шаблі, хаваліся за дрэвы, адстрэльваліся... Раіна, як верны збраяносец, была заўсёды побач і страляла трапна, мусіць, не горш, чым жонка пана Рысі. Адзін раз і кінжалам шпурнула ў здаровага дзядзьку ў кароткім ваўчыным футры, так, што патрапіла якраз ля шыі. І як ні лаяўся Пранціш, не

змусіў неўтаймоўную артыстку заставацца ў бяспечным куце паміж стайняй і дрывотняй.

І тут здарылася бяда. Ватман падхапіў левай рукой зламаны малады клён, ададраўшы бязлітасна тыя белыя жылачкі, на якіх дрэва яшчэ трымалася за свае карані, і цяпер, узброены шабляй і ладнай калацінай, нагадваў антычнага Геркулеса. Ён загнаў доктара ў самы кут двара, куды не даставалі стрэлы з гарышча. І злаўчыўся ўдарыць калацінай па руце, якая трымала шаблю, так, што зброя далёка адляцела на мерзлую зямлю.

— А ты думаў, доктар, толькі ты шаблі з рук выбіваць умееш?

І тут жа крыкнуў сваім людзям:

— У доктара не страляць! Ён мой!

Пранціш у адчаі спрабаваў прабіцца бліжэй, але самому даводзілася цяжка, нехта прыстраляўся па драгуне так, што даводзілася не высоўваць галавы з-за дрывотні, ды яшчэ і Раіну захінаць.

Ватман павольна падыйшоў да Бутрыма, напружанага, як змяя перад скачком.

— І што ты цяпер зробіш, фехтавальшчык? Падумаеш, царыцу ўразіў фокусамі з шабляй... А без шаблі – чаго ты варты? Я цябе зараз заб'ю, і нічога мне не будзе, таму што ўсім ты – як стрэмка ў горле. Маёй будзе баба! Ну, давай, скачы далей!

Але доктар скакаць нікуды не стаў, а проста працягнуў руку да Ватмана, трымаючы адстаўленую даланю насупраць ягонага сэрца, і зрабіў ледзь заўважны – пару вяршкоў – штуршок наперад.

Найміт зарагатаў:

— Ну ты зусім звар'яцеў ад адчаю, доктар, спадзяешся мяне зачараваць? Спрабавалі некаторыя, не паддаюся.

І махнуў шабляй – Лёднік ледзь паспеў адскочыць, на ягоным рукаве з'явіўся парэз, з якога паказаліся кроплі крыві. Ватман сsecuranuў шабляй яшчэ раз, яшчэ, дапамагаючы і калацінай, якой махаў лёгка, як прутком, не даючы доктару падабрацца да ягонай зброі. Пранціш з жахам назіраў краем вока, як прафесар кідаецца ў безнадзейнай спробе сысці ад бязлітаснага ляза – любы іншы чалавек ужо ляжаў бы на зямлі, рассечаны напалам. Міхалішыўна паспрабавала падысці, дапамагчы, і нават пацэліла Ватману ў руку, але той як не заўважыў раны, а вось Раіне давялося ўцякаць ад чарнявага злыдня, узброенага палашом.

Вось Ватман размахнуўся яшчэ раз... І раптам загайдаўся, на ягоным твары, шырокім, спаласаваным шнарамі, з'явілася шчырае здзіўленне.

— Ты... ты... як ты змог...

Прашаптаў і паваліўся тварам у брудны снег. Аж зямля здрыганулася, быццам упаў ссечаны дуб. Страляніна адразу прыпынілася, хтосьці з нападнікаў пачаў падбірацца бліжэй да белавалосага волата, праверыць, ці жывы…

Доктар упаў на калені, спрабуючы аддыхацца, а потым падбег да сваёй шаблі, і… Здавалася, ён мог адбіваць нават кулі, і паколькі Ватман не варушыўся, найміты зразумелі, што час сыходзіць, бо ўвесь мёд з гэтай місы злізаны.

— Заканчваем усё, як загадваў пан Ватман, і гайда! – пракрычаў нехта з-за агароджы, і зараз жа ў шыбы дома з зялёнымі аканіцамі паляцелі запаленыя стрэлы арбалетаў… Калі з вокнаў паказаліся першыя языкі полымя, нападнікі зніклі, сцягнуўшы за сабой параненых і нерухомага Германа. На стаптаным снезе засталіся чыясьці шапка, дзве шаблі, багата крыві і забіты руды сабака.

Лёднік і Пранціш кінуліся ў дом. Вырвіч паспрабаваў загасіць полымя з дапамогай коўдры, але дарэмна.

— Саламея, Алесік, дзе вы? – крычаў устрывожаны Бутрым.

— Алесік з Хвелькай у тваёй лабараторыі! – крыкнула зверху Саламея. – Хутчэй бяжы за імі!

На шчасце, той пакой быў сапраўды самы бяспечны – умацаваны супраць усялякіх выбухаў, з кратамі на вокнах, і нават меў патаемны выхад на вуліцу. Вызвалены адтуль Алесік быў страшэнна ўгневаны:

— Як маглі пасадзіць мяне пад замок! Я шляхціц! Я павінен быў абараняць пані-маці! Я страляць умею! Я ім за Піфагора нашага…

Хлопец хутка выцер кулаком слёзы.

— А дзе мама?

Тоўстыя шчокі Хвелькі трэсліся, як студзень, на твары размазаліся чорныя пісягі попелу.

— Што ж гэта робіцца, святыя ўгоднічкі? Зусім прападаем! Беднага Піфагора забілі…

Хвельку з Алесем пакінулі на вуліцы. Засталося выцягнуць з гарышча Саламею, тым болей ад агню там мог выбухнуць порах. Пранціш заўважыў толькі, прабягаючы назад праз лабараторыю, як аблічча васковай лялькі Пандоры ад гарачыні пачварна сказілася, як аплываюць дасканала прыгожыя рысы твару, агаляецца шкляны яблык вока…

— Саламея, скачы! Я цябе злаўлю! – крычаў пасярод задымленай вітальні Бутрым.

Але жанчына пазірала ўніз, у праём, з адчаем і не кратаЛася з месца.

— Не магу! Мне нельга!

— Скачы, не бойся! – Лёднік пачынаў нерваваццa.

— Не! Не магу!

У доме рабілася ўсё гарачэй, дым выядаў вочы, а на двары нарэшце пачуліся галасы – віленчукі, суседзі дарагія... Пакуль быў брутальны наезд – сядзелі па дамах, як мышы, ніхто бараніць жанчыну і дзіцёнка не кідаўся. Мала якія разборкі між панамі... А вось пажар – гэта сур'ёзна. Ад пажару можна самім пацярпець. Зноў паўгорада выгарыць, ды яшчэ сярод зімы... Таму зарыпелі калодзежныя калаўроты, забразгалі вёдры... На пажарных, як заўсёды, надзеі было малавата, але і ў звон на каланчы нехта ўдарыў. Вільня агнём моцна напалоханая.

А між тым Саламея ўсё яшчэ не наважвалася саскочыць. Пранціш заазіраўся вакол.

— А дзе драбіны?

— Вунь там! – Саламея паказала ўбок. – Застраглі... Сіл у мяне не было зацягнуць іх... А дзе Алесік? З ім усё добра? Не ўчадзеў? Вы, калі выводзілі, далі яму цёплую вопратку? Бутрым, цябе пытаюся, сынок цёпла апрануты?

Пані як не заўважала небяспекі для сябе асабіста. А драбіны знаходзіліся недзе пасярэдзіне між уваходам на гарышча і падлогай – іх прыціснула цяжкімі створкамі дзвярэй у столі, калі гаспадыня, спяшаючыся, уцягвала іх наверх. Пранціш паспрабаваў падскочыць – не дастаць ніяк... Разгублены Лёднік заазіраўся ў пошуках таго, што можна выкарыстаць, як лесвіцу...

— Падсадзі! – скамандвала Вырвічу Раіна. І вось, ускараскаўшыся на плечы драгуна, яна ўжо, як яшчарка, уздымаецца па сцяне, абапіраючыся на выступы зрубу... Учапілася за драбіны... Павісла на іх... Драбіны з грукатам паваліліся, а Раіна падымалася з падлогі. Пранціш, які не паспеў яе падхапіць, падляцеў, дрыжачымі рукамі абмацаў...

— Лухта, калена толькі пабіла, — лёгка адказала Міхалішыўна. – Гэта не з тэатральных канструкцый гахнуцца на сцэну...

Лёднік хуценька ўзяў на рукі Саламею, якая павольна спускалася па драбінах з прыступкі на прыступку, вынес на свежае паветра... Расцалаваў пад шэрым зімовым небам, у водсветах агню, які знішчаў сямейнае дабро.

— Ты чаму спалохалася скочыць? Я так перапалохаўся...

Саламея дакорліва паглядзела ў цёмныя вочы мужа.

— І нехта лічыць яго спрактыкаваным эскулапам... Я ж сказала – нельга мне цяпер скакаць!

Лёднік разгубіўся.

— Ты... ты чакаеш дзіця?

— Ужо тры месяцы. Самы небяспечны тэрмін, нельга рабіць рэзкіх рухаў...

Доктар выглядаў так, нібыта ў яго не дом гарэў, а анёл у гародзе прызямліўся.

— Але... як жа?

— Ну, мы ж былі разам там, у вязьніцы... Калі я цябе лекавала...

Перад домам выстраіліся людзі з вёдрамі, і нават з самавітым грукатам пад'язджала пажарная калымага, везучы бочкі з вадой. Толькі гаспадарам было да гэтага, як да кольцаў Сатурна.

Пранціша разабраў істэрычны смех:

— Ну, доктар, падобна, што дзяцей у цябе атрымліваецца рабіць толькі ў вязьніцы, ды з абдзёртай спінай.

Лёднік кінуў на Пранціша сярдзіты позірк. А што, хіба не так – з маці Алесіка ў Лёдніка атрымаўся раман, калі яна прыйшла да яго ў скляпенне, дзе ён замярзаў, збіты ейным мужам.

Пані Саламея перавяла позірк на Раіну, чыё адзенне таксама было перапэцканае, а месцамі падзёртае, з-за пояса тырчэў пісталет, праз шчаку цягнулася драпіна і пасак размазанага попелу.

— Гэта мая нявеста, Раіна Міхалішыўна! – цырымонна прадставіў Пранціш, і жанчыны шчыра расцалаваліся.

Нехта міласэрны выносіў з хаты дабро, на якое вар'яты-гаспадары, падобна, начхалі. Вывальваў на снег кнігі, посуд, нейкія вазы, крэслы...

— Пані маці! Пан бацька!

Хвелька падводзіў да гаспадароў Алесіка, які ўпарта вырываў сваю руку з рукі слугі, і Саламея зараз жа занялася рэвізіяй здароўя і цеплыні вопраткі малога.

А Пранціш адыйшоўся са сваім шчасцем, зазірнуў у ягоныя празрыста-зялёныя вочы, пацалаваў у кончык носа, які так міла прыўздымаўся:

— Ну што, шыкоўнае атрымалася знаёмства з сям'ёй жаніха? Вось, бачыш – наша гаспода... – Пранціш абвёў рукой пейзаж з агнём. – Наезды, гвалт, папялішча... Ты цяпер чалавек вольны, можа, перадумаеш звязвацца з такой небяспечнай кампаніяй? Цябе ў любы тэатр возьмуць... Нават у каралеўскі.

Але Міхалішыўна толькі, смеючыся шчасліва, абняла Вырвіча за шыю да пацалавала.

— Такі ўжо мой лёс – на гарачых вуголлях таньчыць! Нікуды я ад цябе не пайду! Ніколі! Прынц мой, рыцар мой, сэрца маё!

Гаспадары моўчкі стаялі перад парэшткамі свайго дому. Уласна кажучы, магло быць горш. Найбольш пацярпела вітальня і зала – тут агонь вылізаў нават столь. Што адтуль не вынеслі – згарэла. Ад карціны з Арыстоцелем заставалася толькі абвугленая рама, у якой дарэчы глядзелася б толькі мумія. А ўсё яшчэ было залітае вадой, што на марозе, які выстудзіць вуглі, ператворыцца ў лёд.

Але дах быў цэлы. Амаль непарушнай засталася лабараторыя – толькі ад гарачыні канчаткова сапсавалася Пандора, якая цяпер нагадвала нейкую расамаху, а не праўнучку ангельскай каралевы, і Лёднік, уздыхнуўшы, накінуў на аўтамат анучу. Спёка сапсавала многія лекі, а ўжо смурод які ад дыму... Большая частка гардэробу таксама ляснулася, гэтак жа, як і кнігі, што захоўваліся ў зале. Затое ацалеў кабінет прафесара, нават карта Ерусаліму, што засталася ў спадчыну ад аптэкара Лейбы. Лёднік з дрыготкай у руках гладзіў стос сваіх бясцэнных рукапісаў. Ацалеў і катух Пранціша, і ягоны стары камзол, з-за падкладкі якога ён дастаў стосік скрэмзаных аркушаў. Што ж, раз гэтыя вершы не згарэлі нават у пажары, значыць, лёс ім пажыць падаўжэй...

Апошнія клубы дыму расчыняліся ў звечарэлым паветры, згасалі залітыя вуглі... І тут выявілася, што не ўсім доктар – як стрэмка ў горле. Да пагарэльцаў пачалі падыходзіць, адзін за адным прапаноўваліся месцы для начлегу, дапамога ў навядзенні парадку...

Але доктар, падзякваўшы, ад усяго адмовіўся. Ёсць пару некранутых пакояў, печка ў іх цэлая, праветрыцца – пераначуем без шкоды для здароўя. А пераначуем – болей пачуем...

На шчасце, пані Саламея калісьці настояла, каб у доме зрабіць надзейную хованку для каштоўнасцяў. Пад выгарэлай падлогай залы ацалела жалезная скрыня, толькі нагрэлася, як бляха, на якой пяклі булкі. А ў скрынцы – трохі дукатаў, яшчэ з падораных калісьці вялікім гетманам, турэцкая шабля-кілідж у залатых похвах, усыпаная каштоўнымі камянямі, што дасталася Лёдніку ад ангельскай ледзі, па чыім абліччы была зробленая Пандора. А яшчэ залаты крыж з гербам “Агнявец”, упрыгожаны дыяментамі, які на развітанне падарыла Пранцішу княжна Багінская, а той аддаў разам з балючымі ўспамінамі ў агульную сямейную скарбонку. Была і жменька пярсцёнкаў ды маністаў з пасагу Саламеі Рэніч і спадчыны пана Вырвіча... А што ж – Вырвічы хоць і лапцюжная шляхта, але тым ад мужыкоў і адрозніваюцца высакародныя паны, што ў іх заўсёды беражліва захоўваюцца фамільныя каштоўнасці, хай бы паны з

голаду пухлі: шаблі, пярсцёнкі з гербамі, тастаменты... Вось ён, скрутак пажаўцелай паперы са шматлікімі пячаткамі на вяровачках – пацверджанне шляхецтва Вырвічаў... А вось і куды навейшая папера аб набілітацыі полацкага мешчаніна Баўтрамея Лёдніка, падпісаная вялікім гетманам, а таксама два дыпломы, Пражскага ды Лейпцыгскага ўніверсітэтаў.

А вось куды падзеў свой дыплом пан Вырвіч, ён доўга ўспомніць не мог... Але дурням шанцуе – паміж печкай і сцяной у кутнім пакойчыку валялася абвугленая па краях, вільготная папера – нават прачытаць можна было, што Пранцішу Вырвічу надаецца званне доктара вольных навук.

Што ж, смерць ад голаду сямейству, якое заўважна павялічылася, не пагражала. У пограбе засталося віно і шынка, тое-сёе з ежы прынеслі суседзі...

Так і адзначылі заручыны пана Вырвіча, які ўрачыста ўдзеў на палец Міхалішыўны фамільны пярсцёнак у якасці ante nupitas donatio, давясельнага падарунка. Памянулі і смерць Германа Ватмана, злога духа сям'і Лёднікаў.

— А ты ўпэўнены, што забіў яго? – недаверліва папытаўся Вырвіч, памятаючы нетрадыцыйны метад, якім скарыстаўся Лёднік. Доктар паціснуў плячыма.

— Раней такога ўтвараць не даводзілася... Грэх, вядома, жадаць бліжняму смерці, але ўсё ж не хацелася б перажыць яшчэ адну сустрэчу з Германам.

А назаўтра вырашылі з'язджаць. А што было рабіць? Звяртацца па дапамогу да гарадскіх уладаў? У суд? Залатую сурму медная не перайграе.

— Наезд рабілі людзі віленскага ваяводы, — змрочна падрахункаваў Лёднік. – І хоць Багінскі, вядома, адмовіцца ад свайго ўдзелу, не варта нам заставацца ў горадзе пад ягонай уладай. Стаміўся я... Паедзем у Полацак. Даўно не жыў на радзіме, дзе Сафійка, Дзвіна, Палата... У доме Рэнічаў месца хапае. Складу праект медычнай школы для Тызенгаўза, магчыма, з гэтага нешта і выйдзе. Я спісаўся з альма матэр, полацкім калегіюмам, яны шчаслівыя, калі б я колькі лекцый пачытаў. У шпіталі пры калегіюме папрацую, парадак навяду. Думаю, і пан Вырвіч згодзіцца весці для шкаляроў лекцыі па тэорыі паэзіі... Будзеш пераемнікам Сарбеўскага.

Шчокі Пранціша запалалі.

— Хіба я змагу?

— Што я, не ведаю, якія кнігі ты напамяць вызубрыў? – мякка патлумачыў Лёднік. — Усё па паэтыцы... А ён вам, Раіна, паказваў свае сачыненні?

Паўночы прайшло ў дэкламаванні. Да здзіўлення Пранціша, практыкаванні ягоныя спадабаліся нават Алесіку. Міхалішыўна плакала ад гонару за жаніха, а Лёднік урачыста паабяцаў, што пісанне Вырвіча абавязкова надрукуюць. Няхай не цяпер, але гэта зрабіць неабходна.

Наступныя дні занялі зборы ў дарогу. Вырвіч атрымаў паперу, што ягонае прашэнне аб адстаўцы прынятае, а вось заява Лёдніка аб звальненні нарабіла ў Акадэміі шолаху.

Так, доктара даўно хацелі прыбраць, асабліва калі пайшлі чуткі, што ён можа зрабіцца рэктарам з падачы расейцаў. Але калі ягоны ад'езд стаў рэальнасцю, і блізкай, раптам усе захваляваліся. Вучоны з сусветным імем, якога ведаюць ва ўсіх універсітэтах Еўропы... Куды ён дзенецца? Што ад яго чакаць? І як без яго? Ну і, вядома, трохі няёмка, што так абышліся з чалавекам, які дарагім коштам выратаваў Акадэмію ад закрыцця, а студэнтаў і выкладчыкаў ад арышту, і не пачуў нават "дзякуй". Але пра гэта асабліва не задумваліся, таму што лягчэй абвінаваціць ва ўсім ахвяру, чым прызнаць сваю няўдзячнасць да яе. "Сам вінаваты" – улюбёная фармулёўка на Беларусі ўсіх часоў.

Вестка пра тое, што доктар Лёднік з'язджае, таму што на ягоны дом быў наезд, а пасля пажар, распаўсюдзілася па Вільні, як эпідэмія. І высветлілася, што без фанабэрыстага дэманічнага доктара Вільня страчвае вельмі шмат... Пасыпался лісты ад магнатаў, у якіх Лёдніку прапаноўвалася месца асабістага доктара, вялікія ганарары. Адразу знайшліся выгодныя дамы, у якія доктар мог бы пераехаць разам з сям'ёй. Нават князь Багінскі прыслаў ліст са спачуваннем і прапановай дапамогі – перапалохаўся, відаць, што Лёднік паскардзіцца на яго расейскай царыцы.

— Не хачу больш нічыёй ласкі – ні магнатаў, ні езуітаў, ні замежных дабрадзеяў, — заявіў Лёднік. – А хворыя людзі знойдуцца паўсюль, баліць усім аднолькава, што магнату, што жабраку. Пажывем трохі ў родным горадзе, хай там народзіцца маё дзіця... А пасля пабачым. Адправіцца за мяжу паспеем.

Сапсаваную Пандору доктар аддаў свайму калегу, прафесару Папроцкаму, які даўно хацеў яе залучыць для даследванняў.

Неба стамілася хавацца за хмарамі і паказвала сярдзіты сіні твар з адзіным сляпучым вокам зімовага сонца. Снег рыпеў пад нагамі, як быццам пад падэшвамі раздушваліся жывыя істоты.

Віленчукі моўчкі назіралі, як з’язджае доктар Баўтрамей Лёднік са свайго абгарэлага дому і іхняга слаўнага места. Двое наёмных сціплых вазкоў, і ўсё.

Натоўп усё прыбываў, людзі прашэптваліся, паказвалі пальцамі на дзіўныя прылады, якія загружаліся ў апошні вазок, на двух прыгожых жанчын, старэйшую і маладзейшую, якія не выглядалі ні засмучанымі, ні расчараванымі, а знарочыста хадзілі па стаптаным снезе, як па паркеце на свецкім балі. Былыя пацыенты Лёдніка, ды й жанчыны, якім дапамагла пані Саламея, шчыра плакалі і маліліся за добрых лекараў... Аптэкар Гендэль, хоць часам і ўспрымаў прафесара як канкурэнта, але за дасціпнымі прафесійнымі размовамі прабавілі не адзін вечар, прынёс цэлую скрынку рэдкіх інгрэдыентаў, а для малодшага Лёдніка – вузельчык з смачным, яшчэ цёплым, печывам ад пані аптэкаравай. Прыйшоў турэмшчык, які ратаваў Лёдніка ў вязніцы, прынёс вышываны жонкай рушнік з валошкамі... Цясляр, якому полацкі Фаўст склаў калісь паламаную ў некалькіх месцах руку, падараваў прыгожы разны куфэрак... Бабулька ў старым кажушку, якой Лёднік бясплатна лекаваў сардэчную хваробу, магла ахвяраваць толькі вязаную ільняную сурвэтку...

І гэта было даражэй за мяшкі дукатаў, якія маглі падараваць магнаты.

Пранціш азірнуўся на дом з калісьці зялёнымі, а цяпер пачарнелымі аканіцамі... А вось на двары, пад старой таполяй, магіла вернага Піфагора, пазначаная каменем...

— Мы нічога не страцілі, хлопча! – пачуў ён голас Лёдніка.

І праўда... Былы драгун абняў каханую жанчыну, паглядзеў на Лёднікаў... Алесіку паабяцалі ўжо малодшага брата.

І праўда, не страчана нічога!

Раптам заявілася дэлегацыя з Акадэміі. З урачыстым лістом, у якім рэктарат выказваў калегу падзяку за гады плённай працы і выказваў спадзеў на працяг супрацоўніцтва ў далейшым.

Але былы прафесар выразна параіў дэлегатам на лаціне, як скарыстаць гэты ліст больш практычна. Дэпутацыя ад студэнтаў была сустрэтая больш прыхільна, але расчульвацца доктар усё роўна не стаў. Проста паабяцаў вучням, якіх рыхтаваў да медычнай кар’еры, што іх не кіне, рэкамендацыі дасць, парады таксама... Не выключана, што ў Вільні нарэшце з’явіцца медычны факультэт ці інстытут... Скончацца ж калі-небудзь цьмяныя часы. Хоць ненадоўга.

Званы рассыпалі пад горадам урачыстае срэбра, якое дадавалася да срэбра снегу і шэрані, і здавалася, што вакол усё засцелена пералівістым вэлюмам...

Пранціш уяўляў, якой гожай будзе Раіна ў вясельным вэлюме. Калісьці ён думаў, што ягонае вяселле адшуміць у палацы, і шляхта цэлы месяц стане есці смажаных валоў ды лебедзяў, і ў гонар маладых страсянуць неба гарматы...

Але што з тае дурной магнацкай раскошы, праўда? І, вядома, няважна, што потым наўрад іх з Раінай запросяць на баль якіясь пільнавальнікі сармацкіх цнотаў, даведаўшыся, што маладая Вырвічава – з прыгонных, ды яшчэ акторка-шалберка... Магчыма, прыдзецца выцерпець і пагардлівыя позіркі ды злосныя шэпты – калі пойдуць чуткі, з кім Вырвіч ажаніўся.

Нічога, ён справіцца! Выкліча нахабаў на двубой... Аднаго за адным... Хоць увесь павет! Заторкнуцца!

Раіна як адчувала, пра што думае жаніх, і ў такія хвілі змаўкала, нібыта мізарнела, і глядзела такімі вінаватымі, такімі закаханымі вачыма, што Пранцішу аж няёмка рабілася. Нельга, каб жанчына так пазірала на мужчыну. Нават на будучага мужа.

Нічога, час усё выправіць. Вунь Петр Першы ажаніўся са звычайнай прыслугай, якая падштанікі жаўнерам мыла... А Раіна пры каралеўскіх дварах бывала! Яна ў моднай сукенцы сама – як каралева!

Лёднік вырашыў, што Пранціш і Раіна павінны абвянчацца ў той самай маленькай цэрквачцы па дарозе на Полацак, у якой калісьці вянчаліся яны з Саламеяй. Тады над Лёднікам трымаў вянец Пранціш, а над Саламеяй – Ганулька Макавецкая. Успамін пра Ганульку рэзаў віной... Яны ж тады, у Гародні, па патрабаванні Лёдніка схадзілі да пані Гартэнзіі... Тая не моцна засмуцілася, што яе прыёмная дачка не звяжа лёс з шалапутным драгунам, але за параненае зноў сэрца дзяўчыны – зазлавала. Праўда, мусіць, да восені Ганулька пабярэцца з суседам Ладыславам, і дай Бог ёй усяго добрага... Што паробіш – нельга быць шчаслівым, напэўна, каб гэта камусьці хоць трохі не папсавала жыццё.

Па-праўдзе, Вырвіч меркаваў адразу, як з'ехалі з Вільні, бегчы пад вянец. Але Раіна ўпрасіла пачакаць. Пранціш здагадваўся, чаму: ёй хацелася хоць прыкінуцца, што ўсё — як у людзей... Заручыны, становішча нявесты, да вяселля — розныя пакоі з жаніхом, цнатлівыя пацалункі... І ён гатовы быў зноў і зноў даказваць, што паважае, што не змусіць ні да чаго...

І хоць не было каму бласлаўляць маладых, але звазіў Вырвіч нявесту і ў роднае Падняводдзе. Раіна не спалохалася беднасці хаты – пра тое, што гэта шляхецкая сядзіба, сведчыў толькі ганак з двума драўлянымі калонамі, патрэсканымі, як посныя галёпы, якія пякуцца

на Стрэчанне. З мэблі стол ды магутныя драўляныя лавы, якія служылі і ложкамі, а столь чорная і ўся ў слядах ад куль – старэйшы Вырвіч гэткім чынам любіў будзіць свайго нашчадка, каб не вырас спешчаным. Жытло выстылае, няўтульнае… Але Міхалішыўна гатовая была прыйсці гаспадыняй у родную хату любага, і праспявала ў новых дэкарацыяй вясёлую арыю з “пейзанскай оперы”.

Але Вырвіч усё больш пахмурнеў, аглядаючы дзядоўскую гасподу. Колькі пакаленняў продкаў тут жыло, усё больш бяднеючы… І кожны марыў вярнуць веліч роду. Каб зірнуць на фанабэрыстых суседзяў звысоку, ды каб тыя суседзі прыязджалі ў ручку цалаваць, і каб нават самы нахабны забыўся, як згалелыя Вырвічы вазілі гной на поле, уторкнуўшы ў вохкую кучу на возе шаблю – каб ганьбы шляхецкай годнасці не было. А Пранціш – апошні з роду…

І нават думаць не хацелася, ці блаславіў бы іх шлюб старэйшы Вырвіч.

—Нічога, Раіна, — з трохі ўяўнай весялосцю прамовіў драгун. — Назапасім грошай, можна будзе прыкупіць у Падняводдзі зямлі, пабудаваць добры дом ды асесці на радзіме – не заставацца ж нам у Лёднікаў. Вырвічы ад Палямона род вядуць, мы каралям не кланяліся, не пасуе нам…

І абарваў сам сябе – не варта нагадваць беднай дзяўчыне пра іхнюю няроўнасць.

Раптам Раіна схапіла яго руку, прыціснула да чамусьці халодных вуснаў:

— Сэрца маё… Жыццё маё… Я… разумею… Павер, я зраблю ўсё дзеля твайго шчасця і твайго гонару!

Пранціш з удзячнасцю ўсміхнуўся:

— Вядома, мы будзем шчаслівымі…

Але халоднай раніцай напярэдадні вяселля – не меркавалася ніякіх гасцей, сукенку пазычала Саламея, сціплыя стравы нарыхтавалі разам — да Пранціша падыйшоў вельмі сур’ёзны Лёднік. Стаў, апусціўшы вочы. Што яшчэ за трасца здарылася?

— Ты толькі не кідайся хмызы ламаць, хлопча. Баюся, што зноў не ўдасца мне твой сямейны лёс уладзіць.

Пранціш неўразумела глядзеў на доктара, які нібыта змушаў сябе абвесціць смяротны дыягназ.

— Раіны няма. Саламея да яе ў пакой зайшла – толькі цыдулка на стале.

Драгун круціў у руках аркушык паперы з акуратнымі літарамі, што нібыта мігцелі, не жадаючы складацца ў сузор’і словаў.

“Я ніколі сабе не дарую, дарагі пан Вырвіч, калі з-за мяне вы не зможаце заняць тое становішча, якога вартыя. Вы павінны знайсці цнатлівую высакародную дзяўчыну, што дадасць бляску вашаму роду. Я б усё аддала, каб такой быць. Але я бязродная халопка, якую гаспадары падкладалі ў ложак да гасцей, якую навучылі прыкідвацца і бездакорна ілгаць. Я ніколі не наважуся распавесці вам, праз што прайшла. І ніколі не буду вартая вас, пан Пранціш. Ведаю, што зраблю вам балюча сваімі ўцёкамі – але пакараю сябе за гэта вельмі жорстка, паверце. Адзінае апраўданне — зраблюся вашым нябачным анёлам-ахоўнікам, каб адводзіць ад вас найменшую бяду… Я ніколі не стану перашкодай вашаму шчасцю і годнасці.

Толькі не праклінайце мяне.

Серафіна”

Зноў гэтае ілжывае, рабскае імя! Няўжо яна вернецца да вылюдка Бастысты? Гэтак вырашыла сябе пакараць?

—Ты ведаў, што яна збіраецца зрабіць? – Пранціш падняў на свайго былога слугу пацямнелыя вочы.

Лёднік памаўчаў, уздыхнуў.

— Не, не ведаў. Але… здагадваўся пра такі варыянт падзеяў.

— Чаму ж не папярэдзіў? Не прадухіліў? – Вырвіч схапіў доктара за грудкі, страсянуў – яму неабходна было на некага выплюхнуць свае боль і гнеў. Бутрым не зрабіў спробы вырвацца.

—Што ж тут можна было зрабіць…

Гэта прагучала нечакана разгублена, амаль бездапаможна, і Пранціш зразумеў, што яшчэ частка ягонага жыцця закончылася. Незваротна. І так, як было, ужо ніколі не будзе.

І таго, што ясна бачылася наперадзе – ніколі не здарыцца.

Але трэба было жыць далей.

…А калі зноў зашумелі купальскія травы, і русалкі загушкаліся на бярозавым веццi, і гарлачыкі цалаваліся са сваімі адлюстраваннямі ў лясных вазёрах, маленькая Соф’я Баўтрамеева Лёднічанка адплюшчыла ў полацкае неба цёмныя вочы, успадчыненыя ад бацькі.

— Наступным летам, як падрасце Сафійка, прыедзеш да мяне ў Ліён, — угаворваў доктар жонку. – А там праз пару гадоў зноў вернемся ў Беларусь, ужо ў сваю медычную школу. І табе справа знойдзецца, таму што неабходна заснаваць аддзяленне для падрыхтоўкі павітух. Хто лепей за цябе справіцца? У Ліёне такія ёсць, вось і паглядзіш, як працуюць, каб пасля тут досвед ужыць.

У садзе ля дома, які калісьці належаў кнігару Рэнічу, а цяпер ягонай дачцы і яе мужу, полацкаму доктару і выкладчыку мясцовага

каледжу Лёдніку, быў накрыты стол у альтанцы, абвітай плюшчом і ўюнкамі з буйнымі блякла-юлёвымі ліхтарыкамі. Зумкалі сабе пчолы, дакладна ведаючы, каторая ў які вулей панясе свой мёд, хаця кветкі бралі слодыч з адной зямлі...

Пранціш сядзеў за сталом у альтанцы і з лёгкім сумам паглядаў на хросніцу-Сафійку: вярэдзіла думка – і сам у хуткім часе мог бы стацца бацькам.

Пра Раіну і няздзейсненае вяселле ў доме полацкага доктара стараліся не гаварыць. Тым больш Лёдніку і Вырвічу належала праз некалькі месяцаў выпраўляцца ў доўгую вандроўку. Лёднік і так адклаў яе да Калядаў, каб прысутнічаць пры нараджэнні дачкі і хаця б трохі пабыць з ёю.

Алесіка, нягледзячы на пратэсты і слёзы жонкі, доктар забіраў з сабою – няхай хлопец паглядзіць свет, павывучае мовы, дарослы ўжо. Сем гадоў. Ягонага бацьку ў такім узросце прымушалі працаваць на гарбарні ды лупілі за тое, што смуроду ад свежых скураў не пераносіў.

Не сказаць, каб доктар быў надта шчаслівы пакінуць Саламею з маленькай дачкой, але адмаўляцца таксама не выпадала. Для стварэння ў Гародні медычнай школы, з перспектывай зрабіць пасля ў Вільні медыка-хірургічны ўніверсітэт, доктару, які быў тут рухавіком ідэяў і аўтарам праекту, належала паехаць у Ліёнскі ўніверсітэт да прафесара Жана Жылібера. Паглядзець, як там зладжана навучанне, як працуе шпіталь. Пан Антоній Тызенгаўз стараўся ўсіх сваіх людзей, занятых у рэформах, пасылаць на стажыроўку за мяжу, каб прывозілі адтуль новыя веды ды спецыялістаў. А Ліён лічыўся цэнтрам медыцынскай навукі, і доктара Лёдніка туды былі рады залучыць хаця б на некалькі гадоў. Чакаліся эксперыменты, дыспуты, лекцыі ды новыя ўратаваныя жыцці. Папрасіўся з доктарам ехаць і пляменнік дзядзькі Лейбы, кемны хлопец, які меў вялікую цікавасць да справы зельнай і збіраўся, атрымаўшы адукацыю, працягваць справу полацкага аптэкара. Так што ў Францыі самотна не будзе.

Пан Рысь, які прыехаў на хрэсьбіны, паставіў на бялюткі абрус філіжанку з кавай, падкруціў усё такія ж чорныя ды натапыраныя вусы.

— Шкада, што ты з’язджаеш, Бутрым. Тваё баявое майстэрства нам зараз ой як прыдасца! Чуў, Пане Каханку вярнуўся? Сустракаць яго ўся шляхта выйшла! Шпалерамі стаялі цэлыя суткі – каб пабачыць нашага выратаваўцу! Ён будзе маршалкам на сойме і даб’ецца, каб нам вярнулі наша права ліберум вета! Віват!

— Пан Рысь, гэта ж адбудзецца па дамове з Расеяй... – дакорліва сказала Саламаея. – Расейцы ў нашых рэформах не зацікаўленыя, і паабяцалі князю Радзівілу вярнуць сканфіскаваныя маёнткі, калі ён правядзе сойм, на якім усе рэформы скасуюцца.

Пан Рысь разадзьмуў ноздры.

— Каб не кабета была, на двубой выклікаў бы!

Саламея смела пасміхнулася.

— І не абавязкова, што перамаглі б! На пісталетах пан са мной не зладзіць!

Альбанчык фыркнуў, злосць ягоная трохі суцішылася.

— Ну чыста мая Магдуля! Шкада, яна прыехаць не змагла. Зноў занядужала... Не забудзься, доктар, лекаў для яе нарыхтаваць з запасам... Не, наш правадыр не здраднік! Мы яшчэ пакажам гэтым канфедэратам! Сваю канфедэрацыю створым! А можа вы, пан Пранціш, далучыцеся да нашага гурту?

Вырвіч задумліва глядзеў блакітнымі вачыма ў блакітнае полацкае неба.

— Не хачу скрыжоўваць шаблі са сваймі ж ліцвінамі. Хапіла з нас інтрыгаў ды наездаў... Паеду з Бутрымам у Ліён, толькі ўжо не лектарам, а вярнуся ў студэнцкі статус. Французская паэтыка таксама вартая ўважлівага вывучання. Яшчэ адзін дыплом не зашкодзіць. Пан Антоній Тызенгаўз хоча ў Гародні тэатр адчыніць, яму патрэбны драматург...

—Перастаньце згадваць гэтага нягодніка Тызенгаўза, кашалёк Цялка! – угневаўся пан Рысь. – Калі вы вернецеся, на троне, можа быць, будзе ўжо іншы кароль!

— Усё можа быць... – згадзіўся Пранціш. – Галоўнае, каб Беларусь была.

— А куды яна падзенецца? – усміхнуўся Лёднік. – Нават калі яе пачнуць па-новаму называць, застануцца яе лясы і балаты, трыпутнік і дзядоўнік, і ўжо, напэўна, ніяк не зменіцца беларускі характар, які змушае нас сядзець на цвіку і казаць, што, магчыма, так і трэба.

— Затое, калі дацiснуць нас да нейкай мяжы, мы такі адпор даем, што лятуць нахабы з нашай зямлі, як кроплі з распаленай бляхі! – ваяўніча заявіў пан Рысь. – Мае прадзеды біліся на Сініх Водах, пад Воршай, пад Хоцінам! Ліцвінская шабля не затупіцца, панства!

І тут заплакала маленькая Сафійка, яе тварык смешна зморшчыўся, бяззубы раток патрабавальна адкрыўся...

Тут жа падбег Алесь, які дагэтуль зацята лавіў жамяру ў кустоўі ды садзіў у слоікі. Навуковыя схільнасці паніча праяўляліся, як і баявіты характар.

— Хто скрыўдзіў маю панну-сястрычку?

Саламея запэўніла, што ўсё добра, і пайшла ў бацькоўскі дом, карміць немаўля. Лёднік цяжка ўздыхнуў і апусціў чарнавалосую галаву, у якой там-сям паблісквалі срэбныя ніты.

— Ніяк не магу даравацъ сабе, што з’язджаю.

— Я таксама з’язджаю да Пане Каханку, пакідаючы дома жонку і малое дзіця, — пацiснуў плячыма пан Рысь.— І не ведаю, ці вярнуся. Такі наш шлях. Кожны павінен рабіць тое, што яму належыць, не чакаючы за гэта ўдзячнасці.

— Што ж, тады будзем рабіць, што павінны. Ну і... часам тое, што дае чыстае задавальненне...

І Лёднік дастаў з-пад стала непачатую бутэльку з сінім ліхворам, на святаянніку настоеным, і пан Рысь узрадваўся, як радуецца пісец, выводзячы апошнюю літару кнігі.

— Ну, за тое, каб усе ліцвіны ўрэшце вярнуліся дадому. Будзем жыць мы, будзе жыць Беларусь!

2012